131 ДА 1989 г. ЧАСОПІС ВЫХОДЗІЎ ПАД НАЗВАЙ “ПОМНІКІ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ”

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
БЕЛАРУСКІ ФОНД КУЛЬТУРЫ,
РЭДАКЦЫЯ ЧАСОПІСА “СПАДЧЫНА”

# СПАДЧЫНА 5/1998

## У НУМАРЫ

**Нумар падрыхтаваны пры дапамозе Зміцера ГЕРАСІМОВІЧА.**
**Тэхнічнае рэдагаванне: Аляксей ЧАРНЯЕЎ.**
**Карэктура: Таццяна АРХІПЕНКА.**
**Набор: Алесь А. АНЦІПЕНКА.**

Адрас рэдакцыі: 220029, Мінск, Старажоўская, 5. Тэл. 234-26-50.
E-mail: *spadcyna@press3.lingvo.minsk.by*

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў 27.10.98.
Фармат 84x108 1/32. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 12,6.
Ум. фарба-адб. 13,125. Ул.-выд. арк. 12,75. Тыраж экз.
Зак.

Надрукавана з дыяпазітываў рэдакцыі ў друкарні
выдавецтва “Беларускі Дом друку".
220013, Мінск, праспект Францішка Скарыны, 79.

Выходзіць 6 разоў на год. ДП “Дом прэсы”. Мінск.

Часопіс “Спадчына” ўважае мову ва ўсіх формах яе бытавання нацыянальным скарбам і помнікам культуры беларускага народу. Культурна-гістарычныя скіраванасць нашага выдання абавязвае нас зберагаць графічныя, правапісныя і лексіка-граматычныя асаблівасці мовы публікаваных матэрыялаў.

Рэдакцыя.



**На першай старонцы вокладкі:** кафля з выяваю Св.Юр’я з раскопак Магілеўскае ратушы. Са збору А.Трусава.

# “ПАЦЁМКІНСКІЯ ВЁСКІ” СЛАВЯНАФІЛАЎ

Ідэі славянскага адзінства, інтэграцыі, аб’яднання братніх народаў пад чалом Масквы, духоўнага, рэлігійнага цэнтру праваслаўя, што перыядычна актуалізуюцца пэўнымі коламі на абшарах былога СССР, нарадзіліся, дакладней кажучы, канчаткова сфармаваліся яшчэ ў XIX ст. Яны — неад’емная частка ідэалогіі, філасофіі і грамадскай думкі Расейскай імперыі.

Беларусь з другой паловы XIX ст. і да гэтага часу ёсць найбольш удзячнай краінай для рэалізацыі “славянскіх інтарэсаў” Масквы. І таму вельмі важна ўсведамляць, якія гістарычныя працэсы абумовілі ўзнікненне “славянскага пытання”, хто і якім чынам яго тэарэтычна абгрунтоўваў.

50–60-я гг. XIX ст.— гэта час, калі ў Расеі цалкам сфармаваліся погляды на Беларусь як на малодшую сястру ў сям’і славянскіх народаў. Гэтыя погляды актыўна развівалі славянафілы ў рэчышчы сваёй тэорыі.

140 гадоў таму была ўтвораная першая арганізацыя, што бралася кансалідоўваць, а ўрэшце, і аб’ядноўваць пад патранатам Масквы славянаў усёй Еўропы. І называлася яна “Славянский благотворительный комитет”.

Гостеприимства полной чашей
Москва приветствует гостей...
Друзья, вы плоть от плоти нашей
И кость от наших вы костей.
Разлучены судьбою грозной,
Давно, давно живем мы розно,

Но в нас течет всё та же кровь.
И злой судьбы тупая сила
Ни в нас, ни в вас не погасила
Святую братскую любовь.

**Б.Алмазов**

Далучаныя да Расейскай імперыі землі падпадалі пад палітыку русіфікацыі. Першыя спробы ажыццяўлення яе ўзніклі адразу па далучэнні беларускіх земляў да Расеі пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай. Імператрыца Кацярына ІІ мела план абрусення краю. Пры ёй пачалі прысылаць сюды чынавенства з цэнтральных губерняў, якое мусіла зрабіцца надзейным правадніком дзяржаўнай ідэалогіі, а таксама расейскай культуры і мовы. Але цалкам ажыццявіць свой план імператрыца не паспела. І ўкараняць “русские начала”, таксама як і тэарэтычна абгрунтоўваць правы Расіі на Беларусь, належала яе спадкаемцам.

Падчас царавання Паўла ІІ і Аляксандра І пытанне русіфікацыі народаў захаду імперыі пралягала ў межах барацьбы з каталіцызмам. У той час праз праваслаўную царкву царызм імкнуўся ўплываць на сваіх падданых. Ужо тады ў расейскім урадзе наспела неабходнасць барацьбы з вуніяй.

Падчас мікалаеўскай рэакцыі абвастрыўся крызіс напаўфеадальнага дзяржаўнага ладу, адбылося паўстанне 1830–1831 гг. Моцная ўлада на захадзе Расейскай імперыі зрабілася немагчымай без перамогі над вуніяй і каталіцызмам. У 1839 г. вуніяты гвалтоўна былі далучаныя да РПЦ. Этапамі русіфікацыйнай палітыкі ёсць адмена ў 1840 г. Статуту Вялікага Княства Літоўскага ды забарона тэрміна “Беларусь”.

Але імперская палітыка ў дачыненні да Беларусі, як і да іншых славянскіх земляў, не набыла яшчэ планавага характару. Спантанныя захады былі скіраваныя толькі на задушэнне сепаратызму, не існавала сістэмы і, што самае галоўнае, не было ідэалагічнага абгрунтавання. “З належным размахам, з цвёрдай рашучасцю распачаць сваю дзейнасць франтальнай русіфікацыі жыхароў беларускіх губерняў ураду і праваслаўнаму духавенству не давала хранічнае адставанне рускіх вучоных ад польскіх у даследаванні гэтых земляў”[1] .

Упершыню навуковыя погляды на славянства, на Беларусь

у прыватнасці, у Расеі распрацоўвалі славянафілы. Напрыканцы 50-х гг. XIX ст. славянафільства ўяўляла сабой канчаткова сфармаваны накірунак філасофскай грамадскай думкі. Буйнымі прадстаўнікамі яго з‘яўляліся К.Аксакаў, браты І. і П.Кірэеўскія, А.Хамякоў, Ю.Самарын ды іншыя. Славянафілы гуртаваліся вакол Маскоўскага ўніверсітэту, шмат прафесараў якога трымаліся гэтых поглядаў. Там жа былі і іхныя ідэйныя супраціўцы — заходнікі, сярод іх было мноства выдатных прамоўцаў ды публіцыстаў.

Адрозна ад заходнікаў, што скіроўвалі погляды на еўрапейскія краіны, славянафілы будавалі сваю тэорыю на ідэі самабытнасці ды ўнікальнасці рускага народу. Ён, гэты народ, унясе “новое начало” ў гістарычнае развіццё чалавецтва. Гэтае “новое начало” будзе не ў традыцыях заходняй культуры, “рассудочной и силлогической”, але ў традыцыях усходняга “христианского любомудрия”. Рускае праваслаўе, на думку славянафіла,— адзінае сапраўднае хрысціянства. І носьбіт ягоны, рускі народ, ёсць народам-месіяй. Яму ўласцівыя спецыфічныя рысы: “смирение”, рэлігійнасць, патрыярхальнасць і абшчыннасць.

Такія суб’ектыўныя ўстаноўкі развіваліся славянафіламі ў гістарычным, сацыяльным і філасофскім аспекце. Ідэалізацыя дапятроўскай Русі, як нібыта гарманічнага грамадства, якое не ведала супярэчнасцяў, вяла да патрыярхальнасці, кансерватызму і адмаўлення ўсіх формаў еўрапейскага палітычнага жыцця. Існуючы прыгон славянафілы лічылі ганебным станам грамадства. Супрацьпастаўлялі яму абшчыннае сялянскае земларобства, якое ў спалучэнні з манархіяй і праваслаўем дасць свету новую, выключна расейскую форму дзяржаўнага ладу.

Іхнія даследаванні аб “православии в науке” і аб “народности в искусстве” ўяўлялі сабой непаслядоўныя схаластычныя разважанні, надзвычай ідэалістычныя. “Умозрительные” параўнальныя даследаванні славянскіх моваў і міфалогіяў ставілі на мэце даказаць агульныя “славяно-русские” вытокі народаў і культураў.

Але будзе несправядлівым не адзначыць некаторыя станоўчыя бакі дзейнасці славянафілаў, у прыватнасці прадстаўнікоў першай дарэформавай генерацыі. Ва ўмовах прыгону мікалаеўскай рэакцыі яны асмельваліся ўзнімаць голас пратэсту супраць прыгнечанага стану народу (за што цярпелі ўціск з боку

ўладаў, закрыццё сваіх выданняў). Зацікаўленасць народнай творчасцю вылівалася ў збіранне і публікацыю фальклорных твораў і помнікаў старажытнае літаратуры. Славянская ідэя распрацоўвалася імі ў галіне археалогіі, этнаграфіі ды гісторыі.

Канец 50-х гг. XIX ст., паводле словаў аднаго з прадстаўнікоў славянафільскае школы П.Бяссонава, з'яўляецца "эпохой возбуждения славянских интересов". Пасля паразы ў руска-турэцкай вайне 1853—1856 гг. Расейская імперыя пазбавілася ўплыву на шмат якіх славянскіх землях Баўканскае паўвыспы. Паводле вынікаў Парыжскай мірнай дамовы 1856 г. Расія саступала Турцыі частку Бесарабіі, прызнавала пратэктарат вялікіх дзяржаваў над Сербіяй, Малдовай і Валахіяй. Згаджалася на нейтралізацыю Чорнага мора з забаронай мець на ім ваенны флот.

Расстаноўка сілаў у Еўропе ў канцы 50-х гг. была не на карысць Расеі. Каб захаваць палітычны ўплыў на Баўканах, узмацніць свае пазіцыі, расейскі ўрад пачынае праводзіць знешнепалітычны курс на аўтанамізацыю хрысціянскіх падданых Турцыі. Падтрымліваюцца сепаратысцкія тэндэнцыі і нацыянальна-вызвольная барацьба славянаў на Баўканскай паўвыспе.

У цяжкую для расейскае дзяржавы хвіліну славянафілы вырашылі кансалідавацца дзеля дапамогі ў ажыццяўленні "русских интересов". Ад І.Аксакава паходзіць ініцыятыва стварэння спецыяльнага таварыства дзеля падтрымкі асветы і матэрыяльнай дапамогі падуладным Турцыі паўднёвым славянам. Таксама надзвычай імпанавала абаронцам славянскіх інтарэсаў ідэя вызвалення праваслаўнай баўгарскай царквы ад грэцкай патрыярхіі.

Іван Аксакаў, малодшы брат тэарэтыка славянафільскае школы Канстанціна Аксакава, быў публіцыстам, рэдактарам, а потым супрацоўнікам газетаў "Русская беседа", "День". І.Аксакаў — натхняльнік новай арганізацыі, а практычны арганізатар — А.Рачынскі. Актыўны ўдзел у ёй узялі А.Хамякоў, Ю.Самарын, М.Пагодзін, П.Бяссонаў. У склад заснавальнікаў будучай дабрачыннай арганізацыі ўваходзіць ліберальная прафесура Маскоўскага ўніверсітэту —С.Салаўёў, Ф.Буслаеў, В.Бадзянскі. Пазней да дзейнасці камітэту далучацца прадстаўнікі

інтэлігенцыі, асобы купецкага стану. Але вядучай групай на працягу існавання будуць заставацца славянафілы.

Зімой 1858 г. цар Аляксандр II дае дазвол на дзейнасць “Славянского благотворительного комитета” ў Маскве. Статутных дакументаў гэты калектыў аднадумцаў не выпрацоўваў. Аб іхніх намерах можна меркаваць з пратаколаў паседжанняў ды прыватных лістоў. Асноўная дзейнасць — збор грошай для сербаў, баўгараў ці чарнагорцаў, залежна ад бягучага палітычнага моманту. На сродкі дабрачыннасці ўтрымліваліся студэнты, што прыязджалі вучыцца ў Маскоўскі ўніверсітэт. Кантакты культурнага кшталту зводзіліся ў першую чаргу да падтрымкі праваслаўя: рассылаліся катэхізісы, літаратура праваслаўнай багаслужбы.

У дачыненні да Беларусі славянафілы праяўлялі “ліберальны этнаграфізм”[2] . Яны прызнавалі нацыянальную адметнасць славянаў захаду імперыі, але адметнасць толькі ў межах этнаграфічных (вясковы побыт, народны дыялект, сялянская песня, казка). Аксакаў, Хамякоў ды некаторыя іншыя маскоўскія славянафілы ўдзельнічалі ў маскоўскіх выданнях, падтрымлівалі перапіску з навукоўцамі, што гуртаваліся вакол Віленскага музею старажытнасцяў і Археаграфічнай камісіі.

Праўдападобна, А.Кіркор, Я.Тышкевіч з’яўляліся сябрамі расейскіх навуковых таварыстваў і супрацоўнічалі з маскоўскімі выданнямі. І ва ўмовах, калі нутраная палітыка імперыі рэалізоўвалася пад лозунгам “православия, самодержавия и русской народности”, такое ўзаемнае зацікаўленне, народазнаўчыя даследаванні мелі пэўнае прагрэсіўнае значэнне.

Але быць да канца паслядоўнымі ў поглядзе на іншыя “братнія” народы, што жылі з імі ў адной дзяржаве, славянафілы не маглі. Развіццё народнай мовы ў літаратурную, фармаванне нацыянальнай свядомасці, супрацьстаянне русіфікацыйнай палітыцы — усё гэта пагражала “единому русскому древу”, аснове славянафільскай тэорыі.

Таму да нацыянальна-вызвольнай барацьбы сербаў і баўгараў славянафілы ставіліся з энтузіязмам, бачачы заманлівую перспектыву аб’яднання іх пад патранатам Масквы. У дачыненні да барацьбы палякаў, украінцаў і беларусаў за дзяржаўнасць, незалежнасць і права распараджацца на сваёй зямлі спачатку

праяўлялі стрыманасць, а потым — непрыхаваную варожасць.

У 1861 г. на захадзе Расейскай імперыі, на тэрыторыі Польшчы, Літвы і Беларусі распачалося паўстанне. У пачатку 1863 г. яно пагражала ўжо цэласці імперыі. У губернскіх і павятовых гарадах дзейнічалі вайсковыя рэвалюцыйныя фармаванні. Усе паўстанцкія структуры займаліся стварэннем рэгулярнага войска, набывалі на ахвяраванні зброю. Цывільнае насельніцтва, ахопленае рэлігійна-патрыятычным духам, усяляк дэманстравала падтрымку паўстанцам. Каталіцкія святары ўзнімалі рэвалюцыйныя настроі сваіх парафіянаў. Разам з польскім рухам развіваўся і беларускі нацыянальна-вызвольны рух. У праваслаўных цэрквах распаўсюджваліся адозвы, друкаваныя па-беларуску.

Са старонак маскоўскіх выданняў славянафільскага кірунку, такіх як “День”, “Московские ведомости”, “Русский вестник”, “Русский инвалид”, чуюцца гнеўныя патрабаванні ўціхамірыць паўстанцаў, укараніць у краі “истинно-русские начала”. З ура-патрыятычнымі настроямі апісваюцца подзвігі рускіх салдатаў пры задушэнні бунту. (У гэты час А.Герцэн у “Колоколе” публікуе лісты-сведчанні некаторых расейкіх афіцэраў пра рабаўніцтвы ў Польшчы і Беларусі.)

Тэарэтыкі славянафільства публіцыстычны і практычны досвед накіроўваюць на апраўданне імперскай палітыкі. У працах па народазнаўству імкнуцца абгрунтаваць палітыку ўраду.

Менавіта ў гэты час найбольш поўна сфармуляваліся погляды славянафілаў на Беларусь. Гэта зрабіў сябра “Славянского комитета” прафесар Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі М.Каяловіч. Публічныя лекцыі яго былі ўжо ў 1864 г. выдадзеныя асобнай кнігай. Каяловіч паходзіў з Беларусі, таму меў як бы асаблівае права на асвятленне пытанняў, звязаных з Паўночна-Заходнім краем і задачамі расейскага ўраду ў ім.

Каяловіч старанна даводзіў пра рускія карані беларускага племені і пра тое, што “ніякі сепаратызм у ім не будзе мець сілы”. Бядотны стан насельніцтва Паўночна-Заходняга краю Каяловіч тлумачыў выключна дзейнасцю палякаў. Увогуле нянавісцю да палякаў, Захаду і каталіцызму прасякнуты ўсе лекцыі прафесара расейскай гісторыі. Свой метад навуковага даследавання Каяловіч называў “русским субъективизмом”.

Неад’емнай часткай гэтага метаду, у сутнасці шавіністычнага рэакцыйнага погляду на мінулае і сучаснае, з’яўляецца антысемітызм. Заклікі “ачысціць Заходнюю Расею ад Жыдоў”[3] шматразова паўтараюцца Каяловічам. Менавіта ў гэбраях і паляках, а не ў сацыяльным ладзе дзяржавы, бачыць ён перашкоду развіцця лепшых народных сілаў Беларусі. І таму аднаўленне расейскасці, з якім атаясамліваецца і аднаўленне беларускасці, на думку Каяловіча, немагчымае без нейтралізацыі ці выдалення гэтых двух варожых расейска-славянскаму сэрцу плямёнаў. Гэта задача ўраду пры навядзенні парадку і звышзадача дзейнасці асобаў, выданняў і арганізацыі славянафільскага кірунку. Каяловіч, як сапраўдны русафіл і юдафоб, верыць у тое, што “моц рускага народу нагэтулькі вялікая, што патопіць у сабе і Жыдоўства”[4].

Нават пры разглядзе роднаснага славянскага племені Каяловіч, як і ўсе славянафілы, блытаецца ў сваіх суб’ектывісцкіх падыходах. Беларускасць атаясамліваецца з праваслаўем, але непаслядоўна: ёсць палякі “нават праваслаўнай веры”. Моўны фактар не ўлічваецца. Да палякаў ён адносіць і польскамоўнае насельніцтва, і тых, хто размаўляе на мясцовай мове.

У “Лекциях по истории Западной России” Беларусь паказваецца як краіна з надзвычай беднымі прыроднымі ўмовамі і гэткім жа занядбаным убогім народам. (Такая краіна не можа існаваць самастойна, без апекі магутнага старэйшага брата.)

“Прырода, здаецца, сабрала на Беларусі ўсе нязручныя для жыцця чалавека ўмовы... Пяскі, балоты, ніжэйшага гатунку лес пакрывае ўсю Беларусь. У такой краіне народ не можа вылучацца добрымі фізічнымі здольнасцямі. Беларусы ў асноўным невялікага росту, нядужыя, кволыя і бледныя... Паміж пяскоў, балотаў і лясоў Беларусы жывуць нібы на выспах, між якімі па некалькі месяцаў не бывае зносінаў. У такіх месцах Беларусы часта вымушаныя заключаць шлюбы ў блізкім сваяцтве і даходзяць з гэтай нагоды да страшэннай брыдкасці і пачварнасці”[5].

На беларускі народ Каяловіч глядзіць са шкадаваннем і, здаецца, спачуваннем. Але патрэбы імперыі для яго вышэйшыя за славянафільскае замілаванне. Паміж разважанняў аб этнічных асаблівасцях беларусаў раз-пораз пракідаюцца заўвагі нібы

спецыяльна для жандарскай управы: “Беларусы не маюць той грамадскай сілы, якую мы бачым у Маларосах. Іх вельмі лёгка душыць паасобку”.

Такім чынам, са сваімі ідэаламі “христианского любомудрия”, панславісцкімі сімпатыямі славянафілы апынуліся ў правым лагеры разам з Мураўёвым-вешальнікам, шэфам жандараў кн. Далгарукавым, обер-пракурорам Сіноду гр.Талстым ды іншымі.

Асноўнай дзейнасцю сяброў “Славянского благотворительного комитета” на перыяд “замірэння краю” было ідэалагічнае забеспячэнне дзеянняў ураду, а праграмы падтрымкі заходніх славянаў на гэты час адышлі ў цень.

Пасля вайсковага задушэння паўстання яго сябры А.Рачынскі і П.Бяссонаў бяруць удзел у мерапрыемствах віленскай адміністрацыі. Сукупнасць гэтых мерапрыемстваў, праведзеных на загад Мураўёва, можна назваць праграмай гвалтоўнай русіфікацыі. Яна ўключала ўмацаванне праваслаўнага духавенства і праваслаўя наогул, прымусовае ўкараненне расейскай школы і ўсталяванне расейскага землеўладання і чынавенства.

Для барацьбы з “польскай інтрыгай” у галіне культуры, як нідзе, патрабаваліся надзейныя, адданыя ўраду людзі. Славянафілы П.Бяссонаў, А.Рачынскі, што мелі ў пэўных колах аўтарытэт народазнаўцаў і навукоўцаў, сярод іншых выклікаліся ў сталіцу мяцежнага краю. Ім належала працаваць у Віленскай археаграфічнай камісіі (1864 г.). Задача камісіі — разбор і публікацыя архіўных матэрыялаў, звезеных з усіх губерняў з мэтай давесці, што Беларусь і Літва спрадвеку праваслаўныя, “искони русский” край, які толькі ў XIX ст. быў сапсаваны палякамі. Камісія мусіла спрыяць аднаўленню гэтага першапачатковага рускага характару[6].

Бяссонаў і Рачынскі ўдзельнічалі ў рэарганізацыі Віленскага музею старажытнасцяў, заснаванага Яўстахам Тышкевічам у 1855 г. Фактычна гэтая “рэарганізацыя” звялася да выдалення з экспазіцыяў і фондаў музею каштоўнейшых экспанатаў перыяду ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Яны былі адпраўленыя ў Маскву і Пецярбург, а тышкевіцкі музей ужо ніколі не здолеў аднавіць свайго багацця.

Яшчэ больш выразную палітычную афарбоўку славянафілы набылі ў выніку правядзення ў Маскве ў траўні 1867 г. Усерасейскай этнаграфічнай выствы і Славянскага з‘езду.

Ініцыятыва стварэння этнаграфічнай выставы паходзіла з універсітэцкага “Общества любителей естествознания”. Спасылаючыся на цікавасць да этнаграфіі, антрапалогіі, расейскія сябры “Общества” прапанавалі сваю вялікую праграму. Мэтай яе было азнаямленне расейскай грамадскасці з плямёнамі, што насяляюць Расею, іх побытам і рамёствамі. У працы падрыхтоўчага камітэту актыўны ўдзел узялі славянафілы. Замежныя супрацоўнікі Славянскага камітэту, як М.Раеўскі, пратаярэй праваслаўнае царквы ў Вене, разгарнулі агітацыю. Вучоныя таварыствы, а таксама прыватныя асобы, што цікавіліся народазнаўствам, пачалі дасылаць экспанаты: народныя строі, музычныя інструменты, творы мастацтва. Акрамя падараваных, вялікая колькасць экспанатаў набывалася на дзяржаўныя грошы.

Выстава планавалася з трох аддзелаў: археалагічнага, уласна этнаграфічнага ды ілюстрацыйнага, што ўяўляў сабой найбольшую цікавасць для наведнікаў. У ім змяшчаліся групы манекенаў, якія павінны былі сімвалізаваць усе плямёны, што насяляюць Расею і суседнія з ёю славянскія землі. У арганізацыі гэтага аддзелу прафесар Маскоўскага ўніверсітэту славянафіл Н.Папоў праводзіў велікадзяржаўную лінію. Асноўная ўвага ўдзялялася велікарускаму і маларускаму племю. Астатнія славяне былі другасныя паводле значэння, як і “племена инородческие, придаточные, обречённые на русификацию”.

Этнаграфічная выстава адчынілася ў пачатку красавіка ў будынку манежу. Прэса шмат пісала аб ёй. Яе наведалі знаныя асобы і вялікія князі. Імператар Аляксандр II аглядаў манекены, што сімвалізавалі яго шматлікіх падданых. Ненадоўга затрымліваўся каля фігураў уральскіх казакоў, мардвы, чувашоў, татараў. Кожнае племя было прадстаўлена фігурамі мужчын і жанчын у арыгінальных строях, з адпаведнымі прыладамі працы ці зброяй.

“В следующей за тем группе Чукчей, племени, живущего близ Чукотского носа, Государь изволил обратить внимание на

винтовку чукотской работы, находящуюся в руках у Чукчи-мужчины. В группе якутов были объяснены фигура Якута-шамана, ударяющего в бубен, и главнейшие принадлежности шаманства...Стоя у этой группы, Его Величество обратил внимание Государыни Цесаревны на заднюю декорацию, изображающую снеговой северный ландшафт”[7].

Пасля агляду групаў эстаў, літоўцаў і гэбраяў імператар наблізіўся да групы беларусаў. Заўвага пра гэты момант афіцыйнага гістарыёграфа выставы Н.Папова абмяжоўваецца наступным: “Его Величество обратил внимание на лодки-душегубки, что находятся в пользовании белорусских крестьян”[8]. Добрае ўражанне стварылі на высокіх наведнікаў групы велікаруская і маларуская.

Этнічная прыналежнасць заходніх і паўднёвых славянаў на выставе пэўна не вызначалася. Далей былі прадстаўлены фігуры “Русских... населяющих Буковину, восточную Венецию, восточную Галицию и Холмскую епархию в Царстве Польском... Венгерских Русских и Галицких гуцулов”[9].

Урадавыя газеты Масквы і Пецярбурга падкрэслівалі дзяржаўнае, агульнапалітычнае значэнне выставы. Прарасейскія газеты на тэрыторыі Еўропы пісалі аб “успехах образования и свободы”, “зрелости славянской идеи” і аб тым, што “славянский мир не даст себя поработить чуждым, неславянским элементам”.

Інакш на дэманстрацыю панславісцкіх ідэяў у Маскве глядзелі тыя, хто нядаўна выпрабаваў на сабе гарачыя абдымкі імперыі. Газета “Dziennik Polski” ў Львове пісала: “Этнаграфічная выстаўка ў Маскве наладжана з мэтай прадэманстраваць перад Еўропай еднасць усіх славянскіх плямёнаў. Яна мае адно палітычную мэту, бо навуцы яна нічога не дае. Еднасць славянскіх плямёнаў пад расейскім пратэктаратам — гэта падман. Такой еднасці не прызнаюць ні Палякі, ні Чэхі, ні Рутэны. Нават турэцкія Славяне не ідуць за Расеяй нагэтулькі безаглядна, як яна імкнецца падаць Еўропе, бо яны ведаюць добра, што расейскі патранат можа ім прынесці толькі дэспатызм. Таму ў сутнасці маскоўская выстава будзе азначаць тое ж, што азначалі ўпрыгожаныя вёскі

на Дняпры, прадстаўленыя Пацёмкіным Кацярыне”[10].

Лагічным завяршэннем выставы 1867 г. і ўсёй прапагандысцкай кампаніі быў Славянскі з‘езд. У пачатку траўня ў Маскву пачалі з’язджацца госці. На ўсім шляху, пачынаючы ад Варшавы, праз Гродна і Вільню, Пскоў і Лугу, “славянскім гасцям” ладзілі ўрачыстыя прыёмы. Дзяржаўныя чыноўнікі сустракалі іх на вакзалах з музыкай, гаварылі прамовы.

Усяго на з’ездзе прысутнічаў 81 дэлегат, пераважную бальшыню якіх складалі сербы, чэхі і харваты. Сярод іх адсутнічалі прадстаўнікі рэвалюцыйных дэмакратычных рухаў. Дэлегацыі фармаваліся з ліберальна-буржуазных і афіцыйных колаў.

Акрамя банкетаў, наведвання тэатраў і праваслаўных храмаў, славянскіх гасцей віталі на самым высокім узроўні: аўдыенцыя ў імператара, прыёмы ў міністраў і вялікіх князёў.

Актыўны ўдзел у мерапрыемствах бралі славянафілы У.Ламанскі, О.Мілер, І.Аксакаў, Ю.Самарын, П.Бяссонаў. Яны горача прамаўлялі пра “славянское единение”, племянную сувязь пад харугвай Кірыла і Мяфода. І, безумоўна, пра ролю расейскай дзяржавы ў славянскім братэрстве. “Кому дана сила,— гаварыў К.Аксакаў перад гасцямі,— тот должен приложить её на пользу братьев; кто утешается своей культурой, с того больше всех потребуется, чтобы он соблюдал и охранял во всей строгости чистоту духовных славянских начал. И когда мы, русские, радуемся, что наша держава есть единственная пока, вполне независимая могучая славянская держава, то мы не перестаём вместе с тем помнить и сознавать, что это наше могущество и независимость налагают на нас великий долг, обязывают великой ответственностью. Призвание России — осуществить на земле славянское братство и призвать всех братьев к свободе и жизни”[11].

Лейтматывам выступаў гучала:

Да не введут вас в искушенье
Наветы, ласки и прельщенья
Народов Запада — они
Вам не друзья: их злые козни
Вселяли дух вражды и розни
В семье славянской искони.

И мед их лести ядовитой,
И блеск лукавых их даров
Опасней вам вражды открытой
Свирепых Азии сынов.
Их оку больно, ненавистно,
Встречать зари славянской свет.
Лишь мы вас любим бескорыстно,
Лишь в нашем слове лести нет.

Але паміж ідэалістычнымі мроямі славянафілаў, што публічна выказвалі дзяржаўныя інтарэсы, і жаданнямі славянскіх гасцей было мала агульнага. У прамовах гасцей можна было заўважыць, са словаў Пыпіна, “добра бачную антыпатыю да нівелюючай гегемоніі аднаго племені (рускага) над іншымі, да сцірання племянных індывідуальнасцяў”[12].

Дэманстрацыя ўсеславянскага адзінства ў Маскве 1867 г. мела такую сур’ёзную загану, як адсутнасць палякаў. Больш за тое, выхадцы з Польшчы сумесна з французскімі рэвалюцыянерамі наладзілі ў Маскве акцыю пратэсту супроць з‘езду. Польская эміграцыя з Парыжа даслала маніфест, у якім выказваўся рашучы пратэст салідарнасці асобных сілаў са славянскім з’ездам. Заяўлялася, што “славяне, хто перайшоў у лагер Масквы, вымушаны будуць змагацца з палякамі, бо палякі не спыняць барацьбы з варварскай Масквой”. Палякам дарагая іх уласная свабода і свабода супляменнікаў. Сымбалем абвяшчаўся сцяг з выявай сымбалю ўкраінскіх губерняў, Архангела Міхаіла, польскага Арла і літоўскай Пагоні.

Але ні гэтыя заявы, ні стрыманыя выступленні прадстаўнікоў чэшскай дэлегацыі не былі пачутыя з-за гучных воплескаў. З’езд славянаў, які і не планаваўся як навуковы форум, ператварыўся ў абмен гарачымі вітаннямі, пажаданнямі, “у платанічную заяву аб палымяных пачуццях да славянства.”

Станоўчымі вынікамі з’езду можна лічыць некаторую грамадскую зацікаўленасць да праблемаў заходніх і паўднёвых славянаў, узмацненне цікавасці да славянскіх моваў і літаратураў. Аднак асноўнай мэты — аб’яднаць славянскія рухі і кіраваць імі, зыходзячы са сваіх велікадзяржаўных інтарэсаў, арганізатары і

ўрад дасягнуць не здолелі. Выявілася ўтапічнасць панславісцкіх ідэяў, неразуменне перспектываў развіцця ды інтарэсаў асобных нацыянальных групаў.

Спробы будаваць палітыку на “славянскай ідэі”, шумныя форумы з прамовамі, дэкларацыямі і пагрозамі ў бок Захаду і “инородцев”, пераніцаванне гісторыі на свой лад не адышлі ў нябыт разам з Мікалаем II, мітрапалітам Сямашкам, Мураўёвым і славянафіламі. Сённяшнія інтэгратары славянства бяруць на ўзбраенне тыя ж метады. Яны свядома ці несвядома забываюць гістарычны досвед, паводле якога імперыі ствараюцца шляхам гвалтоўнага захопу тэрыторыі і прыгнёту карэнных народаў. Забываюць яны і тое, што ўсе імперыі раней ці пазней развальваюцца пад ціскам нацыянальна-вызвольнай барацьбы прыгнечаных народаў.

**Заўвагі**

[1]Лыч Л. Гісторыя культуры Беларусі, 1997.—С. 55.

[2]Цьвікевіч А. Западно-руссизм, 1993.—С. 206.

[3]Коялович М. Лекции по истории Западной России.—С. 54.

[4]Тамсама.—С. 54.

[5]Тамсама.—С. 41–42.

[6]Улащик Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии, 1973.—С. 70.

[7]Всероссийская этнографическая выставка и славянский съезд в мае 1867 года, 1867.—С. 52.

[8]Тамсама.—С. 53.

[9] Тамсама.—С. 58.

[10] Тамсама.—С. 101.

[11] Тамсама.—С. 342.

[12] Пыпин А. Панславизм в прошлом и настоящем, 1913.—С. 120.

**Літаратура**

Никитин А. Славянские комитеты в России, 1960.

**Настасся ГУЛАК.**

# ПАЧАТКІ ТАТАЛЬНАЙ РУСІФІКАЦЫІ

На абшарах Рэчы Паспалітай, што прыхапіла сабе ў выніку яе падзелаў у 1793 і 1795 гг. царская Расея, адразу былі ўтвораныя губерні. Але гэта яшчэ не азначала ўніфікацыі далучаных і карэннарускіх земляў. Русіфікацыя адбывалася паступова і мэтанакіравана.

Да сваёй смерці Кацярына II паспела ўладкаваць Мінскую губерню (абшар другога падзелу) на агульнаімперскі ўзор. Маніфест аб яе ўтварэнні (27 сакавіка 1793 г.) сцвярджаў, што ўрад прыдбаў землі «некогда сущим её достоянием бывшие и единоплеменниками населённые». Царыца абнадзеіла новападданых у захаванні свабоды веравызнанняў і ўладанняў. Яна абяцала «привязать сердца (новападданых.— **Я.А.**) к древнему прежде отечеству их не силою власти и оружия», а чалавекалюбным кіраваннем. І шляхта, і сяляне зведалі падатковыя льготы. У 1794 г. паноў прымусілі пад уласнымі падпіскамі карміць галодных сялянаў з фальварковых запасаў. Паны аддавалі вясковаму люду харчовыя нарыхтоўкі, прызначаныя для царскіх войскаў. Гэта прымусіла раскватараваць войскі ў сялянскіх хатах ды ўчыняць гвалтоўныя рэквізіцыі. У 1795 г. урад дазволіў сялянам выбіраць лаўнікаў у ніжнія (міравыя) суды і растлумачыў, што «прежде в республике польской они не имели права выбора судей, но и защиты против самовластия и угнетения». Такія захады ўмацоўвалі сярод сялянскае грамады веру ў добрага цара — збаўцу ад прыгнёту іншаверцаў.

Маніфест 17 лютага 1794 г. пра вечнае далучэнне рэшткаў Вялікага Княства Літоўскага да імперыі, на якіх паўстала Літоўская губерня, сведчыў, што толькі пад цэнтралізаванай уладай на чале з абсалютным манархам новападданыя нарэшце пазбавяцца грамадзянских неладоў, чаго яны не здолелі зрабіць самастойна пры г. зв. анархіі Рэчы Паспалітай. Новыя набыткі аднеслі да мясцовасцяў з «особыми правами и привилегиями», што якраз і сведчыла аб прызнанні іх сацыяльных ды прававых адметнасцяў. Канцлер Аляксандр Безбародка асмеліўся нават прызнаць неправамоцнасць Статуту ВКЛ за яго састарэлыя нормы «ни нравам, ни времени несообразными».

На такім грунце сімбіёзу спадчыны і навіны мацавалася далейшае кіраванне. Выканаўчую ўладу ў паветах Літоўскай губерні здзяйснялі карпусныя расейскія камандзіры, якім дапамагалі абраныя ад станаў камісары. Суд і пакаранне ўказам ад 6 лютага 1797 г. пакінулі ранейшым гарадскім, земскім і падкаморніцкім судам, а ў гарадах — ратушам ды магістратам. Ім дазволілі дзейнічаць «на древних их правах, судьями самими избираемыми». Да тых пасадаў дапусцілі асобаў, якія выконвалі свае абавязкі яшчэ да канстытуцыі 3 траўня 1791 г. Справаводства ў судах, нават на губернскім узроўні, вялося на польскай мове.

Між тым паланафільскія тэндэнцыі Паўла I мелі адваротны бок. Судовыя спрэчкі і суцягі з месцаў траплялі паводле апеляцыі на канчатковы дагляд вярхоўнага літоўскага праўлення, а практычна – згодна з субардынацыяй — на зацверджанне царскага Сенату.Такім чынам царскі ўрад кантраляваў дзейнасць усіх выбіраных шляхоцтвам суддзяў. Генерал-губернатар (або ягоны намеснік) мог адмяніць, забараніць ці загадаць перагледзець кожную судовую пастанову. Гэткі парадак вынікаў валакітай і не мог трываць доўга.

Дэманструючы ўласную легітымнасць і законнае спадкаемства, урад прыцягваў да рэвізіі справаводства сведкаў, возных, адвакатаў, генералаў. Праўдападобна, суды займаліся найбольш даходнымі справамі або расцягвалі

самыя працэсы. Памешчыкі заблытвалі працэсы, а адміністрацыйнае самавольства расейскіх чыноў не ведала межаў.

Новы цар Аляксандр I паспрабаваў адолець заганы на падставе «непременных законов». Цар кіраваўся ідэяй свайго дарадцы Міхаіла Спяранскага, які раіў даць дзяржаве канстытуцыю, што мусіла «облечь правление самодержавное всеми…внешними формами закона, оставив в сущности его ту же силу и то же пространство самодержавия». Гэтымі навацыямі імкнуліся дэкараваць абсалютызм прыкметамі законнасці (выбранне чыноў, суддзяў, падзел уладаў і г.д.). Захоўвалі яны і традыцыю, якая дапускала ў імперыі адзіна не абмежаваны дваранскі манархізм. Прававая перабудова каранілася ў пошуках «простых чистейших истин человеческого разума и данных опыта» ў мэтах «всеобщего счастья и блаженства всех». Між тым разумнай манархіі Аляксандра I давялося працаваць з адвечна заганным чалавекам, а выкараняць ягоныя прыкрасці давялося тыпова бюракратычным шляхам.

Прававая змена праводзілася ў 1802–1811 гг. у выглядзе міністэрскай рэформы, калі замест Сенату распараджальную ўладу аддалі ў шматгаліновыя міністэрствы. У губернях побач з вайсковымі паставілі цывільных губернатараў — такім чынам хацелі пазбавіцца ўсемагутнай вайскоўшчыны на месцах. Але кожны цывільны кіраўнік залежаў ад цара і ад міністра. У выніку расквітнела безадказнасць усяго апарату: кожны начальнік імкнуўся зваліць віну на іншага, каб не адказваць самому.Пацягнуліся даносы, інспекцыі, выкрыванні злоўжыванняў, запрацавалі розныя камісіі. За першую палову XIX ст. у чатырох губернях Беларусі (Віцебскай, Магілеўскай, Менскай, Гарадзенскай) змяніліся ажно 62 губернатары.

Хібы міністэрскай рэформы пачалі выпраўляць у 1816–1820 гг. праз аднаўленне інстытуту чарговых генерал-губернатараў, пад уладай якіх аб’ядноўвалася некалькі губерняў. Гэты напрамак дзейнасці спалучаўся са стварэннем канстытуцыі, якую меліся ажыццявіць самыя генерал-

губернатары. Праект канстытуцыі таемна распрацоўваўся з 1816 г. у Варшаве на грунце вельмі блізкім да кардынальных правоў падзеленай Рэчы Паспалітай.

Згодна праекту за 1819 г., усю імперыю бачылі ў складзе 10 намесніцтваў, маючых свае двухпалатныя соймы. Выбары дазваляліся толькі ў ніжнія палаты і толькі з дваранаў ды мяшчанаў. Цар адбіраў і зацвярджаў кандыдатаў у дэпутаты. Верхнія ж палаты ўяўлялі простыя дэпартаменты аднаўленага Сенату. Яны засядалі ў губернскіх цэнтрах. Такім чынам, праект канстытуцыі мусіў дэцэнтралізаваць кіраванне. Палова, а то і больш дэпутатаў соймаў павінны былі прызначацца зверху.Аднак і такі палавіністы крок палохаў паўтарэннем прыкладаў рэвалюцыйных парламентаў Еўропы.

З таго плану ацалелі толькі спробы стварэння федэратыўных вобласцяў на чале з узгаданымі намеснікамі. У 1820 г. імперыю падзялілі на 12 намесніцтваў або акругаў. Віцебская і Магілеўская губерні разам са Смаленскай і Калужскай (з цэнтрам у Віцебску) трапілі ў другую акругу. Менская і Горадзенская разам з Віленскай (цэнтр злучэння), Валынскай, Падольскай губернямі ды Беластоцкай вобласцю склалі дванаццатую акругу. Аднак у міністэрствах супрацівіліся ўзвышэнню намеснікаў да незалежнага інстытуту. Праўда, пасады генерал-губернатараў існавалі да 1856 г., калі з’явіліся сапраўды рэальныя праекты поўнага аддзялення суду ад адміністрацыі. На тым практычна і сканала ідэя ўвесці ў Расеі канстытуцыйна абмежаваную манархію з элементамі самастойнай федэрацыі.

Поруч рабіліся захады на аднаўленне Польскага каралеўства згодна з прыкладамі еўрапейскіх канстытуцыяў і іх прынцыпаў і ў межах земляў падзеленай Рэчы Паспалітай. Настойвалі на гэтых планах аднолькава і Напалеон, і Аляксандр I, каб схіліць жыхарства падзеленых земляў на свой бок. Аднак імператары замірыліся. У 1810 г. Напалеон паабяцаў Аляксандру I не аднаўляць Польскае каралеўства і не павялічваць утворанае ім Варшаўскае княства за кошт іншых земляў былое Рэчы Паспалітай. Апошняе тычылася якраз тэрыторыі ВКЛ.

Тады вялікакняскія колы паспрабавалі схіліць расейскага цара адасобіць ВКЛ у межах 8 губерняў, што ўзніклі на анексаваных абшарах. Такі план падаў цару 15 траўня 1811 г. Міхал Клеафас Агінскі. Ён сцвярджаў, што калі б цар захаваў за далучанымі землямі «назву Літва і яе даўнія правы, то гэта было б лепшым спосабам далучэння да Расейскай імперыі і (…) адным росчыркам пяра (…) зрабіла б злучэнне (…) хутчэйшым, менш клапатлівым і менш цяжкім для абываталяў». План прадугледжваў судаводства паводле кадыфікаванага Статуту ВКЛ, вядзенне справаводства выключна на польскай мове. Намінальна адроджаным княствам кіраваў бы намеснік цара, хаця Агінскі аддаваў распараджальную ўладу намесніцкай радзе, у склад якой уваходзілі б ведамыя мясцовыя ўраджэнцы (накшталт кабінету міністраў).

Гэты план прыдатнейшай васалізацыі ВКЛ у складзе Расейскай імперыі напалохаў царскі ўрад пагрозай злучэння новаўтварэння з Варшаўскім княствам у адзінае каралеўства. Праўда, Аляксандру I прапаноўвалі стаць адзіным польскім каралём. Для гэтага было дастаткова прызнаць канстытуцыю 3 траўня 1791 г., крыху выпраўленую на агульным сойме каралеўства. Ініцыятары згаданай прапановы і з расейскага, і з польска-літоўскага боку займаліся карэктурай згаданай канстытуцыі з непрымальных пазіцыяў, бо беларускія землі лічылі то польскімі, то адвечна рускімі і не жадалі бачыць іх самастойнымі. Цар адно дазволіў у 1811 г. надрукаваць у Вільні Статут ВКЛ (1786 г.) з асобна сістэматызаванымі каментарамі да яго ў розных галінах права. Але сам Аляксандр I баяўся мець нават васальную правінцыю ВКЛ з самастойнымі судамі і асобным урадам на тэатры будучай вайны з Напалеонам. Другім адмоўным чыннікам была справа ажыццяўлення рэформаў, асабліва, што тычыцца сялянаў. Усе баяліся гневу маёмных станаў за парушэнне старавечнага прыгонніцтва, хаця паплечнікі Агінскага разлічвалі на гуманізм і спагаду валадароў сялянаў. Пры супраціве ж мелася склікаць панска-дваранскія камітэты на месцах, якія складуць інвентары, дзе скуюць бакі markup рознымі фіксаванымі ўмовамі. Але і гэтыя сас-

тупкі падаліся надта радыкальным замахам на рэжым. Калі падобныя ідэі былі прапанаваныя ў 1817 г. на віленскім губернскім сходзе дваранства, то там вырашылі, што сялянаў найперш трэба вызваляць… «ад галечы, якую нясуць жыды, чымсьці аб паляпшэнні лёсу іх (сялянаў.— **Я.А.**) пачнём пастанаўляць».

Надрукаваны ў 1811 г. Статут ВКЛ пачаў дзейнічаць пасля адкрыцця ў 1810 г. межавых судоў, якія займаліся размежаваннем дзяржаўных і памешчацкіх земляў ужо на падставе Статута. Хутка высветлілася, што запісаныя ў ім правілы не адпавядаюць сапраўднасці. Дваранскія, паводле складу, межавыя суды захоплівалі дзяржаўныя землі і ператваралі іх у прыватную ўласнасць. Сяляне заставаліся неабароненымі, «польскія» ж памешчыкі багацелі. Але скасаванне межавых судоў непазбежна азначала б або забарону Статута, або рэвізію дзейнасці ўсяе сістэмы мясцовых судоў з пазіцыяў агульнарасейскага права.

У 1821 г. цар загадаў выправіць Статут згодна з арыгіналам, які, як вядома, быў напісаны старабеларускай мовай. Паколькі пасля 1588 г. статутавыя нормы дапаўнялі і мадыфікавалі шматлікія каралеўскія і соймавыя законы, то, натуральна, належала сістэматызаваць больш чым 200-гадовае заканадаўства Рэчы Паспалітай. У лік прававой спадчыны трапляла і канстытуцыя 3 траўня 1791 г., якая дэкляравала апеку дзяржавы над сялянамі, што вымагала заканадаўчага рэгулявання дачыненняў паміж панамі і сялянамі. Аляксандр I апынуўся ў рызыкоўнай сітуацыі: прызнаць канстытуцыю 3 траўня — г. зн. прызнаць падзелы Рэчы Паспалітай як гвалт або памылку. Таму цар пайшоў шляхам асцярожных дзеянняў.

Для кадыфікацыі Статута ВКЛ у межах мадыфікаванага расейскага заканадаўства ў траўні 1822 г. стварылі спецыяльную камісію. Туды запрасілі прафесара айчыннага права Віленскага ўніверсітэта Ігната Даніловіча, прафесара этыка-палітычнага факультэта Яхіма Ляލевеля, прафесара палітэканоміі Яна Зноску (старшыня), прафесара рускай літаратуры Яна Лабойку і памочніка ўніверсітэцкай бібліятэкі Казімера Кантрыма. Пазней некаторых з іх абвінава-

цяць у сувязях з масонамі, у падрыўной працы. За два гады камітэт апрацаваў толькі 96 старонак выдадзенага ў 1811 г. Статуту. Сябры камісіі адмоўна ставіліся да беларускае мовы і лічылі далучаны край польскім. У сваю чаргу, пецярбургскія супрацоўнікі цвёрда лічылі далучаны край «исконно русским» і таксама не прызнавалі самастойнага існавання беларускае нацыі.

Царскія кадыфікатары загадзя забаранілі «почитать в числе узаконений белорусскому краю дарованных» усе акты і канстытуцыі пасля далучэння 1772 г. А гэта азначала, што Статут ВКЛ правадзейны Статуту ВКЛ толькі з 1797 г., калі яго прызнаў Павел І. Даніловіч запярэчыў на гэта заявай, што «статут литовский действует во всех губерниях от Польшы, присоединённых со времени установления онаго (1588 г.— **Я.А.**) до настоящего времени». Яму заставалася толькі ўключыць артыкулы Статуту ў якасці дзеючых нормаў мясцовага права ў склад агульнаімперскага збору законаў. Такім чынам, далучаныя губерні захоўвалі сваю прававую адметнасць у імперыі, дзе не прадугледжвалася аніякай аўтаноміі ці тэрытарыяльнай асобнасці. Аднак Даніловічу не дазволілі ажыццявіць гэты «сепаратысцкі» сцэнар. Ён мусіў працаваць паводле палітычнага заказу — у дзеючае права заносіць царскія акты, якія толькі ў неабходных выпадках тлумачыў спасылкамі на «польскае» заканадаўства. Адсутнасць, як ён казаў сам, «предварительных учёных исследований» вымушала яго карыстацца ўласнымі верагоднымі высновамі. Кіраўнік жа агульнай кадыфікацыі М.Сяпранскі наогул лічыў тое польскае заканадаўства казуістыкай і «изобретением полуучёных стряпчих, ни для учёности, ни для простого здравого смысла непонятных».

Таму з 1828 г. да 1832 г. камітэт міністраў перакладаў Статут на расейскую мову ў другім аддзяленні яго імператарскай вялікасці канцылярыі. Падрыхтаваны ў 1834 г. Даніловічам збор мясцовага права падлягаў цэнзуры, выклікаными з месцаў экспертамі. Склад апошніх вызначалі генерал-губернатары, якія старанна выкраслілі са спісу кандыдатаў асобаў, западозраных у палітычнай ненадзейнасці.

Так, у спіс экспертаў трапілі лаяльныя да ўраду віленскі губернскі прадвадзіцель дваранства Гарноўскі, выкладчык Маскоўскага ўніверсітэту і аўтар падручнікаў па межавым, грамадзянскім і крымінальным праве А.Каравіцкі, рэгент галоўнага літоўскага суду Ф.Кукевіч. Працавалі тыя дарадцы да 10 красавіка 1835 г. Яны прыйшлі да высновы, што канстытуцыі Рэчы Паспалітай не распаўсюджваюцца на Літву, г.зн. на Віленскую, Менскую і Горадзенскую губерні, якая «и поныне от онаго (польскага ўплыву.— **Я.А.**) освободиться желала б».

Пазіцыя тэрытарыяльнага расчлянення Беларусі была даспадобы партыі жорсткіх русіфікатараў, якую ўзначальваў былы горадзенскі і менскі ваенны губернатар, міністр дзяржмаёмасцяў Міхаіл Мураўёў. Яшчэ 22 снежня 1830 г. ён падаў цару русіфікатарскую праграму, на якую ўрадавыя колы арыентаваліся і надалей.

Мураўёў запэўніваў, што далучаныя землі — адвеку расейскія, а тамтэйшы «народ — русский, угнетённый, не пользуется никакими преимуществами», якія Статут ВКЛ і канстытуцыі Рэчы Паспалітай далі «только нескольким тысячам польских» паноў. Паўстанне 1830 г. пераканала яго «в совершенной преданности» сялянаў цару. Таму Мураўёў раіў супрацьпаставіць беларускіх, так бы мовіць, адзінаплямённых, сялянаў польскім памешчыкам, каб назаўсёды выкараніць «польскую национальность». Гэтым самым ураду прапаноўвалася пераарыентаваць палітыку з падтрымкі мясцовага панства на падтрымку простых людзей. Існавалі планы секулярызацыі маёмасці каталіцкіх касцёлаў і кляштараў, пераводу ўніятаў у праваслаўе («ибо белорусские крестьяне по большей части столь невежественны, что мало постигают различия веры»), паўсюднага ўкаранення расейскае мовы, прызначэння на дзяржаўныя пасады ўраджэнцаў Расеі за падвоеную плату. Меркавалася зрабіць паноўным расейскае землеўладанне, пасяліўшы 50 тысячаў расейскіх сялянаў, адстаўных салдатаў, чынавенства і дваранаў на канфіскаваных ды секулярызаваных землях. Званне расейскага дваранства маглі атрымаць толькі асобы непадатковага стану пры атрыманні

чыну тытулярнага саветніка.

Натуральна, у такой сітуацыі Статут ВКЛ быў непрыдатны, бо, на думку Мураўёва, ягоныя артыкулы патрабуюць «поступать по совести и христианским узаконениям». Статут ён лічыў недасканалым зборам палажэнняў, тлумачэннем якіх бавіў цэлы стан адвакатаў ды юрыстаў — гэтых «разносчиков ябед, тяжб, штрафов». Ён абвяшчаў усе «польские законы и соймовые конституции» супраціўнымі царскаму самаўладдзю, бо былі яны створаныя ў інтарэсах купкі вяльможаў дзеля абмежавання каралеўскай улады і «для совершенного порабощения крестьян». Судаводства, заснаванае Статутам паводле прынцыпу спаборніцтва бакоў, было непрымальным, бо суддзі мелі статус незалежных. Сяляне ж увогуле аказваліся бяспраўнымі перад судом. «Неимение адвокатов чрезвычайно обременяет трудящихся и в особенности беднейших»,— пісаў Мураўёў. Апірышчам панскага самавольства ён называў якраз межавыя, падкаморніцкія і эксдывізарскія суды, называючы іх адначасова крыніцай разарэння магнатаў і пагрозлівага драбнення шляхты — гэтага носьбіту «свободы и мятежничества».

Такім чынам, знішчыць шкодныя суды было немагчыма без скасавання Статуту, паводле нормаў якога тыя і дзейнічалі. Урад меўся стаць адзінаўладным абаронцам сялянаў, каб ужо шляхам татальнае русіфікацыі «слить на вечные времена» Беларусь з Расеяй.

Русіфікацыю пачалі з усходнебеларускіх губерняў, якія, лічылася, раней за астатніх зведалі выратавальнае дзеянне імперскіх парадкаў. Указам ад 1 студзеня 1831 г. цар прыпыніў у Віцебскай і Магілеўскай губернях дзейнасць Статуту і падкаморніцкіх судоў. Замест наменклатуры судоў (харужых, возных, каморнікаў) з 26 лістапада 1834 г. былі ўведзеныя павятовыя военачальнікі. Да таго часу, пакуль выхадцаў з Расеі не прызначылі на судовыя пасады, іх месцы займалі лаяльныя мясцовыя ўраджэнцы. З 30 кастрычніка 1831 г. у Віленскай, Менскай і Горадзенскай губернях назаўсёды адмянялася ўжыванне папярэдніх гістарычных тытулаў, і ўсе яны прыводзіліся ў адпавед-

насць з чынаводствам Пятроўскай табелі аб рангах 1722 г. Спыняліся дваранскія сходы і выбары суддзяў. Пачыналіся ўрадавыя прызначэнні. Але русіфікацыя не сталася хуткай, бо не хапала адпаведных кадраў ды й зьмены органаў улады спарадзілі папяровую блытаніну. Між тым у няўдала скарочаных кабінетах збор мясцовага права надрукавалі ў 1837 г. у 50-ці экземплярах, а дзяржсавет у наступным 1838 г. ухваліў яго для службовага карыстання. Гэта азначала, што месца Статуту ВКЛ мусіў заняць новы кадыфікаваны збор, цалкам прыстасаваны да імперскага збору законаў. Мураўёў сцвярджаў, што нават такі збор «польских законов» захавае польскі ўплыў у краі, і да таго ж гэты чыноўны буквар не зразумеюць суддзі, якія папросту не ведаюць рускай мовы. Пры рэвізіі збору падкрэслівалася розніца паміж «польскім і літоўскім» правам, паколькі вунію Кароны і ВКЛ лічылі адно палітычным актам, які і цяпер лёгка перакрэсліць росчыркам царскага пяра. Соймавыя канстытуцыі Рэчы Паспалітай пасля 1772 г. бачыліся неабавязковымі. Падрыхтаваны збор русіфікатары называлі непрымальным для Віленскай, Менскай і Горадзенскай губерняў, бо, маўляў, іхныя жыхары прагнулі вызваліцца ад пальшчызны.

26 чэрвеня 1840 г. цар падпісаў указ аб скасаванні правадзейнасці Статуту і межавых судоў таксама ў Менскай, Горадзенскай і Віцебскай губернях. За апошнімі надалей замацоўваўся назоў Паўночна-Заходні край. Аднак і гэтым разам папяровым марам процістаялі перашкоды.

Замест скасаваных межавых судоў прапаноўвалася правесці генеральнае межаванне паводле расейскіх законаў. Але адпаведны праект, падрыхтаваны ў 1834 г. для Віленскай, Менскай, Горадзенскай губерняў ды Беластоцкай вобласці, трапіў пад уздзеянне бюракратычных узгадненняў. Справы межавых судоў перадалі на рэвізію ў мясцовыя грамадзянскія палаты і павятовыя суды. Дваранства губерняў выказалася супраць рэвізіі, бо не хацела вяртаць набытыя і захопленыя з дапамогай тых судоў дзяржаўныя землі. Баялася яно і канфіскацыі спадчынных земляў, раздадзеных у арэнду дробнай шляхце без пісьмовых кант-

ractaў. Пасля распаўсюджання на заходнія губерні агульнаімперскага заканадаўства губляла сэнс і выданне асобнага мясцовага збору, дапушчаць да выбарных пасадаў «польское дворянство». Апроч таго, камісія міністэрства юстыцыі ў верасні 1846 г. палічыла, што разам з дваранскімі выбарамі «явилась бы необходимость предоставить это право другим сословиям западных губерний». Але ўдзельная вага расейскіх памешчыкаў была нязначная; яны ў 1859 г. уладарылі толькі на 21% памешчыцкіх земляў. Урад планаваў раздаць ім канфіскаваныя маёнткі паўстанцаў. Але калі пачалі дзяліць зямлю сярод 360 перасяленцаў, то атрымалася, што на адну сям'ю выпадала не больш за 8 дзесяцінаў — звычайная норма сялянскага двара. Замест насаджэння буйнога расейскага дваранства паўставала перспектыва ўсяго толькі перасялення сялянства. Таму находнікі прагрэсіруючымі тэмпамі закладвалі атрыманыя маёнткі ў цэнтральных банках пад беззваротныя пазыкі, а то і зусім прадавалі набытае. Да 1856–1858 гг. у крэдытных установах імперыі было закладзена 711 тысячаў беларускіх сялянаў-мужчынаў (60% усяго сялянства) пад 48 млн. рублёў срэбрам. Пазыкі вызначаліся без ацэнкі гаспадарчага стану сялянскіх гаспадарак. Грошы не выкарыстоўвалі на агратэхнічнае развіццё ці ўмацаванне землеўладання. Урад мусіў дбаць аб іх стане, бо, як пісаў у верасні 1843 г. менскі грамадзянскі губернатар Г.Дапельмаер, сялянскія бунты паходзяць «не от подстрекательства злоумышленников, а от жестокосердия грубых, корыстолюбивых управителей и арендаторов».

Гэтак з'явілася асэнсаванне згубнасці падтрымання арэнднай (гаспадарчай, згодна з афіцыйнай мовай) сістэмы, а ў сутнасці —паншчыннага гаспадарання на агульны стан рэчаў. Злоўжыванні спрабавалі выкараніць маральнымі метадамі. 25 ліпеня 1830 г. цэсарэвіч Канстанцін рэкамендаваў уладальнікам не насіць пры сабе бічоў, а 16 студзеня 1839 г. сам Мікалай Палкін пераконваў абыходзіцца з сялянамі «краткими вразумениями». Але царскія парады патаналі ў багне здзекаў. Былі выпадкі, калі сялянаў ганялі шыхтом пад гукі трубы.

Жудасны стан беларускае вёскі ўрад тлумачыў варожымі памкненнямі мясцовай або выбарнай адміністрацыі. Тым не менш у Пецярбургу не адважыліся на пагалоўную замену карэннага чынавенства расейскімі выхадцамі «без крутого поражения умов». Кадры вырашылі змяніць паціху і негалосна, прапусціўшы іх праз сіта выбараў. Такім чынам, узнаўляліся ранейшыя дваранскія сходы. Так, у снежні 1831 г. на выбарныя пасады былі дапушчаныя толькі тыя дваране, якія мелі не менш чым 100 душаў сялянаў або 3 тысячы дзесяцінаў зямлі. Мясцовая ўлада не належала адно толькі дваранству. Яшчэ існавала земская паліцыя, за якой назіралі прадстаўнікі царскай улады.

Царскім указам ад 7 лістапада 1834 г. у кожную губерню былі прызначаныя па 4 жандарскія обер-афіцэры з даручэннем наглядаць за гарадской і земскай паліцыяй, не дапускаць «противозаконных скопищ, сношений или заговоров», неадкладна даносіць аб надзейнасці гараднічых, паліцмайстраў, земскіх выпраўнікаў, лаўнікаў земскіх судоў. Дзеля пільнага нагляду паветы ў 1837 г. падзялілі на станы на чале з прыставамі.

Жорсткія меры з 1833 г. здзяйсьнялі следчыя камісіі, асобныя паліцэйскія ўпраўленні на чале з павятовымі прадвадзіцелямі дваранаў, ваенна-палявыя суды над асобамі, «могущими иметь связь с политическою целью», і скіраваныя на «пристанодержателей явно дающих приют пришельцам и вспомоществование оружием… так и на тех, кои, зная о злоумышлениях... не доносили о них начальству». У такіх умовах пасады павятовай паліцыі часта займалі амаральныя асобы, а прысутныя члены павятовых установаў папросту сімулявалі актыўнасць. Сенатар, стацкі саветнік Д.Замятлін, які ў 1852 г. праўляў рэвізію ў дзяржаўных установах Віцебскай губерні, знайшоў там мізэрныя штаты з дубляваннем працы. Чыноўнікі разглядалі справы без чаргі, без афармлення пратаколаў. У дзень яны выслухоўвалі звычайна па адной справе, з якіх трэць «заключает сущность дела, а остальное содержит переписку без сведений» і подпісаў. Адказныя ананімы пасылалі паперы «не туда, куда следовало по обстоятельствам», або вялі фіктыў-

ныя справаздачы і г.д.

Гэтая рэвізія праводзілася падчас маючага адбыцца вызвалення сялянаў, бо ўрад намагаўся выканаць мерапрыемства надзейнымі выканаўчымі кадрамі. На гэты раз сфера дзейнасці ўрадавага вызвалення выходзіла за межы паліятыўных мераў. У лютым 1855 г. Мікалай I даручыў генерал-губернатарам заходніх губерняў імперыі заняць чыноўныя месцы праваслаўнымі выхадцамі з Расеі, якія не менш як дзесяць гадоў праслужылі ў велікарасейскіх цэнтрах. У траўні цар дазволіў замяшчаць вакансіі памешчыкамі-каталікамі толькі пры недахопе прызначаных і пры надзейнасці паводзінаў і думак. У 1858 г. для спрытнай рэалізацыі сялянскай рэформы суддзям загадалі вырашаць справы на працягу аднаго паседжання. У наступным годзе ў паветах пакінулі адныя ніжнія суды, якія меліся дзейнічаць згодна скарочанаму парадку або праз «словесное разбирательство» бакоў. Замест следчага ўводзіўся спаборніцкі прынцып. Але такое спрашчэнне не прычынілася да здзяйснення ўрадавых планаў.

Вядома, да прыкладу, што ў 1855 г. у Віленскай і Гарадзенскай губернях з 723 чыноўнікаў 583 вызнавалі каталіцтва. З гледзішча царскага ўраду, адказныя пасады па-ранейшаму займалі паны-палякі, якія «не имеют к крестьянам никакого попечения». Ва ўрадзе ўжо не спадзяваліся, што панства дабрахвотна адрачэцца ад прыгонніцтва, і таму кантралявалі падрыхтоўчыя працы ў спецыяльна адчыненых у 1844 г. дваранскіх інвентарных камітэтах. Бальшыня камітэтаў жадала вызваліць сялянаў без зямлі або з адрэзкамі ад надзелаў і за значны выкуп. Царскі ўрад растлумачыў на месцы, што не дапусціць беззямельнага вызвалення і нават пагражаў увесці ў жыццё праект былога кіеўскага генерал-губернатара Д.Бібікава, які прадугледжваў стварэнне валасных таварыстваў сялянскага самакіравання. Пагрозы выклікалі рознагалоссі, якія вырашаліся праз пераглад інвентароў, складзеных мясцовымі сіламі, і ўзгадненне ўмоваў рэформы ў чарговых дваранскіх камітэтах. Іх адчынілі ў 1856 г.

Якраз у гэты момант дваранства кінулася адразаць і

абразаць сялянскія надзелы, каб іх выгадна збыць або здаць у арэнду вызваленым прыгонным. Дзеля стрымання драпежніцкіх апетытаў, урад 27 студзеня 1859 г. зачыніў губернскія камітэты і выклікаў іх прадстаўнікоў у рэдакцыйныя камісіі Пецярбурга дзеля канчатковага ўхвалення ўмоваў сялянскай рэформы. Якім чынам гэты палітычны хаўрус вызваліў беларуса-мужыка — аб тым напісана шмат. Здзеклівы 1861 г. выліўся ў паўстанне 1863–1864 гг.

Згаданае дазваляе сцвярджаць, што план татальнае русіфікацыі, далучаных з 1722 г. земляў да Расейскай імперыі, спараджаў ненадзейны шлюб царызму з мясцовым панствам. І прававыя адметнасці, і выбарныя органы, і самыя супрацоўныя ўраднікі аказаліся хісткімі спадарожнікамі, якія кампраметавалі царскі ўрад сярод сялянаў. Сялянская рэформа 1844–1861 гг. была масавай акцыяй і вымагала абавязковай дэманстрацыі вызваленчай місіі ўраду. Таму абарончыя захады царызму і супалі з рашучым пачаткам татальнае русіфікацыі.

**Яўген АНІШЧАНКА.**

# СУВОРАЎ: МІТ І ПРАЎДА

Аляксандар Васільевіч Суворaў нарадзіўся ў Маскве ў сям'і прапаршчыка (былога дзеншчыка Пятра I) Васілія Іванавіча Суворава 13 лістапада 1729 г. Дзе Аляксандар Суворaў навучыўся грамаце, невядома. Бацька, вельмі скупы, рупліва павялічваў сваё багацьце. Аляксандар зь дзяцінства быў малы, кволы, дрэнна складзены і непрыгожы. Гэта выпрацавала ў ім празьмернае славалюбства. Рос Суворaў замкнёным і дзікім, празь біяграфіі вялікіх людзей, якія ён успрымаў літаральна, стаў заўзятарам "умных высказываний и нравоучений".

З 1705 г. у расейскай арміі быў уведзены рэкруцкі набор у салдаты на 25 гадоў прыгонных сялянаў. Замежныя войскі — наёмныя. Першы расейскі самаабвешчаны імпэратар Пётр I (1689–1725) пастанавіў дваранам паступаць на вайсковую службу зь ніжніх чыноў. Хутка быў знойдзены спосаб абмінаць непрыемны закон. Хлопчыкаў запісвалі на службу па нараджэнні і да яго. Такім чынам, дзіця, жывучы дома, паступова расло ў чынах. Відаць, ня маючы надзеі, што Аляксандар Суворaў наогул выжыве, яго запісалі мушкецёрам у Сямёнаўскі полк у Санкт-Пецярбурзе толькі ў кастрычніку 1742 г. 19-гадовы юнак зьявіўся ў полк ужо ў чыне капрала. Да канца салдацкае службы капрал жыў у доме дзядзькі. Рэкруты ж (многія зь сем'ямі) жылі ў пакоях па чатыры чалавекі. Становішча салдатаў-дваранаў прыраўноўвалася да афіцэрскага. Яны езьдзілі за мяжу, выконвалі сур'ёзныя даручэньні, наведвалі балі. 10 траўня 1754 г. Суворaў стаў паручнікам, перавёўся ў Інгерманляндзкі полк, дзе атрымаў гадавы адпачынак, што не спыніла яго службовага прасоўваньня.

У 1757 г.Расея пачала вайну з Прусіяй (Сямігадовая вайна 1756–1763 гг.). Васілій Іванавіч Сувораў у 1761 г. прызначаны генэрал-губэрнатарам, захопленай расейцамі Ўсходняй Прусіі, у Кёнігсбэрг (Калінінград). Сувораў-малодшы служыў забесьпячэнцам. Сама прысутнасьць на вайне давала магчымасьць значна хутчэй атрымліваць чыны і ўзнагароды. 9 кастрычніка 1758 г. Аляксандар стаў падпалкоўнікам. Роўна праз два гады ён у складзе расейскіх войскаў увайшоў у Бэрлін. Пры Рэгенвальдзе ў 1761 г. юнак упершыню “панюхаў пораху” — “повреждён контузиею в ногу”.

Пасьля сьмерці Лізаветы Пятроўны (1741–1761) на сталец узышоў Пётр III (1761–1762). Пры ім, відаць, адзіны раз за сваю гісторыю Расея не анэксавала, а ачысьціла ўсе акупаваныя ёе (прускія) тэрыторыі. 24 красавіка 1762 г. з Прусіяй быў заключаны саюз. Пётр III выдаў “Маніфэст аб вольнасьці дваранства”, скасаваў тайную канцылярыю і спыніў ганеньні дысыдэнтаў. Рыхтавалася сэкулярызацыя царкоўных земляў. Такую “дабрыню” імпэратару не даравалі. Праз паўгода ён скінуты ў выніку палацавага перавароту сваёй жонкай — немкай Кацярынай і неўзабаве задушаны гвардзейскімі афіцэрамі. Кацярына II (1762–1796 гг.), імкнучыся атрымаць падтрымку вайскоўцаў, шмат каго падвысіла ў чынах і пасадах. Некаторыя аднагодкі Суворава былі ўжо генэраламі, што давала потым яму падставы зьедліва гаварыць, што ён “не прыгал смолоду в чинах”. Між тым Сувораў хітраваў. У расейскай арміі чыны ішлі навырост, тым больш пры практычнай падтрымцы Аляксандра бацькам. Васілій Іванавіч Сувораў браў вельмі актыўны ўдзел ва ўзвышэньні Кацярыны II. Менавіта пад яго “аховай” задушылі Пятра III. Імпэратрыца ўзнагародзіла Васілія Іванавіча ордэнамі Анны і А. Неўскага. Генэрал-аншэф стаў сябрам ваеннай калегіі, кавалерам Андрэеўскага ордэну, сэнатарам. А сын ягоны атрымаў палкоўніка ў 33 гады. Пачаўшы службу, празь якія два гады і сем месяцаў Аляксандар зь сяржанта стаў прэм’ер-маёрам. Ён не хутчэй за ўсіх рухаўся ў чынах. Рапнін, напрыклад, у 28 меў генэрал-маёра. Хоць і цяпер яшчэ ёсьць майстры вышукваць нейкія вайскаводчыя таленты і заслугі да яго, Суворава, 40-годзьдзя.

5 кастрычніка 1763 г. памёр вялікі князь літоўскі і кароль



Генэралісімус Аляксандар Сувораў.
Партрэт мілянскага мастака Фрыза.

польскі Аўгуст III. У сувязі з тым, што пасада кіраўніка Рэчы Паспалітай (Рэспублікі) была выбарная, то ў абедзьвюх частках найбуйнейшага ў Эўропе дзяржаўнага ўтварэньня пачаўся разлад. Суседнія дзяржавы імкнуліся аслабіць Рэч Паспалітую шляхам захаваньня там існуючага “беспорядка”. Кароль ня мог прымаць амаль ніякіх рашэньняў без усеагульнага (вальнага) сойму. Сойм у сваю чаргу быў паралізаваны з-за права liberum veto (адзін голас супраць адмяняў рашэньне бальшыні). Зьезды шляхты праводзіліся пачаргова ў рэзыдэнцыях караля ў Горадні і Варшаве. Расея хацела паставіць на каралеўскі пасад былога пасла ў Санкт-Пецярбурзе ад Рэчы Паспалітай фаварыта Кацярыны II шляхціца зь Берасьцейшчыны Станіслава Панятоўскага. На просьбу прарасейскіх магнатаў Чартарыйскіх ды іншых царскі ўрад увёў у Беларусь і Польшчу свае войскі. Каралём на вальным сойме — “самым ціхім”, бо пры поўным маўчаньні, быў выбраны 7 верасьня 1764 г. патрэбны кандыдат. Дэпутаты, што бурна пратэставалі, адразу былі арыштаваныя расейскімі афіцэрамі і сасланыя ў Расею. Маўклівае абурэньне трактавалі як згоду. На подкуп дэпутатаў акружанага расейскімі

войскамі сойму Расея выдаткавала 1.500.000 залатых рублёў. Прагрэсіўныя дзеячы імкнуліся правесьці ў Рэчы Паспалітай дзяржаўныя рэформы, не зважаючы на нахабнае ўмяшаньне ва ўнутраныя справы расейскага ўраду. На вымогу прускага пасла і расейскага паўнамоцнага міністра Кацярыны пры Варшаўскім двары Рапніна пры падтрымцы 10 тыс. расейскіх штыхоў была падпісаная дамова, паводле якой усе канфэсіі абвяшчаліся роўнымі ў правах. Расея і Прусія ўзялі на сябе абавязак не дапускаць у Рэчы Паспалітай ніякіх рэформаў. “Для поддержания порядка” ў Беларусі і Польшчы ў буйнейшых гарадох трымалі расейскія гарнізоны (каля 15 тыс. чалавек). Саюзьнікі прымусілі скараціць армію Літвы да 7 тыс., Польшчы — да 8 тыс.

Супраць караля-марыянэткі, ураўнаваньня канфэсіяў і ўмяшальніцтва суседніх дзяржаваў 29 лютага 1768 г. была створаная канфэдэрацыя ў Бары (Украіна). У сувязі з хваляваньнямі ў Літве, Польшчы і на Ўкраіне Расея ўвяла туды дадатковую армію на чале зь Веймарнам. Акрамя таго, царскія войскі задушылі антыпольскае паўстаньне на Ўкраіне, якім кіравалі Жалязьняк і Гонта. Сілы канфэдэратаў не перавышалі 15 тыс. коньнікаў пад камандаю дзясятка маршалкаў, што безупынна сварыліся.

У часе гэтых падзеяў палкоўнік Сувораў трэніраваў Суздальскі полк, прымушаючы салдатаў праходзіць 40–50 вёрстаў. Падчас аднаго з вучэбных паходаў на загад палкоўніка салдаты штурмам узялі жаночы манастыр. Асабістае ўмяшальніцтва Кацярыны выратавала Суворава ад анафэмы. Выконваючы загад, не шкадуючы салдатаў, Сувораў-брыгадзір прайшоў за 30 дзён 869 вёрстаў са сваім палком расейскім лістападаўскім бездарожжам з Новай Ладагі да Смаленску — дзеля задушэньня канфэдэратаў. Тады дзённы пераход не перавышаў 11 вёрстаў. Імкнучыся як мага лепш выканаць волю імпэратрыцы, новасьпечаны брыгадзір адбіраў у мясцовага насельніцтва фурманкі, харч, браў закладнікаў, каб хутчэй дапяць да Варшавы.

Канфэдэраты дрэнна каардынавалі свае дзеяньні, аднак іх падтрымліваў народ, дапамагала веданьне сваёй мясцовасьці. Ля вёскі Арэхава (Маларыцкі раён) 1 верасьня 1769 г. Сувораў са



Фрагмэнт радаводу Суворавых.
Складзены А.Трубнікавым.

сваімі салдатамі зьнянацку напаў на атрад канфэдэратаў братоў Пулаўскіх. Штыхавая атака супраць кавалерыі была хоць і бязглуздая, але пасьпяховая. Брыгадзір падвышаны ў чын генэрал-маёра.

Далей Сувораў разьмясьціў падначаленыя войскі ў Любліне, адкуль рассылаў аддзелы для барацьбы з партызанскімі фармаваньнямі канфэдэратаў. Палонным адсякалі руку і ссылалі ў Расею. Зразумела, ад вайны больш цярпела мірнае насельніцтва. 20 лютага 1771 г. Сувораў атакаваў коньніцай (зноў не як усе) мястэчка Ляндскрону (ля Кракава). Загінула шмат салдатаў і афіцэраў бессэнсоўна. Вялікія страты расейцы панесьлі каля вёскі Тынец. Нарэшце, 12 траўня 1771 г.расейцы ўзялі замак

Ляндскрона лабавой атакай. Атакі былі нагэтулькі алягічныя, што некаторыя не верылі ў аповеды пра іх. Расейцы ганяліся за Пулаўскім сярод варожага насельніцтва 17 сутак. Сувораў паслаў яму табакерку, захоплены яго ваеннай хітрасьцю.

Царскі ўрад пабойваўся, што заходняга суседа ня ўдасца ўтрымаць. Бачачы папулярнасьць вялікага гетмана Агінскага і яго эфэктыўныя дзеяньні, Сувораў самавольна пакінуў Люблін і за два тыдні прайшоў большую частку Беларусі, імкнучыся разьбіць партызанскія аддзелы. У вёсцы Сталовічы (Баранавіцкі раён) стаяла ўласнае войска прэтэндэнта на каралеўскі пасад, таленавітага кампазытара, пісьменьніка, гетмана (галоўнага вайскавода) графа Агінскага. Уначы 12 верасьня суворaўскія войскі зьнянацку напалі і разьбілі тут канфэдэратаў.

У студзені 1772 г. канфэдэраты захапілі Кракаўскі замак, але праз тры месяцы мусілі пакінуць яго. Хаця яшчэ доўга дробныя аддзелы партызанаў рабілі пасьпяховыя вылазкі, але супраціў канфэдэратаў урэшце быў задушаны пад націскам аўстрыйскіх і прускіх войскаў, што захапілі часткі польскіх тэрыторыяў. Паміж Расеяй і суседнімі краінамі 5 жніўня 1772 г. падпісана канвэнцыя аб першым падзеле Рэчы Паспалітай. Расея забрала сабе частку Беларусі (Літвы) з гарадамі Віцебскам, Магілевам , Гомлем. “За рвение” Сувораў у ліку іншых вайскоўцаў узнагароджаны ордэнамі Анны I ступені, Георгія 3-е клясы, А.Неўскага. У “восточные польские земли” былі ўведзеныя яшчэ два расейскія карпусы. У адным зь іх, пад камандаю Эльмпта, і стаў служыць А.Сувораў. Месяц палкаводзец адпачываў у сталіцы Літвы (Беларусі) — Вільні.

У выніку цэнтралізацыі і вызваленьня рускіх земляў ад мангола-татарскага ярма ў канцы XV ст. маскоўскія князі адразу сталі прэтэндаваць на ўсе землі ўсходніх славянаў. Вяліся бясконцыя войны паміж Вялікімі Княствамі Маскоўскім і Літоўскім. Найбуйнейшым посьпехам экспансіяністцкай палітыкі Масковіі быў захоп Украіны ў 1654 г. Тады ж паводле Андрусаўскага замірэньня Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае згубіла Смаленшчыну ды іншыя свае ўсходнія землі. У 1547 г. князь Іван IV (Жахлівы) самаабвесьціў сябе царом “всея Руси”. У 1655 г. цар Аляксей Міхайлавіч назваў сябе яшчэ і вялікім князем літоўскім. Гэта пры тым, што існавала суседняя

сувэрэнная дзяржава ($^9/_{10}$ яе складалі землі сучаснае Беларусі) Вялікае Княства Літоўскае на чале зь вялікім князем.

Масква стала лічыць сябе “оплотом истинного христианства” — трэцім Рымам пасьля “заняпалых” ветхого (Рым — Рымская імпэрыя) і новага (Канстанцінопаль — Візантыйская імпэрыя) “ад здрады праваслаўю”. Расейская праваслаўная царква цалкам падтрымлівае акупацыйную палітыку, зрастаецца зь дзяржаўным апаратам. Гэта і ёсьць “истинное” хрысьціянства, адрозна ад іншых яго галінаў. У 1589 г. маскоўскі мітрапаліт, падпарадкаваны канстанцінопальскаму патрыярху, самаабвесьціўся патрыярхам “всея Руси”. З таго часу Расея скарыстоўвае гэта, каб апраўдаць захопы Ўкраіны і Беларусі, дзе былі свае мітрапаліты ад Канстанцінопаля.

На маскоўскіх пячатках з канца XV ст. зьявіўся герб падупалай у 1453 г. Візантыйскай імпэрыі — двухгаловы арол. Адной з прычынаў руска-турэцкіх войнаў, акрамя жаданьня дамінаваць на Чорным моры, было імкненьне захапіць усіх славянаў (“Славянские ручьи сольются в русском море”), праваслаўную Грэцыю ды “вызваліць гроб Госпада” (Палестыну) ад “мусульманскага ярма”. Плянавалася стварыць новую Грэцкую імпэрыю (Візантыю). Другі ўнук Кацярыны II недвухсэнсоўна быў названы імем апошняга візантыйскага імпэратара Канстанціна. На шляху зьдзяйсненьня “грэцкага праекту” стаяла Турэцкая імпэрыя (сталіца Істанбул-Канстанцінопаль) і яе васал — Крымскае ханства. Скарыстаная першая ж прыдатная зачэпка, і пачатая вайна.

Сувораў апынуўся на першай руска-турэцкай вайне (1768–1674) толькі ў 1773 г. Пад кіраўніцтвам камандзёра дывізіі Салтыкова Аляксандар Сувораў са сваім аддзелам зьдзейсьніў выведку боем пры Туртукаі, утрымліваў адабраны ад туркаў горад Гірсава. Разам з генэрал-паручнікам Каменскім арганізаваў наступальную апэрацыю пры Казлуджы. Армія пад камандаю Румянцава і флёт на чале з Арловым зьдзейсьнілі шэраг перамог над сьмелымі, але дрэнна забясьпечанымі і арганізаванымі туркамі. 10 ліпеня 1774 г. Турцыя мусіла падпісаць мірную ўгоду паводле якой Расейская імпэрыя набыла Керч, Кінбурн, Азоў — атрымала выхад да Чорнага мора. Для Малдовы і Малахіі ўсталяваны “особый режим”. Як звычайна гавораць

пра расейскія захопы расейскія гісторыкі, што, маўляў, “этого требовали жизненные интересы государства…”.

У Пецярбурзе жыў абруселы брат скінутага крымскага хана з Турэцкай імпэрыі пад імем Шагін-Гірэй. На Крымскую паўвыспу ўвялі 20-тысячны расейскі корпус і “законнага” хана, якога мусіла прызнаць турэцкая ўлада. Крым стаў “незалежным” пад пратэктаратам Расеі, так былі створаныя перадумовы для яго захопу.

За “усердие” ў гэтай вайне Суворава ўзьвялі ў чын генэрал-паручніка.

У 1773–1775 гг. у Расейскай імпэрыі бушавала сялянская вайна на чале зь Емяльянам Пугачовым (1740–1775). Гэты данскі казак удзельнічаў у Сямігадовай і ў першай руска-турэцкай войнах, дзе даслужыўся да харужага. Пугачоў пад імем Пятра ІІІ падняў паўстаньне яіцкіх казакоў, якое распаўсюдзілася ў Паволжы, Арэнбурскім краі, на Ўрале і ў Башкірыі. Кацярына так спалохалася, што рыхтавалася эміграваць. Камандзёры задушэньня паўстаньня не маглі нічога зрабіць з барацьбітамі-рабамі, пакуль не змабілізавалі ўсе дзяржаўныя рэсурсы. Сілы пугачоўцаў сканчаліся з-за дрэннай арганізацыі ды ўзбраеньня. На загад імпэратрыцы Сувораў прыбыў пад каманду Паніна якраз у той дзень, калі ўрадавыя войскі нанесьлі халопам страшэнную паразу ля Сальнікава завода (недалёка ад Царыцыну) — 24 жніўня 1774 г. Толькі за тое, што палкаводзец хутка адрапартаваў аб прыбыцьці, імпэратрыца ўзнагародзіла яго 4 тысячамі чырвонцаў. Генэрал-паручнік Сувораў сфармаваў конны атрад (чалавек семсот) і кінуўся на пошукі і лоўлю Пугачова, што зьбіраў падмацаваньне. Сувораў гранічна паскорыў тэмп маршу, абложаны паўстанцамі, падмануў іх, сказаўшы, што ён чалавек Пугачова. З роспаччу даведаўся Аляксандар Сувораў, што “Пятра ІІІ” выдалі паплечнікі пры ўмове захаваньня ім жыцьця. Засталося забраць “смутьяна” ў камэнданта Сіманава і да 1 кастрычніка прывезьці ў Сымбірск у клетцы. 10 студзеня 1775 г. пугачоўцаў зь іх кіраўніком пакаралі сьмерцю ў Маскве. У вопратцы “цара” фарсіў цяпер сотнік Харчаў. Ва ўсіх населеных пунктах збунтаванага краю паставілі па шыбеніцы і калу з “глаголем” для вешаньня за рабро.

За баявыя заслугі Кацярына ўзнагародзіла Суворава залатой



Імпэратрыца Кацярына II.
Партрэт Дз.Лявіцкага. 1770-я гг.

шпагай з мноствам дыямантаў.

У 1775 г. на востраве Мальта ў Міжземным моры выбухнула паўстаньне мясцовага насельніцтва супраць ордэну Янітаў, падпарадкаванага папу рымскаму. З гэтага моманту духоўна-рыцарскі ордэн зблізіўся з Расеяй — традыцыйным ворагам Порты (Турцыі). У свой час Кацярына I перадала ордэну багаты траўнярат князёў Астроскіх і былыя ўладаньні езуітаў у Рэчы Паспалітай.

У 1778 г. Сувораў прызначаны начальнікам войскаў на Кубані. У 1783 г. яго ўзнагародзілі ордэнам Уладзіміра за “присоединение к Всероссийской империи разных кубанских народов”. Крыху пазьней яму надалі чын генэрал-аншэфа. Відаць, за прымусовае перасяленьне народаў (пры іх крывавым супраціве).

У 1787 г. Кацярына “знаёмілася з жыцьцём падданых”. Да Кіева яна ехала зь сьвітаю на конях, далей па Дняпры — на галерах. На ўзьбярэжжы “толпился народ и стада”, якія таемна зганяліся на загад Пацёмкіна на шляху руху імпэратрыцы. Таксама былі пабудаваныя выключна прыгожыя “квітнеючыя сяленьні” —

дэкарацыі. Што да 240 гарадоў, заснаваных на акупаваных землях, на ўказ Кацярыны, дык яны, прымусова заселеныя, уяўлялі сабой вартыя жалю вёскі, што загінулі, ледзь нарадзіўшыся. Ля Кременчуга сувораўскія войскі "восхитили" ўсіх баявой вывучкай. На пытаньне царыцы, чым яго аддзячыць, палкаводзец папрасіў заплаціць за яго кватэру. Гаспадару хаты ўручылі 3 рублі 50 капеек, а Суворaву — табакерку ў дыямантах за 7000 руб.

У 1787–1791 гг. Турцыя паспрабавала вярнуць страчаныя ў вайне з Расеяй землі. Супраць Порты выступіла і Аўстрыя. Расейскі вайскавод Пацёмкін даў пад каманду Суворава адзін зь пяці карпусоў. Сувораў выйграў бітвы на Кінбурнскай касе, на рацэ Рымнік і пры Факшанах. Прымаў удзел у аблозе фартэцыяў Ачакаў і Ізмаіл. Адмірал Ушакоў нанёс паразу турэцкаму флёту. Турцыя мусіла аддаць расейцам усё паўночнае ўзьбярэжжа Чорнага мора ад Дняпра да Кубані. Крым стаў "исконно русской землёй".

Да прозьвішча Суворава дадалі "Рымніцкі" і графскі тытул. Атрыманы дыямантавыя знакі і стужка Андрэеўскага ордэну тысячаў за 50, шпага з дыямантамі, дыямантавыя эпалеты, каштоўны пярсьцёнак і ордэн Георгія. Засьведчаныя іншыя знакі павагі, выбіты нават мэдаль зь ягоным профілем. Пад узьдзеяньнем Вялікай французскай рэвалюцыі (1789–1794 гг.) у Рэчы Паспалітай пачаліся рэформы. 3 траўня 1791 г. прынята новая больш прагрэсіўная канстытуцыя. Нягледзячы на супрацьдзеяньне Расеі, адменена права liberum veto і зробленыя спробы ўдасканаліць і павялічыць армію. Заўзятары старых парадкаў (перадусім магнаты, якія раней мелі неабмежаваную ўладу) зьдзейсьнілі дзяржаўную здраду. У Пецярбурзе пры Кацярыне II 27 красавіка 1792 г. яны падпісалі акт канфэдэрацыі, зачытаны ў мястэчку Таргавіца (Украіна) пад фальшывай датай 14 траўня. Ня маючы шырокай падтрымкі, яны "папрасілі" дапамогі ў Расеі, якая адразу ўвяла 100-тысячную армію (у дадатак да ранейшай) на тэрыторыі Беларусі і Польшчы.

У гэты час Сувораў умацоўваў мяжу з Швэцыяй у заваяванай перад тым Фінляндыі. Ён зьвярнуўся да імпэратрыцы з патрабаваньнем паслаць яго на "новыя подзьвігі", але атрымаў адмову, якую ўспрыняў "с отчаянием". Праўда, у 1793 г. Сувораў

на загад Румянцава абяззброіў узбунтаваныя палкі Рэчы Паспалітай, уключаныя ў склад расейскай арміі, што дысьлякаваліся паміж Магілевам і Ягарлыкам. Супраціў значна меншай арміі Рэчы Паспалітай на чале зь Ю.Панятоўскім хутка быў зламаны. Акрамя таго, кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі неўзабаве далучыўся да таргавічанаў. Радасьць канфэдэратаў была дачасная. У студзені 1793 г. Прусія і Расея ў другі раз разабралі часткі Рэчы Паспалітай. Уся ўсходняя Беларусь зь Менскам трапіла ў Расейскую імпэрыю.

24 сакавіка 1794 г. у Кракаве пачалося паўстаньне на чале з ураджэнцам Кобрыньскага павету Андрэем Тадэвушам Банавэнтурам Касьцюшкам за аднаўленьне незалежнасьці Рэчы Паспалітае і за вяртаньне захопленых суседнімі дзяржавамі тэрыторыяў. Паўстаньнем была ахопленая і Беларусь. Царскі ўрад кінуў на задушэньне “польскага мяцяжу” рэгулярную армію (60 тыс.) на чале з Рапніным, загартаваную ў вайне з туркамі. Аўстрыя ўвяла на тэрыторыю Польшчы армію з 35 тыс. чалавек. На працягу вясны — лета інсургенты (каля 80 тыс. сялянаў з косамі) зьдзейсьнілі шэраг перамогаў. Зноў спатрэбіўся “талент” Суворава. Ён з корпусам тэрмінова перакінуты з турэцкае мяжы. Калі Сувораў пазнаёміўся з варункамі, то вымавіў: “Дело можно кончить за 40 дней”. 12 чэрвеня Сувораў абяззброіў апошнія фармаваньні з 8 тыс. чалавек войскаў Рэчы Паспалітай ля Белае Царквы. Многія зь ягоных салдатаў не вытрымлівалі імклівых пераходаў. 3 верасьня корпус Суворава (11 тыс.) ля Дзівіну (Кобрыньскі раён) зьмяў 200 паўстанцаў-коньнікаў Серакоўскага. На наступны дзень захапілі Кобрынь. 6 верасьня, далучыўшы корпус Ісаева, Сувораў пасьпяхова атакаваў ля Крупчыцкага манастыру інсургентаў на чале зь Серакоўскім. Паўстанцы не чакалі, што на іх будуць нападаць праз багну. Расейцы разабралі будынкі з суседняй вёскі. За Берасьцем корпус Серакоўскага канчаткова расьсеяны — і шлях на Варшаву адкрыты.

На тэрыторыі Беларусі супраціў каардынаваў зь Вільні генэрал Якуб Ясінскі. На Кобрыньшчыне дзейнічаў яшчэ атрад на чале з Казімерам Рушчыцам — адзін з самых эфэктыўных на Беларусі. Але пад імклівым напорам пераважных колькасьцю і якасьцю расейскіх войскаў змагары мусілі канчаткова пакінуць населеныя пункты ды ісьці ў лясы. 12 жніўня 1794 г. цэнтар

паўстаньня на нашай Радзіме — Вільня — здаўся. 10 кастрычніка ў бітве пад Мацяёвіцамі параненага беспрытомнага Касьцюшку захапілі ў палон і абрабавалі казакі генэрала Фэрзэна. Паўстаньне, застаўшыся без галоўнага кіраўніка, пад націскам войскаў дзяржаваў-суседак канчаткова пачало згасаць. 15 кастрычніка Сувораў зламаў адчайны супраціў ля Кабылак, а 23 кастрычніка ягоныя батарэі ўжо цэлы дзень абстрэльвалі прадмесьце Варшавы Прагу. Увечары азьвярэлыя расейскія салдаты ўварваліся ў фартэцыю і выразалі ўсіх, нават немаўлятаў і жывёлу. Сувораў ведаў, што рабаўніцтва і лютасьць характэрныя для расейскіх войскаў і, накіроўваючы на штурм салдатаў, вабіў іх трафеямі (у тым ліку “бабами и вином”).

Паўстаньне адцягнула сілы антыфранцускай кааліцыі (Аўстрыя, Прусія і Расея), што імкнулася сілай вярнуць на пасад караля ў Францыі. 3 студзеня 1795 г. перастала існаваць Рэч Паспалітая: адбыўся апошні падзел гэтай краіны паміж яе суседзямі. Амаль уся этнаграфічная Беларусь трапіла ў склад Расейскай імпэрыі. На запатрабаваньне Кацярыны II вальны сойм у Горадні зацьвердзіў анэксіі. 25 лістапада Станіслаў Аўгуст мусіў зь сьлязьмі зрачыся пасаду, атрымаўшы на ўтрыманьне 330 тыс. чырвонцаў. У пачатку 1798 г. ён памёр пад вартай у Пецярбурзе. Пахавалі нашага апошняга караля ў радзінным маёнтку Воўчын на Берасьцейшчыне. Удзельнікаў паўстаньня ссылалі ў Сібір і каралі сьмерцю. Іхную маёмасьць экспрапрыявалі.

Аляксандар Васільевіч атрымаў фэльдмаршальскае жазло вартасьцю 15 тыс. рублёў. У пустой царкве, пераапрануўшыся ў салдацкі мундзір, 67-гадовы чалавек скакаў праз зэдлікі і пры гэтым называў прозьвішчы калегаў, якіх абышоў чынам. У 1796 г. яму ўручылі ордэны краіны, якую заняволіў,— “Белага Арла” і сьв.Станіслава. У эпісталярнай творчасьці Суворава ёсьць згадка, што “палякаў” задушылі колькаснай перавагай.

6 лістапада 1796 г. на расейскі пасад узышоў 42-гадовы Павел I. Ён адразу вызваліў з астрогу Касьцюшку і ягоных паплечнікаў. Пасьля захопу Напалеонам выспы Мальта ў студзені 1797 г. Павел I узяў яе пад патранаж і стаў гросмайстрам Мальтыйскага ордэну. Вяліся перамовы з папам рымскім, якому падпарадкоўваўся ордэн, пра аб’яднаньне каталіцкай і праваслаўнай цэркваў. Расея



Мундзер шарагоўца лейб-гвардыі грэнадэрскага палка расейскай арміі (80-я гг. XVIII ст.)

выступіла ў ролі "жандара Эўропы". Француская рэвалюцыйная армія яшчэ ў 1793 г., не чакаючы нападу антыфранцускай кааліцыі, перайшла нацыянальныя межы і ўсталявала на занятых землях рэспубліканскі лад. Адмірал Ушакоў выбіў французаў зь Янічнага архіпэлягу, Нэапалю і Рыму. Выконваючы волю саюзьнікаў, Павел I паслаў Суворава ў Італію на вайну з французамі. Палкаводцу ўручылі мальтыйскі крыж, уключаны ў расейскую ўзнагародную сыстэму. На шляху ў Італію Сувораў сустракаўся ў Мітаве з уцёклым з Францыі будучым каралём Людвікам XVIII, ад якога таксама атрымаў узнагароды. Стары ваяка на вачах у прыдворных паабедаў у казарме з салдацкага катла, потым высмаркаўся ў два пальцы і хуценька выцер іх аб мундрір, абвешаны дыямантамі каштоўнасьцю ў некалькі вёсак. Пасьля Людвік XVIII пісаў, што дзівацтва Суворава падобнае да вар'яцтва.

14 сакавіка 1799 г. Сувораў узяў на сябе каманду расейска-аўстрыйскай арміяй. Прыкладна за чатыры месяцы французаў прымусілі пакінуць Паўночную Італію. Палкаводзец атрымаў пярсьцёнак з партрэтам расейскага імпэратара і прыдомак да

прозьвішча “князь італійскі”. На загад штабу саюзных войскаў галоўны вайскавод 23 жніўня рушыў па Швайцарыі. Італію зноў занялі французы. Жадаючы трапіць у тыл французаў, расейцы пайшлі праз Сэн-Гатардзкі перавал, але апынуліся ў аблозе ў тупіку. Вырывацца давялося зь вялізнымі чалавечымі стратамі праз Чортаў мост і Урзенскую дзюрку. “Гераічна” фарсаваны хрыбет Расшток, дзе не хадзілі нават паляўнічыя. Салдаты падалі ў бездань, мерлі ад голаду і холаду. У Мутэнскай даліне акружаныя расейцы вырваліся, атакаваўшы штаб арміі Масэны і перайшоўшы праз хрыбет Панікс. Расейска-аўстрыйскі зьвяз распаўся. Англія забрала ў французаў Мальту. Напалеон згадзіўся перадаць выспу Мальтыйскаму ордэну, ведучы перамовы з Паўлам І. 15 лістапада 1799 г. расейская армія рушыла дадому. Так скончыўся паход дзеля выратаваньня Эўропы ад рэвалюцыі.

Салдаты-”альпіністы” атрымалі па два рублі, афіцэры — болей. Сувораў падвышаны да генэралісімуса. Да яго ў Расеі найвышэйшую вайсковую ступень мелі Меншыкаў (1727 г.) і муж імпэратрыцы Анны Леапольдаўны Антон-Ульрых.

Усё жыцьцё А.В.Сувораў шакаваў знаёмцаў і чужых “лагерной неумытой откровенностью, бесцеремонностью, неуместными шутками”. “Вздорный чудак с озорными выходками, прихрамывающий, неуступчивый, неуклюжий в общении” ажаніўся на загад бацькі, які баяўся, што згасьне род, у 43 гады, зь нявестай, якую бацька яму прапанаваў. На шлюб А.Сувораў глядзеў як на цяжкі абавязак, што замінае ўлюбёнай справе. Шлюб займаў апошняе месца ў ягоным жыцьці, да жанчын ён быў цалкам абыякавы. 23-гадовай “красавице русского типа” Варвары Празароўскай, вядома, не падабаўся маленькі згорблены чалавек з маршчыстым тварам. Бровы ў яго ўвесь час паднятыя, твар абветраны, з рэзка абазначанай уздоўж зморшчынай, нос няправільны, валасы рэдзенькія і сівыя, вочы выцьвілыя. Празароўскія жылі шырока, з-за чаго і зьбяднелі. Варвара і да замужжа не цуралася мужчынскага полу. Пісаць ледзь навучылася. Як штурм прайшлі вясельныя падзеі: 18 сьнежня 1773 г. заручыны, 22-га — вянчаньне. Жонка гуляла нават са сваякамі палкаводца. Сварылася з-за празьмернай эканоміі сродкаў, не ўспрымала мужавага спартанскага побыту.

Вымушанае вандраваньне Суворавым адбівалася на яе здароўі — колькі разоў скідала ў дарозе. Варвара Іванаўна знаходзілася пры імпэратрыцы, аб норавах якой было шырока вядома. Некалькі разоў “сужаных” мірылі царкоўныя чыноўнікі і сама Кацярына II, якая вельмі любіла гэта рабіць. Пасьля нараджэньня ў жніўні 1784 г. сына Суворавы разьвяліся.

А.Сувораву прыпісваюць настаўленьне дзеля навучаньня войскаў “Полковое учреждение”, выпушчанае ў 1764 г. Затым у 1796 г. ён нібыта абагульніў свой досьвед у кнізе “Наука побеждать”. У гэтых узорах армейскага фальклёру ўвага акцэнтуецца на хуткіх пераходах, нападах зьнянацку і штыхавых атаках, бо агнястрэльная зброя, маўляў, дарагая і неэфэктыўная.

Каля трыццаці гадоў Сувораў ваяваў там, дзе загадвалі. У складзе расейскіх войскаў удзельнічаў у 60 бітвах і 20 паходах — выключна ў захопніцкіх войнах. Ягоная “спэцыялізацыя” — задушэньне вызвольных рухаў, за што добра плацілі. Як гэта ні сьмешна, але ў царскія часы яго, падначаленага, другараднага военачальніка, параўноўвалі з Напалеонам. Створаны нават міт, што “баталий он не проигрывал”. Сувораў стаў кавалерам усіх расейскіх ордэнаў — начапіў на сябе ўсе стужкі, аздобіўся ўсімі магчымымі замежнымі ўзнагародамі. Сувораў праславіўся непрадказальнасьцю, раздражняльнасьцю, помсьлівасьцю, неразумнасьцю. Ненавідзеў сваіх начальнікаў, бо “не цанілі”. Тыя, у сваю чаргу, абвінавачвалі яго ў няведаньні тактыкі, самавольстве, самаўпраўстве, мардаваньні салдатаў, прыпісках, завышэньні колькасьці забітага няпрыяцеля і прымяншэньня сваіх стратаў. Чужыя перамогі ён зьедліва крытыкаваў, а свае ўзвышаў. “Вот человек, который хочет уверить, что он глуп, и никто ему не верит”,— сказаў пра Суворава Румянцаў. “Субардынацыя”,— любіў гаварыць Сувораў. Затое сам гадзінамі чытаў натацыі падначаленым пры поўным парадзе ў начной кашулі, у пакоі, напаленым, як лазня (панічна баяўся скразьнякоў).

Пры двары палкаводзец штохвіліны кідаўся цалаваць сукенку імпэратрыцы. Крыўляньне, юродстваваньне і жарты бянтэжылі нават ня дужа сьціплых паненак. Сама імпэратрыца завешвала пры ім люстэркі, якіх ён баяўся. Генэрал выпрошваў усё новыя рэгаліі. Яго адсылалі хутчэй “па важных справах”

падалей ад двара, дзе ён быў плебеем. “Генэрал-наперад” (так звалі яго на Захадзе) хваравіта пераносіў, калі яго абыходзілі ва ўзнагародах, і жвава цікавіўся, колькі будуць плаціць за чарговы тытул.

Усе вайскоўцы, што бралі ўдзел у задушэньні паўстаньняў, а таксама фаварыты двара шчодра надзяляліся землямі з прыгоннымі на “новоприобретённых территориях”. Атрыманае “с царского плеча” футра насіў за апранутым у вечны плашч Суворавым яго лёкай Прошка — галоўны аўтарытэт гаспадара. 15 жніўня 1795 г. А.Сувораў атрымаў “в воздаяние знаменитых заслуг...в Литовской губернии из экономии Брестской, бывшей в числе королевских столовых имений, Ключ Кобринский с прочими ключами, фольварками и селениями...”, дыямантавы бант на капялюш. Новае ўладаньне ў Літве амаль у тры разы перавышала тыя, што ён ужо меў. Пасьля сьмерці бацькі Сувораў атрымаў 1900 душаў у Наўгародзкай, Кастрамской, Уладзімірскай губэрнях, Пэнзэнскім намесьніцтве і Маскоўскай акрузе, ня лічачы гарадзкіх дамоў і іншай маёмасьці. На Кобрыньшчыне палкаводцу сталі належаць 8087 душаў (мужчынскага полу). Упершыню Сувораў наведаў свае новыя ўладаньні ў апошніх днях сакавіка 1797 г., выйшаўшы ў адстаўку.

Будынкі адміністрацыйнай адзінкі Ключа Кобрыньскага пад назовам Губэрня былі закладзеныя яшчэ пад кіраўніцтвам падскарбія ВКЛ, горадзенскага старасты і адміністратара эканоміі Антонія Тызэнгаўза ў 1768 г. за кілямэтар ад гораду. Выкапана сажалка, пасаджаны парк. З Кобрыньскай ратушы і замку сюды перамясьцілася мясцовая адміністрацыя. Горад быў вольны, але зьбяднелы з-за войнаў. У 1766 г. ён страціў магдэбурскае права.

Генэрал любіў званіць у званы і “вучыць” мясцовы хор у царкве. Ён ніяк ня мог зразумець, што горад Кобрынь не прыгонны населены пункт, не ягоная ўласнасьць. Замкавыя валы былі на ягоны загад скапаныя; мяшчанаў прымушалі адпрацоўваць паншчыну. Пасланцы прывезьлі з Санкт-Пецярбурга старому тлумачэньні, каб не чапаў гараджанаў. З палёгкай уздыхнулі кобрынцы, калі 22 красавіка цар адправіў генэрала ў Канчанскае Наўгародзкае губэрні. Другі раз генэралісімус спыняўся ў ненавіснай Кобрыні па вяртаньні з Швайцарыі ў лютым 1800 г. Амаль два месяцы, папраўляючы



Адвоз Суворава з Кобрыні. М. Беляніцкі.

сваё здароўе, ён дапякаў бурчэньнем усіх, хто яго даглядаў. Суняць хворага ўдавалася толькі весткамі аб усеагульным нізкапаклонстве перад ягонымі “подзьвігамі”.

У нованабытых землях расейцы ўводзілі свае парадкі. На працу бралі толькі тых, хто запісаўся праваслаўным рускім. У Расеі існавала пачварнае рабаўладальніцтва. Не ідэалізуючы папярэдняга жыцьця, расейскі гісторык XIX ст. П.Шчабальскі пісаў: “Крепостное право распространилось на такие части России, где перед тем его никогда не существовало,— на Белоруссию и Малороссию. Лишение свободы нескольких миллионов людей и отдача их в неволю без всякой вины, было делом истинно чудовищным”. Праводзілася масавая русыфікацыя, нацыянальныя сымбалі і сама назва нашай краіны забароненыя. Створана штучная тэорыя пра “трыадзінства рускага народу”, каб апраўдаць заняволеньне беларусаў і ўкраінцаў. Выкладаньне і друкаваньне кніг на беларускай мове перасьледавалася як крымінальнае злачынства. Асабліва адчувальны ўдар па “искоренению грани инородия”зроблены,

калі ў 1839 г. усе вуніяты гвалтоўна пераведзеныя ў рускае дзяржаўнае праваслаўе. 80% насельніцтва Беларусі страціла магчымасьць чуць слова божае на роднай мове. Усё гэта прынесьлі нам у тым ліку і “подзьвігі” Суворава.

Грамадзтва, а тым больш войска маюць патрэбу ў ідалах. Палкаводзец, які памёр у Санкт-Пецярбурзе 6 траўня 1800 г., стаўся ў Беларусі “вечно живым”. У 1946 г. “зьнянацку знайшлі” яшчэ і Кобрыньскі гарадзкі дом Суворава на цяперашняй вуліцы ягонага імя (былая Губэрніяльная). Насамрэч, як сьведчаць дакумэнты, палкаводцу ў горадзе належаў толькі замак. У былым маёнтку Губэрнія (цяпер у рысе гораду, парк імя Суворава) генэралісімус пару разоў спыняўся ў доме на беразе затокі. Будынак не захаваўся. Нягледзячы на гэта ў старадаўняй шляхоцкай сядзібе на вуліцы Суворава 1 траўня 1948 г. адчынілі музэй палкаводца з экспанатамі малазначнымі і нешматлікімі, апасродкавана датычнымі яго. Але і гэты будынак XVIII ст. быў зьнесены ў часе “рэстаўрацыі”. Для даверлівага турыста — шыльда на доме-падробцы: “Здесь жил Суворов”. Пастаўлена некалькі помнікаў. Каля мястэчка Дзівін і Крупчыцкага манастыру “знайшлі” нават дубы, пад якімі адпачываў генэрал. Устаноўленыя шыльды. Аўтару трапіла ў рукі кніга 40-х гг. XX ст. з апісаньнем экспазыцыі музэяў Суворава на абшарах СССР. На пустым месцы зь нічога былі арганізаваныя абсалютна аднолькавыя музэі-блізьняты зь ідэнтычнымі экспазыцыямі паводле аднаго пляну. Ёсьць там і Кобрыньскі музэй. Нядаўна адчынена яшчэ адна экспазыцыя ў спэцыяльна пабудаванай шыкоўнай двухпавярховай камяніцы ў Кобрыні. Гэты комплекс быў таксама створаны за мінімальны тэрмін, з усяго, што засталося ў запасьніках з гісторыі Беларусі. Установа ня мае амаль ніякіх праблемаў зь фінансаваньнем, і ў ёй спраўна выконваюцца “научные планы”.

Парадаксальна, што палкаводзец з празьмерна разьдзьмутымі заслугамі, які нахапаў узнагародаў дзякуючы сваяцкім сувязям і нахабству, выконваючы другарадныя ролі, далёка ня ў самых справядлівых войнах, так шануецца ў Беларусі, дзе ён праліў мора крыві. Роля, якую ён тут адыграў, падобная да Чынгісханавай у Расеі, але там чамусьці ня любяць услаўляць куміра суседзяў.

**Адась КАЛЮТА.**

# З ГІСТОРЫІ ВІЛЕНСКАГА МАСОНСТВА XX ст.

Гісторыя масонаў нячаста была аб’ектам увагі беларускіх дасьледнікаў. І гэта зразумела. Няма ніякіх падставаў цьвердзіць, што ў тых ці іншых падзеях нашае мінуўшчыны масоны адыгрывалі значную ролю. Але заўсёды прыцягваў увагу сам факт існаваньня таямнічых лёжаў. Нядаўна пра “масонскі сюжэт” у гісторыі Беларусі і Літвы нагадалі дзьве публікацыі ў “Спадчыне”*. Хацелася б прадоўжыць тэму нарысам з гісторыі віленскага масонства пачатку XX ст. Тым больш што непасрэднае дачыненьне да яго мелі вядомыя дзеячы беларускага руху браты Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі ды Іван Краскоўскі.

Галоўнаю крыніцаю для нарысу паслужыў дзёньнік Міхала Ромэра (1880–1945). Гэты вядомы юрыст, навуковец, публіцыст і палітычны дзяяч Літвы (як “гістарычнай”, так і “этнаграфічнай”) пакінуў амаль 40 тамоў штодзённых запісаў. Першы быў зроблены 1 студзеня 1911 г., апошні — 18 лютага 1945 г., за некалькі дзён да сьмерці. Дзёньнік — каштоўная крыніца гісторыі грамадзкага, палітычнага і культурнага жыцьця беларуска-літоўскага краю. Трыццаць чатыры тамы захоўваюцца ў аддзеле рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі АН Літвы, астатнія — у аддзеле рукапісаў

* Дабранскі С. Масонскія лёжы ў Літве.// Спадчына, 1997, №1; яго ж. Нарысы з гісторыі масонства ў Літве.// Спадчына, 1997,№3.

бібліятэкі Віленскага ўнівэрсытэту. Дзёньнік стаў даступны для дасьледнікаў адносна нядаўна. М.Ромэр дазволіў карыстацца запісамі толькі пасьля 25 гадоў па ягонай сьмерці. Першымі заняліся вывучэньнем дзёньніку дасьледнікі Літвы і Польшчы — Вінцас Марцінкенас, Рымантас Мікніс, Ян Савіцкі, Браніслаў Макоўскі, Зьбігнеў Соляк і іншыя.

Міхал Ромэр быў прыкметнаю постацьцю ў мясцовай масонскай ярархіі, і гэты бок ягонага жыцьця й дзейнасьці таксама знайшоў адлюстраваньне ў запісах. Фрагмэнт дзёньніку, у якім раскрываюцца абставіны ўзьнікненьня і мэты дзейнасьці масонскіх лёжаў у 1910–1915 гг., друкуецца цалкам (гл. Дзёньнік). Тэкст дакумэнту гаворыць сам за сябе. Але каб зразумець месца і ролю масонаў у гісторыі беларуска-літоўскага краю пачатку XX ст., да гістарычнага дакумэнту патрэбная прэамбула. Напісаць яе дапамагло знаёмства з сучаснаю польскай, літоўскай і расейскай гістарыяграфіяй праблемы.

Традыцыі масонства ў Расейскай імпэрыі, распачатыя ў 30-я гг. XVIII ст., перарваліся ў 1822 г. У гэтым годзе ўказам Аляксандра I забаранялася дзейнасьць “вольных муляраў” на тэрыторыі дзяржавы. На той час у Вільні існавалі шэсьць лёжаў. Варта прыгадаць, што кіраўніком (майстрам) лёжы “Дасканалая Лучнасьць” быў дзед аўтара дзёньніку Міхал Юзаф Ромэр, маршалак шляхты Троцкага павету[1].

Адраджэньне масонскіх арганізацыяў у імпэрыі пачалося ў пэрыяд рэвалюцыі 1905–1907 гг. Прычыны гэтай зьявы бальшыня дасьледнікаў зьвязвае з рэвалюцыйным крызысам, які спарадзіў сярод часткі грамадзкіх дзеячоў моцнае імкненьне да кансалідацыі ўсіх сілаў. Масонства зь ягоным арэалам таямніцы і пэўным лібэралізмам у ідэалёгіі стала прывабным для шмат каго.

У 1905 г. у Маскву прыехаў вядомы гісторык і сацыёляг, кіраўнік Вышэйшай школы сацыяльных навук у Парыжы прафэсар Максім Кавалеўскі. У 1887 г. ён быў адным з заснавальнікаў парыскай лёжы “Космас”, якая належала да масонскай арганізацыі “Вялікі Ўсход Францыі”. М.Кава-

леўскі меў паўнамоцтвы дзеля заснаваньня ў Маскве масонскае лёжы. Глеба для гэтага ўжо была падрыхтавана. Вядома, што напачатку 1905 г. у “Космас” уступіў шэраг вядомых расейскіх дзеячоў лібэральна-дэмакратычнага кірунку (Маклакоў, Гамбараў, Кедрын і іншыя)[2].

15(28).11.1906 г. у Маскве была створаная лёжа “Адраджэньне”. Яе ўзначаліў лекар Н.Бажэнаў[3]. Напачатку наступнага году да Масквы далучыўся Пецярбург, дзе ўзьнікла лёжа “Палярная Зорка” (кіраўнік князь Арлоў-Давыдаў). Абедзьве лёжы падпарадкоўваліся “Вялікаму Ўсходу Францыі”.

Масонскі рух хутка пашыраўся. У сярэдзіне 1908 г. у лёжах было ўжо каля 40 чалавек[4]. У 1909 — прыблізна 300–350[5]. У гэты час існавалі лёжы ў Пецярбурзе (3), Маскве (2), Ніжнім Ноўгарадзе, Адэсе й Кіеве (па адной).

Дасьледнікі Расеі і Польшчы зьвярнулі ўвагу на істотнае адрозьненьне новых лёжаў ад папярэдніх. Калі лёжы канца XVIII — пачатку XIX ст. складаліся пераважна з прадстаўнікоў расейскай арыстакратыі, то бальшыня масонаў пачатку XX ст. належала да інтэлігенцыі. Гэта былі адвакаты, унівэрсытэцкая прафэсура, лекары, інжынэры ды іншыя. Паводле партыйна-палітычнай арыентацыі сярод масонаў пераважалі прыхільнікі лібэральна-дэмакратычнай ідэалёгіі. Польскі дасьледнік Людвіг Хас так ахарактарызаваў іхныя погляды: “Гэта былі людзі сьветлыя і адукаваныя, лібэралы паводле перакананьня, супраціўцы традыцыйнага ладу, якія не былі прыхільнікамі расейскай манархіі і крытычна ацэньвалі, прынамсі, двух апошніх цароў. Яны лічылі, што царызм праводзіць пагібельную палітыку, якая прывядзе да рэвалюцыі”[6].

Гісторыкі згодныя, што новыя масоны перасьледавалі чыста палітычныя мэты. Галоўнаю зь іх была замена самаўладзьдзя парлямэнцкім ладам. Традыцыйная масонская ідэалёгія перапляталася зь ідэалёгіяй расейскага лібэралізму. На адсутнасьць пераемнасьці паміж новымі і былымі расейскімі масонамі зьвярталі ўвагу і некаторыя пазьнейшыя ўдзельнікі гэтага руху[7].

Актыўнасьць масонаў прыцягнула ўвагу дэпартамэнту паліцыі. Ужо ў 1905 г. была заведзеная сьледчая справа. Аднак “ахранка” так і ня здолела адшукаць праўдзівую інфармацыю. У 1915 г. справа была закрытая. Не апошнюю ролю ў гэтым адыгралі тэрмінова прынятыя меры бясьпекі. У 1909 г. усе расейскія лёжы афіцыйна “заснулі”, г.зн. спынілі дзейнасьць. Але насамрэч “сон” быў толькі сродкам, каб пазбавіцца выпадковых і ненадзейных людзей.

Якраз у гэты час зьявіліся масонскія лёжы, незалежныя ад Масквы і Пецярбурга. Так, у чэрвені 1910 г. у Варшаве была створаная лёжа “Вызваленьне” (кіраўнік Рафал Радзівіловіч). Яна таксама належала да “Вялікага Ўсходу Францыі”[8].

У 1910 г. у Вільні ўзьнікла лёжа “Лучнасьць”. Сярод яе заснавальнікаў былі Іван і Антон Луцкевічы[9] (гл. Дзёньнік). Лёжа была створаная зь ініцыятывы расейскіх масонаў, сяброў партыі кадэтаў. М.Ромэр паведаміў, што спачатку масоны зьвярнуліся да вядомага адваката Тадэвуша Ўрублеўскага, але той адмовіўся супрацоўнічаць[10]. Ролю арганізатара адыграў удзельнік першых зьездаў кадэцкай партыі Ежы Ром.

У “Лучнасьці” былі прадстаўленыя ўсе асноўныя этнасы беларуска-літоўскага краю. “Браты” трымаліся прынцыпаў краёвай ідэалёгіі. Галоўным пастулятам гэтай ідэалёгіі быў пастулят палітычнай (а не этнічна-культурнай) нацыі. Усе, хто ўсьведамляў сябе “грамадзянамі краю”, на думку краёўцаў, належалі да адзінае нацыі незалежна ад этнічнага паходжаньня і культурнае прыналежнасьці. Краёвая ідэалёгія супрацьстаяла ідэалёгіі этнічнага шавінізму. Пры гэтым яна зусім не перашкаджала сваім адэптам актыўна працаваць у рэчышчы ўласных этнічных рухаў. У палітычным пляне краёўцы выступалі за ўстанаўленьне парлямэнцкай рэспублікі і аўтаномію “гістарычнай Літвы” ў межах дэмакратычнай фэдэратыўнае Расеі.

У сакавіку 1911 г. у “Лучнасьць” быў прыняты Міхал Ромэр. Прыёму папярэднічала размова зь Іванам Луцкевічам, падчас якой беларускі дзяяч спрабаваў асьцярожна выведаць у суразмоўцы ягонае стаўленьне да масонаў[11]. Са сказанага Іванам Луцкевічам можна зрабіць выснову,

што пэўным узорам для віленскіх масонаў была турэцкая арганізацыя “Лучнасьць і Прагрэс”, якая адыграла галоўную ролю ў дзяржаўным пераваароце 1908 г. Наступствам перавароту было аднаўленьне турэцкай Канстытуцыі 1876 г. і зрачэньне султана Абдулхаміда.

Афіцыйнае запрашэньне М.Ромэру да ўступленьня ў лёжу перадаў усё той жа І. Луцкевіч. Вось што запісаў у сваім дзёньніку М.Ромэр: “Увечары прыйшоў Іван Луцкевіч і паведаміў, што ў нядзелю мясцовая масонская лёжа прыняла мяне ў свой Зьвяз.<...> Калі гэта ня фарс і не якое-небудзь нясьпелае пачынаньне жменькі летуценьнікаў, а сапраўдная масонская арганізацыя, то я ўсім сэрцам далучуся да гэтага Зьвязу”[12] . Неўзабаве М.Ромэр стаў адным з кіраўнікоў віленскага масонства.

Між тым у 1911 г. афіцыйна “абудзіліся” расейскія масоны. Аднаўленьне іхнай дзейнасьці адбылося бяз санкцыі “Вялікага Ўсходу Францыі”. Быў узяты курс на стварэньне самастойнай арганізацыі, якая павінна была аб’яднаць усе лёжы на тэрыторыі Расеі. Гэтае імкненьне прывяло да таго, што ў адпаведнасьці з статутам масонаў “Вялікі Ўсход Расеі” (такую назву атрымала новая арганізацыя) стаў лічыцца “нерэгулярнай” (псэўдамасонскай) арганізацыяй. Апошняе, аднак, мала турбавала расейскіх масонаў. Галоўныя мэты іхнае дзейнасьці па-ранейшаму знаходзіліся ў палітычнай сфэры[13] .

У 1913 г. арганізацыя стала называцца “Вялікі Ўсход народаў Расеі”. Яна аб’ядноўвала ўжо каля 40 лёжаў[14] . Сярод іх былі ўжо дзьве віленскія. У 1911 г. была створаная лёжа “Літва”, якую ўзначаліў М.Ромэр (гл. Дзёньнік).

Міхал Ромэр пасьлядоўна адстойваў асноўныя прынцыпы краёвасьці. У вялікай меры дзякуючы ягоным намаганьням віленскія лёжы сталі моцнымі цэнтрамі прапаганды краёвай ідэалёгіі. Гэтаму спрыяла актыўная грамадзкапалітычная і культурная дзейнасьць віленскіх “братоў”. Амаль усе яны былі аўтарытэтнымі дзеячамі розных этнічных рухаў і мелі магчымасьць уплываць на іхную ідэалё-

гію, асабліва ў галіне міжэтнічных дачыненьняў. Гэта адлюстравалася ў шматлікіх публікацыях “вольных муляраў” на старонках такіх віленскіх выданьняў, як “Lietuvos Žinios”, “Lietuvos Ūkininkas”, “Наша Ніва”, “Przegląd Wileński”, “Kurier Krajowy” і “Вечерняя газета”. “Краёўцы-масоны” ўваходзілі ў склад кіраўніцтва шмат якіх культурных таварыстваў і гаспадарчых арганізацыяў, дзейнасьць якіх выходзіла далёка за межы Віленшчыны. Варта назваць польскае Таварыства сяброў навук, літоўскае Артыстычнае таварыства, Віленскае таварыства падтрымкі хатняга рамяства і народнага мастацтва, Таварыства падтрымкі каапэрацыі і інш.

У 1913 г. віленскае масонства напаткаў крызыс. Некалькі “братоў”, сярод якіх быў адзін з найбольш актыўных краёўцаў Вітольд Абрамовіч выйшлі з складу “Лучнасьці” і “Літвы”. Яны склалі “ядро” польскай масонскай лёжы ў Вільні[15]. Лёжа атрымала назву “Верны Ліцьвін”[16]. Кантактаў зь іншымі віленскімі лёжамі яна не падтрымлівала. Літоўскі гісторык Ян Савіцкі[17] (усьлед за М.Ромэрам) галоўнаю прычынаю гэтага расколу лічыць зьмену палітычнай арыентацыі некаторых “братоў”- палякаў з аўтанамісцкай на незалежніцкую. Дасягненьне незалежнасьці краю яны зьвязвалі зь незалежнасьцю Польшчы.

Досыць хутка крызыс быў пераадолены. Шэрагі “братоў” папоўніліся новымі людзьмі. У выніку ў кастрычніку 1914 г. у Вільні была створаная лёжа “Беларусь” (гл. Дзёньнік).

На дзейнасьць віленскіх масонаў моцна паўплывала Першая сусьветная вайна. Рост вялікадзяржаўных шавіністычных настрояў у Расеі адбіўся на пазыцыі кіраўніцтва “Вялікага Ўсходу Народаў Расеі”. “Вольныя муляры” зь Вільні адчулі гэта ўжо падчас кастрычніцкага (1914 г.) канвэнту (зьезду) у Пецярбурзе. У яго працы ўдзельнічала болей за 30 дэлегатаў з усяе Расеі. Паводле сваіх палітычных сымпатыяў яны належалі да партыяў і арганізацыяў, якія прадстаўлялі расейскі палітычны спэктар у дыяпазоне ад кадэтаў да трудавікоў. Дэлегатамі ад Вільні былі Міхал

Ромэр і Антон Луцкевіч. Разам з прадстаўнікамі Ўкраіны (С. Пракаповіч, І. Яфрэмаў, Муіжэнек) яны галасавалі супраць рэзалюцыі канвэнту, які выказаўся за перамогу Антанты[18]. А.Луцкевіч, як адзначыў М.Ромэр, выступаў за захаваньне нэўтралітэту ў дачыненьнях да ваюючых бакоў. Перамогу царызму ён лічыў найгоршым з магчымых вынікаў вайны.

Дыскусіі падчас канвэнту, іншыя кантакты з расейскімі масонамі, выразна паказалі ўсю падманлівасьць ранейшых запэўненьняў кіраўнікоў "Вялікага Ўсходу Народаў Расеі" ў магчымасьць свабоднага (аўтаномнага) разьвіцьця беларуска-літоўскага краю ў выпадку іх прыходу да ўлады. Віленскія масоны пачалі задумвацца пра неабходнасьць утварэньня ўласнае масонскае арганізацыі, якая б ахоплівала ўсе землі былога Вялікага Княства Літоўскага. Для гэтага трэба было стварыць у Беларусі і Літве 7 лёжаў. Між тым увесну 1915 г. іх існавала толькі 5. Апроч Вільні, лёжы дзейнічалі ў Менску і Віцебску (гл. Дзёньнік). Тым ня менш розьніца ў поглядах на будучыню Беларусі і Літвы непазьбежна вяла да разрыву з расейскім масонствам. Апошнім актам супрацоўніцтва быў удзел дэлегатаў Вільні (Андруса Булёты і Аляксандра Заштаўта) у масонскім канвэнце ў Пецярбурзе ў маі 1915 г.[19]

Ваенныя падзеі і іх палітычныя наступствы ўнесьлі свае карэктывы ў погляды "братоў". У канцы 1914 — пачатку 1915 г. пачаліся першыя непаразуменьні. Адно зь іх набыло характар "літоўска-беларускага канфлікту". Літоўцы дамагаліся аўтаноміі для этнаграфічнае Літвы з г. зв. "прылеглымі тэрыторыямі" (каталіцкая частка Горадзеншчыны і Меншчыны) і з сталіцай у Вільні. Беларусы адстойвалі ідэю аўтаноміі земляў "гістарычнае Літвы" з сталіцай у Вільні.

Сярод дзеячоў польскае дэмакратыі ў Вільні стала пераважаць незалежніцкая арыентацыя. У польскім руху яна была прадстаўленая галоўным чынам Юзафам Пілсудзкім і яго легіянэрамі. Прыхільнікам гэтай арыентацыі стаў і М.Ромэр, які зь незалежнасьцю Польшчы зьвязваў ідэю

адраджэньня Рэчы Паспалітай як Зьвязу роўных дзяржаваў. Ён спадзяваўся, што ў гэтым выпадку “гістарычная Літва” сама будзе вызначаць характар сваіх дачыненьняў з заходнім суседам.

У траўні 1915 г. М.Ромэр пакінуў Вільню. Ён перайшоў лінію фронту і далучыўся да легіёнаў Ю. Пілсудзкага. Ягоны ад’езд, а таксама эвакуацыя з гораду многіх “братоў” нанесьлі моцны ўдар па дзейнасьці віленскіх масонаў.

Спрабаваў ратаваць сытуацыю Юргіс Шаўлюс. Зь яго ініцыятывы рэшткі трох віленскіх лёжаў аб’ядналіся ў новую самастойную арганізацыю “Вялікі Ўсход Літвы”[20]. Якраз яна адыграла галоўную ролю ў стварэньні Часовае Рады Канфэдэрацыі Вялікага Княства Літоўскага, якая ў сьнежні 1915 г. выдала “Унівэрсал”, што заклікаў да аднаўленьня Беларуска-Літоўскае дзяржавы. У лютым 1916 г. гэты заклік быў паўтораны ў “Звароце” Часовае Рады. Але неўзабаве пасьля гэтага лёжа “заснула”. Магчыма, галоўнаю прычынаю сталі этнічныя супярэчнасьці, якія яшчэ больш абвастрыліся ва ўмовах германскай акупацыі.

Знаёмства з запісамі дзёньніку М.Ромэра, з матэрыяламі польскай, літоўскай і расейскай гістарыяграфіі, нарэшце, усё тое, што мы ведаем пра самое жыцьцё і дзейнасьць як аўтара дзёньніку, так і згаданых у ім асобаў, дазваляе сьцьвярджаць, што віленскія масонскія лёжы былі толькі формаю дзеяньня мясцовых дэмакратычных элемэнтаў краёвай арыентацыі. Сябры гэтых масонскіх арганізацыяў пашыралі сярод грамадзтва ўсьведамленьне каштоўнасьці ідэалаў дэмакратыі. Яны прапагандавалі ідэі этнічнае талеранцыі і супрацьстаялі ідэалёгіі этнічнага шавінізму. Галоўныя мэты іхнай дзейнасьці былі непарыўна зьвязаныя з нацыянальна-вызвольным рухам у Беларусі і Літве, з дасягненьнем пэўнае палітычнае самастойнасьці краю. Магчыма, толькі палітычная ўмовы тагачаснае Расеі прымушалі гэтых людзей хавацца пад покрывам масонскае таямніцы.

**Заўвагі**

[1] Дабранскі С. Нарысы з гісторыі масонства ў Літве. // Спадчына, 1997, №3.— С.50.

[2] Hass L. Rosyjskie wolnomularstwo lat 1906–1918 (Fragment z dziejów liberalizmu w Rosji). // Studia z dziejów ZSSR i Środkowej Europy. VII, 1971, —S.152.

[3] Hass L. Rosyjskie... — S. 156; А.Аврех. Масоны и революция. — М., 1990.— С.50.

[4] Hass L. Rosyjskie...

[5] А.Аврех. Масоны... — С. 184.

[6] Hass L. Rosyjskie... — S. 152.

[7] Бакунина Т. Русские вольные каменщики.— Париж, 1934.— С.9.

[8] Hass L. Masoneria Polska XX w. Losy, loże, ludzie.— Warszawa, 1993.— S.44.

[9] Ромэр М. Дзённік. Т. 4.— С. 403. Запіс ад 3(16) сакавіка 1915 г. Аддзел рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі АН Літвы.

[10] Sawicki J. Z dziejów “Wielkiego Wschodu Litwy”. // Przegląd Wschodni, T. IV, z. 2(14), — S.443.

[11] Ромэр М. Дзённік. Т. 1.— С. 46. Запіс ад 15(28).02.1911 г.

[12] Ромэр М. Дзённік. Т. 1.— С. 66. Запіс ад 7(20).03.1911 г.

[13] Hass L. Rosyjskie... — S. 166; А.Аврех. Масоны... — С. 187.

[14] Hass L. Rosyjskie... — S. 166.

[15] Ромэр М. Дзённік. Т. 4.— С. 404. Запіс ад 4(17).03.1917 г.; Т.28.— С. 138. Запіс ад 17.11.1920 г.

[16] Chajn L. Polskie wolnomularstwo. 1920–1939.— Warszawa, 1984.

[17] Sawicki J. Z dziejów wolnomularstwa w Wilnie.// Studia i materiały. WSP. Olsztyn, 1994, N 58.— S. 206.

[18] Ромэр М. Дзённік. Т. 4.— С. 270. Запіс ад 21.10(3.11).1914 г.

[19] Solak Z. Michał Romer i masoneria wileńska.(1911–1915). // Lietuvių atgimimo istorijos studijos, t.13.— Vilnius, 1996.— S. 42.

[20] Sawicki J. Z dziejów “Wielkiego... — S. 444. Ён жа адзначыў, што таксама сустракалася назва “Вялікі Ўсход Літвы і Беларусі”.

**Алесь СМАЛяНчУК.**

ąłń

# ФРАГМЭНТЫ ДЗЁНЬНІКУ М.РОМЭРА

**3(16) сакавіка 1915 г., аўторак (т.4, с.403)**

Днямі я закончу гэты том майго дзёньніку. Потым адвязу яго да Вянзоўцу[1] і перадам у рукі Эльвіры на захаваньне. Дзёньнік будзе схаваны здалёк ад усіх аж да майго распараджэньня. На выпадак маёй сьмерці папрашу Эльвіру, не чытаючы, перадаць яго Заштаўту[2]. Заштаўта ж папрашу (пісьмом у асобным канвэрце) адвезьці гэты том разам зь іншымі ў музэй Рапэрсьвіля[3] і дэпанаваць яго там на наступных умовах: 1) дзёньнік нельга чытаць; 2) праз 50 гадоў пасьля маёй сьмерці дзёньнік павінен быць надрукаваны цалкам, без скаротаў, пропускаў і зьмяненьняў. Перад дэпанаваньнем дзёньніку я дазваляю Заштаўту прачытаць яго або асабіста, або з кім-небудзь, але бяз права публікацыі.

Гэты сшытак я перадам Эльвіры, недапісаным. Працягваць запісы буду ўжо ў новым. Усё гэта я раблю таму, што ўжо цяпер зьбіраюся распачаць хадайніцтва аб замежным пашпарце. Не хачу пры гэтым мець у Вільні, нават у кватэры Анінкі[4], нічога, што магло б мяне скампрамэтаваць у выпадку якіх-небудзь паліцыйных акцыяў або нават магчымага вобшуку. Новы том дзёньніку я буду весьці так, каб нічым не выдаць уласных незалежніцкіх сымпатыяў і

---

Гэтыя старонкі Дзёньніку былі надрукаваныя польскім гісторыкам Зьбігневам Солякам у кракаўскім часапісе “Niepodległość“ (1996, Т. 28.— S. 85–94).

намераў адносна легіёнаў. Не хачу, каб гэта стала вядомым да таго моманту, пакуль я не апынуся за кардонам. Таму на ўласныя сымпатыі і намеры я накладваю пячатку маўчаньня на свае вусны і пяро. Аднак гэта датычыць запісаў ужо наступнага тома. А ў гэтым перад яго заканчэньнем я хачу зьняць таямніцу з тэмы, пра якую ўвесь час маўчаў. Перадаючы гэты том у надзейныя рукі і вызначыўшы ягонае дэпазытнае захаваньне на працягу 50 гадоў пасьля маёй сьмерці, што, зразумела, зробіць немагчымым яго публікацыю ў гэты час, я магу выказацца і распавесьці праўду пра адну таямніцу.

Рэч у тым, што я належу да “Вольных муляраў”. Паседжаньні нашае лёжы адбываліся ў тыя дні, у апісаньні якіх адразу пад датаю быў зьмешчаны які-небудзь знак. Хачу заўважыць, што шырока распаўсюджана разуменьне масонаў як езуітаў наадварот. Магчыма, так яно і ёсьць у дачыненьні да “Вольных муляраў” дзе-небудзь на сьвеце, але ў дачыненьні да нашага Зьвязу гэтае разуменьне не адпавядае рэчаіснасьці. Мы вельмі далёкія ад перакананьняў, што мэта апраўдвае сродкі, што з дапамогаю крывадушнасьці, хлусьні, гвалту ці якога іншага амаральнага сродку можна стварыць што-небудзь трывалае і цудоўнае. Гэта глыбока памылковы погляд, быццам “Вольныя муляры” маюць пэўныя антыграмадзкія або антыкультурныя мэты, імкнучца да панаваньня і да зьнішчэньня чалавечае культуры, адным з элемэнтаў якой зьяўляецца рэлігія.

Нашая задача — не зьнішчаць, не ламаць, не разбураць, а ствараць і ўдасканальваць. Вядома, я не магу адказваць за масонства ўсяго сьвету ва ўсіх яго гістарычных формах. Не сумняваюся, што маглі быць і былі адхіленьні і калецтвы творчай ідэі. Былі скажэньні ў кірунку сэктанцтва, фармалізму, крывадушнага езуіцтва, нарэшце, бясплённага кар’ерызму хеўры, як было, у прыватнасьці, у Францыі. Я распавядаю толькі пра наш Зьвяз. Нашым падмуркам ёсьць ідэі братэрства, любові й свабоды чалавечага духу. Наша брацтва — гэта Зьвяз гуманізму ў шляхоцкім і адначасова дзейным значэньні гэтага слова. Мы

імкнёмся, каб гэтыя лёзунгі ня сталі звычайнаю фармальнасьцяй, не ўспрымаліся толькі як нейкі сьцяг, не атаясамліваліся з тымі прыгожымі словамі, якія пішуцца на астрожнай браме і ня маюць дачыненьня да рэчаіснасьці. Мы не жадаем і таго, каб гэтыя лёзунгі ператварыліся ў сродак гвалту над жывым і творчым чалавечым духам. Мы імкнёмся зрабіць іх рэальнасьцяй сумленьня, дзеяньняў і дачыненьняў у чалавечым сужыцьці; каб яны пранізалі дачыненьні як паміж асобнымі людзьмі, так і паміж усялякімі групамі і нацыямі і, нарэшце, сталі здабыткам усяго чалавецтва; каб установы, законы, арганізацыі, уся культура былі напоўненыя зьместам і сэнсам нашых лёзунгаў. Гэта далёкая мэта, але жывая, да якой мы павінны імкнуцца ў кожнай дробязі жыцьця. Унутры ж нашага асяродку, нашых лёжаў мы павінны зрабіць братэрства празь любоў і ўзаемадапамогу фактам ужо сёньняшняга дня. “Вольныя муляры” абавязаны мець актыўную жыцьцёвую пазыцыю, каб пастаянна рэалізоўваць масонскі прынцып гуманізму.

Наш Зьвяз — не палітычнае аб’яднаньне. Нельга яго лічыць і партыяй. Толькі імкненьне прытрымлівацца асноўных прынцыпаў чалавечнасьці прымушае нас (асабліва тут, у расейскай дзяржаве) займаць антыўрадавую палітычную пазыцыю. Прычына ў тым, што гэтая дзяржаўная арганізацыя, а на маё меркаваньне, і сама расейская дзяржаўнасьць як канкрэтны гістарычны фэномэн ёсьць найвялікшаю перашкодаю дзеля рэалізацыі нашых прынцыпаў. Мы не змагаемся супраць палітычных партыяў, мы нікога не адрываем ад іх. Партыі маюць свае ўласныя задачы, вырашэньне якіх неабходна для прагрэсіўнага разьвіцьця чалавецтва. Калі кірунак і дзейнасьць партыяў не пярэчаць выразна нашым прынцыпам, то нам няма ніякае справы да партыйнае прыналежнасьці нашых братоў. Мы называем сябе “братамі”, бо ва ўзаемадачыненьні паміж сабой такімі і зьяўляемся ці, прынамсі, імкнёмся быць. Уваходжаньне ў нашыя лёжы братоў рознай палітычнай арыентацыі нават пажадана, бо стварае магчымасьць пэўнай каардынацыі дзейнасьці розных партыяў. Нікога з братоў мы не прымушаем, не дапускаем аніякага гвалту над перакана246ньнямі і

свабодай сумленьня, таму што гэта пярэчыць нашым асноўным прынцыпам. Кожны брат у кожны момант можа пакінуць лёжу і Зьвяз. Але ён павінен трымацца адной абавязковай умовы, а менавіта: захоўваць у таямніцы сам факт існаваньня “Вольных муляраў”. Дзеля гэтага дазваляецца нават парушэньне судовае прысягі.

**4 (17) сакавіка 1915 г., серада (т.4, с.404)**

Я разьлічваў, што маю яшчэ некалькі дзён для заканчэньня дзёньніку, але абставіны склаліся так, што вымушаны зрабіць апошні запіс ужо сёньня. Зь Вільні да Вянзоўцу я прыехаў уначы… Спадзяваўся правесьці тут некалькі дзён, закончыць дзёньнік і пакінуць яго ў Эльвіры напярэдадні ад’езду. Апроч дамовы пра дэпанаваньне дзёньніку, я павінен быў канчаткова дапрацаваць і падпісаць нашу з Эльвіраю дамову пра супольнае валоданьне Вянзоўцам. Выехаць з Вянзоўцу да Варшавы я плянаваў у суботу дарогаю на Менск і Брэст, каб у нядзелю прыняць удзел у польска-літоўскіх перамовах. (Ініцыятарам гэтых перамоваў быў “Незалежніцкі Зьвяз” (Blok Niepodległośćiowy)[5]. Літоўскі бок у перамовах будзе прадстаўлены толькі партыямі: ад Дэмакратычнае партыі прыедзе Сьляжэвіч[6], ад эсдэкаў — Янулайціс[7]. Я быў запрошаны асабіста як знаўца літоўскае сытуацыі. Рашэньне ехаць я прыняў толькі пераканаўшыся, што літоўцы ня маюць нічога супраць майго ўдзелу.)

Дабраўшыся да Радашкавічаў, я даведаўся ад Яські Падольскага[8], які прыехаў за мной на станцыю, што Эльвіры яшчэ няма і невядома, калі яна прыедзе. У Вянзоўцы — адзін Стэфан[9]. Адсутнасьць Эльвіры пазбаўляе сэнсу мой прыезд. Я ўсё роўна буду вымушаны прыехаць яшчэ раз. Адправіў тэлеграму Эльвіры ў Рабэртаў з пытаньнем, калі яна прыедзе. Калі адкажа, што прыедзе заўтра або ў пятніцу, то я паеду ў Вянзовец, калі адкажа, што прыедзе пазьней ці не адкажа да 7-й гадзіны вечару, то буду вяртацца ў Вільню і ўжо зь Вільні паеду ў суботу ў Варшаву. А пакуль сяджу ў карчме Гінзбурга, што пры чыгуначнай станцыі ў Радашкавічах, і пішу дзёньнік. Амаль упэўнены,

што весткі пра заўтрашні прыезд Эльвіры не атрымаю. Але назад у Вільню дзёньнік я ўжо не павязу. Тут, у карчме, якнебудзь яго запакую і перадам Ясю, каб адвёз да Вянзоўцу, сьцярог як зрэнку вока і перадаў Эльвіры пасьля яе прыезду.

Хачу дадаць яшчэ некалькі словаў да ўчарашняй інфармацыі пра нашае "Вольнае мулярства". Наш Зьвяз ахоплівае ўсю расейскую дзяржаву. Ён узьнік, здаецца, у 1909 г. як адгалінаваньне "Вялікага Ўсходу Францыі". Ініцыятарамі стварэньня гэтае "плянтацыі" былі расейскія палітыкі, пераважна кадэты. Ад пачатку свайго існаваньня Зьвяз насіў выразны палітычны характар. **Узорам для яго з'ўлялася турэцкая арганізацыя вольных муляраў "Адзінства і прагрэс"** (усё вылучана М.Р. — **А.С.**), што стаяла на чале дзяржаўнага перавароту 1909 г., у якім галоўную ролю адыгралі рэвалюцыйныя афіцэры-змоўшчыкі. Праз 2 ці 3 гады расейскі Зьвяз "Вольных муляраў" аддзяліўся ад Францыі і стварыў уласны "Вялікі Ўсход". Пазьней на канвэнце ў Маскве, калі не памыляюся, у студзені 1913 г. ён зьмяніў назву — "Вялікі Ўсход народаў Расеі". Новая назва падкрэсьліла ідэю вольнае фэдэрацыі народаў. (Не магу сьцьвярджаць, што рускія браты шчыра прынялі гэтую ідэю, але кірунак нашае дзейнасьці менавіта такі. На апошнім кастрычніцкім канвэнце ў Пецярбурзе, на які ад нашае лёжы быў я дэлегаваны, сярод рускіх братоў выразна адчуваліся імпэрыялістычныя настроі, а тое, што пераважная бальшыня расейскіх братоў рэкрутуецца з кадэтаў, спрыяе прысутнасьці дзяржаўных амбіцыяў у Расейскім масонстве.)

У Вільні першая лёжа пад назваю "Лучнасьць" была заснаваная ў канцы 1910 г. Я быў прыняты ў склад "Лучнасьці" ў сакавіку 1911 г. Звычайна лёжа павінна налічваць ня менш як 7 братоў і ня больш як 14. Калі набіраецца 14 братоў, лёжа дзеліцца напалову і, такім чынам, узьнікае яшчэ адна. "Лучнасьць" вылучыла з свайго складу новую лёжу летам 1911 г. У той час у яе ўваходзілі: доктар Ежы Ром[10] (брат Вэнэрабль (Venerable) — кіраўнік лёжы, гэбрай), доктар Чаркоўскі[11] (брат Наглядчык (Dozorca) і адначасова намесьнік Вэнэрабля, паляк, належаў да эндэцкае левіцы,

блізкай сваімі сацыяльнымі поглядамі да людоўцаў), Іван Луцкевіч (брат Прамоўца (Orator), захавальнік абрадаў і статуту, беларус), Эліяш Ром[12] (брат Скарбнік (Skarbnik) і Сакратар, гэбрай, родны брат Вэнэрабля), Вітальд Абрамовіч[13], Браніслаў Крыжаноўскі[14], Зыгмунт Нагродзкі[15], я (усе палякі), Прозараў[16] і Краскоўскі[17] (рускія), Антон Луцкевіч (беларус), Міхал Сьляжэвіч, Міхал Біржышка[18] (літоўцы); ледзь не забыўся назваць імя яшчэ аднаго паляка — доктара Багушэўскага[19] і яўрэя Брамсана[20]. На самым пачатку ў лёжу быў прыняты і літовец Данат Маліноўскі[21]. Ён быў у першай "сямёрцы", досыць няўдала падабранай Ромамі і Луцкевічамі. Мы пазбавіліся ад Маліноўскага, бо ўсе новыя браты абураліся яго ўдзелам. Яны ведалі Маліноўскага як чалавека палітычна несумленнага, які дзеля ажыцьцяўленьня літоўскіх нацыяналістычных імкненьняў ішоў нават на кантакты з урадам. Лёжа, што выйшла з "Лучнасьці" ў 1911 г., атрымала назву "Літва". У яе склад увайшлі: палякі — я (Вэнэрабль), Крыжаноўскі і Нагродзкі, літовец — Сьляжэвіч (Скарбнік і Сакратар), рускія — Прозараў і Краскоўскі (пазьнейшы Вэнэрабль), беларус — Антон Луцкевіч (Прамоўца) і гэбраі — Эліяш Ром (Першы Назіральнік) і Брамсан. Эліяш Ром у 1912 г. памёр. У 1913 г. з абодвух віленскіх лёжаў выйшаў шэраг братоў-палякаў: Крыжаноўскі і Нагродзкі зь "Літвы", В.Абрамовіч і прынятыя ўжо пасьля разьдзелу Будны[22] і Ян Пілсудзкі[23] з "Лучнасьці". З 1911 г. у нашу "Літву" былі прынятыя: літоўцы — Вацлаў Біржышка[24] (у 1911 г.), Бельскі[25] (з Шаўляў, у 1911 або 1912), Бугайлішкіс[26] (у 1911 або 1912 г. адначасова зь Бельскім), Булат[27] (1913), Шаўлюс[28] (1912), Ян Вілейшыс[29] (1914), Фэліцыя Барткевічава[30] (год 1915, першая жанчына ў віленскіх лёжах); палякі — Казімер Астахевіч[31] (1913), Эдвард Сакалоўскі[32] (1912) і Уладзіслаў Асмалоўскі[33] (1913 або 1914), беларус Вацлаў Ластоўскі (1912). Акрамя іх да нас перайшлі зь лёжы "Лучнасьць" Аляксандар Заштаўт і Міхал Біржышка.

У кастрычніку 1914 г. зь лёжы "Літва" вылучылася новая лёжа, ужо трэцяя ў Вільні. Яна атрымала назву "Беларусь". Пакуль яе самастойнасьць больш фармальная. Фактычна яна ўсё яшчэ ўтварае адно цэлае зь "Літвой", і канчаткова выдзеліцца толькі ўвосень 1915 г. Да "Белае Русі"

належаць А. Луцкевіч, Булат, Бугайлішкіс, М. Біржышка, Краскоўскі, Заштаўт і Астахевіч. На сёньняшні дзёнь у нашым краі 5 лёжаў: тры — у Вільні і па адной — у Менску і Віцебску. Мы заўсёды імкнуліся да стварэньня аўтаномнае краёвае арганізацыі, для ўтварэньня якой неабходна мець 7 лёжаў.

Фактычна мы не выконваем масонскіх абрадаў. Зьмест для нас важнейшы, чым рытуал, які выконваецца толькі пры прыёме новых сяброў. Хаця і ў гэтым выпадку ён зьведзёны да мінімуму. Нельга не прызнаць, што дух братэрства сярод нас адчувальна ўзмацніўся, але дасканаласьці няма, бо чалавечая натура слабая. Пастаянным і жывым крытэрыем ва ўсіх справах зьяўляюцца для нас прынцыпы гуманізму. Прынамсі, нашыя намаганьні ў гэтым кірунку досыць адчувальныя. Іх уплыў відавочны. Нашыя лёжы фактычна зьяўляюцца духовымі арганізацыямі. Як уласна масонская арганізацыя мы ня дзейнічаем, але ў многіх справах менавіта сярод нас выпрацоўваюцца дырэктывы і нараджаюцца ініцыятывы. Нашыя лёжы маюць вялікі ўплыў на ўмацаваньне ў сьвядомасьці братоў краёвай пазыцыі. Яшчэ раз хачу падкрэсьліць, што нашае “Вольнае мулярства”, асабліва віленскія лёжы, зьяўляецца гуманістычным Зьвязам, які ня мае нічога агульнага з крывадушным палітыканствам у стылі езуіцтва, з барацьбой супраць рэлігіі і з навязваньнем чаго б ні было.

Я заканчваю гэты том дзёньніку. У наступным буду маўчаць пра тое, што зьяўляецца найважнейшым элемэнтам маёй волі і веры, г. зн. пра Незалежнасьць і справу Легіёнаў. Бывай дзёньнік, сьведка той драмы, якой стала для мяне сьмерць маёй каханай Анінкі, што абярнулася сьмерцю майго духу і ператварэньнем мяне толькі ў выканаўцу запавету, у зьдзяйсьняльніка ідэі нашага Вялікага [Духу ?].

**Заўвагі**

[1] Маёнтак паблізу Радашкавічаў, якім валодала Эльвіра Мячкоўская, сястра М.Ромэра.

[2] Аляксандар Заштаўт (1877–1944) — грамадзкі і палітычны дзяяч. Краёвец. Адзін з кіраўнікоў Сацыял-дэмакратычнай партыі Літвы і Беларусі. Удзельнік паходу Л.Жалігоўскага (1920). У 1924–1937 гг. — кіраўнік Незалежнай сацыялістычнай партыі працы.

[3] Рапэрсьвіль — горад у Швайцарыі.

[4] Ганна Вольбэрг (1891–1914) — сяброўка М.Ромэра.

[5] Незалежніцкі Блёк, ці аб'яднаньне незалежніцкіх арганізацыяў, існаваў з жніўня па лістапад 1914 г. і аб'ядноўваў шэраг партыяў і арганізацыяў незалежніцкага кірунку на чале з ППС.

[6] Міколас Сьляжэвічус (1882–1939) — палітык. Сябра Літоўскай дэмакратычнай партыі. Кіраўнік ураду Літвы ў 1918–1918, 1926 гг.

[7] Аўгусьцінас Янулайціс (1878–1950) — юрыст, гісторык. Сябра Літоўскай сацыялістычнай народна-дэмакратычнай партыі.

[8] Ян Падольскі — работнік у маёнтку Вянзовец.

[9] Стэфан Мячкоўскі — муж Эльвіры, сястры М.Ромэра.

[10] Ежы Ром — кіраўнік кадэцкай арганізацыі ў Вільні, дзяяч гэбрайскага руху.

[11] Людвік Чаркоўскі (1855–1928) — лекар, грамадзкі дзяяч, кіраўнік бібліятэкі Таварыства сяброў навук у Вільні.

[12] Эліяш Ром — публіцыст, дзяяч гэбрайскага руху.

[13] Вітальд Абрамовіч (1874 – каля 1940) — адвакат. Адзін з арганізатараў ППС на Літве. Краёвец. У 1919 г. — прэзыдэнт Вільні. Удзельнік паходу Л. Жалігоўскага. Кіраўнік ураду Сярэдзіннай Літвы. У 1939 г. вывезены ў СССР, дзе і загінуў.

[14] Браніслаў Крыжаноўскі (1876–1943) — адвакат, палітык і грамадзкі дзяяч. Краёвец. У маладосьці належаў да ППС, потым —да Польскае народнае партыі "Вызваленьне". Сябра ўраду Сярэдзіннай Літвы. Абараняў у судзе дзеячоў Беларускай сялянска-работніцкай грамады.

[15] Зыгмунт Нагродзкі (1865–1937) — гандляр, грамадзкі дзяяч. Напачатку стагодзьдзя быў адным з арганізатараў польскіх тайных школаў у Беларусі і Літве. Краёвец. Выдаваў часапіс "Наш край".

[16] Іван Прозараў — архітэктар, грамадзкі дзяяч.

[17] Іван Краскоўскі (1882–?) — школьны інспэктар, дзяяч беларускага руху. У 20-я гг. — дырэктар беларускай гімназіі ў Дзьвінску. Пасьля пераезду ў Менск выкладаў у БДУ. Арыштаваны ў 1930 г.

[18] Міколас Біржышка (1882–1962) — гісторык літаратуры, палітык. Сябра Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыі. Адзін з арганізатараў Тарыбы.

[19] Ян Багушэўскі — лекар, грамадзкі дзяяч. З 1916 г. — у легіёнах Ю.Пілсудзкага.

[20] Майсей Брамсан — гандляр, падтрымліваў сувязі зь меншавікамі.

[21] Данатас Малінаўскас — літоўскі палітык і публіцыст.

[22] Станіслаў Будны — банкаўскі служачы. Краёвец. Сябра Віленскай гарадзкой рады.

[23] Ян Пілсудзкі (1876–1950) — брат Юзафа, адвакат, грамадзкі дзяяч. Краёвец. Міністар фінансаў Польшчы ў 1931–1932 гг. Арыштаваны бальшавікамі ў Вільні ў 1939 г. Пасьля 1941 г. — у эміграцыі ў Англіі.

[24] Вацловас Біржышка (1884–1956) — брат Міколаса, бібліёграф і гісторык культуры.

[25] Вацловас Бельскіс (1870–1938) — публіцыст, грамадзкі дзяяч і палітык. З 1915 г. — сябра партыі эсэраў.

[26] Пеліксас Бугайлішкіс (1883–1965) — юрыст, публіцыст, гісторык.

[27] Андрус Булёта (1872–1941) — адвакат, грамадзкі дзяяч і палітык. Дэпутат II і III Дзяржаўнай думы ад Сувальскай губэрні. Сябра партыі эсэраў. Пазьней адзін з кіраўнікоў Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыі.

[28] Юргіс Шаўлюс (1879–1968) — літоўскі палітык, адзін з заснавальнікаў Тарыбы. З 1918 г. на дыпляматычнай працы. Пасол Літвы ў Германіі, Швайцарыі, Польшчы і інш.

[29] Ёнас Вілейшыс (1872–1942) — адвакат. Сябра Літоўскай сацыялістычнай народна-дэмакратычнай партыі. Міністар нутраных справаў ва ўрадзе М.Сьляжэвічуса.

[30] Фэліцыя Барткевічэне Повіцкайтэ (1873–1945) — публіцыстка.

[31] Казімер Астахевіч (1883–1952) — банкаўскі служачы. У 20-я гг.— пастар у Вільні.

[32] Эдвард Сакалоўскі (1878–1932) — інжынэр. Сябра Сацыял-дэмакратычнай партыі Літвы і Беларусі.

[33] Уладзіслаў Асмалоўскі — прамысловец, адзін з фундатараў “Кур’еру Краёвага”, які выдаваўся пры актыўным удзеле Антона Луцкевіча. Захавальнік архіву віленскіх масонаў.

**Пераклад і заўвагі**
**Алеся СМАЛЕНчУКА.**

Аўтар выказвае шчырую падзяку за дапамогу ў працы над артыкулам гісторыкам **Рымантасу Мікнісу** і **Яну Савіцкаму**, загадчыцы аддзелу рэдкай кнігі Цэнтральнай бібліятэкі АН Літвы **Дайве Нарбуцене**. Дасьледніцкая праца ў Вільні стала магчымаю дзякуючы фінансавай падтрымцы Інстытуту “Адкрытае грамадзтва” (RSS № 64/1997).

# МАГІЛЕЎСКАЯ РАТУША

Адзін з вялікіх гарадоў сярэднявечнай Беларусі — Магілеў, атрымаў поўнае магдэбургскае права ў 1577 г. Пасля гэтага, дзякуючы самакіраванню і вялікім гандлёвым прывілеям, горад хутка развіваўся і ў канцы XVI ст. стаў адным з самых вялікіх гарадоў у Вялікім Княстве Літоўскім, асабліва пасля разгрому і заняпаду Полацка падчас Лівонскае вайны.

Адразу пасля атрымання гандлёвых прывілеяў у Старым горадзе каля гарадской брамы будуецца першая драўляная ратуша. Паколькі Магілеў, як і іншыя гарады сярэднявечча, часта цярпеў ад пажараў, Магілеўская ратуша не адзін раз цалкам згарала, і пры гэтым яе месцазнаходжанне мянялася. Апошняя драўляная ратуша знаходзілася на левым баку вуліцы Шклоўскай (цяпер вул. Першамайская) на рагу, дзе потым месціліся езуіты[1].

У канцы XVII ст. пасля спусташальнай руска-польскай вайны, падчас якой Магілеву больш пашанцавала, чым суседнім беларускім гарадам, яго заможныя жыхары будуюць мураваную двухпавярховую ратушу з высокай васьмікутнай вежай на Гандлёвай плошчы.

Звесткі аб аўтарах будаўніцтва ратушы, яе выглядзе звонку і аб інтэр’ерах можна знайсці ў матэрыялах магілеўскага магістрату, якія былі надрукаваныя ў 1871 г. у Віцебску пад назовам “Историко-юридические материалы”[2].

Першы камень у падмурак новай ратушы быў урачыста закладзены 4 верасня 1679 г. Пры закладцы і асвячэнні ратушы прысутнічала каталіцкае і праваслаўнае святарства і кіраўнікі магістрату. Кіраваў будаўніцтвам “майстар Феска”. Праўда, некаторыя даследнікі разам з ім называюць кіраўнікамі будоўлі



Магілеўская ратуша ў пачатку XX ст.

аўтарскі калектыў (Грышку, Ігната, Ваську і Андрэя). Аднак уважлівае прачытанне магістарскіх кніг дае магчымасць сцвярджаць, што гэтыя людзі былі простымі мулярамі, якія амаль кожны працоўны дзень чаргаваліся і, верагодна, уваходзілі ў адну будаўнічую арцель пад кіраўніцтвам "майстра".

На будаўніцтва ратушы спатрэбілася шмат будаўнічых матэрыялаў, якія куплялі ў розных падрадчыкаў, у тым ліку і ў манахаў Мікольскага манастыра. Было адразу закуплена 42,8 тысячы цаглінаў, 616 бочак вапны, шмат вялікіх камянёў для падмуркаў, 800 вазоў пяску, а таксама жалеза "на граты, на крюча и на иншыя до муры потребные речи", розныя драўляныя бэлькі, брусы, жэрдкі і бярвенні.

Да 1680 г. асноўны будынак ратушы, відаць, быў пабудаваны, бо ў лістападзе 1680 г. купілі "латоки два пяти сажон на ратуш мурованый". У лютым 1681 г. былі зроблены вокны і ў яе сенях прабіты "обокончыны" (аканіцы).

У сакавіку 1681 г. некаторыя часткі памяшканняў ацяпляюцца, бо дровы ўжо куплялі для абедзвюх ратушаў, старой і новай. У 1681 г. будаўніцтва працягваецца. Былі накрытыя ратушныя ганкі, вяліся працы на даху асноўнага будынку. Акрамя цяслярскай, вялася і мулярская праца, у якой бралі ўдзел дзве будаўнічыя арцелі пад кіраўніцтвам майстроў Фескі і Апанаса. Ёсць звесткі, што ратуша была накрыта дахоўкаю, мела два ганкі, вялікі і малы, над якімі былі пазалочаныя ветранікі (флюгеры).



Цэгла 2-й паловы XVII ст., з якой будавалася Магілеўская ратуша.
Раскопкі Ігара Чарняўскага, 1984 г.

Ратушныя вокны былі зашклёныя, а памяшканні ацяпляліся кафлянымі печкамі. Працягваліся працы знешняга аздаблення ратушы. Магілеўскі мастак Апанас Пігарэвіч зрабіў пазалочаныя ветранікі на ратушу, а таксама распісаў блакітнай фарбай ратушныя шчыты. Ён жа напісаў абраз Святой Багародзіцы, якая знаходзілася ў адной з ратушных залаў, распісаў "балясы, печку і напісаў выяву святых евангелістаў".

У лістападзе 1681 г. ратушу асвяцілі святары з Брацкага манастыра. З гэтага часу яна стала функцыянаваць. У 1682 г. было пачата будаўніцтва ратушнай вежы пад кіраўніцтвам майстра Крузберга з Быхава. Але 1 верасня 1686 г. каменная ратушная вежа, збудаваная на вышыню 40 локцяў (каля 26 м), абвалілася. З цяглянага развалу і друзу спрытныя магілеўцы збудавалі непадалёку цэйхгауз для гарматаў.

Магілеўскі магістрат на гэтым не супакоіўся і ў ліпені 1692 г. зноў распачаў будаўніцтва вежы перад ратушным будынкам. На гэты раз кіраваў будаўнікамі майстар Ігнат. Спачатку цалкам разабралі рэшткі першапачатковай вежы, потым заклалі і асвяцілі новыя падмуркі. Цяпер будаўніцтва вежы прайшло больш паспяхова. Яна атрымала балкон, аздоблены разнымі драўлянымі балясамі, а перад уваходам у вежу быў зроблены малы ганак.



Цэгла 2-й паловы XVII ст., з якой будавалася Магілеўская ратуша.
Раскопкі Ігара Чарняўскага, 1984 г.

Але магілеўцам не шанцавала, і ўжо летам 1698 г. новая вежа запатрабавала рамонту. Падчас рамонту драўляныя парэнчы балкона замянілі на металёвыя.

Пад 1699 г. каля ратушы ўжо згадваліся “ворота ратушныя мураваныя”, пакрытыя “дором” (дранкаю).

На падставе шматлікіх пісьмовых крыніцаў і аналізу аналагаў апісання інтэр’ераў ратушаў XVII ст., на тэрыторыі Рэчы Паспалітай можна прапанаваць рэканструкцыю знешняга выгляду і інтэр’ераў Магілеўскай ратушы на канец XVII ст.

На першым паверсе знаходзіліся “сени”, вялікая “изба”, дзе адбываўся суд пад кіраўніцтвам войта, канцылярыя, у якой знаходзіліся пісары, а таксама памяшканне (ратушная святліца), дзе захоўваліся бягучыя справы магістрату.

Другі паверх займалі “сени”, судовая “изба”, у якой праходзілі суды пад кіраўніцтвам бургамістра і дарадцаў, зала — месца сходаў магістрату і некалькі дапаможных памяшканняў. У цокальным паўпадвальным паверсе ратушы знаходзіліся скарбніца, сховішчы і турма. У корпусе вежы былі зала і святліца, а ў сутарэнні пад вежай жыў вартаўнік.

Усе памяшканні ацяпляліся кафлянымі печкамі, аблямаванымі тэракотавай і паліванай кафляй зялёнага колеру. Першы і

цокальны паверхі напэўна мелі скляпеністую столь. З першага на другі паверх вялі лесвіцы, упрыгожаныя разнымі пафарбаванымі драўлянымі балясамі. Асноўнай мэбляй былі лавы і зэдлі, а таксама вялікія сталы, накрытыя зялёным сукном. У канцылярыі і архіве стаялі шафы, у якіх захоўваліся паперы і кнігі. Усе паверхі мелі зашклёныя вокны з алавянымі пераплётамі. Усярэдзіне яны завешваліся фіранкамі з зялёнага гарусу. Парадныя памяшканні аздабляліся абразамі, каралеўскімі партрэтамі і харугвамі цэхаў. Усе падлогі былі выкладзеныя спецыяльнай цэглай, а сцены атынкаваныя ў белы колер.

У ратушы заўжды падтрымліваліся чысціня і парадак. У вячэрні і начны час дзеля асвятлення ўжываліся свечкі, што ўстаўляліся ў спецыяльныя ліхтары. На вокнах цокальнага і першага паверхаў былі жалезныя краты. Усе вокны нанач зачыняліся драўлянымі аканіцамі, акаванымі фігурнымі металёвымі пласцінамі, што выразаліся з тоўстай бляхі.

Звонку ратуша была атынкаваная, мела два ганкі, нізкі і высокі (парадны). На высокі ганак вяла лесвіца з разнымі балясамі. Верагодна, парадны ганак быў цалкам зачынены, бо меў акно. На нізкім ганку стаялі лавы. Падлогі абодвух ганкаў былі цагляныя.

Ратушную вежу аздаблялі балкон з металёвымі кратамі і, магчыма, вялікі гадзіннік. Дах ратушы быў накрыты дахоўкай, і яна прыгожа выглядала сярод невысокіх драўляных і цагляных крамаў мясцовых гандляроў, ад якіх яе аддзяляў драўляны плот з цаглянай брамай, накрытай дранкаю. Яшчэ здалёк стомлены вандроўнік, які ўваходзіў у Магілеў праз знакамітую Алейную браму, бачыў пазалочаныя металёвыя ветранікі, што аздаблялі ратушную вежу, франтоны і дахі абодвух ганкаў.

Гэтую карціну ў значнай ступені пацвердзілі вынікі археалагічных даследаванняў, зробленых аўтарам на месцы Магілеўскай ратушы ў верасні 1979 г. Была раскапаная большая частка рэшткаў будынку. Захаваліся падмуркі ратушы і ніжнія кавалкі сценаў, зробленых з тонкай цэглы-пальчаткі (сярэднія памеры яе 30–31x14–15x5,5 см). Глыбіня залягання падмуркаў асноўнага будынку 60–75 см, яны складзеныя з валуноў, прамежкі паміж імі закладзеныя цэглай. Ратуша пабудаваная на магутным пласце мацерыковай гліны. Гэта быў прастакутны ў плане будынак з васьміграннай вежай, прыбудаванай да галоўнага фасаду. Падчас раскопаў знойдзены падмурак вялікай кафлянай печы, склад-



Расейскі план цэнтральнай часткі Магілева. Канец XVIII ст.
З фондаў Ваенна-гістарычнага архіву, г.Масква.

зены з кавалкаў цэглы і невялікіх камянёў. Побач былі кавалкі гзымсавай зялёнай паліванай кафлі XVII ст., аздобленай сюжэтным арнаментам. У развале печы выявілі і сцянную бязрамкавую кафлю пачатку XVIII ст., пакрытую светла-зялёнай палівай і раслінным арнаментам[3].

Сярод іншых знаходак можна вызначыць фрагменты шкляных квартаў, паліванага і распіснога посуду. Найбольшую цікавасць уяўляюць зялёныя паліваныя куфлі з ручкай, аздобленыя старажытным гербам Магілева (абарончая вежа)[4]. Магчыма, што яны патрапілі сюды са старой драўлянай ратушы, бо ў 1661 г. Магілеў атрымаў новы герб.

У 1984 г. даследаванні Магілеўскай ратушы працягваў Ігар Чарняўскі. Каля падмуркаў ратушнай вежы ён прасачыў рэшткі параднага ганку, складзенага з цэглы-пальчаткі на неглыбокім бутавым падмурку. Знойдзены элементы дзвярных каробак, што сведчыць пра наяўнасць нейкіх памяшканняў пад ганкам[5].

Падчас раскопаў былі сабраныя кавалкі тонкай пляскатай чырвонай дахоўкі з прастакутным мацаваным шыпам, якой некалі быў накрыты будынак ратушы.

А цяпер зноў вернемся да пісьмовых крыніцаў. У верасні 1708 г. падчас Паўночнае вайны, калі войскі Пятра I спалілі горад,



Культурны пласт XVII–XVIII стст., які склаўся побач з Магілеўскай ратушай. Раскопкі Алега Трусава, восень 1979 г.

ратуша таксама гарэла, але гарадскія (магістарскія) кнігі з яе паспелі вынесці[6].

У 1733 г. ратушную вежу рамантуюць[7], і яе вышыня дасягнула 38 м. Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 г. Магілеў уваходзіць у склад Расейскай імперыі і робіцца губернскім горадам. Таму тут адразу пачалося вялікае будаўніцтва. На Гандлёвай плошчы, недалёка ад ратушы, будуюць палац губернатара і чатыры будынкі ўстановаў. У 1773 г. карэннай перабудове падлягае і ратуша. Была закупленая цэгла ў розных людзей, а таксама ў манахаў-бернардынаў. Вапну на будоўлю пастаўляў Брацкі манастыр. Летам 1773 г. каля ратушнай вежы і будынку ўжо стаялі рыштаванні. Будынак капітальна перарабілі адпаведна новаму архітэктурнаму стылю — класіцызму. Некаторыя сцены і перагародкі былі цалкам разабраныя, на вокнах пастаўленыя жалезныя краты, у мурах вежы ўжытыя металёвыя круглыя і крыжовыя праёмныя бэлькі-сувязі. Столь будынку ўцяплілі глінай, перарабілі лішнія кафляныя печы, аздобленыя зялёнай паліванай кафляй. У верасні дах ратушы быў накрыты бляхай. На ратушны дах спатрэбілася 450 лістоў бляхі, а ўся перабудова абышлася ў 1401 тысячу рублёў. Кіраваў працай перабудовы ратушы паручнік Іван “Тоулин”[8].



Агульны выгляд раскопак Магілеўскай ратушы пад кіраўніцтвам Алега Трусава. Восень 1979 г.

Перабудова ратушы ў стылі класіцызму і пабудова побач шэрагу манументальных будынкаў абапал Гандлёвай плошчы прывялі да ўзнікнення ў Магілеве першага завершанага комплексу адміністратыўна-грамадскіх будынкаў.

У 1777 г. былі атынкаваныя "ратушные коридоры", "судовая изба", канцылярыя, а таксама адрамантаваны ратушны гадзіннік. Захаваліся апісанні інтэр'ераў асноўных памяшканняў ратушы на канец XVIII ст. У зале знаходзіўся вялікі судовы стол, накрыты кармазінавым (малінавым) сукном. Вакол яго стаялі крэслы. На сценах віселі партрэты Кацярыны II, Паўла I (наступніка), каралеўскія партрэты (відаць выява Станіслава Панятоўскага) і абраз з выявай Ісуса Хрыста[9].

У 1778 г. было створанае Магілеўскае намесніцтва. 4 ліпеня 1778 г. трубачы на ратушнай вежы ўрачыста затрубілі, паведамляючы тым самым усім аб адкрыцці намесніцтва. У той час магілеўскім намеснікам быў граф Чарнышоў. На ягоны загад кожны дзень, з паловы 12-й да паловы першай гадзіны па абедзе,— акрамя суботы і нядзелі,— на магістрацкай вежы гралі на трубах і валторнах, а ў святочныя дні і на іншых інструментах. У 1780 г. на ратушную вежу, якая тады была самай высокай пабудовай у горадае, для агляду панарамы Магілева, падымаўся



Падмуркі Магілеўскай ратушы 2-й паловы XVII ст.
Раскопкі Алега Трусава, восень 1979 г.

аўстрыйскі імператар Франц Іосіф, які сустракаўся ў Магілеве з Кацярынай II[10].

Пасля анексіі Расіяй Магілева ў будынку ратушы па-ранейшаму знаходзіўся гарадскі магістрат, які ў гэты час выконваў функцыі толькі гарадскога суду.

З канца XVIII ст. знешні выгляд ратушы амаль не мяняўся. Архітэктура будынку нагадвала старую традыцыю класіцызму, адлюстраваную ў абліччы адміністратыўных будынкаў на Гандлёвай плошчы: шырокі гарызантальны пас паміж паверхамі, рустоўка ніжняга паверху, аздабленні вокнаў верхняга паверху. Пяціярусная вежа ратушы, а таксама званіца Богаяўленскага сабору да гэтага часу сталіся асноўнымі вертыкальнымі дамінантамі гораду.

У 1846 г. у будынку ратушы па-ранейшаму знаходзіўся "городской магистрат обще с думаю в верхнем этаже" і "съездный дом 1 части города"[11]. Да 1847 г. ратушная вежа выкарыстоўвалася як пажарная "каланча". Ёсць звесткі, што ў 1858 г. на ёй устанавілі гадзіннік.

У 1866 г. магістраты ў Беларусі былі зліквідаваныя, і ўсе іх




Агульная схема раскопу Магілеўскай ратушы з нанесенымі рэшткамі падмуркаў. Восень 1979 г.

справы перадалі да павятовых (уезных) судоў.

У 1873 г. у ратушы знаходзіўся шпіталь, а вежа па-ранейшаму выкарыстоўвалася як назіральная вышка для пажарнікаў. Пасля земскай рэформы 1870 г. органамі гарадской улады з'яўляюцца гарадскія ўправы, а выканаўчымі органамі — гарадскія думы. У 1901 г. магілеўская гарадская ўправа знаходзілася ўжо ў будынку былой ратушы, дзе была да 1917 г.[12] 22 сакавіка 1917 г. у ратушы быў створаны Магілеўскі гарадскі савет.

У адпаведнасці з Пастановай СНК БССР № 28 ад 3 жніўня 1626 г. будынак узяты пад ахову дзяржавы і аб'яўлены дзяржаўным здабыткам. У 30-я гг. ХХ ст. ратушную вежу па-ранейшаму займалі пажарнікі, а сам корпус, як расказвалі старыя жыхары Магілева, займала вайсковая ўстанова.

Летам 1941 г. будынак ратушы апынуўся ў эпіцэнтры баёў за горад. Жыхары Магілева расказвалі, што пасля адыходу фашыстаў у 1944 г. на самым версе ратушнай вежы былі знойдзены парэшткі кулямётчыка, які да апошняга патрона змагаўся з захопнікамі ў жніўні 1941 г.

У гады вайны, у адным з памяшканняў ратушы, дзе была пральня, знаходзілася падпольная бальшавіцкая арганізацыя[13].

Ратуша моцна пацярпела і ў 1944 г. У газеце “За Радзіму” ад 10 жніўня 1944 г. надрукаваны фотаздымак напалоў разбуранага будынку ратушы. У жніўні 1945 г. ратушу абследавала камісія ў складзе некалькіх архітэктараў і прадстаўніка Ўпраўлення па справах архітэктуры Зенчанкі. Будынак не выкарыстоўваўся, яго сцены мелі шмат шчылінаў, скразных адтулінаў і выбоінаў. Знешняя і ўнутраная тынкоўка абвалілася. Перакрыцці разбураныя, усе лесвіцы, падлогі і столі знішчаныя. Камісія, зважаючы на тое, што ратуша ёсць каштоўным помнікам беларускай архітэктуры, прапанавала зберагчы яе да поўных архітэктурных абмераў і павесіць на будынак ахоўную дошку[14].

Разам з разбураным горадам паступова адбудоўваецца і Магілеўская ратуша. На фотаздымку 1948 г. яна мае дах і вокны, шчылінаў і адтулінаў ужо не відаць[15]. 16 кастрычніка 1947 г. ратуша X(II ст. у г.Магілеве была зноў прынятая на дзяржаўную ахову[16].

На нарадзе архітэктараў БССР па ахове помнікаў архітэктуры, якая адбылася 26 снежня 1952 г., сярод адрамантаваных помнікаў усесаюзнага значэння ў Беларусі адзначалася таксама і Магілеўская ратуша. У якасці станоўчага прыкладу выступоўцы адзначалі праект забудовы Савецкай плошчы ў г.Магілеве, дзе аўтары змаглі арганічна ўключыць былую ратушу ў агульны ансамбль створанай імі плошчы[17].

Гэты праект быў надрукаваны ў магілеўскай газеце “За Радзіму”. Аўтар артыкула “Праект забудовы Першамайскай вуліцы” І.Ганеянка адзначыў, што аднаўленне ратушы і выкананне працаў забудовы і рэканструкцыі Савецкай плошчы стварае прыгожы выгляд цэнтру гораду, які будзе відаць далёка з-за Дняпра.

У 1952 г. пачаліся працы поўнага аднаўлення Магілеўскай ратушы. 11 верасня 1953 г. выканкам Магілеўскага гарадскога Савету прыняў рашэнне № 725, згодна з якім начальнік рамбудканторы тав. Агасьян быў абавязаны скончыць працы да 10 снежня 1953 г., а гаркамунгас пасля аднаўлення павінен быў узяць будынак ратушы на захаванне як помнік архітэктуры[18]. Пра гэта пісала і мясцовая прэса. Але аднаўлення ратушы так і не скончылі. У 1957 г. з невядомых прычынаў помнік архітэктуры быў узарваны. Пра гэты акт вандалізму паведаміў 30 жніўня 1957 г. журналіст М.Канельчык у газеце “Советская Белоруссия”. Мне

давялося пабачыць гэтага цікавага чалавека, які расказаў, як цяжка было яму надрукаваць гэтую інфармацыю, якія непрыемнасці ён меў потым. Бальшавікі вельмі не любілі "гласности".

У 1979 г., калі я распачаў раскопкі Магілеўскай ратушы, на занядбанай і бруднай Савецкай плошчы, яшчэ былі бачныя рэшткі ўзарваных падмуркаў ратушы. У 10–15 метрах ад іх высіліся металёвыя механічныя арэлі, абазваныя мясцовымі жыхарамі "чортавым колам".

У 1978 г. Міністэрства культуры БССР выдзеліла грошы на распрацоўку праекту адбудовы Магілеўскай ратушы і размяшчэнне ў ёй Палацу шлюбаў. Былі зробленыя гістарычныя даследаванні, археалагічныя раскопкі, супрацоўнікамі Беларускага рэстаўрацыйнага праектнага інстытуту зроблены праект аднаўлення будынку.

У траўні 1992 г., на свяце 725-годдзя гораду ў падмурак будучай аднозўленай ратушы заклалі і (як у XVII ст.) зноў асвяцілі першы камень будучага гарадскога сымбалю. Але будоўля ішла нядоўга. Цяжкасці з матэрыяламі і фінансаваннем, змена ўлады — і ўсё спынілася[19]. Магчыма, у наступным стагоддзі ратуша ўсё ж будзе аднозўленая, бо надзея памірае апошняй.

**Заўвагі**

[1] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 1817, воп. I, адз. зах. 59, л. 7.

[2] Историко-юридические материалы. Витебск, 1871, вып. 1.

[3] Трусов О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI–XVII вв.— Минск, 1988.— С. 55–56, 69, 107, 146.

[4] Трусов О.А. Раскопки Могилевской ратуши и Заславльского замка. // Археологические открытия 1979 года.— М., 1980.— С.369.

[5] Чернявский И.М. Исследования в Могилеве, Любче и Несвиже. // Археологические открытия 1984 года.— М., 1986.— С.350.

[6] Записки игумена Ореста. Археологический сборник документов, относящихся к северо-западной Руси. Т. II.— Вильно, 1887.— С. 61.

[7] БелСЭ. Т. VI.— Мінск, 1972.— С. 506.

[8] НГАБ, ф. 2109, воп. 2, адз. зах. 5. У дакументальных крыніцах прозвішча паручніка пішацца па-рознаму: напрыклад, Таул, Таулов, Фаулов, што, верагодна, тлумачыцца няведаннем расейскай мовы. У гэты час усё справаводства, пачынаючы з 1707 г., у Магілеўскім магістраце вялося на польскай мове.

[9] НГАБ, ф. 1817, воп. 3, адз. зах. 2, л. 54.

[10] Жизнь Гавриила Добрынина.— СПб., 1872.— С. 198, 202, 306.

[11] Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1293, воп. 165, сп. 169. План г.Магілёва, 1846г.

[12] Никонов Б. Могилев и его прошлое. “Нива”, 1901, № 11.— С.216.

[13] “Советская Белоруссия”, 1957, 30 жніўня.

[14] НГАБ (былы ЦДАКР БССР), ф. 903, воп. 3, адз. зах. 33, л. 292–294.

[15] Кацар М. Архітэктура Магілёва. // Весці АН БССР, 1948, № 6.— С. 47.

[16] НГАБ, ф. 903, воп. 3, адз. зах. 44, л. 16.

[17] Тамсама, л. 30.

[18] Магілёўскі абласны архіў, ф. 11, воп. 5, адз. зах. 82.

[19] Кондратьева Л.Ф. Старая площадь. // V абласныя магілёўскія краязнаўчыя чытанні (28 кастрычніка 1993 г.).— Магілёў, 1994.— С. 51.

**Алег ТРУСАў.**

Міхал Клеафас АГІНСКІ

# МАЯ БІЯГРАФІЯ

## ЗЬ ДЗЯЦІНСТВА ПА 1788 г., ЭПОХУ, КАЛІ ПАЧЫНАЮЦЦА МАЕ МЭМУАРЫ

Я нарадзіўся 25 верасьня 1765 г. у Гузаве, вёсцы маіх бацькоў, якая знаходзіцца ў ваяводзтве Рава, павет Сахачаў, за сем міляў ад Варшавы.

Мой бацька, Андрэй Агінскі, да канца сваіх дзён — ваявода троцкі, а ў момант майго нараджэньня — стараста ашмянскі, мечнік Княства Літоўскага, кавалер польскіх ордэнаў, пакінуў Літву, каб атабарыцца ў Польшчы, узяўшы шлюб з маёй маці, удавой Патоцкага, гузаўскага старасты. Мая маці Паўліна, уроджаная Шэмбек, выйшла замуж першы раз за Лубенскага, які пражыў мала, другі — за Патоцкага, які пакінуў яе ўдавою праз год. І, нарэшце,— за майго бацьку Агінскага. Дзякуючы рэдкай выпадковасьці аказалася, што яе першы муж быў зь Вялікае

Мэмуарная творчасьць Міхала Клеафаса Агінскага ў Беларусі невядомая. Але ж яна налічвае толькі ў адным расейскім Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў (ЦДАСА) больш як 300 найменьняў. Гэта ўспаміны пра сучаснікаў, палітычныя памфлеты, аб'ёмістыя “Observations sur les evenements arrivés en Pologne dépuis la fin de Novembre 1830” (“Назіраньні за падзеямі, якія адбыліся ў Польшчы з канца лістапада 1830 г.”), лісты да жонкі Ізабэлы з часоў касьцюшкаўскага паўстаньня, да Леанарда Ходзькі, залескага сакратара і першага ягонага выдаўца, да князя Галіцына, піяністкі Марыі Шыманоўскай і інш. Рукапіс “Маёй біяграфіі…” захоўваецца ў ЦДАСА ў разрадзе XII пад № 310. Яго копія трапіла да нас з рук прапраўнука Міхала Клеафаса, сп. Анджэя Залускага, музыказнаўцы і пэдагога, які жыве ў Ангельшчыне і ўвосень 1996 г. наведаў Беларусь. Залускі скапіяваў рукапіс у Маскве, працуючы над кнігай пра жыцьцё і творчасьць Міхала Клеафаса Агінскага. Кніга ўжо выйшла ў

Польшчы, другі — з Малое Польшчы, трэці — зь Літвы; яна мела ад кожнага мужа па сыну, што дазваляла часта называць яе маці трох правінцыяў; для яе было задавальненьнем расказваць, гаворачы пра сваіх сыноў і жадаючы іх адрозьніць, што яе сын Лубенскі паведаміў ёй, што яе сын Патоцкі накіраваўся ў вёску да яе сына Агінскага[a]. Мая маці была адной з самых прыгожых жанчын Польшчы, яе паводзіны былі самыя ўзорныя, яна магла служыць прыкладам найлепшай жонкі і адной з самых пяшчотных маці. Памерла ва ўзросьце 65 гадоў (у 1797 г.).

Мой бацька — сын Тадэвуша Агінскага, троцкага ваяводы, і Ізабэлы, князёўны Радзівілаўны,— пасьля таго, як быў абраны ва ўзросьце 18 гадоў маршалкам Вярхоўнага Літоўскага Трыбуналу і, беручы ўдзел у мностве соймаў, прызначаны стала выконваць місію ў Вене, займаў месца сакратара Сталае Рады, як маршалак канфэдэральнага сойму разам з Макраноўскім у 1776 г. быў прызначаны каралём спачатку на пасаду мечніка літоўскага, а затым галоўнага літоўскага сакратара, кашталяна і, нарэшце, ваяводы троцкага. Гэта быў чалавек вядомы сваёй сумленнасьцю, вельмі адукаваны, выдатны прамоўца, адданы сва-

---

лёнданскім выдавецтве “Millenium”.

Сярод выдадзеных у сьвеце твораў М.К.Агінскага — даволі вядомыя ў нас дзякуючы музыказнаўцам “Лісты пра музыку” (выд. у 1956 г. у Кракаве ў перакладзе на польскую) і 4-томныя “Мэмуары пра Польшчу і палякаў, пачынаючы з 1788 г. ажно да канца 1815 г.” (першае выданьне па-французску ў 1826–1827 гг., польскае — у 1873 г. — у Познані пад назовам “Дзёньнікі XVIII стагодзьдзя”).

“Мэмуары…” М.К.Агінскага — гэта нарыс палітычнае гісторыі Рэчы Паспалітай у пераломны для яе пэрыяд падзелаў і касьцюшкаўскага паўстаньня. “Мая біяграфія, пачынаючы з дзяцінства па 1788 г…”,— гэта прадмова да “Мэмуараў…”. З старонак “Маёй біяграфіі…” да нас прамаўляе надзвычай асьвечаны і выхаваны чалавек XVIII ст., арыстакрат і патомны дзяржаўны дзяяч, які ўжо зь юнацкіх гадоў усьведамляў сваю грамадзкую адказнасьць і не ашукваў сябе наконт будучыні сваёй дзяржавы, чалавек моцных пачуцьцяў, які ўмее іх і абараніць.

На “Маю біяграфію…” з дасьледнікаў Міхала Клеафаса Агінскага спасылаўся толькі І.Бэлза ў кнізе “Михал Клеофас Огиньский”, М., 1965 г.

Ён, аднак, закранае толькі характар музычнай адукацыі Агінскага і згадвае пра вялікі пэдагагічны ўплыў на яго гувэрнэра Жана Ралея.

**Тацяна КЛяШчОНАК.**

ёй Радзіме, перажываў за яе так, што ягонае здароўе і настрой былі пад уплывам лёсу Радзімы да апошніх дзён ягонага жыцьця. Памёр у 1787 г. ва ўзросьце ўсяго 47 гадоў.

Я зьявіўся на сьвет у эпоху, якая прадказвала маёй Радзіме змрочную будучыню. Грамадзянскія войны ўжо разбурылі Польшчу, і я добра памятаю, што, калі мне было каля 4 гадоў, ужо бачыў у нашым доме ў вёсцы, як зьяўляліся па чарзе то расейскія, то канфэдэрацкія аддзелы, шукаючы адзін аднаго; яны трывожылі мае дзіцячыя гульні, наводзілі страх на жыхароў і разбуралі нашыя вёскі, не даючы спакою, бо разьмяшчаліся непадалёк ад нашага жыльля.

Ва ўзросьце 6 гадоў я, мая маці і сястра суправаджалі бацьку, якога прызначылі каралеўскім міністрам Рэчы Паспалітай у Вене. Паколькі дарогі былі небясьпечныя, нам дадалі эскорт зь дзьвюх тысячаў уланаў на чале з Браніцкім, які стаў вялікім каронным генэралам, а на падыходзе да Тынца ў ваколіцах Кракава нас нагнаў корпус з 500 расейцаў пад камандаю Суворава, ён быў тады яшчэ толькі палкоўнікам.

На той час я быў дзіцем, ня меў аніякага паняцьця, што адбывалася ў краіне, але з засмучэньнем глядзеў на расстрэлы, да якіх засуджвалі канфэдэратаў, якіх мы сустракалі на сваім шляху, і ўспамінаю, што часта плакаў, бачачы гэтых людзей зьвязанымі, але гордымі, калі іх вялі да генэрала Браніцкага, за якім мы рухаліся. Ня мог ніколі зразумець, чаму прыслуга маіх бацькоў лаяла мяне за мае сьлёзы, гаворачы, што ня трэба шкадаваць гэтых здраднікаў Радзімы, гэтых парушальнікаў грамадзкага спакою. Я не разумеў, што яны хацелі гэтым сказаць, і працягваў плакаць.

Успамін, які захаваўся ў маёй памяці пра гэтае падарожжа,— гэта тое, што Браніцкі і Сувораў ад Тынца і да ваколіцаў Кракава знаходзіліся амаль заўсёды з абодвух бакоў нашае карэты. Першы заўсёды насіў каптурык зь белага паркалю пад ваеннай шапкаю, і, паколькі мне казалі, што ён зусім лысы, я часта пытаў у маці, чаму гэты чалавек страціў усе валасы. У той час як я, дзіця, меў такую

прыгожую чупрыну. І яшчэ я пытаў, навошта гэты чалавек, які здаваўся добрым і мяккім, паляк, аддаў загад зьвязаць сваіх суайчыньнікаў і здрадзіў ім так бесчалавечна?

Асоба Суворава ўразіла іншым. Ён сядзеў на дрэнным казацкім каньку. Зламаныя астрогі ягоных ботаў, мундзір, што вісеў на ім,— брудны і зашмальцаваны[b], запэцканы табакай нос, твар, зусім не прыгожы,— усё наводзіла на мяне асаблівы страх, я баяўся на яго глядзець. Але ён вельмі любіў дзяцей і часта даваў мне і маёй сястры цудоўныя яблыкі, мы іх бралі, адводзячы вочы, каб не спыняць на ім позірку.

І калі ў 1793 г., гэта значыць праз 21 год, я ўбачыў генэрала Суворава ў Пецярбурзе, акрытага славай і ўзнагародамі, то нагадаў яму час, калі мы пазнаёміліся. Ён памятаў нашу сустрэчу і ня мог стрымаць зьдзіўленьня, убачыўшы мяне такім, якім я стаў, памятаючы мяне дзіцем. Ён распытаў пра маю сям'ю і ў заключэньне сказаў, што Сувораў ніколі не забывае сваіх старых знаёмых, што ён просіць за іх Бога і Сьвятога Мікалая.

Вяртаюся да нашага падарожжа. Расейскі аддзел суправаджэньня пакінуў нас за некалькі дзён да прыбыцьця ў Кракаў і спыніўся ў замку гэтага гораду, дзе былі зьняволеныя канфэдэраты, а таксама шмат францускіх воінаў, сярод якіх былі панове Атышамп, Шуазі, Вамэпіль, Дзюмур'е, Ажэро ды іншыя. Браніцкі на чале 500 чалавек суправаджаў нас да мяжы Аўстрыйскае Сілезіі. Мы знайшлі ў Тэшэн Міхала і Ксавэра Бжастоўскіх, пляменьнікаў вялікага гетмана Агінскага, а таксама іншых саюзьнікаў, якія прыбылі, каб знайсьці сховішча ў аўстрыйскага імпэратара.

Па прыезьдзе ў Вену першым клопатам маіх бацькоў было знайсьці месца для маёй сястры ў рэлігійнай школе і гувэрнэра для мяне. Выбар паў, на маё шчасьце, на Жана Ралея, пра якога я дэталёва распавяду далей. Ён толькі што скончыў адукацыю маладога графа Фальца, зь якім займаўся на працягу 12 гадоў, і пасьля гэтага быў абраны выхавальнікам эрцгерцага Леапольда. Графіня Сальмур,



Першая старонка рукапісу “Маёй біяграфіі...”

вялікая гаспадыня эрцгерцагіні Марыяны і сваячка маёй маці па лініі сям'і Лубенскіх, карысталася вялікім даверам у венскага двара. Яна дамаглася, ня безь цяжкасьцяў, каб пан Ралей змог пакінуць ганаровае, але малапрыбытковае месца і ўвайсьці ў дом маіх бацькоў на выгадных умовах, якія б забясьпечылі яму будучыню, калі ён закончыць маю адукацыю.

Мне ішоў сёмы год. Я гаварыў пасрэдна па-французску, па-нямецку і па-польску. Мой характар быў мяккі, нягледзячы на празьмерную жвавасьць, якая прасочвалася ва ўсіх дзеяньнях. Мяне прымусілі вывучыць катэхізыс, я прачытаў Новы і Стары запаветы і ведаў геаграфію нагэ-

тулькі, наколькі можна было ведаць у маім узросьце[c]. У такім стане я быў аддадзены майму гувэрнэру і паводле звычаю аддзелены ад бацькоў, сустракаўся зь імі падчас абеду і калі-нікалі ўвечары. Жан Ралей сур'ёзна заняўся маім фізычным фармаваньнем, на якое я ніколі не зьвяртаў увагі і якое не давала разьвіцца маім сілам і росту, аслабляючы здароўе. Я быў малы для свайго ўзросту і да таго ж тоўсты пры гэткім росьце. Я быў такі, што ўсе, хто заўважаў мяне на шпацыры, пазнавалі ўва мне сына польскага міністра, бо мой бацька быў досыць тоўсты.

Мой гувэрнэр прымушаў рабіць шмат практыкаваньняў, пакрыху прывучыў рабіць круг вакол замкавага муру Вены, разнастайнасьць прадметаў, а таксама таварыства дзяцей майго ўзросту, старанна адукаваных, узварушылі мяне і не дакучалі пасьля шматгадзінных працяглых шпацыраў. Ён шмат часу займаўся маім рэжымам, які цалкам зьмяніў. Раніцой замест кавы з малаком ён прымушаў мяне сьнедаць добрымі пладамі, дазваляючы есьці на абед толькі сакаўнае рагу без прыправаў і з малой колькасьцю мяса.

Праэкзамэнаваўшы мяне за першыя 15 дзён, што мы правялі разам, паводле таго мінімуму, які я ведаў, ён заўважыў, што я гаварыў па-француску, як папугай, што чытаў лёгка, але нічога ня чуў пра складаньне фразаў, пра значэньне выразаў. Я ведаў каля 20 баек Ляфантэна на памяць і разумеў маральны сэнс, бо мне іх паўтаралі шмат разоў, але, калі мой гувэрнэр даваў мне чытаць байкі Ляфантэна, якіх я ня ведаў, я нічога ў іх не разумеў.

Я ня мог спасьцігнуць у дэталях мэтады, якімі карыстаўся Жан Ралей, каб нагнаць упушчаны час, каб выхаваць ува мне схільнасьць да працы і заняткаў, бо зразумела, што ў гэтым узросьце посьпехі заўважныя не адразу, але сваёй мяккасьцю і прыветнасьцю характару ён хутка заваяваў мой давер і пяшчотную прыхільнасьць.

У канцы году здароўе маці прымусіла нас вярнуцца ў Польшчу. Я суправаджаў яе разам з маім настаўнікам. Мая

сястра засталася ў кляштары, а бацька на працягу двух наступных гадоў выконваў абавязкі міністра Польшчы ў Вене. Мая маці атабарылася ў сваёй вёсцы ў Гузаве, дзе і я заставаўся пад кіраўніцтвам настаўніка. Я выконваў шмат практыкаваньняў, і маё здароўе палепшылася. Мяне не прымушалі да цяжкай і нуднай працы. Мэтодыка, якую выкарыстоўваў настаўнік, дазваляла мне разглядаць вучобу як забаву. Ён вучыў мяне больш тлумачачы, чым прымушаючы чытаць, а паколькі я яго заўсёды слухаў з задавальненьнем і ўвагай, то бываў прыемна зьдзіўлены, калі прачытваў у кнігах тое, што мне давалася ў час перапынкаў. Усё пачутае ад гувэрнэра я лавіў зь незвычайнай прагнасьцю, захоўваў у памяці, пранікаючыся ўсё большым даверам да чалавека, які, гаварыў я сабе, ведае ўсё і гаворыць, як кніга.

Мы прагульваліся разам, і я ніколі не вяртаўся са шпацыру, не атрымаўшы чаго-небудзь карыснага для сваёй адукацыі. Калі накіроўваліся ў гузаўскі парк, плян якога распрацаваў бацька, ён звычайна браў з сабою арыгінальны малюнак, згодна зь якім былі выкананыя ўсе насаджэньні. Мы шукалі, гледзячы на малюнак, алеі, грабавыя гадавальнікі — невялікія дзялянкі, абгароджаныя дротам, і г. д. Я вельмі ўражваўся, калі знаходзіў на лістку паперы зусім малюсенькімі тыя прадметы, што паўставалі перад маім позіркам на тэрыторыі парку. Настаўнік задавальняў маю цікавасьць, здымаючы маштаб ліпавай алеі з дапамогай растамеру і нацягнутае вяроўкі, каб дакладна кіравацца проста і, паказваючы мне з дапамогай компасу, па шкале, абазначанай на пляне і падзеленай на дзяленьні, як адкласьці гэтую дыстанцыю на паперы. Усё здавалася вельмі простым. Вярнуўшыся да сябе, я пасьпяшаўся папрасіць аловак, каб зрабіць плян свайго пакою. У мяне атрымалася нешта бясформавае, яно зусім не нагадвала тое, што я хацеў намаляваць. Гэта выводзіла мяне зь цярплівасьці, бо мае спробы не ўдаліся, а я стараўся рабіць рэчы, якія ўдаваліся лёгка. Настаўнік выкарыстаў гэты

момант, каб растлумачыць мне, як карыстацца лінейкай і компасам, ён навучыў мяне рабіць маштаб, які мы дзялілі на локці, і здымаць памеры даўжыні і шырыні майго пакою, і я быў прыемна зьдзіўлены, калі змог намаляваць на паперы дакладныя памеры пакою, дзе знаходзіўся. Спачатку я абазначыў камін, дзьверы, вокны, месца, дзе стаіць мой рабочы стол, і, каб адрозьніць гэтыя прадметы, выкарыстаў каляровыя алоўкі. Мне спадабаўся гэты занятак, які стаў для мяне прыемнай забавай. Я сказаў настаўніку, што, намаляваўшы пакой, я мог бы намаляваць сумежныя, а таксама плян усяго дому. Ён выкарыстаў маё добрае жаданьне, каб дапамагчы мне ў гэтай працы, каб пазнаёміць мяне з кутом, трохкутнікам, квадратам, паралеляграмам, з кругам і дзяленьнем на градусы, і на працягу васьмі дзён ён даў усе элемэнты практычнай геамэтрыі, якая мне вельмі спадабалася, так што ва ўзросьце 14 гадоў, вывучыўшы тэорыю, якая была дадзеная пазьней, я пачаў разьбірацца ў клясыфікацыі палёў, лугоў, лясоў, якія былі часткай уладаньняў маіх бацькоў у вёсцы Гузаў, дзе я правёў першыя гады свайго дзяцінства. Усе разумелі, што я мог прысьвяціць сябе гэтай працы толькі ў вольныя гадзіны. Я ўставаў а чацьвертай гадзіне раніцы летам і а дзявятай гадзіне вяртаўся, каб заняцца больш сур'ёзнымі справамі. Такім чынам, абабегшы палі з маімі геамэтрычнымі інструмэнтамі на працягу трох або чатырох месяцаў у год, я прысьвячаў частку восені і зімы, каб зрабіць разьлікі пляну, які стварыў, і склаў агульную мапу, малюнак якой быў вельмі дакладны. Двое маладых людзей, крыху старэйшых за мяне, якія гадаваліся ў доме маіх бацькоў зь міласэрнасьці, Зілінскі і Дамброўскі, былі маімі адзінымі памочнікамі і, правёўшы год пад маім кіраўніцтвам, вытрымалі экзамэн і прынялі прысягу, каб стаць урадавымі землямерамі, і я з задавальненьнем сустрэў іх потым, калі яны ўжо мелі добрую рэпутацыю, жылі ў дастатку, які давалі вынікі іхнае працы.

Але вяртаюся да заняткаў дзяцінства дзесяцігадовага



Палац бацькі Міхала Клеафаса — Анджэя Агінскага ў в. Гузаў, Польшча.

ўзросту. Працягваючы наведваць сад сваіх бацькоў, дзе браў пры добрым надвор'і ўрокі і дзе з задавальненьнем чытаў, седзячы на лаўцы (або ў сховішчы пад тоўстымі грабавымі дрэвамі), я навучыўся ад настаўніка адрозніваць гатункі дрэваў па лісьцях і кары. Я навучыўся адрозьніваць гатункі пладовых дрэваў, іх догляд, глебу, якая ім пасуе, і выбіраць адпаведнае месца. Мы праходзілі міма клёмбаў з кветкамі, назвы якіх ён мне паведамляў і вучыў мяне, як іх вырошчваць. Мы перайшлі і агарод, дзе настаўнік тлумачыў мне ўсё дэталёва. Нічога не ўцякло ад яго ў час гэтых шпацыраў, адначасова навучальных і забаўляльных для мяне. Матылёк, за якім мы бегалі, светлячок, мурашка, пчала — усё для яго служыла сюжэтам карысных размоваў, якія мне больш і больш падабаліся. Гэта падказала яму даць мне ў рукі кнігу Плюта аб прыродзе, якую я прачытаў зь невыказным задавальненьнем. Неўзабаве ён даў мне прачытаць урыўкі зь фізыкі Ноля і “Гісторыю прыроды” Жары. Такім чынам я засвойваў у дзяцінстве шмат карыснага, што спрыяла інтэлектуальнаму разьвіцьцю дзяцей, замяняючы прадметы, зь якіх яны,

падрастаючы, ня маюць ніякае карысьці. Перасякаючы апрацаваныя палі і лугі, настаўнік ніколі не прамінаў пазнаёміць мяне з элемэнтамі агракультуры, зьвяртаючы маю ўвагу на розную прадуктыўнасьць зямлі, расказваючы пра выкарыстаньне зямлі, паказваючы разнастайныя земляробчыя прылады, даючы элемэнты ўтрыманьня жывёлы, коней, статку. Мы таксама падышлі да вывучэньня садаводзтва — вучэньня, найважнейшага для ўладальніка і вельмі карыснага занятку для краіны, і я лёгка зразумеў тое, што гаварыў настаўнік: прадаючы частку сельскагаспадарчай прадукцыі, мае бацькі мелі сродкі купіць мне цацкі, кніжкі і адзеньне. І пазьней я асуджаў тых прыватнікаў у Польшчы, што прадавалі свой тавар, каб купіць замежны, якога не было ў краіне. Такім чынам я спасьціг першыя веды пра абмен прадукцыі, аб прадстаўнічай вартасьці, аб грошах і камэрцыі. Я ня мог у той час уявіць важнасьці ідэі, якую адносіў да вывучэньня палітэканоміі, аб рэсурсах багацьця нацыі, якой прысьвяціў шмат бяссонных начэй і працы ва ўзросьце 18 гадоў. Нашыя шпацыры на палях амаль заўсёды заканчваліся наведваньнем сялянскіх хацінаў. Я зусім не стараніўся беднага ўбранства і жыльля, калі мой настаўнік пазнаёміў мяне з гэтаю клясаю людзей, неабходных для ўладальніка і найбольш карысных для дзяржавы. Я прымусіў сябе глядзець на кожнага селяніна як на свайго брата, які ёсьць гэтакім жа чалавекам, як і я, які лепшы, чым я, бо я ня ў стане што-небудзь зрабіць, у той час як той працаваў на прадпрыемстве свайго гаспадара або сваёй сям'і[d].

Вяртаньне бацькі зь Вены прынесла падвойнае задавальненьне, бо я ўбачыў яго і сваю сястру пасьля двухгадовага расстаньня і вельмі парадаваў яго посьпехамі, калі ён праэкзамэнаваў мяне, чытаючы яму з грэцкай і рымскай гісторыі, а таксама з геаграфіі. Празь некалькі тыдняў мы пакінулі вёску і паехалі ў Варшаву. Мне тады было каля дзесяці гадоў. Мне знайшлі настаўніка танцаў і пісьма (сп. Шыле), другога — для навучаньня нямецкай мове і

арытмэтыцы (гэта быў сп. Штобэ). Я працягваў іншыя ўрокі пад кіраўніцтвам сп. Ралея, які разнастаіў маё чытаньне, адаптуючы яго да разьвіцьця маіх здольнасьцяў.

Вучоны абат Альбэртрандзі, настаўнік майго брата Лубенскага, меў даваць мне ўрокі нумізматыкі, а паколькі я добра ведаў старажытную гісторыю, мне вельмі спадабаліся гэтыя заняткі, і за кароткі час я навучыўся пазнаваць і адрозьніваць амаль усе грэцкія і рымскія мэдалі.

У 1776 г. бацька быў абраны дэпутатам ад шляхты ў Троках і маршалкам канфэдэрацыйнага сойму ад Літвы разам з Макраноўскім, які быў маршалкам правінцыяў Кароны.

У нашым доме заўсёды зьбіралася шматлікае таварыства, і я прывык бачыць шмат народу, гэта дапамагло мне набыць свабодную манэру паводзінаў. На наступны год у траўні я быў разлучаны з бацькамі і накіраваны з настаўнікам у дом Лесьніка на Далінная вуліцы ў Варшаве, каб вытрымаць там прышчэпку ад воспы, якая ў гэты час шырока не практыкавалася, і прышчэпленае дзіця было ў вачах простага народу істотай, засуджанай на сьмерць уласнымі бацькамі.

Мая маці была няўцешная, расстаючыся са мной, але я вярнуўся цэлы і здаровы, сустрэўся зь ёю дома і ўзяўся за вучобу зь яшчэ большаю стараннасьцю. Дагэтуль бацькі не надавалі вялікага значэньня маёй лацінскай мове, і я прыйшоў да высновы, што яны памыляюцца, бо вывучэньне скланеньняў, спражэньняў і граматычных правілаў робіцца надакучлівым і нудным, калі вучань не ўлягае ў чытаньне клясычных аўтараў. Гэтую частку маёй адукацыі даверылі абату Кадэ, экс-езуіту, які меў навучаць мяне адначасова элемэнтам матэматыкі. Нельга было знайсьці чалавека больш здольнага да выкладаньня гэтых двух прадметаў, але і ён ніколі не знайшоў бы вучня больш паслухмянага і стараннага ў вучэньні, чым я. На працягу паўтара гадоў я прачытаў Фэдра, Квінта Курцыюса, Цыцэрона амаль цалкам, Паліба, Салюста, Тацыта, Віргілія, Гарацыя,

частку паэзіі Авідзія, Катула, Тыбула, Ювэнала і Пэрса. Я вывучаў лаціну лёгка і зь невымоўным задавальненьнем, і чытаньне клясычных аўтараў, якіх я вельмі добра разумеў, служыла мне крыніцаю суцяшэньня ва ўсе часы майго жыцьця. Што да матэматыкі, якой я аддаўся таксама зь вялікім стараньнем, то добра разумеў, што мае посьпехі былі даволі нязначныя. Я крэсьліў геамэтрычныя фігуры, практыкаваўся ў грамадзянскай і ваеннай архітэктуры, гідрастатыцы,— карацей кажучы, ва ўсім, што трапляла ў поле майго зроку і што для мяне ўяўляла рэальную карысьць, але бясконцыя дробы, лягарытмы, канічныя сечывы стамлялі мой розум, выклікалі галаўны боль і адштурхоўвалі мяне лішні раз ад вывучэньня матэматыкі. Павінен прызнацца, што тройчы мне выкладалі альгебру і тройчы я на ўсё забываўся, бо ня меў разуменьня пра неабходнасьць яе вывучэньня. І толькі пазьней дамогся посьпехаў у матэматыцы і, вывучаючы курс астраноміі паводле ўласнай волі, напрактыкаваўся ў альгебраічных вылічэньнях, якія не ўяўлялі для мяне цяжкасьцяў больш, чым першыя арытмэтычныя правілы, бо я зразумеў іх неабходнасьць.

Маё захапленьне вучобай, якое штодня расло, настаўнік цярпліва падбадзёрваў, спалучаючы маё чытаньне са сваімі тлумачэньнямі. Ён даў мне курс францускай літаратуры, прымусіў чытаць трактаты Думарсэ, рыторыку Кантылье, Басэ, Фэнэлёна, Флеш’е, Масіёна, шматлікія камэдыі Мальера, Дэтанэта, Карнэля, Расіна, а таксама ўрыўкі з Вальтэра і Русо. Усё гэта выклікала ў мяне цікавасьць да паэзіі і красамоўства.

Пераканаўшыся, што я лёгка запамінаў усё тое, што ён мне выкладаў, але хутка забываў, асабліва калі гаворка была пра даты, якія тычыліся гістарычных падзеяў і прагрэсіўных дзеячоў, ён складаў тэхнічныя вершы па гісторыі і геаграфіі, і мэта была дасягнутая, бо праз 40 гадоў гэтыя вершы яшчэ захаваліся ў маёй памяці і дапамагалі ўспамінаць даты і імёны, якія высьлізгвалі з маёй памяці.

Прымусіўшы мяне прачытаць увесь вучэбны курс Кандыльяка і многія працы Маблі, сп. Ралей прымусіў рабіць

выпіскі, а затым даваць абгрунтаваны аналіз прачытанага. Я паказваў яму свае працы, якія ён уважліва чытаў у маёй прысутнасьці, зьвяртаючы ўвагу на мае памылкі,— сынтаксычныя, артаграфічныя і пунктуацыйныя. Затым я перапісваў начыста тое, што было выпраўлена, і пачаў рабіць выпіскі і аналіз па навуцы дзяржаўнага кіраваньня і палітэканоміі, па грамадзкім праве і нацыянальнасьцях.

Падчас рэвалюцыі ў Польшчы я згубіў бальшыню сваіх рукапісаў, якія быў зацікаўлены пакінуць сваёй сям'і, і спаліў астатняе, каля 300 разрозьненых лістоў, ужо празь некалькі гадоў.

Вывучаючы права, мой гувэрнэр пачаў з таго, што даў мне пачытаць кароткі курс у двух тамах Фэліцыя, а затым Барляманы, а пазьней, калі я ўжо добра разумеў лаціну, Гроцыя, Пуфэндорфа і іншых. Ён падказваў мне, каб я чытаў сам, і гэта падабалася, мне больш не патрабавалася асаблівых стараньняў, каб чытаць “Гісторыю Карла Пятага”, напісаную Робэртсанам, Гібона — аб падзеньні Рымскай імпэрыі, “Век Люі XIV і XV”, Вальтэра, гісторыю Вэстфальскага дагавору, трактат аб перамовах Маблі. Што да працаў па навуцы кіраваньня, заканадаўстве, палітыцы кабінэтаў Эўропы, камэрцыі і г.д., то мы ўсё гэта чыталі разам, а таксама ўсе працы, якія публікаваліся ў гэты час эканамістамі і антыэканамістамі.

Вось якімі былі мае заняткі да 16 гадоў. З гэтага моманту і да васемнаццацігодзьдзя я страшэнна схуднеў, і мае фізычныя сілы былі змардаваныя працай па 16 гадзінаў у дзень.

Нікога не зьдзіўляла, што адначасова я вывучаў гісторыю, заканадаўства і літаратуру маёй краіны. Амаль няма польскіх аўтараў, што пісалі з часоў Жыгімонтаў ці то на лацінскай, ці то на польскай мовах, якіх бы я не чытаў. Гэтая частка маёй адукацыі ігнаравалася, я ў дзяцінстве меў толькі аднаго настаўніка, слаба падрыхтаванага, які выкладаў мне польскую артаграфію паводле старой мэтодыкі. Я вымушаны быў вывучаць усё гэта сам, і чытаньне польскіх аўтараў як старых, так і сучасных, якое я любіў, дапамагло мне лепш спазнаць маю мову і пісаць на ёй

досыць пасьпяхова. Заданьні па польскай прозе адымалі ў мяне шмат часу. Я пісаў вершы, некаторыя зь іх удаваліся, але хутка я зразумеў, што не нарадзіўся паэтам, што мне трэба прыкладаць шмат намаганьняў, каб пакласьці свае думкі на вершы; таму мае дзеці знойдуць сярод маіх рукапісаў толькі некалькі слабых спробаў майго вершасkладальніцкага таленту, што адлюстроўвалі мае душэўныя памкненьні, знаёмілі з патрыятычным энтузіязмам, які ажыўляў маё пяшчотнае юнацтва.

У пэрыяд з 16-ці да 18 гадоў я пераклаў шмат одаў і лістоў Гарацыя, некалькі эпіграмаў Марцыяля, “Чатыры ночы” Юнга і “Элемэнты камэрцыі” Ляканіба ў двух тамох. Паколькі мноства паняцьцяў ніколі не выкладалася папольску, то мне прыйшлося стварыць тэхнічныя тэрміны, каб пераклады можна было зразумець і даць папярэднія тлумачэньні. Я працаваў над невялікім дасьледаваньнем[e], мэтай якога былі дачыненьні паміж сельскай гаспадаркай, вытворчасьцю і гандлем, бо гэтая праблема мяне зацікавіла і паглынула ўсю маю ўвагу: я выяўляў усё, што перашкаджала разьвіцьцю сельскай гаспадаркі, а таксама прамысловасьці і гандлю ў маёй краіне, і гэта заахвоціла мяне зрабіць пісьмовыя назіраньні, якія я з тае пары перачытваю з задавальненьнем і якім, на няшчасьце, я ня змог знайсьці ўжытку ў краіне, якая знаходзілася тады ў залежнасьці і якая праз 12 гадоў перастала існаваць сярод дзяржаваў Эўропы.

Некалькі маіх спробаў аратарстваваць выклікалі ўсеагульную ўхвалу, асабліва тыя шматлікія прамовы, зь якімі я выступаў на палітычных дыспутах і адміністрацыйных паседжаньнях ураду нашае краіны. Яны былі поўныя патрыятычнага энтузіязму, які аб’ядноўваў адукаванасьць і пераканаўчае красамоўства. Граф Ігнацы Патоцкі, ягоны брат Станіслаў Патоцкі, біскуп Нарушэвіч і канцлер Храптовіч пасьля таго, як прачыталі некаторыя з гэтых маіх юнацкіх опусаў, на маленькім зборы ў майго бацькі, рабілі яму кампліменты з нагоды адукацыі, якую ён мне даў, і прадказвалі мне вялікія посьпехі ў палітычнай і дыпляматычнай кар’еры. Але найбольшую папулярнасьць прынёс мне



Унутраны выгляд касьцёлу ў в. Мядневічы,
у падзямельлях якога знаходзяцца саркафагі з парэшткамі
Андрэя і Паўліны Агінскіх.

менавіта ліст, напісаны аднаму зь сяброў. Гэта ўзор майго французскага стылю і выказваньня пачуцьцяў, у якіх я публічна прызнаваўся.

Тэнгаборскі, каралеўскі сакратар і аташэ, штотыдзень прадстаўляў Сталай Радзе кароткую справаздачу. Я праседжваў цэлыя ночы, крэсьлячы архітэктурныя пляны, якія ён перадаваў мне ўвечары, каб я вярнуў іх яму на наступны дзень, і якія прыемна бавілі майго бацьку. Бацька быў задаволены, калі я прыносіў іх яму раніцой, ён толькі прачынаўся, мне даводзілася ня спаць амаль усю ноч, мае вочы былі чырвонымі ад недасыпаньня і стомленасьці, але бацька хваліў і падбадзёрваў мяне, і я адчуваў сябе са-

мым шчасьлівым чалавекам на зямлі.

Усе гэтыя заняткі адымалі, без сумневу, шмат часу ад маёй вучобы, але я зь ёй спраўляўся, працуючы па 16 гадзінаў у дзень. Я адчуў пазьней рэальныя перавагі доўгай працы, бо, выконваючы функцыі падначаленага свайго бацькі, навучыўся кіраваць справамі самастойна і быў задаволены, калі ў мае 20 гадоў бацька даверыў мне кіраўніцтва справамі і перадаў у мае рукі адміністраваньне ўсімі сваімі землямі, пакінуўшы сабе ціхі куток у вёсцы Гузаў, дзе правёў апошнія дні жыцьця.

Я ня мог пакінуць без увагі музыку, якая ніколі не складала асноўнай часткі маёй адукацыі, але якая часта прыносіла мне даволі шмат асалоды. У мяне не было добрага настаўніка ігры на клявэсыне, і калі ў свае 20 гадоў я навучыўся іграць без падрыхтоўкі, то мог гадамі не сядаць да піяніна; я вяртаўся да яго час ад часу, але не надоўга, і з 1797 г. пакінуў яго назусім і карыстаўся толькі зрэдку, калі ў мяне зьяўлялася фантазія зрабіць некалькі акордаў і ўкласьці некалькі музычных твораў, якія звычайна мелі вялікі посьпех. Я займаўся больш на скрыпцы, хаця вучыўся ігры на скрыпцы ў два прыёмы зь інтэрвалам у 10 гадоў. Я магу пахваліцца, што меў настаўнікамі артыстаў найбольш вядомых, такіх як Жарновіц, Віёці, Кампанэла, Ляфонт, Бэлёт, але я ніколі ня меў ні часу, ні цярплівасьці іграць адзін без суправаджэньня, і я шмат разоў аддаваў перавагу сумеснай ігры на якім-небудзь інструмэнце.

Набліжаўся час, калі я павінен быў завяршыць сваю адукацыю, пакінуць бацькоўскі дом і ўвайсьці ў свет без кіраўніка і правадніка. Я не магу не сказаць некалькі словаў пра характар Жана Ралея, якому была давераная мая адукацыя. Яму было 37 гадоў, калі ён стаў маім гувэрнэрам. Ягоны выгляд выяўляў сьціпласьць і пяшчоту, якія ніколі не зьнікалі зь ягоных паводзінаў. Набожны без прытворства, не напаказ, поўны ведаў і эрудыцыі, ён ніколі не выяўляў пэдантызму, прапаведуючы ўсімі сваімі дзеяньнямі чыстую мараль; ня ведаючы ніколі пачуцьця нянавісьці і помсты, ён меў задавальненьне бясконца дапамагаць бедным і суцяшаць няшчасных. Яго цанілі й паважалі мае



Камень у гонар Жана Ралея. Залесьсе, Смаргонскі раён.

бацькі, любілі ўсе людзі нашага дому і ўсе жыхары вёскі, бо ён быў заўсёды адвакатам і абаронцам тых, хто быў несправядліва абвінавачаны ці прыходзіў да гаспадара прасіць аб дапамозе.

Жан Ралей быў сапраўды хадзячай бібліятэкай. Ніякі разьдзел адукацыі ня быў яму чужы. Стараннасьць, выхаваная ў дзяцінстве, паставіла яго ў такія ўмовы, што ён ня мог ігнараваць нічога з таго, каб быць сапраўдным настаўнікам. Ягоная цудоўная памяць дапамагала яму адказваць на пытаньні аб рэчах самых малавядомых; ніколі ня маючы самалюбства настойваць на сваім пункце гледжаньня як на беспамылковым, ён абапіраўся на аўтарытэты аўтараў, цытаты зь якіх прыводзіў як найдасканалей. Яму было ўсё роўна, ці было зададзена пытаньне з старажытнай ці сучаснай гісторыі, пра нейкія падрабязнасьці жыцьця вядомага чалавека мінулых гадоў ці зь ліку нашых суайчыньнікаў, з геаграфіі, міталёгіі, матэматыкі, аўтараў клясыкаў, з францускай, італьянскай і нямецкай літаратураў і нават з тэалёгіі й мэтафізыкі. Яго нельга было ніколі засьпець зьнянацку, ягоныя адказы былі заўсёды зразумелыя і грунтоў-

ныя. Ён ня толькі цытаваў аўтараў, але часта ўспамінаў том і нават старонку, дзе знаходзіліся гэтыя цытаты. Гэта здзіўляла і тых, хто ведаў, што Жан Ралей выкарыстоўваў увесь вольны ад маёй адукацыі час, каб чытаць, і што працаваў ён да позьняе ночы.

Выкарыстоўваў частку сваіх заробленых грошай на міласэрнасьць, астатняе — на новыя кнігі, якія, як меркаваў, мусілі быць набытыя дзеля маёй адукацыі або дзеля папаўненьня ягонай бібліятэкі, якая налічвала больш за 3 тысячы тамоў. Ён згадзіўся на прапанову майго бацькі папоўніць нашую сямейную бібліятэку, вельмі вялікую і добра падабраную, і ўзяць на сябе клопаты аб ёй. Клясыфікацыя твораў, якія знаходзіліся ў гэтых дзьвюх бібліятэках, каталёг, складзены паводле мэтаду Жана Ралея,— гэта была праца, якая б магла зрабіць гонар лепшым бібліятэкарам Эўропы.

Я заканчваю, каб сказаць, што на працягу адзінаццаці гадоў, якія я правёў са сваім настаўнікам, кладучыся спаць у адным зь ім пакоі, я ніколі не пачуў ад яго дрэннага слова, ён ніколі ня даў поваду для сварак, ніколі я не заўважыў зьменаў у ягоным характары і ў звычках. Заўсёды добры, пяшчотны, прыветны, ён прымаў мяне без запальчывасьці, і калі бываў незадаволены мной, то я адчуваў сябе больш прыгнечаным непрыемнасьцю, якую даставіў яму, чым тым, што зрабіў. Я заўсёды бачыў у ім узор дабрачыннасьці і ўсіх дасканаласьцяў, якімі можа быць надзелены чалавек.

Жан Ралей, завяршыўшы маю адукацыю, зьдзейсьніў падарожжа ў Вену, каб убачыцца са сваімі роднымі; вярнуўшыся, ён засьпеў мяне ўвайшоўшым у свет і паважаным тою павагаю, якую дае добрая адукацыя, а таксама і зайздроснаю рэпутацыяй, якая яшчэ і цяпер не паблякла.

Я вадзіў яго некалькі разоў на паседжаньні сойму. Упершыню ён чуў, як я выступаю перад публікай, і сьлёзы расчуленасьці каціліся па ягоных шчоках. Я бачыў яго яшчэ шмат разоў у доме маёй маці падчас паўстаньня 1794 г. Ён плакаў і блаславўляў мяне, бачачы, што я накіроўваўся на небясьпечныя заданьні. Пасьля сьмерці маёй маці ў 1797 г. ён быў прыняты ў доме майго брата Лубенскага,

дзе знайшоў усю тую павагу, якой заслугоўваў, дзе скончыў свае апошнія дні ва ўзросьце 73 гадоў.

Знаходзячыся тады далёка ад сваёй краіны, я ня мог апошні раз паклапаціцца аб ім і сказаць яму вечнае "бывай". Гранітны камень, пастаўлены на беразе ручая, у атачэньні ніцых вербаў і таполяў у маім парку ў Залесьсі з надпісам: "Institutori sui J.Rolay gratus discipulus M.O." — гэта адзіны гонар, які я змог аказаць свайму паважанаму сябру, памяць пра якога назаўсёды захаваецца ў маёй сям'і.

**Заўвагі**

[a] Мае браты па маці — граф Фэлікс Лубенскі і Прот Патоцкі. Мая сястра Юзэфа Агінская выйшла замуж у першым шлюбе за Агінскага (бацьку Габрыэля), затым за Лапацінскага, старасту мсьціслаўскага.

[b] Ён намагаўся быць вонкава падобным да Карла XII.

[c] Мне было ня больш за чатыры з паловай гады, калі на адным зборышчы, досыць шматлюдным, у графіні Занусі ў Падольскім ваяводзтве, кароль узяў мяне на рукі і, пасадзіўшы на стол, задаў некалькі пытаньняў па Сьвятым Пісьме і геаграфіі, на якія я адказаў здавальняюча. Ён абняў мяне і сказаў даволі ласкавыя рэчы маёй маці. Ён спытаў у мяне, што я буду рабіць, калі вырасту. Я адказаў, што хацеў бы служыць маёй радзіме і майму каралю, але дадаў, што не хачу быць каралём, бо кажуць, што вы вельмі нешчасьлівы. Гэты адказ выклікаў сьлязу ў Станіслава Панятоўскага.

[d] Не пераходзячы мяжы сваіх прынцыпаў, мой настаўнік удыхаў у мяне ідэі свабоды, якія грунтаваліся на ідэях хрысьціянства, што прымушаюць глядзець на чалавека як на брата. Аднойчы, калі ўспыліўшы, я аблаяў і ўдарыў аднаго са слугаў сваіх бацькоў, ён загадаў мне цалаваць таму ногі ў прысутнасьці іншых, што знаходзіліся побач. Мне тады было каля 10 гадоў, і я адчуваў сябе менш прыніжаным пакараньнем, чым прыгнечаным тым болем, які прычыніў.

[e] Яно было апублікавана пазьней у Гроля ў Варшаве і названа "O związkach i przygotowaniu wzajemnym rolnictwa, rękodzieł i handlu".

**Канец будзе.**

**Пераклад Т. Кляшчонак і А. Рабцавай.**

Станіслаў СТАНКЕВІЧ

# БЕЛАРУСКІЯ ЭЛЕМЭНТЫ Ў ПОЛЬСКАЙ РАМАНТЫЧНАЙ ПАЭЗІІ

## І. ЛЯ ВЫТОКАЎ БЕЛАРУСКАГА РЭГІЯНАЛІЗМУ

Беларускі рэгіяналізм у польскай літаратуры і навуцы народжаны напачатку XIX ст. зацікаўленасьцю і дасьледаваньнямі фальклёру. Праўда, узаемадзейнічалі ў гэтым кірунку яшчэ і іншыя чыньнікі, пра якія будзе гаворка ніжэй, але іхны ўплыў на ўзьнікненьне рэгіянальных настрояў ды паняцьцяў быў значна меншы і ня мог вынікова ўзьдзейнічаць на разьвіцьцё новых культурных каштоўнасьцяў.

Зацікаўленасьць народнаю творчасьцю ў Польшчы, перадусім, рэшткамі славянскае міталёгіі, што захаваліся ў фальклёры, у значнай ступені апярэдзіла рамантызм і разьвівалася напачатку незалежна ад яго, знаходзячы моцную падтрымку ў настроях тагачаснага грамадзтва. Аднак толькі пад уплывам рамантычнага пошуку ў фальклёры першасных, некранутых з-за панаваньня клясыцызму прык-

---

Выдатны беларускі літаратуразнаўца, публіцыст, грамадзкі дзяяч доктар Станіслаў Станкевіч (1907—1980) яшчэ ў Віленскім унівэрсытэце плённа дасьледаваў беларускую польскамоўную літаратуру XIX ст. (магістарская дысэртацыя “Беларуская стыхія ў творах Элізы Ажэшкі”). Дык не выпадкова, што й ягоная наступная навуковая праца — “Беларускія элемэнты ў польскай рамантычнай паэзіі” (за якую ў 1936 г. набыў годнасьць доктара філязофіі ў галіне польскае ды славянскае літаратуры) — таксама прысьвечана гэтай тэме.

Друкуецца ў перакладзе з польскае паводле: Stanisław Stankievicz. “Pierwiastki białoruskie w polskiej poezji romantycznej. Część I (Do roku 1830)”. Wilno, 1936.

метаў нацыянальнага побыту, а таксама найбагацейшых крыніцаў паэзіі, яна набыла моц і выразнасьць.

Не кранаючы ўвесь фальклярыстычны рух у Польшчы, бо гэтае пытаньне агульнавядомае і шматразова разглядалася ў разнастайных літаратуразнаўчых працах[1], мы зьвернем увагу на яго праявы ў Вільні, што былі ў непасрэднай сувязі з разьвіцьцём тутэйшага рэгіянальнага пісьменства. Характэрна, што пачынальнікі гэтага руху напачатку XIX ст. галоўную ўвагу зьвярталі на фальклёр этнаграфічна літоўскі; нашмат болей цікавіліся літоўшчынаю, чым беларушчынаю, хоць роля апошняе ў польскай рамантычнай паэзіі была аграмаднаю пры параўнальна нязначным значэньні першае. Зацікаўленасьць літоўскім фальклёрам нарадзілася не ў Вільні, а ў Варшаве. Так, у сувязі зь дзейнасьцю Т.Чацкага і кс. Г.Калантая, першых польскіх вучоных, якія зьвярнулі ўвагу на важнае значэньне народных песьняў ды паданьняў, ужо ў 1804 г. на даручэньне варшаўскага таварыства сяброў навук узьнікла г.зв. “дэпутацыя, што мелася заняцца зборам этнаграфічных матэрыялаў сярод літоўскага люду”[2]. Калі гэтыя намаганьні не далі вынікаў, Ксавэры Богуш у працы “Пра пачаткі літоўскага народу і мовы”, выдадзенай у 1806 г., дамагаецца заснаваньня адмысловае ўстановы, якая б занялася зборам фальклёрных помнікаў у Літве[3]. Асабліва вялікае значэньне надавалі літоўскай міталёгіі; бачачы ў ёй найдакладнейшае адлюстраваньне старажытных часоў паганскае Літвы, яе ставілі поруч з клясычнаю міталёгіяю[4]. У другім дзесяцігодзьдзі XIX ст. літоўскім справам шмат увагі прысьвячае “Tygodnik Wileński”. Аўтары асобных артыкулаў, зьмешчаных у гэтай газэце, нават лічылі ліцьвінаў славянскім племенем[5]. Падрахаваньнем пошукаў і дасьледаваньняў у галіне літоўшчыны стала праца Тэадора Нарбута; ён першы том свае “Старажытнае гісторыі літоўскага народу” цалкам прысьвяціў літоўскай міталёгіі. І хоць кніга зьявілася толькі ў 1835 г., але яна — вынік папярэдніх дасьледаваньняў і зьвязана з публікацыямі гэтага аўтара ў віленскай пэрыёдыцы ў другое дзесяцігодзьдзе XIX ст.[6]

Апрача міталёгіі, зьвярталася таксама ўвага на літоўскія народныя песьні. У “Tygodniku Wileńskim” у 1820 г. і часткова ў 1822 г. Эмэрык Станевіч друкуе “Песьні літоўскага люду”— пераклад пятнаццаці народных песьняў разам зь літоўскім арыгіналам. Як інфармуе А.Э.Адынец, Станевіч зьвярнуў увагу на народныя літоўскія песьні пад уплывам Яна Чачота, які ўжо ў той час зьбіраў і перакладаў беларускія песьні[7]. У гэтым жа “Tygodniku Wileńskim” у 1820 г. Лявон Рагальскі друкуе “Вясельную песьню літоўскага люду” (№ 177, 3.XII) у арыгінале, а таксама ў польскім перакладзе. Апрача таго, ён зьмяшчае ў гэтым жа выданьні зноў жа ў арыгінале і польскім перакладзе “Песьню эстонскага простанародзьдзя” (№ 162, 15. V. 1820), а яшчэ “Украінскую песьню пра Багдана Хмяльніцкага” (№ 164, 15. VI. 1820).

У той час зьяўляюцца шматлікія інструкцыі ды артыкулы, у якіх адзначаецца вартасьць і значэньне народных прымхаў і забабонаў, аднак маюць яны агульны характар і не вылучаюць мясцовы абсяг фальклярыстычных дасьледаваньняў. Варта да іх залічыць “Заўвагі да збору назіраньняў і зьвестак пра фізычныя прадметы”, надрукаваныя ў 1805 г. у “Nowym Pamiętniku Warszawskim” Віленскім унівэрсытэтам; тут зьвернута ўвага на народную магію ды чары. У 1816 г. Віленскі унівэрсытэт зьмяшчае ў жнівеньскім томіку “Dziennika Wileńskiego” “Інструкцыю па складаньні ў гімназіях і павятовых школах запісаў у галінах розных навук”. У шостым параграфе “Інструкцыі”, які называецца “Этнаграфія”, рэкамэндуецца надаць асноўную ўвагу мове жыхароў асобных мясцовасьцяў, а таксама народным паданьням ды песьням, што “складаюць апошні разьдзел айчынных крыніцаў нашае гісторыі”. У “Інструкцыі па складаньні запісаў у галіне статыстыкі і тапаграфіі”, надрукаванай у “Dzienniku Wileńskim” у наступным годзе, рэкамэндавалася зьбіраць народныя прымхі і забабоны.

Апрача гэтага, “Dziennik Wileński” зьмясьціў у 1815 г. ананімны артыкул “Колькі словаў пра народныя прымхі з апісаньнем злачынства аднае ўяўнае чарнакніжніцы, пераклад з часопіса “Bibliothéque Britanique... 1812 г.” Аўтар

цьвердзіць, што хоць вера ў чарнакніжнікаў і забабоны ўжо спакваля зьнікае, аднак жа “па-сапраўднаму адукаваныя людзі... не пагарджаюць і не адмаўляюцца ад народных прымхаў, а ўважліва назіраюць за імі, дасьледуюць і паведамляюць усім, вылучаючы праўду ад фальшу ды карысьць ад шкоды”.

Нарэшце прыйшла чарга і на беларускі фальклёр. Рух на гэтым полі распачынае артыкул Марыі Чарноўскае “Рэшткі славянскае міталёгіі, захаваныя ў звычаях вясковага люду на Беларусі”, надрукаваны ў 1817 г. у “Dzienniku Wileńskim”. У ім падаюцца дастаткова дакладныя зьвесткі пра народныя абрады і звычаі, занатаваныя аўтаркаю ў Чэрыкаўскім павеце на Магілёўшчыне, а менавіта апісаньне Купальля, вясновых Дзядоў, якія называюць Радаўніца, сьвята русалак, якое ўрачыста адзначаюць на другі дзень Сёмухі, а таксама заўвагі пра ляснога бажка Дабрахочага. У артыкуле Чарноўскае выразна адлюстравалася жывая ў той час тэндэнцыя пошукаў у народных традыцыях рэшткаў паганскае міталёгіі. Пра гэта сьведчыць сам тытул артыкулу. У заключным абзацы аўтарка з націскам падкрэсьлівае, што ў народных беларускіх песьнях захаваліся да сёньня імёны паганскіх бажкоў: Лелі, Палелі, Лады. Гэты артыкул ня мог не ўплываць на наступнае разьвіцьцё зацікаўленасьці беларускім народам, пра што можа сьведчыць хоць бы той факт, што за параўнальна кароткі час яго двойчы перакладалі на расейскую мову[8].

У 1819 годзе ў “Tygodniku Wileńskim” (№ 130 і 132) зьявіўся надрукаваны ананімна[9] артыкул Ігната Шыдлоўскага “Вясельныя абрады вясковага люду ў Менскай губэрні, у Барысаўскім павеце, у Гаенскай парафіі, занатаваныя ў 1800, 1-м і 2-м гадох, з асобнымі песьнямі ды іхнымі мэлёдыямі”. Аўтар, добра абазнаны ў звычаях беларускага люду, дакладна падаў пачатак абраду народнага вясельля, абяцаючы працяг у наступных нумарох газэты, якога, аднак, не было. У тэкст ён уключыў восем народных песьняў па-беларуску, дакладна, як на той час, пададзеных і ў перакладзе на польскую мову. Сярод іх мы бачым шырока папулярную пазьней песеньку,

якую сьпяваў Міцкевіч ды іншыя філяматцкія паэты: “Да цірaз мой двор, Да цяцера ляцела”. Рэдакцыя “Tygodnika”, адклікаючыся на вядомы ліст Калантая з Аламунецкае вязьніцы, у прыпіску заахвочвала зьбіраць фальклёр, які павінен прыдацца пры дасьледаваньні старажытнае гісторыі славянаў.

Сярод друкаваных рэчаў, што датычаць беларускага фальклёру, варта прыгадаць ананімны артыкул “Падарожжа па частцы Вількамірскага павету, Курляндыі, Інфлянтах і Белай Русі ў ліпені ды жнівені”, надрукаваны ў 1819 г. у “Dzienniku Wileńskim”. Назіраньні над народнымі звычаямі і абрадамі тут вельмі скупыя і агульныя; у той частцы артыкулу, у якой ідзе гаворка пра Беларусь, знаходзім зьвесткі пра звычай насіць ежу на магілы падчас восеньскіх Дзядоў.

Нарэшце, належыць зазначыць, што этнаграфічныя дасьледаваньні Зарыяна Далэнгі-Хадакоўскага, якія мелі на мэце фальклёр усходніх славянаў, перадусім, украінскі, вяліся таксама і на этнаграфічных беларускіх землях[10]. Фр. Равіта-Гаўронскі дапускаў нават, што ўжо вядомы нам артыкул Шыдлоўскага “Пра вясельныя абрады” знаходзіўся ў бясспрэчнай сувязі з дасьледаваньнямі Хадакоўскага, аднак ён ня здолеў давесьці, хто на каго ўплываў. З тае прычыны, што зьвесткі, якія маюцца ў гэтым артыкуле, паходзяць з Гаенскае парафіі Барысаўскага павету з 1800 і двух наступных гадоў, Гаўронскі лічыць, што першыя спробы этнаграфічных дасьледаваньняў Хадакоўскага пачаліся ў той мясцовасьці і ў тым часе[11]. Больш таго, Барысаўскі павет быў добра вядомы Хадакоўскаму, бо там жылі яго родныя[12]. Што датычыць беларускіх збораў Хадакоўскага, мы толькі ведаем, што частка іх трапіла ў рукі Калайдовіча і пазьней увайшла ў збор П.Бяссонава “Белорусские песни”, выдадзены ў Маскве ў 1871 годзе[13].

Каля 1820 году пачаў зьбіраць беларускія народныя песьні Ян Чачот, але і пра іх сёньня мы маем вельмі скупыя зьвесткі. Ведаем пра гэта толькі з словаў сучасьнікаў[14] ды таксама з прызнаньняў самога зьбіральніка, але пра гэта пагаворым ніжэй.

Дагэтуль фальклярыстыка зьвяртала ўвагу толькі на навуковую вартасьць вуснае народнае творчасьці; яна,

перадусім, мусіла паглыбляць веды пра пачатковую гісторыю Славяншчыны. Аднак не было яшчэ гаворкі пра тое, што фальклёр можа прыдацца дзеля выкарыстаньня ў мастацкай літаратуры.

Першым, хто, апрача ўжо вядомых вартасьцяў, што ўсімі прызнаваліся ў народнай паэзіі, выразна падкрэсьліў таксама і яе мастацкасьць, быў, як вядома, Лях Шырма. Зьмяшчаючы ў "Dzienniku Wileńskim" у 1818 г. дзьве думкі "Ясь і Зося" ды "Зданак і Галена", заснаваныя на народных украінскіх песьнях, Шырма далучыў ліст да рэдактара "Dziennika", у якім падрабязна спыняецца на значэньні народнае паэзіі. Як і іншыя аматары фальклёру, ён сьцьвярджае, што народная паэзія "магла б прыдацца дзеля вытлумачэньня гісторыі звычаяў; яна б кінула сьвятло на палітычную гісторыю, на рэлігійныя абрады і багоў, што існавалі да Хрыстовае навукі". Але ён не спыняецца на гэтым і з такім жа імпэтам стараецца падкрэсьліць новае значэньне народнае творчасьці. "Апрача гэтага, што за невычэрпны скарб быў бы дзеля нашага вершскладаньня! Тады б, пане рэдактар, не закідалі б "Dzienników", "Pamiętników", "Tygodników" ды іншыя выданьні чужымі нам фантазіямі, якія, будучы шмат каму незразумелымі, успрымаюцца, бывае, абыякава, часам толькі зьвіняць у вушах, але не трапляюць у сэрца і не грэюць яго". Зразумела, што такі погляд на народную паэзію, хоць і сфармаваны яшчэ ў агульных рысах, мусіў у хуткім часе здабыць сабе шматлікіх прыхільнікаў[15].

Апрача праяваў, усё большае зацікаўленасьці лякальнаю беларушчынаю ды літоўшчынаю ў галіне фальклёру, гэты рух можна таксама заўважыць у грамадзка-культурнай дзейнасьці віленскага грамадзтва. Перадусім, дзейнасьць віленскага таварыства шубраўцаў, у склад якога ўваходзілі вельмі адукаваныя і прагрэсіўныя людзі, мае выключна лякальны характар. Часткова сьведчаць пра гэта словы "Ліста з Варшавы", надрукаванага ў № 147 "Wiadomości Brukowych" за 1819 год, у якім уяўны варшаўскі аўтар закідае віленскім шубраўцам: "... вы для Літвы, а не для Кароны пішаце... менш дбаеце пра тое, ці вас у Варшаве разумець будуць, толькі б у Вільні і на Літве былі зразуметы". Пра пэўны рэгіяналізм шубраўцаў сьведчыць

таксама звычай сяброў таварыства брацьімёны паганскіх багоў не грэцкіх альбо рымскіх, як можна было спадзявацца на тыя часы, а літоўскіх. Так, напрыклад, Якуб Шымкевіч меў імя Пяркунаса, Андрэй Сьнядэцкі — Сатвараса, Контрым — Паклюса, Лявон Бароўскі — Пэргрубюса і г. д. Ю.Трацяк лічыў, што гэтая арыгінальная ідэя замены клясычнага Алімпу Алімпам літоўскім паходзіла ад Лявона Бароўскага, які меў вялікую сымпатыю да паганскіх літоўскіх старажытнасьцяў[16]. У сваёй конкурснай працы “Заўвагі аб паэзіі і красамоўстве” ён заахвочваў берагчы рэшткі старажытнае літоўскае паэзіі, шкадуючы, што ў наш час “сьвятло філязофіі засьляпіла хараство паэзіі, і мы на ўзор іншых народаў намагаемся сьпяваць для чыстага розуму”[17].

На абуджэньне зацікаўленасьці народнаю паэзіяю і фальклёрам увогуле ў пэўнай ступені мусілі ўплываць намаганьні прагрэсіўнага грамадзтва палепшыць побыт вясковага люду. Гэтае пытаньне напрыканцы XVIII і напачатку XIX ст. было на Літве і Беларусі асабліва актуальным і мела шмат шчырых прыхільнікаў[18]. У барацьбе за дабрабыт сялянаў залатымі літарамі расьпісалася віленскае таварыства шубраўцаў, якое на старонках “Wiadomości Brukowych” сыстэматычна вяло кампанію супраць земляўласьнікаў, што бесчалавечна зьдзекваліся з прыгонных[19]. У кірунку ж асьветы сялянаў найруплівей працаваў віленскі часопіс, што выдаваўся ў 1820—1824 гг. “Dzieje dobroczynności krajowej i zagranicznej z wiadomościami ku wydoskonaleniu jej służącemi”. Ян Ходзька, аўтар “Пана Яна зь Сьвіслачы”, надзвычай папулярнае ў той час народна-маралізатарскае аповесьці, друкуе тут свае артыкулы пра народную асьвету, рэкамэндуючы засноўваць школкі для вясковае дзятвы. З тагачасных паэтаў барацьбу за абарону люду распачаў Антон Гарэцкі, востра ганьбячы ў шэрагу вершаў, напісаных тады, а таксама і пазьней, злых паноў, што прыгняталі люд. Празь нейкі час сялянскае пытаньне знойдзе пэўнае адлюстраваньне ў дзейнасьці ды лістох філяматаў, а таксама ў паэзіі Адама Міцкевіча ды Яна Чачота.

Такім чынам, пэўная зьмена паняцьцяў і ўяўленьняў у розумах польскага грамадзтва напачатку XIX ст., што спрыяла ўзьнікненьню новага рамантычнага напрамку і асабліва

абуджэньню зацікаўленасьці народнай творчасьцю, а таксама прага пазнаньня побыту вясковага люду ды імкненьне палепшыць яго,— былі стымуламі, якія спакваля падрыхтавалі грунт дзеля пазьнейшага выкарыстаньня фальклёру ў мастацкай літаратуры.

* * *

Вышэйпададзеныя ідэі ды схільнасьці, што нарадзіліся сярод старэйшага віленскага грамадзтва, сталіся дырэктыўнымі ў дзейнасьці і зацікаўленьнях філяматаў, а таксама роднасных ім саюзаў унівэрсытэцкае моладзі ў Вільні. Апрача шчырага спачуваньня сялянам і барацьбы за паляпшэньне іхнае долі, годная ўвагі ў дзейнасьці філяматаў праца над усебаковым пазнаньнем краю і ягоных жыхароў. Ад імя ўнівэрсытэцкіх таварыстваў былі складзеныя падрабязныя інструкцыі, паводле якіх студэнты абавязваліся ў вакацыйныя месяцы зьбіраць статыстычныя зьвесткі пра мясцовасьці, у якіх яны жылі. Гэтыя інструкцыі асаблівую ўвагу зьвярталі на збор зьвестак з галіны звычаяў, прымхаў і нораваў. Так, напрыклад, у інструкцыі філяматаў для I аддзелу ад 27. IV. 1819 г. чытаем: “Сябры пры спрыяльных умовах не забываюць пра збор статыстычных зьвестак, звычаяў простага люду ды іншых цікавых рэчаў”[20]. У інструкцыі, прынятай на паседжаньні Зьвязу сяброў 17. IV. 1821 г., складзенай некалькімі студэнтамі[21], быў адмысловы разьдзел “Звычаі, норавы”, у якім рэкамэндавалася зьвярнуць увагу на наступныя фальклёрныя асаблівасьці: “Што да трэцяе клясы насельніцтва, дык варта зьвяртаць увагу на вопратку, жыльлё, схільнасьці, асаблівыя прымхі, на мову, на стаўленьне мужчынаў да жанчынаў, бацькоў да дзяцей і дзяцей да бацькоў; на абрады ў пэўныя дні году, а таксама і пры іншых акалічнасьцях (вясельлі, хрэсьбіны, хаўтуры); на забабоннасьць, сужыцьце, гаспадарку, працавітасьць і на прывязанасьць гэтае клясы да краю”. Крыху далей чытаем: “Нарэшце, апісваючы звычаі і норавы пэўнае мясцовасьці, належыць паведаміць пра агульныя яе прымхі, забабоны, заганы і недахопы насельніцтва”[22].

Згодна з гэтымі інструкцыямі, асобныя філяматы падрыхтавалі апісаньні сваіх родных мясьцінаў ды чыталі іх на навуковых паседжаньнях. Так, на паседжаньнях Зьвязу

сяброў чыталіся наступныя працы: 10. V. 1819 г. Т.Лазінскі апавядаў “Пра абрады вясковага люду ў ваколіцах Жытоміра”, 24. X. і 14. XI. 1820 г. С.Казакевіч — “Апісаньне Завілейскага павету”, нарэшце, 8. VI. 1821 г. прэзыдэнт Ф.Малеўскі прапанаваў “Зьвесткі пра фальклёр на Беласточчыне”, апрацаваныя М.Рукевічам[23].

Шчырыя сымпатыі да фальклёру ўзьніклі ў філяматаў стыхійна, як вынік глыбокае зацікаўленасьці побытам мясцовага люду і шчыльных зь ім дачыненьняў. Апрача гэтага, уплывалі жывыя ў той час народафільскія тэндэнцыі. Філяматы ведалі пра этнаграфічную дзейнасьць Хадакоўскага, пра якога часта ім паведамляў В.Пялчынскі, што знаходзіўся ў Пецярбурзе[24]. Ахвотна вывучалі яны сэрбскія народныя песьні з збору Вука Стэфанавіча Караджыча, перадрукаваныя ў “Pamiętniku Naukowym” у 1819 годзе. Ян Чачот у лісьце да Міцкевіча ў кастрычніку 1819 году называе іх “дзівоснымі” ды “чароўнымі”[25]. Не чужымі былі ім і заклікі Брадзінскага, які імкнуўся пераканаць, што народныя песьні — гэта найбагацейшая крыніца паэзіі.

У тагачаснай Вільні пашыраўся модны тады магнэтызм, які прапагандаваў “Pamiętnik Magnetyczny Wileński” (1816—1818), рэдагаваны Ігнатам Эмануэлем Ляхніцкім. Сябры таварыства вельмі цікавіліся магнэтычным рухам, аднак да сьпірытыстычных экспэрымэнтаў ставіліся зь вялікай асьцярожнасьцю. Выключэньнем быў Тамаш Зан, тэорыя прамяністасьці якога мела шмат агульнага з магнэтызмам[26]. У карэспандэнцыі філяматаў знаходзім дастаткова шмат згадак і справаздачаў пра асобныя сьпірытыстычныя сэансы; трактуюць іх філяматы з выразным скептыцызмам, не шкадуючы нават іроніі, і, наадварот, нідзе не сустракаем словаў ухвалы[27]. Дадамо да гэтага, што і шубраўцы зброяю іроніі ды зьедлівае сатыры змагаліся ў “Wiadomościach Brukowych” з магнэтызмам ды высьмейвалі папулярнага ў той час “лекара” Антоську, якога падтрымлівалі віленскія мэсмэрысты[28].

Хоць сама тэорыя мэсмэрызму не магла знайсьці шчырых прыхільнікаў у коле філяматаў, аднак артыкулы, друкаваныя ў “Pamiętniku Magnetycznym”, у якіх абараняліся вартасьці народных прымхаў ды забабонаў, пэўна ж не заставаліся без водгуку. Палымяную абарону фальклёру

мы бачым у артыкулах Гуфэлянда і Дэлюзье, якія друкаваліся ў “Pamiętniku” ў польскім перакладзе. Апошні, між іншым, піша: “Прымхі, што анёлы — пасярэднікі між Богам і людзьмі — апякуюцца над добрымі, даюць ім спакой думкі, схіляюць да дабрачыннасьці ды пацяшаюць у няшчасьці; што асобы, якія жылі да нас, клапоцяцца пра нас, слухаюць нашыя пажаданьні і могуць даць нам параду; што ёсьць повязь між небам і зямлёю, між часам і вечнасьцю; што Бог пасылае ласку на тых, хто моліцца... і тысячы іншых такога роду ўяўленьняў, высьмеяных у наш час — што кепскага зрабілі яны людзям?” Гэтыя і падобныя думкі, якімі баранілі маральныя і пачуцьцёвыя вартасьці народных прымхаў, не маглі быць чужымі філяматам, што культывавалі ў сваім коле народную паэзію[29].

Праца па вывучэньні мясцовага люду, а таксама замілаваньне ягонаю творчасьцю ў значнай ступені паўплывалі на ўзьнікненьне краёвага партыкулярызму ў настроях віленскае моладзі, якая ў пераважнай большасьці была моцна зьвязаная зь беларускаю зямлёю сваім паходжаньнем. Апрача гэтага, мусіла спрыяць і тая акалічнасьць, што Вільня ў тагачасным разумовым руху знаходзілася вышэй за іншыя асяродкі культурнага жыцьця ў Польшчы. Пра Варшаву філяматы мелі дастаткова непрывабныя думкі на падставе непасрэдных паведамленьняў трох сваіх сяброў: Петрашкевіча, Чачота, Малеўскага, якія, пажыўшы пэўны час у сталіцы, мелі магчымасьць пазнаёміцца зь яе літаратурным і навукова-культурным рухам. Зьдзіўляў іх нізкі ўзровень разумовага жыцьця Варшавы, а таксама залішне рабскае падпарадкаваньне мёртвым псэўдаклясычным формам[30]. А Вільня вяла ўласнае навукова-культурнае жыцьцё, у значнай ступені самабытнае і незалежнае ад іншых асяродкаў Польшчы.

Гэтыя партыкулярныя настроі філяматаў, як і моцны культ айчыннага фальклёру, адлюстраваліся ў іхных рыфмаваных спробах, якія, хоць у большыні наіўныя ды немудрагелістыя, часам пазбаўленыя мастацкае вартасьці, далі, аднак, пачатак беларускаму рэгіянальнаму напрамку ў польскай рамантычнай паэзіі.

## II. ТАМАШ ЗАН

У выкарыстаньні фальклёру ў прыгожым пісьменстве немалую ролю адыграў Тамаш Зан — першы зь віленскага кола паэтаў, што прызнаў народную творчасьць за адзін з найгалоўнейшых разьдзелаў свае паэтычнае праграмы. Рэалізуючы прынцыпы народнасьці ў паэзіі, ён перш-наперш зьвярнуўся да беларускае народнае творчасьці, найлепей яму вядомую, чэрпаючы зь яе ня толькі фабулы асобных балядаў і насьледуючы сяды-тады форму, але нават уводзячы ў сваю мову вялікую колькасьць словаў і зваротаў, запазычаных з мовы беларускага люду.

Зь беларускаю народнаю паэзіяй пазнаёміўся Зан, як і іншыя паэты, пра якіх будзе гаворка, у дзяцінстве ды юнацтве. Калі ён прыйшоў на сьвет, ягоны бацька, у той час зьбяднелы шляхціц, быў аканомам у Вязыні Вілейскага павету, а праз колькі гадоў узяў у арэнду фальварак Іверы, куды пераехаў разам з усёю сям'ёю[31]. Правёўшы ў тых мясьцінах дзяцінства ды юнацтва (зь перапынкам на вучобу ў Менску і Маладэчне), ён меў магчымасьць блізка сутыкнуцца з народам і ягонаю паэзіяй. А яшчэ раней з народнаю творчасьцю пазнаёміўся ён у бацькоўскай хаце, дзе ягоная бабуля, Дылеўская, якая клапатліва апекавалася ім, часта апавядала яму народныя казкі ды паданьні[32]. Як моцна ягонае дзіцячае ўяўленьне рэагавала на харасство і фантастычнасьць народных казак ды апавяданьняў, ён сам паведаміць празь нейкі час у адным з "Разьдзелаў", напісаным для Марылі Верашчакі. Шчыра перадае там будучы творца тэорыі прамяністасьці свае ўражаньні і дзіцячыя перажыванні ад бабуліных аповедаў: "Зь вечару Тамашык шмат наслухаўся ад пабожнае бабулі пра Купалу, пра ведзьмаў, што выдойваюць малако ў кароў, пра папараць-кветку, пра сонца, што грае ды скача, узыходзячы ў дзень сьв.Яна. Ён усё зь цікавасьцю слухаў, вядзьмаркі палохаўся, але загарэўся жаданьнем знайсьці папараць-кветку; не адважыўся толькі адзін начаваць у лесе, дык з-за страху і ня меў здольнасьці разумець мову дрэваў ды зьвяроў. Аднак вырашыў пабачыць сонца, што іграе ды скача. Прачнуўшыся на досьвітку, разбудзіў Стафанку, такога ж цікаўнага, як і ён; яны выйшлі на пагорак, дзе

ўчора разам пабудавалі горад з трэсак ды засялілі яго бобам. Абодва зь нецярплівасьцю і неспакоем, з страхам і надзеяю чакалі ўсходу"[33].

Традыцыя народных паняцьцяў і ўяўленьняў, вынесеная з бацькоўскага дому, была ў ім такою моцнаю, што нават у сталым узросьце памятаў: сваім выздараўленьнем у дзяцінстве быў абавязаны ня лекарам, а таемствам забабоннага люду, дзейсна ўжываных клапатліваю бабуляю. Ён шчыра прызнаваўся ў гэтым у сваіх "Дзёньнікавых нататках", пісаных прыкладна ў 1850 г.: "Я абавязаны выздараўленьнем ад пагрозьлівае сьлепаты не дактаром, а матулі, якая ахвяравала свайго сына ў Мядзел; выздараўленьнем ад лішаю на твары (вогнік)— пацерам бабулі, якая трымала мяне да зьнікненьня іх насупраць полымя ці жару ад палаючых у каміне дроваў. Ад падобнае нядужасьці ачуняў таксама адзін мой знаёмы пасьля таго, як адступіліся ад яго ўсе віленскія дактары, прызнаўшы хваробу невылечнаю; палёгка прыйшла ад вады, якою мылі рукі, пасьля таго, як імі мясілі хлебнае цеста, і ў ёй тушылі распаленыя вугольчыкі на працягу чытаньня пэўнае колькасьці малітваў "Ойча наш" і "Вітана будзь, Марыя"[34].

Калі праз нейкі час Зан стане студэнтам унівэрсытэту ў Вільні ды пачне шырока выпрабоўваць свае паэтычныя здольнасьці, дык тыя ўражаньні, атрыманыя ў бацькоўскай хаце, а таксама ад непасрэдных сутыкненьняў зь сьветам народнае творчасьці, абудзяцца зноў зь першаснай моцаю і сьвежасьцю ды будуць дамагацца выяўленьня ў паэзіі. Аднак перш чым пад уплывам завезеных у Вільню рамантычных паняцьцяў перакінуцца на поле балады, ён будзе займацца прынагоднаю творчасьцю, зьвязанаю зь сяброўскім жыцьцём філяматаў, а таксама пісаць вялікія творы паводле псэўдаклясычнае паэтыкі. У гэтых творах, якія ўвогуле нічога агульнага з фальклёрам ня маюць, ён будзе старацца добра падкрэсьліць лякальны каларыт, уводзячы ў іх беларускія словы, а таксама малюнкі з жыцьця мясцовага люду ды ягоныя звычаі.

Такую лякальную афарбоўку мае вясёлая камэдыя Зана з студэнцкага жыцьця "Грэцкія піражкі", напісаная ў 1817 г.

згодна з прынцыпамі школьнага тэатру Багамольца[35]. Асабліва цікавая ў “Грэцкіх піражках” мова, якая мае шэраг правінцыйных словаў і зваротаў, што надаюць твору рэалістычныя рысы. Мова, якою карыстаецца Цьвібак,— гэта, уласна, канглямэрат ламанае польскае, нямецкае і беларускае альбо дакладна такая мова, якою мог гаварыць у той час дробны менскі гандляр нямецкага паходжаньня. Таксама і студэнты ды лёкай у сваю мову час ад часу ўплятаюць беларускія словы; бо яны, як і сам паэт, бясспрэчна, паходзяць з дробнае мясцовае шляхты, якая дзякуючы шчыльнай сувязі з простым людам, шмат пераняла зь ягонае мовы. Мы ня будзем тут падрабязна аналізаваць мову “Грэцкіх піражкоў”, бо гэтае пытаньне закранём у той частцы разьдзелу, якая будзе прысьвечана мове Зана. М.Дунаюўна лічыць, што правінцыялізмы і ўвогуле рэалізм і будзённасьць у галіне мовы і стылю маглі трапіць у “Грэцкія піражкі” паводле аналёгіі з даўнімі школьнымі інтэрмэдыямі, аўтары якіх ахвотна карысталіся народнымі гаворкамі, а таксама з камэдыяў XVIII ст., у якіх асаблівую ўвагу зьвярталі на індывідуалізацыю мовы[36]. Зь меркаваньнем Дунаюўны не абавязкова нам згаджацца, бо крыніца правінцыялізмаў і моўнага рэалізму ў камэдыі Зана хаваецца ў іншым месцы. У “Грэцкіх піражках” паэт клапаціўся пра дакладнае адлюстраваньне студэнцкага жыцьця, якое назіраў, будучы ў менскай школе. Якія настроі панавалі ў той школе, паэт апавядае ва ўжо згаданых “Дзёньнікавых нататках”, дзе чытаем: “Жыдоўка з абаранкамі, немец з грэцкімі піражкамі, Ясюта-званар, Янак-вар’ят; смаргонскія мядзьведзі, царкоўны звон, Карнееўскі сад, Залатая Горка і Кальварыя, архірэй Пацёмкін — гэта былі студэнцкія славутасьці, вакол якіх кружлялі ўяўленьні менскіх дзяцей 1812 г. Нянавісьці і розьніцы між нацыямі ня ведалі... З тае грубае і дзікае мовы маскалёў, бо менскім сялянскім прастамоўем (г.зн. беларускаю моваю) ахвотна карысталіся студэнты, прыжылося башкірскае “гайда”[37]. Увядзеньне ў літаратурную мову беларускіх словаў было ў Зана ня чымсьці часовым, што праявілася толькі ў “Грэцкіх піраж-

ках", але сьвядомаю тэндэнцыяю, якая ў большай альбо меншай ступені выступае ва ўсіх ягоных творах.

Апрача гэтага, як мясцовы элемэнт, знаходзім у "Грэцкіх піражках" некалькі тыпова беларускіх прыказак, умела ўключаных у гаворку пэрсанажаў. Напрыклад, калі Цьвібак, пакрыўджаны студэнтамі, хоча ісьці паскардзіцца на іх, лёкай адказвае яму вядомаю прыказкаю: "Gdy baba z kolosy, będzie lżej kolosie"; у зборы беларускіх прыказак У.Дыбоўскага яна гучыць так: "Баба з калёс, калёсам лягчэй"[38].

Калі ж лёкая свавольныя студэнты перапранаюць гувэрнэрам, той адказвае: "Ni czytać ani pisać, a na urząd wiodą". У народнай казцы герой, якога нясуць у завязаным мяшку, каб пакараць сьмерцю, крычыць сустрэчным: "Ня ўмею ні чытаць, ні пісаць, за караля обіраюць"[39]. Таксама падчас таго ж пераапрананьня лёкай зьвяртаецца да студэнтаў: "Nie chcę... nie pop, w popowe ubierać się ryzy", што зьяўляецца даслоўным перакладам народнае беларускае прыказкі: "Калі ня поп, не ўбірайся ў рызы"[40].

Начныя духі ў "Табакерцы" ня маюць нічога агульнага з народнымі фантазіямі, а нагадваюць дэманалягічны сьвет, якім асабліва захаплялася псэўдаклясычная паэзія. Затое ў адным фрагмэнце паэмы Зан дае апісаньне табакеркі, на якой стары барскі канфэдэрат выкалаў разнастайныя малюнкі з народнага жыцьця ды звычаяў люду. Так, у трох строфах паэмы ён маляўніча і рэалістычна стварае карціну вясковага вясельля, падкрэсьліваючы ў апошняй страфе самыя важныя дэталі абраду:

Там цеста замешваюць для каравая
Ў дзяжы маладзіцы зь сяла;
Стрыгуць валасы ля чала
Нявесьце — дзяжу яна тройчы кранае,
Пасьля тры разы ў кут паклон адбівае,
Абыходзячы вокал стала.
І чары, і кут, і сталы
Выколваў наш майстар стары.

**(Пераклад Кастуся Цьвіркі)**

З этнаграфічнаю дакладнасьцю паказаў тут паэт адзін фрагмэнт вясельнага абраду, які адбываецца перад ад'ездам панны маладое да шлюбу. Прыгаданыя народныя звычаі — мясіць каравай каравайніцамі ў традыцыйнай дзяжы, стрыгчы валасы паньне маладой, а таксама і тое, што панна маладая кланяецца кутам у хаце, калі яе тройчы вядуць вакол стала,— належаць да тыповых і надзвычай распаўсюджаных у вясельных абрадах на Беларусі[41].

У іншым фрагмэнце паэт апісвае русалак, якія гушкаюцца на галінах дрэваў; падае іх таксама дакладна паводле ўяўленьня люду:

Чало яго зноўку натхненьне пагодзіць.
Іголка на мяккай кары
У лесе пры сьветлай зары
Літоўскія німфы — русалкі — выводзіць;
У іх валасы аж да пятак даходзяць,
А грудзі — зірні і памры!
Іх чары хлапца аплялі —
Гайдаюць яго на гальлі.

**(Пераклад Кастуся Цьвіркі)**

І люд уяўляе сабе русалак як прыгожых дзяўчат з распушчанымі да зямлі валасамі, зь вялікімі грудзямі, і яны ў пэўны пэрыяд лета выходзяць з рэчкі ды, гушкаючыся ("гойдаюцца") на галінах дрэваў, падпільноўваюць сваю ахвяру[42].

Наступны малюнак, зроблены на табакерцы старым канфэдэратам,— гэта праца аратага на полі; ён, клапоцячыся пра свой ураджай:

Z lotu jaskółki pogodę wróży,
Z wron kraku wie, kiedy słota;
Patrzy na kundla, na kota,
Gdy się na ziemi lub piecu łoży,
I już się deszczem lub mrozem trwoży.
Hybliwa sroka u płota
Swoim szczebiotem Imości
Lubych zapowiada gości.

З выключным веданьнем народнага жыцьця падаў паэт

сялянскі спосаб прадказаньня надвор’я па лёце ластаўкі, карканьні воронаў, а таксама паводзінах сабакі і ката. Пра першы спосаб знаходзім у адным з этнаграфічных збораў наступнае: “Калі ластаўкі летаюць высока, будзе добрая пагода, калі ены летаюць над вадою ці над самаю зямлёю, та гэто на дождж”[43]. Другі спосаб таксама вядомы ў Беларусі, як пра гэта, дарэчы, можа сьведчыць іншая згадка ў тым жа этнаграфічным зборы: “Калі вароны летаюць чарадою да громко каркаюць, та будзе непагадзь”[44]. Нарэшце пра астатні спосаб прадказаньня людам надвор’я можам даведацца з аднаго з этнаграфічных збораў Нікіфароўскага: “Калі кот ляжыць на халодным месцы ў маразы, належыць спадзявацца на цёплае надвор’е, наадварот, калі ляжыць на печы альбо скруціўся ў клубок, то неабходна абавязкова чакаць марозу”[45]. Прымхі пра сароку, што прарочыць гасьцей, шырока распаўсюджаны і знайшлі водгук у “Булках” Шымановіча. Ёсьць яны і ў беларусаў, як пра гэта сьведчыць Федароўскі: “Як сарока каля будынку шчабеча, то таго дня будуць госьці”[46].

У наступным малюнку паэт дастаткова дакладна перадаў абрад сьвяткаваньня Купальля:

А гэта вясёлае сьвята — Купала.
Палае агонь ля ракі.
Дзяўчаты пры ім, дзецюкі.
Сьпяваюць і скачуць. Тут жартаў нямала.
Праз полымя скокнуўшы, любым з запалам
Даруюць падпал сьмельчакі.
А збоку матулі сядзяць —
На пары каханкаў глядзяць.

Падобнае сьвяткаваньне Купальля разам з звычаем скаканьня праз вогнішча вядома шматлікім народам; у беларусаў яно захавалася ў першасным і нескажоным выглядзе[47].

Урэшце, у апошнім малюнку паэт гаворыць пра крывасмока і пра ведзьму, што ў ноч на сьв.Яна высмоктвае ў кароў малако:

Лятаюць навокала мётлы, лапаты.
А ведзьма грамніцу ўжо зубам клыкатым
Надкусвае, мчыць з усіх ног.
Забраўшыся ў хлеў па страсе,
Ў кароў малако — гляньце — сьсе.

Люд з-за страху перад ведзьмаю, каб яна не адабрала малако ў кароў, у ноч сьв.Яна падвешвае ля дзьвярэй аборы пасьвянцоную ў дзень Маці Божае Грамнічнае сьвечку. Гэты спосаб абароны ад ведзьмы распаўсюджаны на Беларусі і часткова практыкуецца нават сёньня[48].

Разгледжаныя малюнкі народных прымхаў ды звычаяў выразна паказваюць, што ўжо ў “Табакерцы”, вытрыманай наогул у стылі клясычнае паэзіі, паэт стараўся зьвярнуцца да айчыннага фальклёру. Апрача таго, гэтыя ўстаўкі, што не стасуюцца зь дзеяньнем паэмы, маюць у творы мастацкае значэньне, бо сваёй сьвежасьцю і народным рэалізмам яны робяць больш разнастайным сумны сюжэт дастаткова вялікае паэмы.

* * *

Разглядаючы баляды Зана, што маюць пэўнае значэньне ў разьвіцьці гэтага жанру ў Польшчы, мы ня будзем спыняцца на перакладах замежных балядаў, дакладней, на іх перапрацоўках, бо яны ня маюць мясцовых фальклёрных элемэнтаў. Адзначым толькі, што баляды “Нярына” і “Нярыс”, якія належаць да неарыгінальных твораў, сваім тытулам, а таксама і імем гераіні абавязаны старалітоўскай назьве рэчкі Вілія — Нярыс[49]. Больш за тое, у балядзе “Нярыс” дзеяньне перанесена ў казачныя часы Вайдэвуты, аднак літоўскіх рысаў, тым больш народных, у творы мы не знаходзім[50].

Першаю арыгінальнаю балядаю Зана лічыцца “Бэкеш”, уключаны ў IV песьню “Табакеркі”. У Архіве філяматаў IV песьня “Табакеркі” не захавалася, затое з тэкстам баляды мы можам пазнаёміцца па машынапіснай копіі паэмы, што цалкам зьбераглася ў Архіве таварыства сяброў навук у Вільні. Зьмест баляды заснаваны на народным паданьні пра Бэкешаву гару ў Вільні, што знаходзіцца ля рэчкі

Віленка. Назва гары паходзіць ад прозьвішча Каспара Бэкеша, вугорскага рыцара, які адважна змагаўся ў войску Сьцяпана Батуры, а пасьля сьмерці знайшоў сабе месца на вяршыні прыгаданае гары, бо не маглі яго, як антытрынітара, пахаваць на могілках[51]. Тымчасам фантазія люду зусім інакш падала сьмерць Бэкеша. У балядзе Зана Бэкеш тройчы ўзьбіраецца на кані на стромкую гару, каб атрымаць прыхільнасьць каханкі, да якое “z rozlicznej strony // Biegły tysiączne swatania”. Вось чаму, выклікаючы ўсеагульнае зьдзіўленьне сваёй незвычайнаю адвагаю, рыцар двойчы ўзьбіраецца на гару і шчасьліва спускаецца назад. Аднак на трэці раз, зьяжджаючы зь вяршыні гары:

Koń na łeb pada, i Bekiesz zleci,
Kark skręcił, szyszak w podal odleci,
Swą rycerz krwią piasek broczy,
Bo koń co swej zgubie radził
W łeb mu podkowę zasadził.

Дзяўчына, ня маючы моцы перажыць сьмерць каханага, “Z żałości w rzekę wskoczyła”; пахавалі яе разам з Бэкешам на вяршыні гары.

Такі зьмест наіўнае баляды Зана. Народнае паданьне пра Бэкеша падаў Ю.І.Крашэўскі ў сваёй гісторыі Вільні[52], а пасьля, літаратурна апрацаваўшы, яго паўтарыў д-р. Ул. Загорскі ў “Віленскіх легендах”. У гэтай вэрсіі Бэкеш не дзеля каханкі, а з-за ўласных фантазіяў часта конна ўзьбіраўся на вяршыню гары і тою ж самаю дарогаю зьяжджаў назад. Пэўнага разу, калі, як звычайна, спускаўся з гары, конь спаткнуўся і разам зь бясстрашным вершнікам зваліўся ў Віленку. Бэкеша, што загінуў на месцы, пахавалі на вяршыні гары, якую з таго часу пачалі называць Бэкешаваю.

Паміж прыведзенай вэрсіяй паданьня пра Бэкеша і балядай Зана маюцца, як бачым, значныя адрозьненьні. Перадусім, прычына, з-за якое герой узьбіраецца на гару, у балядзе Зана іншая, чым у народным паданьні. Ці гэтае несупадзеньне паходзіць ад іншых вэрсіяў паданьня Бэкеша, цяжка сказаць нешта канкрэтнае, бо адсутнічаюць

іншыя вэрсіі. Ва ўсялякім разе, вядома, што паэт, падаючы такім чынам зьмест баляды, меў пэўнае фальклёрнае абгрунтаваньне. М.Дунаюўна дапускае, што трохразовае ўзыходжаньне на гару ў гонар матулі, бацькі ды каханкі паходзіць з паданьня, бо ў гэтай жа форме яно выступае і ў балядзе Гераніма Марцінкевіча “Бэкешава гара”, зьмешчанай у “Rubonie” ў 1846 годзе[53]. З другога боку, дзеля разуменьня гэтае праблемы добра можа дапамагчы Чачот, які, як мы ведаем, таксама напісаў баляду пад такім жа тытулам. Дык вось у балядзе Чачота рыцар таксама ўзьбіраецца на гару, праўда, толькі адзін раз, а не тройчы, з мэтаю атрымаць руку каханае, бо ейны бацька, усемагутны ваявода, паставіў такую ўмову перад залётнікамі. Ваявода прыйшоў да такое думкі пад уплывам памятнае зь дзяцінства народнае казкі, у якой тры браты, двое разумных, а трэці дурны, вырашылі ўзьлезьці на вяршыню шкляное гары да зачараванае каралеўны, і, вядома, шчасьце спрыяла дурному. Зазначаючы, што матыў узыходжаньня рыцара на гару дзеля заваяваньня каханкі ён запазычыў з народнае казкі пра шкляную гару, Чачот тым самым часткова пярэчыў існаваньню гэтага матыву ў паданьні пра Бэкеша. Таму магчыма, што і баляда Зана атрымала той матыў з казкі пра шкляную гару ці то з падобных казак, якія, як убачым пры разглядзе баляды Чачота, шырока распаўсюджаныя на Беларусі. Дабрахвотная сьмерць дзяўчыны, а таксама пахаваньне іх у агульнай магіле маглі, як дапускае М.Дунаюўна, прыйсьці зь іншых народных паданьняў альбо з прыгожага пісьменства, дзе гэты матыў часта выкарыстоўваўся[54].

У балядзе “Твардоўскі” паэт выкарыстаў народнае паданьне пра слыннага чарнакніжніка, які выступае пад такім прозьвішчам, аднак у выкладаньні тэмы і ў апрацоўцы дэталей ён значна адышоў ад фабулы паданьня. Ужо сам вобраз рыцара, у душы якога ідзе барацьба між палкім каханьнем і голасам сумленьня, моцна розьніцца ад Твардоўскага з паданьня, бесклапотнага гулякі-шляхціца, што любіць вытварыць добрую штуку. Таксама і прычына, з-за якое Твардоўскі прадае сваю душу д’яблу, ня мае нічога

агульнага з народным паданьнем. У творы Зана бедны рыцар кахае багатую князёўну і, ня маючы магчымасьці ажаніцца зь ёю, пакуль сам ня стане багатыром, выходзіць ноччу на расстайныя дарогі ды заключае дамову з д'яблам. Падобную сытуацыю мы знаходзім у іншай балядзе Зана, у "Сьвіцязь-возеры", дзе бедны хлопец, ня маючы магчымасьці ўзяць шлюб з багатаю паненкаю, пакуль не набудзе маёнтак, ідзе на крывавае злачынства і дасягае свае мэты. Гэты матыў паходзіць, як хутка ўбачым, з паданьня, на якім заснавана "Сьвіцязь-возера", а таму ён мог трапіць таксама і ў "Твардоўскага" з тае ж самае народнае крыніцы. Дарэчы, варта прыгадаць, што падобнае выкарыстаньне матываў характэрнае для балядаў Зана і, як неўзабаве пераканаемся, выступае яно шмат разоў[55].

Іншы матыў, якога не сустрэнеш у цыкле паданьняў пра Твардоўскага, гэта матыў бацькі-нябожчыка, што падымаецца з магілы і стараецца адвесьці сына ад намеру заключыць дамову зь пеклам. Падобнае паэт выкарыстаў і ў балядзе "Нярыс", дзе маці-нябожчыца з таго сьвету прарочыць сваёй дачцэ[56]. Матыў умяшаньня духу бацькі ў балядзе Зана паходзіць, як, зрэшты, лічыць М.Дунаюўна, ад прымхаў беларускага люду, у якіх нябожчыца маці ці бацька часта выходзяць з магілы, каб падтрымаць сваіх дзяцей парадамі альбо даць ім перасьцярогу[57]. Выкраданьне Твардоўскім каханкі, а таксама начная язда сярод жудасных прадчуваньняў яскрава нагадваюць аналягічную сытуацыю ў "Нярыне" і ў народных вэрсіях цыклу пра Леанору[58]. Нарэшце, матыў кабеты зь дзіцем, якіх Твардоўскі сустракае ў дарозе ды забірае ў сваю каляску, таксама належыць да невядомых народнаму паданьню пра Твардоўскага[59].

У іншых дэталях твор Зана дастаткова дакладна перадае паданьне. Матыў продажу душы д'яблу пры ўмове, што ён будзе служыць Твардоўскаму ды выконваць усе ягоныя задачы, пакуль Твардоўскі дабрахвотна ня зьявіцца ў Рыме, дзе яго паводле ўмовы схопяць д'яблы, паходзіць наўпрост з паданьня. Пабудова д'ябламі на працягу аднае начы пышнага замку, зазабліваньне Твардоўскага

пры дапамозе падману ў Раманава ці Новы Рым, засланеньне ад д’яблу малым дзіцем, матыў рыцарскага слова, урэшце, ажыўленьне намаляванага на сьцяне каня,— усё гэта належыць да вядомых дэталей з паданьняў, дастаткова дакладна ўплеценых паэтам у свой твор[60]. Таксама і ў адлюстраваньні лёсу Твардоўскага заўважаецца адпаведнасьць баляды народнаму паданьню. Твардоўскі стаў у пекле брамнікам, бо, калі яго несьлі над Рымам, людзі маліліся. Шматлікія вэрсіі паданьня гавораць, што Твардоўскі ў часе сваe паветранае вандроўкі пачаў сьпяваць малітвы да Прачыстае Панны Марыі, якія складаў у маладосьці; за гэта пакінулі яго ля брамы пекла, дзе ён мусіць чакаць Страшнага Суду[61].

Апрача гэтага, знаходзім у балядзе Зана колькі іншых, больш дробных матываў, зачэрпнутых з фальклёру. У сцэне выкліканьня злых духаў Твардоўскім паэт між іншым гаворыць:

Tak nieważąc imię Boże,
Twardowski zwał czarne duchy
Tam, gdzie poczwórne rozdroże
Wiodło przez las ciemny, głuchy.

Люд таксама лічыць, што толькі на скрыжаваньні дзьвюх дарог можна выклікаць злога духа; вось што пра гэта чытаем у Федароўскага: “Каб выклікаць д’ябла, належыць у які-небудзь чацьвер перад поўначчу стаць на крыжовых дарогах, а як прыйдзе поўнач, тройчы сьвіснуць, дык чорт абавязкова прыляціць”[62]. Зьяўленьне добрага духу ў вобліку голуба, што ўзьнімаецца над галавою Твардоўскага ды заклікае яго апамятацца, а таксама злых духаў у постацях чорных крукаў,— належыць да распаўсюджаных у народных прымхах[63].

Баляда Зана, заснаваная на паданьнях пра Твардоўскага, паданьнях спрадвечна польскіх, толькі ў дробных ды нешматлікіх дэталях зьвязана зь беларускім фальклёрам. Наадварот, дзьве наступныя баляды — “Сьвіцязь-возера” і “Цыганка” — цалкам абавязаны сваёй задумаю беларускай народнай творчасьці.

Баляда “Сьвіцязь-возера” ўзьнікла на аснове народна-

га паданьня пра забойства купца бедным хлопцам, які, завалодаўшы купцовым набыткам, мае магчымасьць узяць шлюб з багатаю паненкаю. За злачынства праз пэўную колькасьць гадоў, а яна ў адрозных вэрсіях неаднолькавая, Пан Бог пасылае кару на ўвесь горад і залівае яго вадою. Гэтае паданьне належыць да найбольш распаўсюджаных на тэрыторыі этнаграфічнае Беларусі. Знаходзім яго ў Федароўскага[64], Я.Карловіча (у двух варыянтах)[65], Я. Раманава (у двух варыянтах)[66], пра адну вэрсію, зьвязаную з возерам Сьвіцязь, згадвае П.Дземідовіч[67]. У часе маіх пошукаў на Наваградчыне я пераканаўся, што гэтае паданьне мясцовы люд звычайна зьвязвае з возерам Сьвіцязь; можна пра яго пачуць у амаль кожнай вёсцы ў радыюсе 20—30 км ад возера[68]. Нягледзячы на тое, што яго выкарыстаў Чачот, а таксама і Міцкевіч у сваёй славутай балядзе абавязаны яму ідэяю затапленьня гораду, мы ня будзем прыводзіць яго тут, бо чытач лёгка можа пазнаёміцца зь ім у прыгаданых этнаграфічных зборах. Ня будзем таксама падрабязна разглядаць сувязь баляды з народным паданьнем, бо гэта зрабіла ўжо Дунаюўна ў сваёй манаграфіі пра Зана, узяўшы за аснову адну вэрсію, запісаную Федароўскім у Ваўкавыскім павеце. Нам застаецца толькі дапоўніць назіраньні Дунаюўны новымі дэталямі, што паходзяць зь іншых вэрсіяў.

Народнае паданьне паэт перадаў дастаткова дакладна, адно ў дэталях дазволіў сабе ўвесьці пэўныя зьмены. Самаю цікаваю мадыфікацыяю паэта зьяўляецца тое, што пра злачынства Войцеха і зьвязаныя зь ім здарэньні, пададзеныя ўвогуле згодна з паданьнем, мы даведваемся не непасрэдна, а з сну гераіні. Адправіўшы зь нічым Войцеха, бо быў ён бедны, Пракса мае жудасныя сны, якія апавядае пакаёўцы Марце:

— Мне снілася, Марта, ліхое:
Вайцэх на дарог скрыжаваньні,
Дзе слуп, стрэў парою глухою
Купца... Не, былі то не здані...
Кроў бачыла... Чула там крыкі...
— Не бойцеся... Сон дзіўны пані

Чульлівае сэрца параніў.
— Бы нёс ён жмут грошай вялікі...
І крыкнуў скрозь грому раскаты:
“Ты жонка мая: я — багаты!”

**(Пераклад К.Цьвіркі)**

Знаёмства з злачынствам Войцеха з сну Праксы насуперак народнаму паданьню, здаецца, пададзена ў сувязі з характарыстыкай дзяўчыны і ў сувязі зь ейнаю роляю ў творы. Як слушна заўважыла Дунаюўна, характар Праксы ў творы Зана зусім іншы, чым у дзяўчыны з народнага паданьня. Пракса ўсьведамляе зло і саромеецца сваіх словаў, сказаных Войцеху, баючыся, каб яны не падштурхнулі яго на злачынства. Таму і Войцех ня можа адкрыць ёй страшную праўду, як гэта ў паданьні, а тлумачыць, што грошы паходзяць з знойдзенага скарбу (“Дзе ўзяў?.. Скарб знайшоў я...”). Яна паверыла ў сказанае каханкам, выходзіць за яго замуж, спакваля забываючы пра жудасны сон. Гераіня ж народнага паданьня ведае пра злачынства каханка, а ў асобных вэрсіях сама падштурхоўвае хлопца на злачынства, лічачы гэты спосаб здабываньня грошай зусім нармальным.

У залежнасьці ад такое кампазыцыі твору ды характарыстыкі Праксы, паэт зьмясьціў перад шлюбам і адразу пасьля яго дыялёг, што паўтараецца ў паданьні тройчы адразу пасьля злачынства; у тым дыялёгу забіты дамагаецца помсты, а Пан Бог абяцае яму яе праз сто гадоў[69]. Размова забітага купца з Богам пададзена згодна з паданьнем:

— Ты, Божа, таму ягамосьцю
За кроў маю, кату, адпомсьці.
А зь неба адказвае голас:
— Праз дваццаць гадоў ён павінен
Адказ даць... Тады й горад згіне...

У народным паданьні гэтаму адпавядае: “Божа, Божа, памсьціся за маю крыўду!” А Бог адказвае: “Памшчуся, але за сто гадоў!”[70].

Паэт не ўключыў у свой твор сцэну з ксяндзом, бо яна, хоць і маецца ва ўсіх вэрсіях паданьня, ня лучыцца арганічна зь ягоным зьместам; наадварот, ён увёў вобраз пакаёўкі Марты, якой Пракса апавядае свой сон пра злачынства Войцеха. Згодна з паданьнем, урэшце, падаецца сужыцьце Праксы з Войцехам, якое ішло ў шчасьці і памыснасьці, што не заўважылі, як прыйшла гадзіна помсты.

М.Гавалевіч і праф. Уейскі закідалі Зану, што катастрофа Сьвіцязі лягічна не зьвязаная з катастрофаю Войцеха, бо жыхары гораду не вінаватыя[71]. Дунаюўна лічыць, што гэты недахоп трэба аднесьці на рахунак паданьня, на якім заснаваны твор[72]. Але, з другога боку, у вэрсіі, запісанай Федароўскім, і зь якою Дунаюўна параўноўвае баляду Зана, горад будаваўся за крывавыя грошы, і таму ягоная катастрофа там лягічна абгрунтавана. Аднак мы мусім заўважыць, што вэрсія, запісаная Федароўскім, з гэтага пункту гледжаньня ўяўляе выключэньне ў шэрагу разгалінаваных вэрсіяў паданьня, бо іншыя вядомыя нам вэрсіі дружна падаюць, што горад існаваў задоўга да злачынства. Дык прычыны неадпаведнасьці між злачынствам Войцеха і катастрофаю горада мы павінны шукаць толькі ў народным паданьні.

Баляда “Цыганка” лічыцца ўсімі за самы дасканалы твор Зана. Яе просты і нескладаны зьмест заключаецца ў тым, што сірата плача ды сумуе па каханку, якога ўланы забралі на вайну, і, ня маючы моцы дачакацца яго вяртаньня, шукае пацехі ў варажбе цыганкі. Тымчасам уланы вяртаюцца з вайны і нясуць у труне цела забітага Яся, а дзяўчына, ня маючы моцы перажыць сьмерць каханага “самлела... і сканала”. Гэты матыў вельмі часта сустракаем у народных песьнях, а таксама ў мастацкай літаратуры. Аднак дарэмна шукаць у “Цыганцы” якіх-небудзь літаратурных уплываў, бо ўсё тут як зьмест, так і форма — наскрозь фальклёрнае. Паэт заснаваў зьмест баляды на распаўсюджанай у Беларусі народнай песьні, у якой гаворыцца пра тое, як жонка альбо сястра (радзей каханка) марна сумуе ды чакае вяртаньня з вайны свайго мілага. Урэшце, доўгачаканы вяртаецца, але, на жаль, нежывы. І гэты

апошні матыў народнае песьні выразна нагадвае аналягічны фрагмэнт у “Цыганцы”. Уланы, што вяртаюцца з вайны, нясуць цела забітага Яся, а за жалобным почтам ідуць “сваякі, бацькі, сёстры ды плачкі”:

Ах, і бацька, і маці
Там аплакваюць сына!
Цёмна стала ўсё ў хаце,
І нявеста-дзяўчына
Тут без памяці ўпала
І ад гора сканала.

Падобная сытуацыя і ў народнай песьні, у якой вязуць цела забітага на вайне юнака:

Коні стогнуць, цело везучы,
Чаляднікі плачуць пры боку йдучы,
Харцікі скогляць за ім бегучы,
Саколікі сьвішчуць над ім лецячы[73].

Найбольшую сувязь з народнаю песьняю маюць наступныя радкі баляды:

Josiu! Sławny mołojcze,
Tobie królować było!
Dwa zbiłeś wojska zbójcze,
A ciebie trzecie zbiło.

Гэтым словам адпавядае ў народнай песьні:

Ці ня твой брат,
Што тры войскі ўбіў,
А за чацьвёртым галаву палажыў...[74]

Таксама і настрой баляды хутчэй адпавядае народнай песьні, чым казцы альбо паданьню. У апошніх звычайна пераважае таямнічасьць і пануры тон, у песьні ж, наадварот, рэдка дзеецца нешта звышістотнае, яна, папраўдзе, тужлівая, але лагодная. Тое ж самае мы бачым у “Цыганцы”, у якой у адрозьненьне ад іншых балядаў Зана, адсутнічаюць звышістотныя здарэньні, няма панурага настрою,

пераважае ў ёй лёгкі ды лагодны смутак, які не азмрачае нават сьмерць абодвух каханкаў.

Сцэна чараў цыганкі, што нагадвае аналягічны фрагмэнт ва "Уцёках" Міцкевіча, заснавана на народных таемствах. Цыганка "У ваду яйка (...) таямніча ўбівае" ды паказвае дзяўчыне прывід каханка, які вяртаецца з вайны. Падобны спосаб чараў практыкуюць на Наваградчыне: "Цыганка наліе поўную шклянку вады і ўкіне туды два яйкі, і там ёй у вадзе пакажацца той, каго яна хоча бачыць"[75].

Народнасьць баляды дасягае найбольшага выяўленьня ў стылі і ў мове. Простыя выразы і звароты, зачэрпнутыя з народнае песьні ды гаворкі, надаюць твору выключную рэалістычную адзнаку і шмат прывабнасьці. Слушна заўважыў Гавалевіч, што "яна робіць уражаньне, нібыта яе, расказаную ці прасьпяваную пры кудзелі, без усялякіх прэтэнзій на цудоўную форму і друк, наўпрост занатавалі на вячорках з вуснаў вясковае дзяўчыны"[76]. У балядзе шмат такіх параўнаньняў, як "малако з крывёю твой твар", "лён, не валасы, у касе", якія ахвотна выкарыстоўвае народная песьня. У народным стылі зьвяртаецца цыганка да дзяўчыны, называючы яе "мая лілея!", "галубка!", "зязюлька!", а таксама сяміскладовы верш "Цыганкі", блізкі да народнае песьні. У балядзе раіцца ад правінцыйных выразаў ды зваротаў, зачэрпнутых з мовы беларускага люду, напрыклад, "krupki w przypołeczky", "okrajczyk chleba", "Niesione ułanami" і шэраг іншых, пра якія скажам пазьней.

Народныя элемэнты адыгралі важную ролю ў творах Зана, надалі ім своеасаблівую да арыгінальную афарбоўку, а таксама павялічылі іхную мастацкую вартасьць. Хоць гэтыя творы стаяць недалёка адзін ад аднаго, бо ўзьніклі на працягу двух гадоў, але спосаб трактоўкі ды апрацоўкі ў іх народнага элементу падпаў значнай эвалюцыі. Пачаў паэт з малюнкаў вясковага жыцьця ды звычаяў, што ён уключыў у "Табакерку", а таксама ў баляду "Бэкеш", у якіх дастаткова рэалістычна, але яшчэ даволі наіўна былі выкарыстаныя фальклёрныя матывы. "Твардоўскі" вытрыманы ў панурым і грозным настроі, у зьмесьце яго шмат літаратурных уставак, а імкненьне паэта да элегантнае формы значна аддаліла гэты твор ад народнае прастаты.

Баляда “Сьвіцязь-возера” — гэта ўжо значны крок наперад. Тут бачым дастаткова ўмелае выкарыстаньне сюжэту паданьня як у разьвіцьці дзеяньня, якое даволі кампактнае ды празрыстае (нягледзячы нават на згаданую неадпаведнасьць між злачынствам і пакараньнем), так і ў стылі, значна набліжаным да народнага. Балядны даробак Зана завяршае, нарэшце, “Цыганка”, якая зьяўляецца вяршыняю намаганьняў паэтаў вобласьці выкарыстаньня народнага элемэнту.

Пасьля выезду Зана зь Вільні народная мэлёдыя ўжо болей не загучыць у ягонай творчасьці, як увогуле і ягоная літаратурная праца скароціцца да мінімуму. Рэха народнае песьні знаходзім адно толькі ў двух напісаных на выгнаньні вершах, якія захаваліся ў рукапісах і ў машынапіснай копіі ў Архіве Таварыства сяброў навук у Вільні. Гэта песьня “Мінчук”, напісаная ў 1836 г., ды верш “Сабіраемся з-над Урала на Літву”, напісаны ў Арэнбургу 22 жніўня 1838 г. Як Чачот свае песенькі для Зосі Малеўскае пісаў на мэлёдыі народных песьняў, так і Зан пазначыць у падтытуле “Мінчука”: “на мэлёдыю “Мікіта, чы ты та?”, насьледуючы рытміку і памер вершу гэтае песьні. Песьню запомніў паэт праўдападобна яшчэ ў часе свайго побыту ў менскай школе, бо ў ямбе на імяніны Петрашкевіча, якія сьвяткавалі філяматы 30 мая 1819 г., называе яе “менскаю”:

W nieznanym wam tańczyku pokażę się solo.
Oto wam potańcuję mińskiego Mikita.

Гэта вядомая беларуская песенька вясёлага зьместу, якую сьпяваюць у такт народнага танца; першая страфа гучыць так:

Мікіта! Ці ты та?
Не я то, мой тата.
Мікіціха дзяжу месіць,
А Мікіта ж...у чэшыць[77].

Верш “Сабіраемся з-над Урала на Літву” мае заўвагу: “на мэлёдыю “Антон казу вядзець, шык, пык, каза ня йдзець”. Гэта два радкі папулярнае народнае песьні, якая пачынаецца з словаў:

Антон казу вядзець,
Тпруць-тпруць, каза ня йдзець...[78]

* * *

Амаль усе філяматы ахвотна ўжывалі правінцыйныя словы, запазычаныя зь беларускіх народных гаворак як у мове штодзённай (пра гэта сьведчыць іхная прыватная карэспандэнцыя), так і ў літаратурнай. Сярод філямацкіх паэтаў беларускія правінцыялізмы бадай найбольш сустракаюцца ў мове Зана, ён ахвотна ўводзіць іх ня толькі ў напісаныя дзеля філямацкіх урачыстасьцяў вершы, але таксама і ў творы, прызначаныя дзеля друку, як, напрыклад, у “Цыганку”. Аднак між гэтымі групамі твораў маюцца, з пункту гледжаньня мовы, значныя адрозьненьні. Калі ў творах на выпадак (okolicznościowych) знойдзем пэўную колькасьць словаў і нават цэлых беларускіх сказаў, ужытых у іх першасным гучаньні, напрыклад, “Czem chata *bohata*, tem ci *budzieć* rada” (P.F. T. II. S.36)[79]. “Przyjm to *ni sioje ni toje*” (P.F. T. I. S. 314), “*Da nie durej Wasza*” (P.F. T. II. S. 217) і шмат іншых, дык у творах прызначаных дзеля друку, ён стараўся ўжываць беларускія словы паводле польскіх фанэтычных і марфалягічных формаў.

У гэтай частцы, падобна як і ў іншых, прысьвечаных мове асобных паэтаў, мы зьвернем увагу толькі на самыя істотныя правінцыялізмы, сувязь якіх зь беларушчынаю бяссумнеўная. Да такіх правінцыялізмаў у галіне марфалёгіі можна аднесьці форму роднага склону адз. л. назоўніка *stół*, што заканчваецца на *-a* замест *-u*: “Trzy razy chodząć wkrąg *stoła*” (P.F. T. I. S. 299), “wśród *stoła*” (Ibidem. T. II. S. 8). Гэтай форме, якая вельмі часта сустракаецца ў Міцкевіча, адпавядае ў беларускай мове форма *стала*. Родны склон адз. л. назоўніка *duch* мае канчатак *-u* замест звычайнага канчатка *-a*: “*Wsadził* w nos proszku, mnie *duchu* niema” (“Табакерка” — машынапісная копія ў т-ве Сяброў Навук), “Inni dwa ciała bez *duchu* wnoszą“ (“Бэкеш”). Таксама ў беларускай мове, напр.: “Ены зноў як без *духу* папрыбегалі да палацу” (Federowski M. T. I. S. 127).

Назоўнік жаночага роду *kieszeń* Зан ужывае паводле скланеньня назоўнікаў жаночага роду, якія заканчваюцца на галосную *-a*: “Łeb pusty, w oczah mglisto i chuda kieszenia”

(P.F. T. II. S. 72). Такую ж форму мае гэты назоўнік у беларускай мове: "Усадзіў той нож ёй у *кішаню*, дый пабег" (Federowski M. Lud biał. T. II. S. 116).

Дзеяслоў *tupać* мае ў Зана форму 3-е асобы адз. л. цяперашняга часу абвеснага ладу *tupa* замест *tupie*: "Koń przy stosie rże i tupa" (P.F. T. I. S. 297). У беларускай мове гэтаму адпавядае форма *тупае*. Уласьцівую беларускай мове форму загаднага ладу надае паэт дзеяслову "*podjąć*": "Ej, *padymi*, *padymi*, nu" (P.F. T. I. S. 289).

Прыметнік *tani* выступае як *tanny*: "Bardzo tanny" (P.F. T. I. S. 234), "zdało się, że tanne" (Ibidem. S. 261), "ale pirog tanny" (Ibidem. S. 271). Такую ж форму сустракаем двойчы ў карэспандэнцыі Чачота: "Nie sama tanność albo chęć posiadania wszystkiego" (Arch. Fil. T. IV. S. 67), można kupić tanno" (Ibidem. S. 68). Гэта беларуская форма[80], якая ўласьцівая таксама і мове Яна Ходзькі[81].

Да беларускіх правінцыялізмаў належыць таксама залічыць асобныя назоўнікі, якія маюць іншы род, чым у агульнапольскай мове. Вось назоўнік *białko* ўжывае Зан у мужчынскім родзе: "Ta jajko bije, pawi. // Białek w wodzie" ("Цыганка"). Па-беларуску паўсюль ужываецца "бялок" як назоўнік мужчынскага роду (В.Ластоўскі. С. 49). Назоўнік жаночага роду *paczka* мае ў Зана мужчынскі род: "*paczek* krzykliwy" (P.F. T. II. S. 99). Падобнае і ў карэспандэнцыі Зана: "Przyniosł wczora paczek jakichś medykamentów" (Arch. Fil. T. I. S. 185). У беларушчыне адпавядае гэтаму "пачак". Назоўнік жа *pasek*, што ўжываецца ў агульнапольскай мове ў мужчынскім родзе, мае ў Зана жаночы род, як і ў беларускай мове: "strokatą paską wskazał rozmiary" (P.F. T. I. S. 297).

Да яўных правінцыялізмаў у вобласьці сынтаксу належыць аднесьці сказ у "Цыганцы": "mary // *Niesione ułanami*" замест "przez ułanów". Гэта тыпова беларускі сынтакс, які сяды-тады ўласьцівы і Яну Ходзьку[82]. Таксама беларускаю асаблівасьцю сынтаксу ёсьць ўжываньне інфінітыву пасьля дзеясловаў, выкарыстаных замест залежных сказаў: "piękną postrzegli // I... i... i... ją, ehe, *pocałować biegli*" (P.F. T. II. S. 181), "Ja będę tak głupiasty wszystkie twe pochwały *wyliczać* i *zajmować* arkusz jambów cały?" (Ibidem.), Liczni *zbierają się* krewni małżeńskie śluby *skojarzyć* ("Сьвіцязь-возера"). Падобнае

знаходзім і ў карэспандэнцыі Зана, напр.: “w zagniewaniu *nie* kazała posłańcowi, ktory pozawczora był w Wilnie, do mnie *zachodzić* po rozdziałek” (Arch. Fil. T. IV. S. 358), “słaba ręka próżno *się wysila zwyciężyć* zapęd gorączności i gniewu” (Ibidem. S. 380). Больш падрабязна спынімся на гэтай канструкцыі ў разьдзеле пра сынтакс Міцкевіча. Урэшце, як яўны беларускі правінцыялізм, што часта таксама выступае ў Міцкевіча, належыць назваць выкарыстаньне непераходнага дзеяслову *wiedzieć* як пераходнага: “Wie koło brzucha chodzić“ (P.F. T. II. S. 118).

Аднак найбольш беларускіх правінцыялізмаў у слоўніку Зана:

*busi* — pocałunek: “Z jednej strony od busiów zemknie dziewka pusta” (P.F. T. II. S. 121.), “Nie lubisz, że ci lica przed *busiem* umyka” (Ibidem. S. 122). Падобнае і ў карэспандэнцыі Зана: “w rączkę *buś*“ (Arch. Fil. T. II. S. 216). Гэта беларускае слова, якое ўжываецца амаль выключна ў дзіцячым жаргоне і зусім не скланяецца[83]. Вельмі часта выкарыстоўвае яго Чачот, а таксама Міцкевіч.

*charoszy* — piękny, przystojny: “*charoszy* urodą” (P.F. T. I. S. 249). Слова беларускае, напр.: “які елень *харошы*” (Fed. T. II. S. 65).

*chwost* — ogon: “Spuszcza drzewa, lecz *chwostem* jeszcze wbija pale” (P.F. T. II. S. 127). Беларусізм, што выкарыстоўваецца ўсімі філяматкімі паэтамі. Напр.: “ а бычок, як пойдзе па шкодзе, задзёршы *хвост* дагары” (Fed. T. II. S. 49).

*cieciorka* — cietrzew: “Nie zabiliśmy w puszczach *cieciorky*” (P.F. T. II. S. 35). Таксама ў беларускай мове: “Да цераз мой двор зялёненькі ляцела *цяцера*” (народная песьня).

*duch* — dech: “Wsadził w nos proszku, mnie *duchu* niema” (“Табакерка” — машынапісная копія), “Inni dwa ciała bez *duchu* wnoszą“ (“Бэкеш”). Назоўнік *duch* у значэньні *dech*, *tchu* характэрны ня толькі для Зана, але таксама і для Міцкевіча. Дастаткова частае ўжываньне гэтага слова паэтамі, якія паходзяць зь Беларусі, дазваляе дапусьціць, што гэта правінцыялізм, бо ў беларушчыне ён выкарыстоўваецца паўсюль у гэтым значэньні. Напр.: “Карону кінуў, а сам чуць з *духам* да хаты прыбег” (Fed. T. I. S. 127), “А чорт ня можа вымавіць ні слова, бо яму дух забіло” (Ibidem. S. 228).

*ham*: “Jamba nie łatwo pochwycić // Na jakiś łyk i na *ham*!”

(P.F. T. II. S. 284). Гэта беларускі выклічнік, які азначае “зьесьці”; выкарыстоўваецца ён пераважна ў дзіцячым жаргоне.

*hałubczyk* — gołąbeczek: “O Janie, Janie, Janie, mój ty *hałubczyku*” (P.F. T. II. S. 115 i 120). Як слова, так і форма беларускія, напр.: “Ой, вы *галубчыкі*, ой, вы сівенькие” (Романов Е. Мат. Т. II. С. 134).

*hlaczek*: “W *hlaczku* Królawskie wino” (P.F. T. II. S. 92). Гэта беларускае слова, памяншальнае ад “*гляк*”; звычайна азначае гліняны посуд з вузкім рыльцам, напр.: “Купіў мужык вёдро, жонка кажа: *гляк*” (Романов Е. Мат. Т. II. С. 328). Параўнай: Walicki A. “Błędy nasze”.

*hojdy* — huśtanie: “Wyrył *hojdy* na gałęzi” (P.F. T. I. S. 300). У адным лісьце Зан піша: “Ich dzieci, piękność i moc, *hojdać* będą ziemię wolnością i szczęściem” (Arch. Fil. T. V. S. 369). У беларускай мове слова “*гойды*” мы не сустракалі, аднак часта ўжываецца назоўнік “*гойдаўка*” — “huśtawka” і дзеяслоў “*гойдаць*” — “huśtac” (“Слоўнік” В.Ластоўскага. С.253, 270 і Walicki A. “Błędy nasze”). У Федароўскага знаходзім яго як зваротны дзеяслоў: “Чорт седае на назе і гойдаецься” (T. I. S. 309). Тадэвуш Мікульскі прысьвяціў гэтаму дзеяслову асобны матэрыял у № 2 “Języka Polskiego” за 1932 г.

*hubliwy* — gibliwy, той, што калыхаецца: “*Hubliwa* sroka u płota” (P.F. T. I. S. 302). У беларускай мове мы адно знайшлі дзеяслоў “*гібаць*” — гнуць, згінаць, калыхаць (Ластоўскі В. С. 124).

*każan* — nietoperz: “Patrzą *karzany*, gdzie siedzą sowy” (P.F. T. I. S. 292), Cóż pocznę? Próżno zmorzę *kożany*” (“Табакерка” — машынапісная копія. T. III), “Jak w złe *kożany* uprzęży” (Ibidem), “Drzemlin krzyknął: Wiwat, panie! I żywo bił po *kożanie*” (Ibidem). Слова беларускае, напр.: “Улетку вечарам, як кажаны лятаюць, то ня можна па надворку хадзіць з голаю галавою” (Fed. T. I. S. 292).

*kolosa* — аднаконны сялянскі воз: “Gdy baba z *kolosy*, będzie lżey *kolosie*” (P.F. T. I. S. 262). Беларусізм. Параўнай: Walicki A. “Błędy nasze”.

*kostra* — paździerze: “Wyprostował krzywizny i wutrzepał *kostry*” (P.F. T. II. S. 37). У карэспандэнцыі А.Петрашкевіча знаходзім гэтае слова ў іншай форме: “Niewiele w niej pyłu i

*kostrzycy*" (Arch. Fil. T. III. S. 305). У беларускай мове ў гэтым значэньні ўжываецца звычайна паралельна "*кастра*" і "*кастрыца*" ("Словарь" І.Насовіча). Таксама выкарыстоўвае гэта слова і Ян Ходзька[84].

*kosy* — ukośny, krzywy: "Kiedy mieszczanie krok czynią *kosy* // Z pijanych jarmarków, ziemię ryją nosy" ("Табакерка"). Правінцыялізм, напр.: "*Косы* заяц, *косы* заяц на прыпечку граець" (Шейн П. Бел. нар. песни. С. 313). Параўнай: Walicki A. "Błędy nasze".

*kóżelny*: "Tam swat, odziany w płótno *kóżelny* (P.F. T. I. S. 298). Гэты прыметнік, утвораны ад беларускага назоўніка "*кужаль*", што азначае самы лепшы гатунак саматканага палатна. Напр.: "Дала ёй повесьмо *кужалю*, штоб спрала і саткала" (Романов Е. Бел. сб. Т. III. С. 289).

*kraska* — kwiat: "Przed nimby żadney *kraski* człowiek nie wyszukał" (P.F. T. II. S. 125). Беларусізм, напр.: "А мілые мае *краскі*! Мне вас ні шчыпаці" (Шейн П. Бел. нар. песни. С. 747).

*krzykun*: "A krzyki ż jego, krzyki! Ach wszystkie *krzykny*" (P.F. T. II. S. 100). Правінцыялізм, што адпавядае беларускаму "*крыкун*", азначае таго, хто крычыць ("Словарь" І.Насовіча).

*nacie* — weźcie, bierzcie: "*Nacie* sznurek z włosami" (P.F. T. II. S. 179). Слова ў гэтым значэньні ўжываецца ў беларускай мове, прычым, калі зьвяртаюцца да аднае асобы, гавораць "*на*", калі ж да дзьвюх і болей — "*наце*", напр.: "А мой сыночак! Яно заходзілосе, яно есткі хоча: *на*, зьеш крышку" (Federowski M. T. I. S. 113), "*На*, еш, парху! (Ibidem. T. II. S. 191), "*Наце*, паднясеця, калі ласка" (Ibidem. T. II. S. 234), "*Наце*, крышачку ўкусеце то сего, то того" (Ibidem. S. 229). Праўда, гэтае слова сустракаецца таксама і ў польскай мове, але пераважна ў народных гаворках. Тымчасам у творчасьці паэтаў, якія паходзяць зь Беларусі, сустракаецца яно, як убачым, дастаткова часта; таму можна зрабіць выснову, што на той тэрыторыі — гэта правінцыялізм. "Słownik Polskie" падае "*na*" як слова агульнапольскае, а "*nacie*" — як дыялектнае.

*nacisk* — natłok: "Patrzy, że wszystko w *nacisku* leży, jak na pobojowisku" (P.F. T. I. S. 303). Такое значэньне мае гэтае слова звычайна ў беларускай мове ("Словарь" І.Насовіча).

*nadtaczać*: "*Nadtaczamy*, jak możem, Adama niebycie" (P.F.

T. II. S. 216). Гэтае слова азначае ў беларускай мове амаль тое ж самае, што і “*падоўжыць*”, “*дадаваць*”, напр.: “Людзі тое толькі і робляць, што падрэзваюць адных да *надтачваюць* другіх” (Сержпутоўскі А. Казкі. С. 159), “Спушчалі, спушчалі — пасоў не хваціло. Сталі *надтачваць*” (Шейн П. Мат. Т. II. С. 99).

*nawda* — korzyść, zysk: “Kpić z mego stara głowa — to niewielka *nawda*” (P.F. T. I. S. 236). Слова беларускае, напр.: “Ніякае *наўды* ня меў я, харчуючы яго” (“Слоўнік” В.Ластоўскага. С. 100).

*nieochajny* — plugawy, nieczysty, nieokrzesany: “Cięży mu grzbiet nieochajny” (P.F. T. I. S. 304). Слова беларускае, напр.: “Ек ён быў *неохайны*, дзе што робіць, то ён гето ўсё ўбрыдзіцьсе і не ачысьціць каптана свайго” (Klich E. Teksty białoruskie z pow. Nowogródzkiego. S. 49).

*niuch, niuchina*: “Czteropalczaste *niuchy* w nos mierzy” (P.F. T. I. S. 305), “A *niuchny* w nos pakując” (Ibidem. T. II. S. 38), “By dla krzywego nosa użyczył *niuchiny*” (Ibidem. S. 182). Як адно, так і другое словы азначае ў беларускай мове “шчопаць табакі”, напр.: “*Нюху* табакі пожалев” (“Словарь” І.Насовіча).

*nu* — no: “*Nu*, cymbała lub giterę“ (P.F. T. I. S. 313), “*Nu*, hej, bracia, od rymów, *nu*, bracia, do wierszu!” (Ibidem. T. II. S. 123). Падобнае і ў карэспандэнцыі: Śpiewaj! *Nu*, śpiewaj” (Arch. Fil. T. I. S. 366), “*Nu*, stoj staruszka” (Ibidem. T. III. S. 269). Гэта беларускі правінцыялізм, напр.: “*Ну*, то што?” (Federowski M. T. III. S. 190), “*Ну*, падарожнаму чалавеку ўсё можна” (Ibidem. S. 191).

*nucie*: “*Nucie*, *nucie*, każdy swoje” (P.F. T. I. S. 314). Беларусізм, напр.: “Да *нуце*, сваты, прыберайцеся, паедзем” (Дмитриев М. Собрание песень. С. 201), “*Нуце*, валэ, *нуце* ў поле” (Klich E. Teksty białoruskie. S. 123). Паводле значэньня яму адпавядае польскае “*nuże*”, адно з тою розьніцаю, што “*nucie*” заўсёды адносіцца да назоўніка ў мн. ліку.

*odszpilić* — odpiąć: “Rzecz cała *odszpilić* guziki” (P.F. T. I. S. 264). У гэтым значэньні слова ўжываецца ў беларускай мове. Параўнай: Walicki A. “Błędy nasze”. Выкарыстоўвае яго таксама і Я.Ходзька[85].

*okrajczyk* — okrawek: “*Okrajczyk* chleba” (“Цыганка”). Так і ў беларускай мове, напр.: “А на табе *окрайчык* хлеба” (Романов Е. Бел. сб. Т. III. С. 278).

*oplauszyć* — wypoliczkować, uderzyć: “Gracko Żouryta niegdyś oplauszył“ (P.F. T. II. S. 183). У народных беларускіх гаворках мы сустракалі адно толькі назоўнік “*аплявуха*”: “Схопіш *аплявуху*, аж кроў пойдзе з губы” (Federowski M. T. III. S. 17).

*orud* — засек для захаваньня збожжа: “Śpicie, panowie, a ekonomy // Dziurawią wasze *orudy*” (“Табакерка” — машынапісная копія). Слова беларускае, напр.: “С *оруда* жыта вытрасла” (Дмитриев М. С. 118).

*popiołucha* — дробная табака, сьцёртая ў пыл: “Ten *popiołuchą* wrusza kichanki” (P.F. T. I. S. 303). У гэтым значэньні слова ўжываецца ў беларускай мове.

*poroszek*: “Nie biegaj wnet po *poroszku*, // Jeżeli zechcesz być cał“ (P.F. T. II. S. 290). Памяншальнае слова ад назоўніка “*пароша*”, што азначае “сьвежы сьнег”. Параўнай разьдзел пра мову Чачота.

pośpieć: “Cóż teraz modły pośpieją“ (“Нярына”). Гэта беларускі дзеяслоў, што адпавядае польскаму “zdążyć“, напр.: “Дрова надто сырые былі, то ні *пасьпеў* нагатаваць” (Fed. T. I. S. 133). Аднак часам гэты дзеяслоў мае значэньне “*zdołać*“, г. зн. тое, у якім і ўжыў слова Зан.

*przykasać się* — przyczepić się: “*Przykasał się* niesłusznie, wart rózeg i batów” (P.F. T. I. S. 264). Беларусізм. Надзвычай распаўсюджана беларуская прымаўка: “*Прыкасаўся,* як смала”.

*przypołeczek*: “I krupki w *przypołeczku*” (“Цыганка”). У адным зь лістоў Зан піша: “Wyjmuje z *przypołu* atłasowego i czarnego fant i mówi” (Arch. Fil. T. V. S. 346). Па-беларуску “*прыпол*” (памяншальнае — “*прыпалочак*”) адпавядае вядомаму ў польскіх гаворках слову “*podołek*”, напр.: “Шла дзевушка з поля, // Несла красочкі ў “*прыполе*” (Шейн П. Мат. Т. І. Ч. 2. С. 347).

*rano* — wcześnie: “*Rano* cieszyłem się z życia, // *Rano* się wdzięk mój zaciemia, // *Rano* powab traci ziemia” (“Нярына”). Падобнае і ў карэспандэнцыі Зана: “Jutro jak *najraniej* przynieś do mnie 5 jabłek... Ale przyjdź jak *najraniej*” (Arch. Fil. T. V. S. 358). Прыслоўе *rano* ў значэньні *wcześnie* ёсьць і ў польскай мове, аднак паэты, што паходзілі зь зямлі беларускае, ужывалі яго значна часьцей. Дык можна выказаць меркаваньне, што ў гэтым краі яно зьяўляецца беларускім прав-

інцыялізмам, перадусім, так лічыць Ю.Каленбах у прыпісах да IV тома львоўскага выданьня “Твораў” Міцкевіча (С. 397). У беларускай мове “*рано*” ў значэньні “*wcześnie*” ўжываецца стала, напр.: “Зажурылася Манячка, што *рана* зіма настала (Шейн П. Мат. Т. І. Ч. 2. С. 105), “Да зялёная дубровачка! Чаго *рано* так зашумела... Як жа мне *рано* не шумеці” (Тамсама. Т. І. Ч. 1. С. 247), “Хто *рано* прыбыў, той папіў і паеў, а хто прыпазьніўся, то той ні напіўся” (Klich E. S. 67).

*rozjawić* — rozdziawić, адкрыць рот: “Adamie, *rozjaw* usta” (P.F. T. II. S. 70 і 216), “Wszyscy się *rozjawili*” (Ibidem. S. 143). Беларусізм, напр.: “На чужы каравай рот не разяўляй” (беларуская прыказка), “А бедные бацькі і роты паразьзеўлялі” (Шейн П. Мат. Т. II. С. 173).

*rusy* — ciemnopłowy, ужываецца дзеля азначэньня колеру валасоў: “Ile głów widzi, czarne, kręcone i *ruse*” (P.F. T. II. S. 183), “Z *rusawemi* włosami” (Ibidem. S. 178). Беларусізм, напр.: “*Руса* каса до паяса шоўкам перавіта” (Романов Е. Мат. Т. II. С. 64), “Да мы езьдзім тропой, // Да за *русой* косой” (Шейн П. Мат. Т. II. Ч. 2. С. 124). Тое ж і ў Яна Ходзькі[86].

*wytnąć* — *wytnę*: “Wszechmocny Panie, wiekuisty Boże” (P.F. T. II. S. 184), “Ja *wytnę* dla śmiałośći” (Ibidem. S. 71). *Wytnę* адпавядае беларускай форме “*вытну*”, што паходзіць ад дзеяслова “*выцінаць*”, які часта ўжываецца ў значэньні “*сьпяваць*, *падыгрываць*”, напр.: “А нявеста ідзе зь места, // Гоцы *выцінае*” (Шейн П. Т. І. Ч. 1. С .542), “На скрыпачку *выцінае*, сваю долю праклінае” (Народная песьня, запісаная мною ў Ашмянскім павеце).

*uń*: “*Uń* Adam... *uń* Jan... *uń* Hieronim... *uń* Jeżski... *uń* Onufr... a *uń* tam Tomasz... a *uń* owa... pani Tomaszowa” (P.F. T. II. S. 143) і шэраг іншых прыкладаў. Гэта прыслоўе месца, якое на польскую мову можна прыкладна перакласьці як “*oto tam*”. У беларускай мове яно мае форму “*вунь*”, аднак часам і “*ун*”: “А тож *ун* кум наш недалёка гарэ” (Federowski M. T. II. S. 229), “*Ун* дзе, у коморцы” (Ibidem. T. III. S. 44), і “*унь*”: “Пойдзі, возьмі, унь там ляжыць на возі” (Шейн П. Мат. Т. II. С. 19).

*zabywać* — zapominać: “I o troskach *zabędziemy*” (P.F. T. II. S. 42), “Spraw, niech Likora na mnie *zabywa*” (буколіка “Ад’езд Лікоры”). Беларускі правінцыялізм, напр.: “За даўнейшыя

часы людзі *забылі* Бога" (Сержпутоўскі А. Казкі. С. 61), "Забыла ўзяць серп" (Тамсама. С. 64).

*zaklikać* — zawołać, przywołać: "Kto mię z zamiarem dobrym *zaklicze*" ("Табакерка"). Беларусізм, напр.: "Меня, маці, войско знае, // Як я еду, *заклікае*" (Шейн П. Мат. Т.І. Ч. 1. С. 320).

*zaszpilać* — zapinać, przypinać: "Z tysiąca kwiatów wieniec uplata, // Na wdzięcznem czołe *zaszpila*" ("Кветкі Клосі" — копія ў Архіве Таварыства Сяброў Навук у Вільні), "Jeden na śnieżnym gorsie *zaszpila*" ("Праходка да Маркуць" — тамсама). Дзеяслоў "*зашпіляць*" у значэньні "przypinać, zapinać" агульнаўжывальны ў беларускай мове (Ластоўскі В. С. 202). Тое ж самае ў Яна Ходзькі[87].

*zażenie* — zapędzi: "Pewnie śmierć nagła w grób mnie *zażenie*!" (P.F. T. I. S. 304). Беларусізм, напр.: "Ена *жане* таго бычка і плача" (Federowski M. T. II. S. 48). Падобнае знаходзім у мове Петрашкевіча.

*zieziulka* — kukułka: "*Zieziulko*" ("Цыганка"). Слова беларускае, напр.: "Як *зязюлька* кукуе ў вішнёвым садочку" (Карский Е. Материалы для изучения белорусских говоров. Петербург, 1903. Т. IV. С. 181).

*zyczeć* — wrzeszczeć, wydawać dźwięk: "Lecz krzyczysz i *zyczysz*" (P.F. T. II. S. 181), "I rzodkiew księdza zjadam bez krzyku i *zyku*" (Ibidem. S 182). Гэта беларускія словы: "*зычэць*" адпавядае польскаму "*wreszczeć*", "выдаваць гук", а "*зык*" — "wrzask, dźwięk" (Носович И. С. 222).

Як бачым, Зан ахвотна ўводзіў у сваю літаратурную мову беларускія словы і звароты, жыўцом узятыя з мовы мясцовага люду. У бальшыні выпадкаў паэт надаваў ім польскія фанэтычныя ды марфалягічныя асаблівасьці, хоць часам сям-там стараўся ўжываць іх згодна з вымаўленьнем люду. Сьвядомая афарбоўка літаратурнае мовы шматлікімі беларусізмамі, а з другога боку — выкарыстаньне ў творах фальклёрных матываў, зачэрпнутых з вуснаў мясцовага люду, выдатна сьведчыць, што Зан моцна трымаўся мясцовага рэгіянальнага грунту, што ён быў адным зь першых і адным з самых руплівых прыхільнікаў разьвіцьця бясспрэчна краёвае, правінцыйнае, зьвязанае зь мясцоваю беларушчынаю, літаратуры. Імкнучыся ў асобных балядах выкарыстаць фальклёрную тэматыку так па-

важна, як гэтага вымагала рамантычная эстэтыка, а таксама непасрэдна наблізіцца да народнага рэалізму як зьместам, так і формаю, ён стаў адным зь першых папярэднікаў Міцкевіча на ніве рамантычнае паэзіі.

### Заўвагі

[1] Параўн.: Szyjkowski M. Dzieje polskiego upiora przed wystąpieniem Mickiewicza.— Kraków, 1917; Zdzierski St. Pierwiastek ludowy w poezji polskiej XIX w. W-wa, 1901; Dropiowski W. Pierwsze ślady zajęcia się twórczością w literaturze polskiej XIX w. // Sprawozdanie Gimnazjum w Rzeszowie. 1900.

[2] Zdzierski St. Op. cit.— S. 4.

[3] Ibidem.— S. 5.

[4] Augustajtis Fr. Pierwiastki litewskie we wczesnym romantyzmie polskim.— Kraków, 1911.— S. 24.

[5] Kossowski St. Brodzinskiego tłumaczenia pieśni ludowych.— Lwów, 1906.— S. 5.

[6] Szyjkowski M. Op. cit.— S. 63.

[7] Odyniec A.E. Wspomienia z przeszłości.— W-wa, 1884.— S. 152.

[8] Пыпин А.Н. История русской этнографии.— СПб,. 1892. Т. IV.— С. 37.

[9] Аўтарства Шыдлоўскага пацьвярджае гр.Тышкевіч Я. (“Opisanie powiatu Borysowskiego”.— Wilno, 1847.— S. 281) і Ельскі А. (“Białoruska literatura i bibljografja” // Wielka Encyklopedja Powszechna Ilustrowana. 1892. T. VII.— S. 650).

[10] Rawita-Gawronski Fr. Zoryan Dołęga Chodakowski. Jego życie i praca.— Lwów, 1898.— S. 61–70.

[11] Ibidem.— S. 107.

[12] Ibidem.— S. 107–109, 188.

[13] Пыпин А.Н. Op. cit.— S. 37; Бессонов П. Белорусские песни.— М., 1871.— С. XXI.

[14] Gołąbek J. Wincenty Dunin-Marcinkiewicz.— Wilno, 1932.— S. 9.

[15] Параўн.: Szyjkowski M. Op. cit.— S. 64.

[16] Tretiak J. Młodość Mickiewicza (1798–1824).— СПб., 1898. T. I.— S. 71.

[17] Borowski L. Uwagi nad poezją i wymową.— Wilno, 1820.— S. 83.

[18] Mościcki H. Pod znakiem Orla i Pogoni.— W-wa, 1923.— S. 56–58 i 97–98.

[19] Bieliński J. Szubrawcy w Wilnie.— Wilno, 1910.— S. 100 i nast.

[20] Jabłońska-Erdmanowa Z. Oświecenie i romantyzm w stowarzyszeniach młodzieży wileńskiej na początku XIX w.— Wilno, 1931.— S. 75.

[21] Гэта вядомае “Геаграфічнае апісаньне”, таемна надрукаванае філяматамі. Параўн.: Mościcki H. Wilno i Warszawa w “Dziadach” Mickiewicza.— W-wa, 1908.

[22] Pietraszkiewiczówna St. Materjaly do historji Towarzystwa Filomatów.— Kraków, 1934. T. III.— S. 126 i 127.

[23] Ibidem.— S. 20, 50 i 100.

[24] Archiwum Filomatów. Cz. I. Korespondencja.— Kraków, 1913. T. I. S. 343; T.II.— S. 16.

[25] Ibidem. T. I.— S. 142.

[26] Dunajówna M. Tomasz Zan, lata uniwersyteckie.— Wilno, 1933.— S. 139–146.

[27] Archiwum Filomatów. Cz. 1. Korespondencja. T. III.— S. 77, 197, 389;

T. IV.— S. 58.

[28] Bieliński J. Op. cit.— S. 184 i 185.

[29] Borowy W. “Dziady” i magnetyzm i teozofia (Kamienne rękawiczki i inne studja i szkice literackie).— Warszawa, 1932.— S. 117 i 118.

[30] Z. Jablońska-Erdmanowa. Op. cit.— S. 148; Kallenbach J. Ród Filomatów. (Odb. z Biblioteki Warszawskiej. 1915. S. 16 i 17).

[31] Больш падрабязна пра гэта чытач знойдзе ў артыкуле: Dunajówna M. Dziecinstwo i lata szkolne Tomasza Zana // Księga Pamiątkowa Koła Polonistów U.S.B.— Wilno, 1932.

[32] Gawalewicz M. Druh Mickiewicza — Tomasz Zan // Tygodnik Polski. 1898.— S. 64.

[33] Korespondencja filomatów. T. V.— S. 342. Тое, што ў дзень сьв.Яна сонца ўзыходзіць іграючы, г.зн. пераліваецца рознымі колерамі, падскоквае на небе, становіцца то вялікім, то малым, належыць да шырока распаўсюджаных у беларусаў прымхаў: Сержпутоўскі А. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў.— Мн., 1930.— С. 4; Дмитриев А.М. Собрание песен, сказок, обрядов и обычаев Северо-Западного края.— Вильно, 1869.— С. 229; Киркор А. Этнографический взляд на Виленскую губернию // Этнографический сборник. 1858. Т.III.— С. 158; Крачковский Ю. Быт западнорусского селянина.— М., 1874.— С. 124. Больш за тое, яно распаўсюджана ў славян увогуле: Moszyński K. Kultura ludowa Słowian.— Kraków, 1934. Cz. II. Z. I.— S. 450.

Надзвычай распаўсюджаныя таксама прымхі, што раз у год у Купальскую ноч цьвіце папараць, і хто яе сарве, дык будзе ўсё ведаць, разумець гаворку дрэваў і зьвяроў. Пра гэта глядзі заўвагі да “Ўцёкаў” Міцкевіча.

[34] Mościcki H. Z filareckiego swiata. Zbiór wspomnień z lat 1816–1824.— Warszawa, 1924.— S. 187.

[35] Dunajówna M. Tomasz Zan.— S. 31.

[36] Dunajówna M. Tomasz Zan.— S. 37.

[37] Mościcki H. Op. cit.— S. 196.

[38] Dybowski Wł. Przysłowia białoruskie z powiatu Nowogródzkiego // Zbiór wiadomości do antropologji krajowej. 1881. T. V.— S. 5; Романов Е. Материалы по этнографии Гродненской губернии.— Вильно, 1912. Т. II.— С. 374.

[39] Шейн П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края.— СПб., 1893. Т. II.— С.126; Сержпутоўскі А. Казкі і апавяданьні беларусаў з Слуцкага павету.— Мн., 1926.— С. 85; Романов Е. Материалы по этнографии Гродненской губернии.— Вильно, 1912. Т. II.— С. 374.

[40] Dybowski Wł. Op. cit.— S. 11.

[41] Шейн П. Материалы...— СПб., 1890. Т. I. Ч. II — С. 144, 161, 190, 191, 200, 209, 223 і наст.

[42] Романов Е. Белорусский сборник.— Витебск, 1891. Т. IV.— С. 139–140; Богданович А.Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов.— Гродно, 1895.— С. 77; Татур Г.Х. Археологические памятники.— Мн., 1892.— С. 210. Параўнай фрагмэнт пра “Сьвіцязянку” Міцкевіча, а таксама фрагмэнты пра “Русалкі” І.Кулакоўскага і А.Г.Спасоўскага, у якіх гаворыцца пра народных русалак.

[43] Сержпутоўскі А. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў.— С. 20; Крачковский Ю. Назв. произв.— С. 98; Federowski M. Lud białoruski.—

Kraków, 1897. T. I.— S. 180.

[44] Сержпутоўскі А. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў.— С. 20; Романов Е. Белорусский сборник.— Вильно, 1912. Т. VIII.— С. 295; Federowski M. Op. cit. T. I.— S. 181, 182.

[45] Никифоровский Н. Простонародные приметы и поверья.— Витебск, 1897.— С. 164; Federowski M. Op. cit. T. I.— S. 189.

[46] Federowski M. Op. cit. T. I.— S. 181; Сержпутоўскі А. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў.— С. 125.

[47] Романов Е. Белорусский сборник. Т. VIII.— С. 209 і наст.; Сержпутоўскі А. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў.— С. 103 і 104.

[48] Сержпутоўскі А. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў.— С. 51; Романов Е. Белорусский сборник. Т. VIII.— С. 208 і наст.; Петропавловский А. Коляды и Купало в Белоруссии // Этнографическое обозрение. 1908. № 1—2.— С. 164; Демидович Р. Из области верований и сказаний белорусов // Этнографическое обозрение. 1896. № 2–3.— С. 111.

[49] Narbutt T. Dzieje starożytne narodu litewskiego.— Wilno, 1835. T. I.— S. 80–82.

[50] Ujejski J. Ballad y Tomasza Zana // Księga Pamiątkowa ku uczczeniu 350 rocznicy założenia Uniwersytetu Wileńskiego.— Warszawa, 1931.— S. 341–342, 349.

[51] Kraszewski J.I. Wilno od początków jego do roku 1750.— Wilno, 1841. T. III.— S. 352.

[52] Kraszewski J.I. Wilno od początków jego do roku 1750.— Wilno, 1841. T. III.— S. 354.

[53] Dunajówna M. Op. cit.— S. 78.

[54] Ibidem.

[55] Ujejski J. Op. cit.— S. 346.

[56] Dunajówna M. Op. cit.— S. 168.

[57] Ibidem.— S. 168 i 171. Параўн.: Романов Е. Белорусский сборник.— Могилев, 1901. Т. VI.— С. 470 і наст.; Gliński A. Bajarz Polski.— Wilno, 1899. T. I i II.— S. 35.

[58] Ujejski J. Op. cit. S. 345; Cieszewski T. Bürger w Polsce // Księga Pamiątkowa Koła Polonistów U.S.B.— Wilno, 1932.— S. 75.

[59] Dunajówna M. Op. cit.— S. 171.

[60] Kuchta J. Rodzime wątki lokalne w podaniach o mistrzu Twardowskim // Lud. 1929. T. XXVIII. S. 126 i nast.; Wójcicki K.W. Klechdy starożytne, podania i powieści ludu polskiego i Rusi.— W-wa, 1837. T. I.— S. 184–190.

[61] Kuchta J. Motyw Matki Boskiej — ucieczki grzecznych w podaniach ludowych o czarnoksiężniku Twardowskim // Lud. 1932. T. XXX.— S. 107 i 108.

[62] Federowski M. Op. cit. T. I.— S. 271; Никифоровский Н. Нечистики.— Вильно, 1907.— С. 25 і 32; Романов Е. Белорусский сборник. Т. IV.— С. 8.

[63] Federowski M. Op. cit. T. I.— S. 219.

[64] Ibidem. T. II.— S. 278.

[65] Podania i bajki ludowe zebrane na Litwie // Zbiór Wiad. do Antrop. Kraj. 1887. T. XI.— S. 10 i 275.

[66] Романов Е. Белорусский сборник. Т. IV.— С. 137; яго ж. Материалы по этнографии Гродненской губернии.— Вильно, 1912. Т. II.— С. 359.

[67] Демидович П. Из области верований и сказаний белорусов.—

С. 116 и 117.

[68] У розных мясьцінах Наваградчыны я занатаваў гэтае паданьне ў шасьці варыянтах.

[69] Dunajówna M. Op. cit.— S. 174.

[70] Цытую паводле вэрсіі, якую занатаваў ад Надзеі Пісарык зь вёскі Тулічава Навагрудзкага павету.

[71] Ujejski J. Op. cit.— S. 346.

[72] Dunajówna M. Op. cit.— S. 176.

[73] Романов Е. Материалы по этнографии Гродненской губернии.— Вильно, 1911. Т. I.— С. 102; Сборник памятников народного творчества Северо-Западного края.— Вильно, 1866. Т. I.— С. 170; Добровольский В.Н. Смоленский этнографический сборник.— Москва, 1903. Т. IV.— С. 568; Булгаковский Д. Пинчуки. // Этнографический сборник. 1890.— С. 137 и 145; Довнар-Запольский М. Песни пинчуков.— Киев, 1895.— С. 52 и 93.

[74] Романов Е. Материалы по этнографии Гродненской губернии.— Вильно, 1911. Т. I.— С. 102; Романов Е. Белорусский сборник. Т. I. и II.— С. 78; Карский Е. Белорусские песни села Березовца Новогрудского уезда Минской губернии // Русский филологический вестник. 1884. Т. XII.— С. 128; Булгаковский Д. Пинчуки. // Этнографический сборник. 1890.— С. 147.

[75] Занатаваў ад Марыі Тулейкавай зь вёскі Халаймаўшчына Стаўпецкага пав. Падобнае запісаў, апрача таго, ад Канстанціна Дразда, в.Дразды Стаўпецкага пав., і Эмілі Нагорнай, в.Астроўкі Нясьвіскага пав.

[76] Gawalewicz M. Poeta promienisty. Z filareckiej twórczości T.Zana. // Kraj, 1900, № 41,— S. 543.

[77] Шейн П. Белорусские народные песни.— СПб., 1874.— С. 319; Романов Е. Белорусский сборник. Т. VI.— С. 41.

[78] Романов Е. Белорусский сборник. Т. VIII.— С. 158; Т. I и II.— С. 176.

[79] Скарот Р.F. азначае: Poezje Filomatów, wydana przez Jana Czubka.— Kraków, 1922. T. II.

[80] Носович И. Словарь белорусского наречия.— СПб., 1870.— С. 632; Ластоўскі В. Расейска-крыўскі (беларускі) слоўнік.— Коўна, 1924.— С. 148. Параўнай таксама: H. z Jabłońskich Turska. Język polski na Wileńszczyźnie. // Wilno i ziemia Wileńska.— Wilno, 1930. T. I.— S. 222.

[81] Turska H. Język Jana Chodźki.— Wilno, 1930.— S. 42.

[82] Turska H. Op. cit.— S. 53.

[83] Walicki A. Błędy nasze w mowie i piśmie, ku szkodzeniu języka polskiego popełnianie, oraz prowincjonalizmy.— Kraków—Warszawa, 1886.— S. 29.

[84] Turska H. Op. cit.— S. 69.

[85] Ibidem.— S. 72.

[86] Ibidem.— S. 76.

[87] Ibidem.— S. 80.

**Далей будзе.**

**Пераклад Міколы ХАЎСТОВІЧА.**

# АПОВЕСЬЦЬ ПРА ТРЫШЧАНА

## *НЕВЯДОМАЕ Ў НЕВЯДОМЫМ*

*“Аповесьць пра Трышчана” займае выключнае месца сярод помнікаў беларускае літаратуры. Бліскучы твор, перакладны й арыгінальны адначасова, быў створаны ў 80-я гг. XVI ст. На фоне шматлікіх рэлігійных твораў, летапісаў ён вылучаецца сьвецкасьцю й даволі высокім узроўнем мастацкасьці.*

*Аповесьць трапіла да нас з Сэрбіі, а сэрбы (чыя вэрсія не захавалася) узялі яе ад італійцаў. Э.Сгамбацы (італійская дасьледніца) лічыць, што беларускі пераказ мог быць зроблены непасрэдна з аднаго вянецкага рукапісу, знойдзенага ня так даўно. “Аповесьць пра Трышчана” ўваходзіць у Познанскі рукапіс, які ў 1842 г. знайшоў у Познанскай бібліятэцы В.Бадзянскі. У 1888 г. гэты рукапіс быў апублікаваны А.Весялоўскім, выданьнем якога карыстаюцца й да нашага часу. Вельмі паэтычная й прывабная, не пазбаўленая гумару, беларуская вэрсія аповесьці адлюстроўвае сусьветна вядомую “дыялектычную легенду” (**Н.С.**) пра каханьне Трышчана ды Іжоты (Трыстана й Ізольды). З дыялектыкай тут зьвязаны заключны эпізод легенды, што сымбалізуе вечнае жыцьцё, г.зн. разьвіцьцё й самаўдасканаленьне ў каханьні: з магілаў каханкаў вырастаюць дрэўцы, што ўверсе сплятаюцца галінкамі. Беларускі “Трышчан” ня мае такога матыву: “И не вем, если с тых ран выздоровел або так вмер”. Некаторым дасьледнікам такая канцоўка здаецца пажаванай, але гэта можна*

*разглядаць і зь іншага пункту гледжаньня. У чалавека ёсьць надзея яшчэ пры жыцьці, а не ў пазамагільнай абстракцыі, бо беларускі Трышчан не памірае. Вядомасьць лёсу каханкаў эўрапейскіх вэрсіяў робіцца сіняй птушкай, якая аказваецца звычайным вераб'ём, як толькі ўхопіш яе рукою. Але невядомы лёс каханкаў у беларускай вэрсіі толькі для няўважлівага чытача: матыў пераплеценых галінак зашыфраваны ў падтэксьце: "И такъ* ***вросла*** *ихъ милость, ижъ не знали якъ-бы ся въздержали один отъ другого".*

*Гэты твор ёсьць самым складаным з усяе нашае перакладное літаратуры. Тут мала чаго паведамляецца "ў лоб", увесь глыбінны сэнс прыхаваны ў падтэксьце. Акрамя таго, гэта яшчэ й самая сьвецкая з рыцарскіх аповесьцяў дый тагачаснае беларускае літаратуры ўвогуле. Некаторыя лічаць, што ёй бракуе палюбоўных сцэнаў і зьвязваюць гэта з асаблівасьцю маральна-побытавага ладу тагачаснага беларускага асяродзьдзя. Гэта проста мана. Вось прыклады, што кажуць самі за сябе: "уже яко бых ю мелъ в мене, я тобе повем тую, которую бых мети хотел", "Бо коли бы мя мела разъ в себе, потомъ бы мя завжды рада мети". Але ў тым і майстэрства аўтара, што ўсё гэта ён падае ў рэчышчы натуралізму: "а коли видела пана Трыщана у дверехъ палацу своего, такъ скочыла велми прудко, стретила его насеред палацу, а вода по ногам текла, и поклякънула перед Трыщаномъ". Гэта натуральнае жыцьцё, а значыць яно павінна мець адлюстраваньне ў творы, і яно мае гэтае адлюстраваньне, арганічна ўплятаючыся ў тканіну тэксту. Што тычыцца сюжэту аповесьці ўвогуле, дык ён нагадаве кантамінацыю італійскага й францускага празаічных раманаў, але ёсьць і адрозныя моманты. Напрыклад, алегарычны сон караля Марка, мужа Іжоты, зь якога яна даведваецца пра магчымую здраду служкі Брагіні й вырашае "прыбраць" яе. У эўрапейскіх вэрсіях такі жорсткі ўчынак Іжоты нічым не матываваны. Дарэчы, і сам сон ёсьць узор літаратурнай алегорыі. Калі ж закранаць выяўленчую сыстэму твору, дык варта адзначыць, што псыхалягічна напружаныя моманты мяжуюцца тут з аб'ектыўна-сюжэтнымі па ступені інтэнсіўнасьці. Ад гэтага залежыць адбор выяўленчых сродкаў: эмацыйна й псыхалягі-*

*чна напружаныя мясьціны тэксту канцэнтруюць у сабе максымум тропаў ды фігураў. Гэта стварае (канвэргенцыю) эфэкт рэдкіх, але вельмі каштоўных выбухаў, якія надаюць тэксту магічную прыцягальнасьць. Багацьце лексыкі (найбольш сынаніміі), фразеалёгіі, разнастайнасьць сынтаксу дапамагаюць аўтару знаходзіць непаўторныя фарбы для кожнага зь бясконцых турніраў, для перадачы лірычных эпізодаў, перажываньняў. Прысутнічае ў тэксьце й аўтарскае рэзюмэ, што было наватарствам для беларускае літаратуры XVI ст. Аповесьць ёсьць сапраўдным высокамастацкім творам. Філязофія й псыхалёгія тагачаснага грамадзтва занатаваныя тут у падтэксьце, у сэнтэнцыях, якія яшчэ чакаюць дэшыфроўкі, бо ў творы зашыфраваны сапраўдны скарб (як у “Адысэі” — шлях на Брытанскія астравы, дзе схаваная залатая таямніца элінаў). Калі адбудзецца дэшыфроўка, хто ведае, да чаго яна прывядзе? Можа, гэта будзе тая Бібліятэка, пра якую пісаў у сваіх “Лябірынтах” В.Ластоўскі, а можа — Духоўны Скарб, які стрымае беларусаў ад д’ябальскіх рашэньняў. Вось, да прыкладу, некалькі сэнтэнцыяў: “чоловекъ не ведаеть, што ся ему где прыгодит”, “где естъ ненавист, там милости нетъ”, “дал ти ест Богъ панство и такую моцъ, што ся не годит тобе мстити”, “ни што такъ не омыляеть, якъ парсуна чоловеческа”, “коли нет у первои речи, не може быти и у последнеи”, “где сила, тутъ и памет”, “што ся не продает, того не можеш купити”, “отворыти мяккие уста на тихие беседы”...*

*Так глыбока зразумець жыцьцё, занатаваць яго ў творы мог толькі сапраўдны творца (пра аўтара гл. наступныя публікацыі). Таму самы час вярнуць зь нябыту гэты твор і паставіць яго на чале клясычных твораў беларускае літаратуры. Гэтая публікацыя й зробіць першы крок у вяртаньні. Каб аблегчыць чытаньне твору, падаем тэкст сучаснай графікай, драбнім сказы й ставім знакі прыпынку. Лічбы ў квадратных дужках абазначаюць старонкі арыгіналу. Напачатку аповесьці маюцца неразборлівыя месцы, якія рэканструявала ў ангельскім выданьні Зора Кіпель [The Byelorussian Tristan (Transl. by Zora Kipel).— New York & London: Garland Publ.— 1988.—166 p. (Garland Kibrary of Medieval Literature; № 59, Ser. B)]. Мы карысталіся гэтай рэканструкцыяй. Незразумелыя словы тлумачацца ў спасылках.*

## *АТРЫБУЦЫЯ АЎТАРА І ПРАБЛЕМА ВЫВУЧАНАСЬЦЈ*

*Такі назоў можа выклікаць зьдзіўленьне: як? Аўтар невядомы! Але калі б асьвятленьне гэтае праблемы было зусім немагчымым, дык не існавалі б такія навукі, як гермэнэўтыка, псыхаграфалёгія ды інш. У Шлеермахера герменэўтыка азначала мастацтва разуменьня чужое індывідуальнасьці. І вось, зазірнуўшы ў “Психографологию” І.Маргенштэрна, у якой раскрываюцца тайны почыркаў і разгадваньне характараў людзей паводле яго. Прааналізаваўшы почырк, якім напісана аповесьць, на фотакопіях арыгіналу, мы паспрабавалі высьветліць гэтую індывідуальнасьць аўтара й прыйшлі да высновы, што аповесьць прасякнута вялікай моцай творчасьці.*

*У Эклезіясьце гаворыцца: “Што было, то й будзе, і што рабілася, то й будзе рабіцца, і няма нічога новага пад сонцам”. Гэта сапраўды так. Людзі нараджаюцца, жывуць, паміраюць ды нараджаюцца зноў. Адбываецца рэінкарнацыя, блуканьне, вандраваньне душаў па адным замкнёным коле. І ўвек не знайсьці ім сапраўды новага, акрамя таго, як упрыгожыць старое ў вэлюм фантазіі, што называецца творчасьцю. Менавіта яна можа быць “сапраўднай падставай жыцьця” (І.Абдзіраловіч). І менавіта творчасьць, свабода фантазіі пакладзена аўтарам у аснову ягонае працы. З часу напісаньня прамінула больш за чатыры стагодзьдзі, а таму нельга сьцьвярджаць нічога канкрэтнага. Але аналіз почырку паказвае наступнае. Гэта факты, якія ня браць пад увагу проста немагчыма. Зірнуўшы на тэкст, можна адразу сказаць, што гэта почырк стройны, маналітны, выпакутаваны. Гэта сьведчыць пра тое, што аўтарам быў прафэсійны пісар (амаль пра тое ж гаворыць і С.Пташыцкі), які імкнуўся надаць кожнай літарцы форму, завершанасьць, акуратнасьць, бо любоў да сваё прафэсіі ня прымала іншага стаўленьня да працы. Як адзначае І.Маргенштэрн, у такіх почырках заўсёды адлюстроўваецца асаблівы індывідуалізм. Глядзім далей: літары роўныя, у іх разьмяшчэньні бачная абдумлівасьць. Хоць адлегласьць паміж словамі няроўная, але апошняе словы ў радку не апускаецца ніжэй ліноўкі — гэта сьведчыць пра*

*стрыманасьць чалавека; завернутыя, заблытаныя рысы, няроўная адлегласьць паміж словамі, размазаныя літары з моцнымі й арыгінальнымі націскамі, замкнёныя й цесныя — гэта прыкмета халерычнае ўдачы. Літары прыгожыя, грацыёзныя, з унутранай афэктыўнасьцю, часам злучающца літары і словы — гэта ня што іншае, як таленавітасьць. Роўныя радкі, літарам з аднолькавым стараньнем нададзеная форма, што ўказвае на маладосьць. Агульныя ж асаблівасьці почырку наступныя: цьвёрды (азначае энэргію), зьлітны (летуценнасьць), галінкаваты, адкрыты (сьмеласьць), выразны (скептыцызм), роўны (спакойнасьць). Такім чынам, за асобай аўтара хаваецца багатая й шматбаковая натура, пра што сьведчыць сумяшчэньне такіх рысаў характару, як спакой ды халерычнасьць, летуценнасьць ды скептыцызм. Задума пераказаць даволі вялікі твор сваімі словамі (цяпер дакладна вядома, што гэта ня быў даслоўны пераклад) вымагала й вялікае энэргіі, сьмеласьці, сумленнасьці перад сабой і нашчадкамі, таленавітасьці, сьвежасьці ўспрыманьня, нявыкарыстанасьці сваіх сілаў, якія больш уласьцівыя маладым. Гэтая шматбаковасьць, разнастайнасьць натуры наогул уласьцівая творчым асобам. І вось мы зноў сутыкаемся з творчасьцю. І гэтыя "пустыя", як камусьці можа падацца, развагі можна падмацаваць адзіным неаспрэчным фактам: такі ж непрадказальны аўтар і ў выбары лексыкі й выяўленчых сродкаў. Ягоны расповед нагадвае сынусоіду, у якой чаргуюцца псыхалягічна напружаныя й аб'ектыўна-сюжэтныя моманты, што ўжо згадвалася намі. Як і кожны творца, гэты "чалавек любіць заўсёды кахаючы, ён любіць дзіця свае творчасьці, жадае яму вечнага існаваньня" (І.Абдзіраловіч). А як вядома, "любоў да слова — цяжкая любоў" (Ян Парандоўскі). Цярплівасьці ж у нашага аўтара хапала. Філязофія лічыць, што ў Слове сабрана ў фокус гістарычная воля цэлага народу. Таму, вымаўляючы ці запісваючы яго, чалавек прасякае ў прастору гэтую волю. І зноў мы сустракаемся з аўтарскай свабодай. У сувязі з гэтым ня трэба забывацца й на гістарычныя асаблівасьці эпохі: 80-я гг. XVI ст., час паміж Люблінскай вуніяй 1569 г., што*

*прынесла ВКЛ узмацненьне апалячваньня, ды Берасцейскай вуніяй 1596 г., якая прынясе акаталічваньне; не забудзьма й рэфармацыйна-гуманістычны рух таго часу, адным з цэнтральных пытаньняў якога было пытаньне духоўна-маральнае свабоды чалавека. У час Рэфармацыі пісьмо дасягнула асабліва шырокага распаўсюджаньня, і таму змаглі праявіцца асаблівасьці розных почыркаў. Усё гэта разам узятае й абумовіла выхаваньне творчае асобы аўтара. Рознабаковы, бязумоўна таленавіты, стрыманы й разам з тым эмацыйны чалавек адпаведна працаваў і над тэкстам. Ён апісвае звычайныя падзеі звычайнымі словамі, але вось яго пачынае апаноўваць усхваляванасць, словы робяцца больш напружанымі, экспрэсія даводзіцца да апагею... і абрываецца, нібыта ён страчвае прытомнасьць, ня вытрымаўшы бою крыві ў скронях (у тэксьце ў такіх момантах заўважаем наяўнасьць фігуры апасэяпэзы, г.зн. абрываньня, змаўчаньня), і потым зноў, усё спачатку, роўна й бяз хістаньняў, пакуль зноў не забярэ экспрэсія. Аўтар ставіцца да слова як да найвялікшае сьвятыні, як да найвялікшае таямніцы, выкрышталізоўвае яго. Менавіта ён, менавіта такі чалавек, менавіта так мог ставіцца да слова. Да слова як да Лёгаса: аб'ектыўна дадзенага зьместу, дзейнасьці розуму, скразной сэнсавай упарадкаванасьці быцьця й сьвядомасьці, вобразу Бога. І ўсё гэта мела непасрэдны ўплыў на абраньне аўтарам тых ці іншых выяўленчых сродкаў, тае ці іншае лексыкі.*

*На мову гэтае аповесьці існуюць розныя погляды: А.Брукнэр адзначае ў помніку такія лексычныя сэрбізмы, як:* ***белегъ*** *–* ***'знак'****,* ***неякъ*** *—* ***'слабы(а)'****,* ***отокъ*** *—* ***'востраў'*** *і інш.; адзначае й наяўнасьць італійскіх словаў (памятаем, што першакрыніцай сэрбскага перакладу, які не захаваўся, была італійская вэрсія легенды пра Трышчана й Ізоту):* ***прынчып*** *—* ***'князь'*** *(****іт. principe****, ад лац.* ***princeps*** *—* ***'першы'****),* ***морнар*** *—* ***'матрос'*** *(****іт. marinaio****). Дакладнасьць гэтага сьцьверджаньня даказвае тое, што некаторыя з гэтых словаў захаваліся ў сучасных сэрбскай (****морнар****,* ***белег****,* ***оток****) ды італійскай (****principe****,* ***marinaio****) мовах без сэмантычных (сэнсавых) зрухаў.*

*А.Весялоўскі разглядаў характар трансьлітарацыі ўласных імёнаў на* ***-us, -es, -is, -as****, што перадаюцца праз* ***ж, ш****:* ***Кандиэшъ* — *Gandories, Пелишъ* — *Felis****, на падставе чаго ён прапануе лічыць радзімай першакрыніцы беларускае вэрсіі вобласьць Босьніі ды Паўночнае Дальматыі. Цікавай зьяўляецца й думка В.Бадзянскага, хоць і ня вельмі карэктная ў дачыненьні да беларускае мовы. Ён лічыць, што мова помніку "гэта так званая пісьмовая мова Вялікага Княства Літоўскага ў лепшы, квітнеючы час яго. Ёю ніхто ніколі не размаўляў дый не размаўляе; але, зьвяртаючы ўвагу на яе граматычную й лексычную асаблівасьці, бачым, што ў аснове яе — мова тых Русаў, якія жывуць паміж Прыпяцьцю, вярхоўямі Нёмну й Дняпром. У ёй, там ды сям, прарываюцца словы й звароты, з аднаго боку, жыхароў паўночнае Беларусі, з другога — мовы польскае, якая праз палітычныя прычыны авалодала была ёю ды зрабіла самую агідную сумесь, якую толькі можна сабе ўявіць ды якая калі-небудзь існавала на Русі. Але ж, з трэцяга боку, заўважны ў ёй таксама моцны ўплыў царкоўнаславянскае мовы як у асобных словах, так роўна й формах". Камэнтуючы гэтае выказваньне, хочацца сказаць: якой яшчэ моваю размаўляла калі не апалячаная шляхта, дык хоць бы просты люд, бо неяк жа мова дажыла да нашых часоў; на нашу думку, В.Бадзянскі сьвядома русыфікаваў прыведзеныя ім урыўкі з аповесьці (с. 14, 15, 127), бо, параўнаўшы іх з фотакопіяй арыгіналу, вылучаюцца наступныя несупадзеньні: гаплялёгія (выпадзеньне) складаў і словаў ("****королевою найбольшого королевства****" — у арыгінале "****королевою наибольшою наибольшого королевства****"), напісаньне зусім іншае літары, замест патрэбнай, ад чаго карэнным чынам зьмяняецца сэмантыка (значэньне) слова, што разбурае агульны сэнс кантэксту ("****ложница была тайна****" — у арыгінале "****ложница была темна****", "****втом раду зодалъ****" — "****втомъ раду додалъ****", "****двойною милостю****" — "****дворною милостю****"), падстаўленьне канцавога* ***ъ****, фанэтычная й марфалягічная замена беларускіх гукаў і марфэмаў (****къ ласце* — *к ласцэ, Ядну дочку* — *одну дочку, красной ижоты* — *красное ижоты, серцемъ* — *серцэмъ, онаго обачывшы* — *она то обачывшы*** *і г.д.); пра*

*“моцны ўплыў царкоўнаславянскае мовы” таксама казаць ня прыходзіцца: адзінае, што можна адзначыць, дык гэта лексэмы* ***ютро***, ***еленя***, *некаторыя асаблівасьці сынтаксу й усё, бо аўтар хутчэй быў чалавекам сьвецкім, які дасканала валодаў польскай ды сэрбскай мовамі (і царкоўнаславянскай таксама). Таму, беручы пад увагу вышэйсказанае, будзем лічыць заўвагі В.Бадзянскага ня вельмі аўтарытэтнымі. Трэба адзначыць і тое, што думка А.Весялоўскага пра вялікую каштоўнасьць твору ў асноўным супадае зь меркаваньнямі іншых дасьледнікаў, якія пісалі на гэтую тэму (хоць і вельмі агляднa): А.Брукнэр, Я.Карскі, Т.Суднік, В.Крыўчык, А.Жураўскі, Л.Шакун, У.Анічэнка, Т.Ясінска-Соха, Э.Сгамбацы (толькі ў апошняе маецца цэлая кніга, прысьвечаная беларускай аповесьці), А.Баханькоў, А.Булыка; М.Прыгодзіч і Н.Яленская (іхны артыкул зьмешчаны ў “Родным слове” й прысьвечаны граматычнаму ладу мовы ды палеаграфічным асаблівасьцям помніка). Вось яшчэ некалькі меркаваньняў: А.Брукнэр адзначае “поўную эмансыпацыю ад узораў царкоўнаславянскае мовы, якую мы ў XVI ст. у Расеі наўрад ці знойдзем”; Я.Карскі ж лічыў, што ў помніку шырока адлюстраваліся элемэнты жывое народнае гаворкі, таму ён і пераканаyы ў тым, што гэта хутчэй пераказ; Т.Суднік выказвае меркаваньне, што аўтар ведаў сваю пісьмовую традыцыю й быў чулым да патрабаваньняў жанру, што “яго вэрсія рыцарскага рамана апрацавана з такой мерай аўтарскае свабоды, майстэрства й экспрэсіі, што пры чытаньні яе цяпер ствараецца ўражаньне непасрэднае гутаркі апавядальніка з чытачом”. На прыкладзе гэтае аповесьці цудоўна прасочваецца “канфлікт між тыраніяй прызнанага жанру й арыгінальнай творчасьцю аўтара”, які “дазваляе адрозьніць шэдэўр ад бясколернае копіі”. Гэты канфлікт вырашаецца ў аповесьці праз гарманічнае спалучэньне бурлескавае й узвышана-рамантычнае формаў паказу рэчаіснасьці, у чым чытач пераканаецца, калі прачытае “Аповесьць пра Трышчана”.*

*Вось такім падаецца кантэкст усяго, што вядома нам пра гэтую аповесьць.*

# Пачынаецца повесьць а віцязях з кніг сэрбскіх, А ЗЛАШЧА[1] А СЛАЎНЫМ РЫЦАРЫ ТРЫШЧАНЕ...

Быў кароль імем Клеўдас. Ён меў вялікую любоў з каралём Апалонам, і для іх вялікае любові мешкаў адзін у другога доўга, прыехаўшы са ўсімі слугамі й дваром сваім. І прыехаў кароль Апалон з дваром сваім да караля Клеўдаса, і мешкаў у няго да году. І была ў караля Апалона каралёвая вельмі хароша.

А караля Клеўдаса сын быў вельмі добры юнак і віцязь вельмі добры. І разьмілаваўся каралёвае Апалонавае вялікаю міласьцю, і ўжо больш ня мог цярпеці, і мовіў ёй а сваёй вялікай ку ней міласьці. Але яна нікаторым абычаем на то не хацела пазволіці й ракла яму: "Яка ты мне а том ня ўстыдзішся мовіці?" Відзеўшы ён, іж ні мог к таму прыйсьці, ждаў калі ся разьедуць кароль Апалон ад караля Клеўдаса да сваяго каралеўства, і тагды сын караля Клеўдасаў направіўся й узяў з сабою добрых юнакоў у таварыства, і засеў у дубровах адных блізка дарогі. І калі ся к няму прыбліжыў кароль Апалон, а яны, ся направіўшы, ждалі караля Апалона, і ўдарылі на няго, і яго самога, паймаўшы, акрутна[2] зранілі, з каторых ран жыў быці ня мог. І ўсю дружыну яго пабілі. І рэк кароль Апалон сваёй каралёвай: "Як ці[3] перад учорай рэк, так ся стала, і тая акрутная сьмерць мне прышла". Яна была вельмі смутна й жаласьліва й ракла: "... тое зло стала ся".

І калі ся сын караля Клеўдаса вярнуў ся, ён увашоў у вадну камору высокую, дзе была каралёвая ўведзена, хоцячы споўніці сваю волю зь нею. Каралёвая то відзела, іж для няе многа шкоды ўчыніў, ракла яму: "О ліхі, злы чалавеча! Мой гаспадар прышоў

---

Веселовский А.Н. Из истории романа и повести. Сборник ОРЯС императорской АН. Т. 44. № 3.— СПб.: Тип. Имп. АН. 1888.— 361 с.

Починаеть ся повесть о витезях с книгъ сэрбъских, а звлаща о славномъ рыцэры Трысчане... // Сборник ОРЯС императорской АН. Т. 44. № 3. Веселовский А.Н. Из истории романа и повести.— СПб.: Тип. Имп. АН. 1888.— С. 1–127 (Приложенія).

Зборнік мешанага зместу (Аповесці, Летапісец Вялікага княства Літоўскага і інш.) / Мікрафільм 09/8886. Копія. Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Арыгінал захоўваецца ў бібліятэцы імя Рачынскіх у г. Познані.

быў тут [2] для твае добрае славы, а ты яго а сьмерць прыправіў і хацеў бы есі яшчэ мяне пасарамаціці, але то ня можа быці". І то рэкшы, адступіла ад няго й скочыла ў вакно вельмі з высокага палацу й забілася на сьмерць. Калі ён то ведаў і рэк: "Я сам есьмі ўмарыў такую каралёвую, ад сяго сьвета так цудную, сваёю неапатарнасьцю"[4]. І ён, плакаўшы, і казаў яе паграсьці, паслаў каралю Апалону ран глядзеці, і паведалі яму, іж жыў ня можа быці, і ён яго казаў пусьціці.

І калі ўмер кароль Апалон, сказаў цела яго, у раку ўкінуўшы, утапіці. Быў у няго адзін хорт, каторы ад няго ніколі нідзе не адступаваў, але за панам сваім шоў у раку плавам, ішчучы ў рацэ пана сваяго. І нашоў яго вельмі ў глубокім віру, і няўшы яго за руку й вывалак на бераг зубамі сваімі. І выкапаўшы яму нагамі сваімі, і палажыў у ней пана сваяго й закапаў пяском, штобы яго не нашоў ні адзін зьвер, і сеў на онай магіле, штобы мог відзеці.

І паехаў кароль Клеўдас у ловы. І ехаў адным узрэччам, і многа зьверу палавіў, і ехаў ку аднаму гораду. І прыбліжыў ся ку онаму харту Апалонаву. Хорт, увідзеўшы людзі, і пачаў выць вельмі высокім голасам. Калі кароль відзеў харта й паслаў відзеці, што ёсьць. Яны паехалі, і відзеўшы, паведалі каралю, мовячы: "Нам ся відзіць, якабы чалавек нова ўкопан, а хорт стаіць на гробе, а нідзе ня йдзець з гроба".

А кароль быў вельмі мудр і паехаў сам відзеці онага харта. І рэк: "То ёсьць хорт караля Апалонаў, каторы казаў пра таго харта, то ёсьць мой найбольшы прыяцель". І сказаў ім раскапаці магілу, штобы відзяў мертвяца. І калі тое зрабілі, ён пазнаў, іж быў кароль Апалон. І ўдарыў ся ў грудзі, вельмі высокім голасам, гаворачы: "Ужо ж есьмі загіб ганебна, калі найбольшы мой прыяцель умер здрадна ў маім дому, іж было яму быці ўхавану".

І зьсеў з каня сваяго кароль, і з плачам, са сьлязамі. І казаў яго панесьці ў горад, каторы быў недалёка адтуль, і ўбраўшы цела [3] караля Апалона як ёсьць патрэбна, палажыў яго ў кашчёл. А потым кароль Клеўдас казаў клікаці па ўсім местам, іж жадаў ведаці, хто ўмарыў караля Апалона, хоцячы таго вельмі й вялікімі дарамі даруваці, есьлі бы а том хто што пэўнага ведаў, а есьлі бы хто ведаў а не хацеў праўды спавядаці, такі маець быці колам каран.

І калі вышла ад караля запаведзь, дзеўка Апалонава ракла: "Гасудару каролю, есьлі бы есі быў абяцаў шлюб[5], ведаю, о каролю Апалоне, якою ён сьмерцю ўмер, і магу ці ўсё спавядаці.

Водлуг[6] тваяго шлюбу прашу табе толькі адной ласкі”. Рэк кароль: “О, што мяне будзеш прасіці, усяго таго дам ці”. І дзеўка ўсё спавядала па раду: як ся яго сын разьмілаваў каралёвае Апалонавае. І ня мог яе інак узяці, і засеў у вадной дуброве, і ўбіў мужа яе караля Апалона. І як усю дружыну яго пабіў, і як ся каралёвае ўбіла з жаласьці па мужу. І потым, што ся чыніла па раду яму спавядала. І рэк кароль Клеўдас: “Сын мой і мяне загубіў і Апалона”. І паслаў па сына Апалона й казаў яго апекаваці, покі бы меў лята. І потым паслаў па сваяго сына, і калі ён перад няго прышоў, паглядзеў на няго вельмі сярдзіта і рэк: “Нэндзны[7] чалавеча, умарыў есі аднаго ад добрых каралёў і набольшага прыяцеля ў маім дому, а мяне есі засароміў і загубіў. Але так хачу ўчыніці, іж возьмеш заплату, як для такога чыну злога прыстоіць”. А калі ён відзеў такавое каралёвае злое волі проціў сябе, і завалаў[8] : “Гасудару, май літасьць”. А кароль не парушыў ся ні адным міласэрдзьем, і казаў агонь класьці й сына сваяго ў няго ўкінуці. І прышла тая дзеўка, каторая то спавядала, і паклекнуўшы[9] перад каралём, ракла: “Гасудару каролю, дзяржы мі свой шлюб, як мі есі абяцаў”. І кароль рэк: “Дзеўко, гавары”. І дзеўка ракла: “Прашу цябе тваяго сына”. І кароль рэк: “Гатоў ці ёсьць, але мае прыняці сьмерць” і казаў яго ўскінуці ў вагонь. І так ён умер. І рэк кароль дзеўцы: “Вазьмі яго сабе мёртва: то ёсьць мая воля, такавое неміласэрдзье караці. Можаш узяці цяпер яго й паграсьці, яка ся яму належыць”.

[4] Але то астаўма й вярнімо ся ку онаму Апалонаву дзіцяці, катораму імя было Каньдзіеш, каторы быў у добрай апецы ў караля Клеўдаса. Пакуль быў добры віцязь і вялікае добраці й за яго добрасьць быў гасударам карнавальскім і яльёнаскім. І ўсі абавялі яго ся. Кароль Клеўдас даў за няго дачку сваю іменем Крызіла. І жылі ў вялікай міласьці й ласцы. І спладзілі дзяцей многа. Старшага паставілі каралём карнавальскім, а малодшага — яльёнаскім, а іныя шлі па сьвету рыцарскім абычаем іскаці сабе дабра. А й так ся былі па старанах распладзілі, іж ня быў бы ім дзесь які павінаваты альбо крэўны.

І прыйшло каралеўства карнавальскае ў рукі каралю Пялішу. Ён меў сына аднаго імем Марка, што ся ўрадзіў марта месяца, а другога Пэрлу. І калі кароль быў блізка сьмерці, ён каранаваў сына сваяго Марка на каралеўства карнавальскае. Кароль Марка

даў сястру Ельябэлу за караля Мяліядуша, каторы быў вельмі мілаван у Яльёнасе. Ельябэла каралёвая была вельмі цудна й за сабою ў вялікай міласьці жылі й дзіўна ся назбыт, іж каралёвая жыла за ім многа лет, а дзяцей ня мела. А потым, па вялікім часе, у жываце плод насіла. І ўсё каралеўства яльёнаскае вельмі ўзрадавалася, жадаючы меці патомства ад караля Мяліядуша.

І паехаў кароль у ловы з многімі рыцары, і прыехаў к адной вадзе, пры каторай умер адзін рыцар. А там прыехала адна дзеўка, каторая яго вельмі любіла, больш, ніжэй сама сябе ад многіх лет. Для тае міласьці яна сама яго магла найці й ракла: "Многа гавораць, як добр ёсьць, бых я такую добраць пазнала, я бых цябе прывяла ў такавое месца, дзе бы ты пры вечары відзеў цудную рэч, якавое есі даўно ня відаў". Кароль, будучы вельмі добры рыцар, жадаў відзеці тую рэч. Яна ракла: "Я цябе павяду там". І кароль сеў на конь і рэк дзеўцы: "Усядай, паеду за табою". І яна паехала дарогаю, вечарам ехала дуброваю. А потым ноч была вельмі ясна, і ўвідзелі вельмі цудны замак на гары. І вышаўшы, людзі іх убачылі, [5] многія вельмі весела прынялі каня пад каралём і зброю. А то быў горад онае дзеўкі. Яна яго павяла ў вадну вельмі харошую камору. І калі быў кароль у ложніцы, перамяніла ся каралю сэрца й мысьль. І ня была яму на ўме яго каралёвая, ані Яльёнас, каралеўства яго, ні слугі, толька оная дзеўка, каторая яго ўвяла да таго горада, іж быў дзіўна зачарован.

Відзеўшы то, каралёвы віцязі, іж ня было караля колька дзён, і ехалі яго іскаці. І не маглі яго найці, ані а нём ведамасьць меці. І ўехалі ў вялікія дубровы й многа блудзілі, ішчучы па ўсіх старанах караля. І паткалі Мярліна прарока, і Мярлін паздаровіў каралёвую. І яна яму на то ракла пачэсна: "Добры чалавеча, есьлі будзеш слыхаў альбо маеш якую ведамасьць а маём пану, каралю Мяліядушу, каторы згіб бязь весьці, для Бога, паведай мі, есьлі жыў ёсьць". Мярлін рэк: "Гаспажо, праўду табе паведам, іж ёсьць жыў, здароў і вельмі весел. Так, іж ніколі перад тым так весел ня бываў. Але ты ўжо яго сваімі вачыма ня можаш відзеці". І то рэкшы, згінуў ад няе. І яна была вельмі жаласна й пачала тужыці й плакаці, кленучы дзень раджэньня сваяго й гадзіну тую, у которую ся радзіла. І хто бы тое відзеў, ня быў бы так цьвёрдага

сэрца, штобы, на няе смотрачы, ня плакаў. I каралёвай размножыла ся жаласьць, і не магла далей ехаці й зьсела з каня. I прышло з онае тугі час параджэньня. I пачала прасіці Бога, мовячы: “Госпадзі Божа, адпусьці цела маё й прыймі ў ласку душу маю”. I ракла ёй дзеўка: “Гасударыне, як ся чуеш?” Ракла каралёвая: “Тут ужо мой канец. Толька бы мя Бог прасьціў ад бярэмені, што бых магла парадзіці, а нада мною няхай яго сьвятое міласьці будзець воля”. I ракла: “Гасударыне, чы можэш усесьці на конь? Я бых ці памагла. Ехалі быхма да места, дзе бы маглі меці агонь”. Ракла каралёвая дзеўцы: “То [6] ня можа быці, тут мой канец. Прасі Бога за мяне”. I дзеўка пачала вельмі грозна плакаці й ня ведала, што мела ўчыніці ад жаласьці. I тую ўсю ноч мучыла ся, іж яе гасударыня ў вялікай болесьці была. А рана на сьвітаньні парадзіла добрага віцязя, а сама ся прыбліжала к сьмерці. I ракла дзеўцы, каторая дзяржала дзіця: “Дай мі маё дзіця”. I дзеўка ёй падала. I відзеўшы каралёвая дзіця найцуднейшае, каторага перад тым ніколі так цуднага ня відала сваімі вачыма, і ракла: “Сыну мой! Вельмі есь-лі цябе жадала відзеці. Але калі ця віджу, з ласкі Божае найцуднейшае дзіця, каторага мі нідзе ніколі ня відала ад жаны раджонага, да твая краса мне нічога добрага ўчыніці ня можа. Толька сьмерць для вялікае мукі, каторую пры параджэньню тваём маю. Прышла есьмі жаласна на сяе месца й у жаласьці есьмі цябе парадзіла. Але мі тая жаласьць у вясельле ся абярнула для тваяго параджэньня. I хоча быці ўжо мой канец. А ты ся ў жаласьці радзіў і няхай табе будзе імя Жаласьць. А калі бы Пан Бог жывот твой у вясельле й у радасьць абярнуў, і яго правадзіў!” I то рэкшы, падала дзіця дзеўцы, і сама Богу душу дала.

I ў той ся час радзіў добры віцязь Трышчан, каторага чудныя дзяла й добрае віцяства й цудныя рэчы хачу вам спавядаці, і як яго дзеўка ўзяла. I калі дзеўка відзела сваю гасударыню ўмерлую, яна пачала плакаці й драці ліцо сваё, і было яе чуці вельмі далёка. I на голас тае дзеўкі прыехалі два віцязі, яны былі крэўныя й блізкія каралю Мяліядушу. Калі яны відзелі дзеўку й дзіця, прыкрыта каралёвае плашчам, і каралёвую мёртву, яны раклі: “Калі кароль Мяліядуш згіб, і каралёвая мяртва, убіма мы тое

дзіця а будзема гаспадары Яльёнасу. І то чуўшы, дзеўка прыступіла к нім і ракла ім: “Віцязі, не грашыце перад Богам душою й умом. Ня ўбівайце таго дзіцяці, а я вам прысягаю вераю й душою, што яго хачу панесьці ў выную зямлю, дзе а нём ніколі весьці ня будзе. Оныя віцязі далі дзіця дзеўцы й [7] узялі каралёвую, і нясьлі яе ў горад. І людзі пачалі гаварыці: “Каралёвая была бярэменна, дзе ся падзела дзіця?” І яны ся адмаўлялі, іж ня ведаюць дзіцяці, ніжлі не маглі ся адмовіці а том.

І прыйшоў Мярлін прарок і рэк ім: “Вы есьце нашлі каралёвую й дзіця. І хацелі есьце дзіця забіці, ніжлі яго дзеўка адпрасіла. А то есьце хацелі для таго ўчыніці, абы ся вам тая зямля астала”. І яшчэ рэк Мярлін: “Панове, я вам павем вашага караля Мяліядуша, каторы забыў сам сябе й сваяго каралеўства, і вас усіх слуг сваіх”. Яны пачалі гаварыці Мярліну: “Просім ця, прабог, паведзь нам нашага пана караля Мяліядуша”. Рэк Мярлін: “Да трох дзён яго ўвідзіце”. І ўбачыў Мярлін аднаго младзенца, каторы быў каралеўства галіўшскага, імем Гаварнар, каторы быў пабег з дому, боячы ся атца сваяго й брата, а быў вельмі добры й мудры. І рэк: “Пане Гаварнарэ, вазьмі сына каралёва й хавай яго. А ўчы мудрасьці й рыцарству, іж ён к такавой добраці хоча прыйці й к рыцарству, хаця ня хочаш, ім ся апякаш”. І ён адказаў: “Я табе ня знаю, аднака ж яго вазьму на маю волю й на маю навуку й у апеку. Я яго хачу хаваці й апякаці ся, як наболей буду мог”. А Мярлін рэк: “Я табе ета давам”. І потым паехалі оба ўмесьце й другога дня прыехалі к адной рацэ, каторай імя Брыкіня. З тае ракі есьлібы каторая жана піла, не знасіла бы дзіцяці да часу. І подле тае ракі быў столп мураваны. І на нём слава былі вырыты здаўна, каторыя гаварылі: “У сяе вады хацяць ся сабраці найбольшыя тры рыцары”. Мярлін указаў пісьмо, рэк: “Што то ёсьць?” Рэк Гаварнар: “Я чту слава, а ня вем, каторыя то віцязі”. Рэк Мярлін: “То маюць быці найбольшыя рыцары на сьвеце: Галец, а Анцалот і Трышчан, каторага (sic) маюць быці высокага сэрца й рыцарства, іж сьвет маець меці а ніх вялікую рэч і вялікую добрацьь. І адзін зь ніх маець быці каралевіч усяго каралеўства. Але ся варуі[10] , абы не пагіб тваім апяканьнем”. Рэк Гаварнар: “Маім апяканьнем ня маець пагінуці, покі я буду мог”. І калі

паехаў адтуль і прыехаў к дзеўцы, каторая хавала [8] дзіця, а ўжо была яго крысьціла й дала яму імя, як каралёвая наракла. Рэк Мярлін дзеўцы: “Прынясі дзіця ў горад, бо нягодна ёсьць тут дзяржаці, можа, там найці атца сваяго”. Дзеўка панясла яго ў Яльёнас, а Мярлін паехаў з панамі, дзе была оная панна караля Мяліядуша зачаравала. І там яе зымалі й раклі ёй: “Заб’ем ця, есьлі нам не спавядаеш караля Мяліядуша”. І яна многа хітравала, як бы яго ня дала, што яго вельмі мілавала, больш, ніжлі сама сябе. І яны яе грозна працавалі[11] , і яна ракла: “Пайдзіце, дам вам вашага пана, караля Мяліядуша”. І вельмі ся ўзрадавалі, зь вялікім вясельлем прыйшлі ў Яльёнас. Тут са ўсім народам учынілі вялікае вясельле. За тым прыехала дзеўка зь дзяцём у Яльёнас, падала яго каралю, атцу яго. А король быў вельмі жаласьцен па каралёвай. Калі відзеў дзіця, пацешыў ся, а каторым унімаў, абы дзіця зь нею пагібла. Калі панове відзелі Трышчана й раклі: “Усі есма нынешні дзень вясёлы”. І раклі на Мярліна: “Прарок тот табе многа добрага ўчыніў”. І рэк Мярлін: “Тое дабро, каторае есьмі вам учыніў, учыніў есьмі больш для іных, ніжлі для вас. А цяпер вам гавару: мейце апеку а том дзіцяці, бо ён маець прыйці на вялікае дабро чалавецтва й на славу сяго сьвета”.

Кароль, то бачачы, вельмі ся дзівіў, і адведзь Мярліна, прасіў яго, абы яму спавядаў, што ёсьць ён. Мярлін рэк: “Магу ці спавядаці, але ты мя ніколі не паведай”. Кароль ся яму абяцаў. Ён рэчэ: “Я есьмі Мярлін прарок. Я прыйшоў выймаці цябе з пайманьня, у каторым цябе была панна зачаравала. А то есьмі табе ўчыніў, мілуючы тваяго сына”. Рэк кароль: “Пане Мярліне, паведзь мі, што ці ся відзіць а маём сыну?” Рэк Мярлін: “Маець быці трох рыцараў найбольшы рыцар, вельмі цьвёрдага жывата й многім будзець патрэбен. І ня дай яго ў апеку нікаму, толька Гаварнару з Галіўша. То ёсьць чалавек вельмі добры й верны, тот ся ім маець добра апякаці”. Рэк кароль: “Будзь так, як ты вяліш”. Потым Мярлін адтоле проч пашоў і на жадныя[12] прозьбы не хацеў ся ўняці. І потым кароль шоў к дзеўцы й к сваяму сыну й пытаў [9]: “Ужо лі крэшчына дзіця?” Ракла дзеўка: “Ужо”. Рэк кароль: “Як яму імя?” Ракла дзеўка: “Пане, імя яму ёсьць Трышчан. Так яму матка яго дала імя, уміраючы”. Потым пазваў

кароль Гаварнара й рэк яму: “Вазьмі сына маяго на сваю навуку й хавай яго, і апякай ся ім так верна й мудра, як бы есі ёсьць паняці годна”.

То астаўма й паведайма а каралі Марку карнавальскім. Кароль Марка меў у сябе брата малодшага імянем Пэрлу, добрага рыцара. У тот час, калі ся Трышчан радзіў, прыйшлі паслы з Арлендыі ў Карнаваль прасіці дані, каторую былі доўжны ад сямі лет. Ґды то спавядалі каралю Марку, ён быў вельмі смуцен. І відзеў то брат яго Пэрла, што ся кароль застрашыў. А было шмат людзей у гасьцільніцы. Рэк: “Прыступі кажды, слухай”. І рэк: “Не лякай ся, каролю Марка, не давай дані. Але адаймі ся мечам на полі, занюж есьлі ўмрэш ад меча, пачэсна ўмрэш”. Рэк кароль: “Каторую дань давалі пярвей, і цяпер таго не магу адняці ся”. І рэк Пэрла: “Як каторае перва глупа чынілі, так і ты хочаш”.

Кароль знаў брата сваяго вельмі добрага рыцара, і сьмела, і мілавана ад добрых людзей. І ўмысьліў забіці яго. Абы яму панства ня ўзяў і ня быў таго доўга. Паехалі оба ў ловы й спрацавалі ся. І прыехалі к адной рацэ. Кароль ся напіў, а Пэрла прыгнуўся піці. Кароль выняў меч і цяў[13] брата Пэрлу па галаве вельмі моцна. І Пэрла тагдыж умер. Кароль здрадна ўбіў брата Пэрлу па галаве вельмі моцным ударам. І скора ся то стала. Тагож часу Мярлін даў знаці Анцалоту, добраму рыцару. Потым Анцалот ударыў караля ў вочы: “Ты сь здрадна ўбіў добрага рыцара, брата сваяго”.

То астаўма й вярнімо ся да Трышчана, каторага Гаварнар узяў на сваю апеку ад караля Мяліядуша.

Каторы кароль Мяліядуш быў вялікі час не жаніўшы ся пасьля каралёвае Ельябэлы. Потым узяў каралёўну з Малое зямлі за сябе. Оная пані была досыць цудна [10]. А калі яна была прышла, у тот час было Трышчану сем лет. А быў так цудны, іж на сьвеце ня было яму роўні, толька Анцалот. А быў у мачахі яго сын. І яна, калі відзела Трышчана так харошага й борзда растуча, баячы ся, іж над яе сынам возьмецць панства (а сыну яе быў адзін год), а ўмысьліўшы, ракла: “Хаця мі ўмярэці, а мушу Трышчана ўмарыць”. І не магла іным, толькі труцізною. Потым направіла

труцізну ў фляшу сярэбраную, у піцьцё, і паставіла ў галавах, у ложы. І адна панна насіла каралевіча, сына яе, ушла ў ложніцу, а дзіця пачало плакаці. І відзеўшы дзеўка віно ў фляшы сьветла, узяўшы, напаіла дзіця. А ґды дзіця напаіла, тагож часу ўмерла. І дзеўка відзеўшы, закрычала плачам вялікім, і зьбегла ся мноства людзей. І ўбачылі дзіця ўмерлае. Гаварылі дзеўцы: "Ты сь сьмерці заслужыла, іж каралевіча ўмарыла". Ґды каралёвая прыйшла на оны гук і відзела сына сваяго мёртва, пала на зямлю й самлела. І калі прыйшла к памяці й мовіла онай дзеўцы: "Што м табе злога ўчыніла, іж мі сына ўмарыла?" І дзеўка адказала: "Я яго не марыла, але ўмарыў тот, каторы труцізну тую паставіў". Дзеўку інялі й прывялі перад караля. А кароль быў вельмі смуцен і рэк дзеўцы: "Ты сь вінна". Яна мовіла: "Тот вінен, хто труцізну нарадзіў". Рэк кароль: "Пусьціце яе, яна тае труцізны ня радзіла. Леч[14] хто злы, ненавідзячы таго дзіцяці, то ўдзелаў". А Гаварнар, каторы быў вельмі мудр, рэк: "Пане, рач[15] ведаці, тая труцізна напраўлена табе або тваяму сыну. Цяпер будзь апатран[16] а ўмей ся сьцярэчы. Трышчан, каторы ёсьць у маёй апецы, дай яго на мяне, далібог будзе добра апякан". І кароль добра пазнаў, іж тая труцізна спраўлена на кагокольве[17] зь ніх. І меў раду з сваімі паны патаі, як бы меў найці, хто то ўчыніў. Яны яму адказалі: "Трэба ся табе й Трышчану сьцярэчы". А каралёвая была вельмі жаласна, умарыўшы сына злою справаю й неапатарнасьцю сваёю, і валела бы сама ўмярэці. І мысьліла на сваём сэрцу: "Толька есьмі сына ўмарыла [11], а чаго есьмі хацела, таго ня ўчыніла". І пачала ся стараці на кажды дзень. А Гаварнар, каторы меў у сабе мудрасьць, бачыў каждага дня яе рэчы[18] й погляды. І пачаў ся дамышляці, іж яна мысьліць а смерці Трышчану, што яна была нарадзіла тут труцізну на Трышчана. І мовіў яму: "Есьлі ты абцаваці[19] будзеш з мачахаю, дабудзеш сьмерці. Чці яе й угаджай ёй, але варуй ся есьці й піці ад няе, ніжлі што я табе дам, тое еж і пі". І рэк Трышчан: "Я ня ўпушчу жаднага расказаньня тваяго".

І было аднаго дня леце. Сядзеў кароль адзін у ложніцы й хацела ся яму піці. Прыйшоў к няму Трышчан. Кароль рэк: "Сыну, прынясі мі піці". І атварыў адну алмарэю, дзе стаялі

добрыя піцьця й нашоў адзін кубак чыстае труцізны. І, узяўшы, прынес каралю. А каралёвая прыйшла ў тот час і ўбачыла ў караля кубак у руцэ й заклікала: “Пане, для Бога, ня пі таго піцьця”. Кароль рэк: “Пані, што то ёсьць?” І яна ня сьмела яму паведаці, іж то труцізна. І мовіла: “Ня добра то табе піці”. Рэк кароль: “Для чаго яго хаваеш?” Яна ўмоўкла, а кароль меў бальшое размышленьне а гнеў.

Трышчан прыйшоў і паў на калене сваём і на каралёвы, пакланіў ся зь вялікаю пакораю, просячы ў няго аднаго дару. А кароль яго мілаваў больш, ніжлі сам сябе. І не дамысьліў ся абы меў а каралёвай прасіці. І кароль рэк: “Не прасі, але сам вазьмі. Нічога ці мною не забаронена”. Трышчан тое чуў і вельмі пакорна й удзячна падзякаваў атцу сваяму й рэк: “Пане, ты-сь мі даў каралёвае жывот. Пакорна ця прашу, абысь ёй адпусьціў гнеў, каторы маеш на няе. Ня рад быў то відзеў, абы мая мачаха й мая пані ўмерла тым абычаем”. Кароль быў вельмі мудр і ня бачыў здрады ні ад каго, толькі ад няе. І ня рад бы ёй адпусьціў. І рэк: “Сыну, хто табе сяе радзіў?” Трышчан рэк: “Бог ве, ні з кім ся есьмі ня радзіў. Але праўда й падобнасьць мая на то мя вяла, іж мі ся то непадабала, абы мая пані згінула, калі ёй магу жывот захаваці”. Рэк кароль каралёвай: “Выпі тот кубак”. Ракла яна: “Ня буду”. І кароль мовіў: “Табе ёсьць пагінуці, што есі хацела Трышчана або мяне ўмарыці”. І рэк ёй: “Паведай борзда [12], на каго есі тую труцізну нарадзіла?” Яна ракла: “Не на цябе”. Рэк кароль: “Але для каго? Годна ці пагінуці!” Каралёвая пачала крычаці: “Каролю, для Бога, будзь мі міласьціў!” Рэк кароль: “Паведай борзда”. І ўзяў меч і рэк: “Паведай, або цяпер умрэш”. І калі ся яна відзела пры сьмерці, ракла: “Я-м то ўчыніла на Трышчана”. Рэк кароль: “На маю веру сабе есі сьмерць нарадзіла, іж табе Трышчан нявінен быў нічым”. І казаў яе павесьці ў вязеня. І сабраў паноў, і палажыў тую рэч перад німі й мовіў ім: “На маю веру, есьлі бы ёсьце праўдзіва судзіці не хацелі, то вам будзець сьмерць”. Яны ракли: “Годна ёй ёсьць умерць, а інак ня мажа быці для таго, што хацела сына тваяго ўмарыці”. І кароль рэк: “Тот суд ваш ня будзе рушан”. І калі то паніе ўведалі, пачалі вельмі плакаці й чыніці вялікую жаласьць, што іх пане й каралёвай

умярэці, і ня рэклі нічога. А кароль рэк: “Сыну мой Трышчане, ты ёй мысьліў верую добраць, а яна зло й здраду й хацела ця ўмарыці. Але горшай ся ёй стала, ніжлі заслужыла. Будзь так, як ты хочаш, няхай будзе табою вызвалена”. Ён за то пакорна падзякаваў атцу й збавіў мачаху ад сьмерці. І быў Трышчан хвалён ад усіх людзей добрых у Яльёнасе й усі гаварылі: “Калі прыйдзець к лятам, ня хыбіць[20] вялікае добраці”. І каралёвая астала ва пакоі пры каралі, але кароль ня меў на няе ласкі, леч толька ненавідзеў са ўсяго сэрца.

Потым нямнога мінуўшы, кароль паехаў у ловы з добраю дружынаю, а зь нім Трышчан і Гаварнар, абы ся ўчыў лову. І ехалі па дуброве, але прыехалі два рыцары ў зброі й са ўсёю бранёю й спыталі: “Кое тут ёсьць кароль?” Яны раклі: “Ота кароль і з сынам”. Рэк Гаварнар: “Што гаварыш? Нет тут яго сына. Аставіў дома”. І прыступілі тыя рыцары, раклі каралю: “Ты нам ня чыніў нічога злога, але нехта іны з тваяго двара мысьліць нас пагубіці. І цяпер мысьліма збыці таго, есьлі ўзможам”. І выняўшы мячы, ніхто ня мог таго абараніці, абы кароль ня быў ранен сьмертнаю ранаю ў галаве. А іх абаіх тут жа забіта. А яны абадва былі племя [13] князю з Нароту, каторыя былі найбольшае племя ад Карнавалі. То ім была адная варажбітка паведзіла: “Вам пагінуці ад караля Мяліядуша двара”. А ў том ім была рада ад караля Марка карнавальскага, іж ён баяў ся Трышчана. Есьлі прыйдзець к летам, абы яго з панства ня выгнаў, як была оная варажбітка ракла. Яка ж і потым, калі Трышчан прыйшоў к лятам, прыйшоў з сваёю дружынаю й убіў князя з Нарота сваёю рукою й сказіў горад іх, іж там камень на камяні не застаў.

А ґды караля баяры відзелі мёртва, яны ня ведалі, штобы мелі ўчыніці, раклі межы сабою: “Ні адзін пан ня ёсьць так зло ўсьцеражоны ад сваіх, як наш ад нас”. І Трышчан плакаў шмат са ўсімі людзьмі сваімі. І прыправілі насіла на два коні й панесьлі караля. А калі былі блізка гораду, і людзі з гораду ўчынілі вялікі плач і жаласьць па нём. І паграблі пачэсна, як слушыць на такавога пана.

І калі то ўвідзеў кароль Марка, пачаў многа мысьліці а том. І прыйшоў к няму адзін хлопец, каторы большэй ведаў, ніжлі

іныя людзі па Мярліну й усё, што мае быці. І для таго яго кароль большэй любіў. Рэк каралю: “Мысьль борзда, хочэць твой сестрынец Трышчан учыніці табе вельмі жаласна”. Рэк кароль: “Як то можа быці, абы Трышчан к таму рыцарству прыйшоў?” Рэк хлопец: “Маець на то прыйці, іж на сьвеце ня будзе рыцара над няго”. І кароль умоўк.

І Гаварнар, каторы быў вельмі мудры, бачыў, што мачаха яго яшчэ ненавідзіць, іж бы ся тая зямля астала. І адведшы яго проч, рэк: “Мой добры прыяцелю й сыну! Твая мачаха цябе вельмі ненавідзіць і мысьліць цябе ўмарыці. Паедзьма ў Францыю патаі, к каралю Пэрамонту. Там ся наўчыш мужству й будзеш чалавек знамяніты. А калі разьведаюць тваю добрацъ, прыйдзеш на рыцарства. Тады паедзеш у Яльёнас на сваю атчызну. Ніхто ці ня будзе сьмеці рачы, штобы табе няўдзячна”. Рэк Трышчан: “Містрэ! Дзе мі ты ўзьвяліш, там я хачу паехаці, занюж не находжу большэй прыязьні ні ў вадном чалавецы, яка ў табе”. Рэк Гаварнар: “Нарадзіма ся, паедзьма заўтра па зары”. Заказаў [14] Трышчану, і нарадзілі ся, як была ім патрэба. І ўзялі з сабою золата й серабра досыць, і ехалі тый дзень да Францыі к каралю Пэрамонту. Гаварнар заказаў Трышчану, жэ бы ся не паведаў, хто а адкуль ёсьць. І Трышчан мовіў: “Я рад цябе слухаці”. А ґды прыехалі да караля Пэрамонта, кароль яго ўдзячна прыняў і казаў яму даці добрую гасподу. Трышчан пачаў расьці й ляпшаці. І ў малых днях, іж ся яму дзіваваці пачалі, іграў у шахы й у варцабы[21] лепшэй над іных. І ўсякае яго добраці ня было роўні. А ніхто так стройна ня мог на кані сядзеці, як ён.

І калі яму было дванаццаць лет, ён быў вялікае добраці й мудрасьці ва ўсялякай яго рэчы, панія й панны, й кожды чалавек дзівавалі ся яму, каторыя яго відзелі. І кождая была пані й панна рада таму, абы іх Трышчан мілаваў.

Трышчан, ён тэж служыў дворна й пачэсна каралю Пэрамонту. А кароль іншых панят на двары сваім ня ставіў ні за што напроціву яму. А ніхто тэж ня знаў яго, хто а адкуль ёсьць. І меў той кароль адну дочку, панну вельмі пекную. Тая ся разьмілавала Трышчана й мовіла: “Чалавечае вока ня відала так цуднага младзенца, як Трышчан ёсьць”. І калі яго дзе відзела, вочы яе й

мысьль ня была іньдзе, толька пры нём. Так яго мілавала, як сама сябе. І не магла ся дамысьліці, як бы мела к ласцэ яго й к міласьці прыйці й зь нім паполніці волю сваю. І мысьліла а том: "Есьлі яму даці знаць, ён к таму ня прызволіць. Яшчэ молад, ня сквапіцца ку такой міласьці. Але калі бы мі ся абяцаў мілаваці мяне, я бых ждала да яго часу. І валела бых яго ждаці, ніжлі быці каралёваю найбольшаю найбольшага каралеўства. Але баю ся, іж ня ўсхочаць для маладосьці, і ня сьмеці будзе для атца маяго таго ўчыніці".

І некаторага дня яна сядзела на ўпакоі ў адной каморы. І казала к сабе пазваці Гаварнара й ракла яму: "Пане Гаварнарэ! Я мілую тваяго Трышчана большэй, ніжлі сябе. Прашу вас за то, прывядзі яго на то, абы ён мяне мілаваў. [15] Есьлі бы ён таго ўчыніці не хацеў, прыпраўлю яго к вялікай лёгкасьці[22]". І Гаварнар то слышаў і засмуціўся. І ня ведаў, штобы меў з тым учыніці, і мысьліў ня малую хвілю: "Есьлі бы Трышчан меў то ўчыніці, а кароль бы ся таго даведаў, караў бы яго непачэсна". І адказаў ёй: "Добра, міласьцівая каралёўна. Для вашай міласьці то ўчыню. Буду то яму мовіці, іж бы ён тваю волю папоўніў. Але ён ёсьць молад. Есьлі ся так борзда ня станець, ня мей на няго гневу". І яна яму падзякавала вельмі ўдзячна. І за тым Гаварнар шоў да гасподы й быў смуцен, і пачаў мысьліці: "Есьлі Трышчан то ўчыніць, то зло. А ня ўчыніўшы, тэж нядобра". І мовіў Трышчану: "Што мысьліш учыніці? Каралёўна цябе назбыт мілуець. Есьлі б есі яе мілаваці не хацеў, яна хочэць сама сябе ўмарыці". І Трышчан яму адказаў: "Есьлі мя мілуець збытачнаю міласьцю, я таго ня ўчыню. Няхай збытак пры ней, бо я здрадцаю пану сваяму быці не хачу. За тую яго ласку й пачэснасьць, каторую ён мне чыніць, а ня знаючы мяне, хто а адкуль есьмі". Ґды то Гаварнар слышаў ад Трышчана, вельмі ся таму дзіваваў, іж у такавой маладосьці бачыў на такавую пачэснасьць, бо онага часу толька было яму трынаццаць лет. І яшчэ яго Гаварнар большэй каштаваў у том і рэк яму: "Для чаго ня хочаш так цуднае панны мілаваці?" Трышчан яму рэк: "Цуднасьць яе ня можа мяне прывесьці ку здрадзе. А есьлі бых к таму прызволіў, як ты мне ў том раду дадаў, але табе было мяне адвадзіці ад таго". І на

заўтрэй каралёўна прызвала Гаварнара й ракла яму: “Даведаў лі ся есі ад Трышчана?” Ён рэк: “Трышчан вас мілуець дворнаю міласьцю, ніжлі таго ня хоча ўчыніці, што бы было ку здрадзе атцу тваяму”. І ракла каралёўна: “Так лі ся Трышчан са ўсім ад мяне аднесл?” І пашла вельмі смутна, кленучы дзень тот, у каторы ся радзіла. І ўвашла ў ложніцу й плакала вельмі грозна.

І аднаго дня была яна ў ложніцы ў размышленьню а міласьці Трышчанавай. А тая ложніца была цёмна, у каторай была яна. Трышчан шоў міма ў другую камору, ня ведаючы, што яна там ёсьць. І яна, яго ўбачыўшы, выскачыла а ўхваціла яго за горла абема рукамі й пачала цалаваці й мілаваці. А ён, баячы ся [16] жэ, бы яго хто ня ўбачыў, пачаў яе ад сябе адпіхаці абема рукамі. Яна то абачыўшы, іж таго меці ня можа, чаго хацела, заклікала вялікім голасам. І пачуўшы рыцары каралёвы, і кароль не пазнаў, што яго дачка, і пабеглі там рыцары каралёвы і засталі. А яна за горла Трышчана дзержыць і пачала жалаваці ся: “Панове, Трышчан мя хацеў зґвалтаваці”. І яны паймалі яго й прывялі да караля. Паведалі, што відзелі й слышалі ад панны. Кароль засмуціў ся вельмі й рэк: “Я цябе чэстую, яка ж ёсьць яўна ўсім людзям, а ты прыводзіш мне ганьбу. А тым сабе сьмерць дзелаеш?” І казаў яго ўкінуці ў цямніцу. А Гаварнар у тот час быў на гасподзе й даведаў ся, што Трышчан ёсьць у цямніцы. І быў а том вельмі жаласьцен, рэк сам к сабе: “Я есьмі загіб, нідзе ня мам вясельля. А а сабе ня вем, што мі будзе”.

І шоў Гаварнар да караля. І каторыя яго страчалі, тыя яго сарамоцілі, гаворачы: “Так лі есі выўчыў Трышчана? Ён цяпер упаў у зло”. А Гаварнар шоў маўчком. І прыйшоў перад караля й прыклекнуў на калене, рэк: “Пане, для Бога, зьмілуй ся! Выслухай рэчы маёе!” І кароль мовіў: “Гавары”. І Гаварнар рэк: “Пане, будзь тое пачэсна захавана, наўпакой хачу вам паведаці”. Кароль шоў у адну камору, а Гаварнар за нім. І сказаў яму ўсё па раду: як ёсьць каралёўна разьмілавала ся Трышчана й мовіла яму ў сваёй рэчы, пасылаючы да Трышчана, і як ёй Трышчан адказаў.

Кароль то слышаў і не пачаў вялікага сэрца меці на Трышчана, ніжлі яшчэ ў том ва ўсём Гаварнару не давяраў, і

рэк: “Я таго хачу скора даведаці ся. Есьлі будзець праўда, тагды будзець прост[23]. А есьлі будзець вінен, хачу яму ўчыніці, яка віннаму”.

І пайшоў Гаварнар ад караля. А кароль паслаў па дачку сваю й рэк ёй: “Дочко мая мілая, што мысьліш з Трышчанам? Я яму хачу зло ўчыніці, а тваёй лёгкасьці памсьціці”. І каралёўна іного ня сьмела рачы, леч мовіла: “Гасудару, справядліва ёсьць. Няхай кожды возьмець па сваім дзялам”. І рэк кароль: “Дочко, есьлі ты ўсхочаш, ты будзеш яму жана. А есьлі ня ўсхочаш, ён будзе мёртв”. І панна пачала глядзець сам і там. І пазнаў кароль, іж ня ёсьць панна няпрыяцель Трышчану. І казаў прывесьці Трышчана [17] й Міліянца, дзядковіча яе, каторы нядаўна чалавека забіў. А ґды прыведзены перад караля, кароль узяў меч, рэк: “Дочко, відзіш тых двух младзенцаў, каторыя маюць памярэці. Але аднаго хачу пусьціці, каторага ты ўсхочаш. І ты пусьці, каго твая воля ёсьць, а другі няхай умрэць”. Яна ня ўмела што ўчыніці, і мысьліла сама ў сабе: “Есьлі пушчу Трышчана, будзець каралю жаль Міліянца. Есьлі пушчу Міліянца, тагда маяму намілейшаму Трышчану ўмярэці”. І замаўчала, і кароль пазнаў, іж яна мілуець Трышчана. І яшчэ яе больш прыстрашыў і рэк: “Дочко, вазьмі каго воля твая будзець”. Яна, баячы ся атца ракла: “Пусьці маяго брата Міліянца”. Рэк кароль: “Тагды ёсьць Трышчану ўмярэці”. І ўзяў Трышчана за верх галавы й замахнуў мячом. Рэк: “Маю цяці”. І яна, тое відзеўшы, не магла ўцярпеці й ракла: “Гасудару отчэ! Пусьці мі Трышчана, а зь Міліянцом чыні, што хочаш”. І кароль рэк: “Узяла есі Міліянца, а Трышчан мусіць умярэці”. Яна ракла: “Пане, каюся, волю Трышчана, а зь Міліянцом чыні, што хочаш”. Рэк кароль: “Узяла есі Міліянца, а Трышчан мусіць умярэці, каторы ёсьць вельмі вінен”. І замахнуў мечам, якабы галаву яму сьцяці. І яна, прыскочыўшы, і зашчыціла яго рукою, і ракла: “Пане, не забі Трышчана, але забі мяне”. І рэк кароль: “Інак ня можа быці, адно Трышчана мушу сьцяці”. І каралёўна ракла: “Пане, дай мне меч, няхай я яго ўб’ю”. І кароль ёй даў меч. Яна, пасматрэўшы на Трышчана, ракла: “Пане, альбо пусьці Трышчана, альбо хачу сама сябе ўбіці тым мячом”. І рэк ёй кароль: “Чаму ты так мілуеш Трышчана?” Яна ракла: “Большэй

яго мілую, ніжлі сама сябе. А калі ты яго ўб'еш, я хачу сама сябе ўбіці". І кароль рэк: "Дочко, ты мей Трышчана". А затым рэк Трышчану: "Ты ўжо праў". А Трышчан падзякаваў каралю й каралёўне вельмі пакорна [18] й пашоў у вялікі палац. Калі Гаварнар увідзеў Трышчана, ён быў вельмі весел і пытаў яго: "Як ця кароль пусьціў?" Трышчан яму павядзіў усё па раду, як ся што чыніла. Рэк Гаварнар "Калі ж ясі прост, бі чалом каралю, абы ця адпусьціў, іж калі ня ўчыніш на волю панны, абы ці чаго злога ня ўчыніла". Трышчан рэк: "Учыцелю, як ся табе відзіць, дзе быхма мелі ехаці?" Рэк Гаварнар: "Болей мі ся відзіць, абыхма ехалі ў двор караля Марка, дзядка тваяго. А есьлі ся ўсхочаш таіці, ня можаць ця ніхто пазнаці, іж есі многа прырос ад тых часоў, як есьма зь Яльёнаса выехалі. І можаш там служыці, даколе ці ся будзець час пасаці[24] на рыцарства. А калі ўсхочаш пасаці ся, кароль ця сваёю рукою пашэць". І рэк Трышчан: "Будзь, як ты вяліш". І назаўтрэй прыйшоў Трышчан перад караля й ударыў чалом і рэк: "Хачу паехаці ў сваю зямлю". І пакорна падзякаваў каралю й добрым людзям на ласцы. І кароль яму падзякаваў на яго вернай службе й абяцаў яму сваю прыязьнь. А калі ўвідзела каралёўна, што Трышчан едзець проч, яна была збытна смутна. І паслала яму інаходніка[25] й выжла адным пахалком[26]. Трышчан абяцаў дар онаму пахалку, чаго будзець прасіці. Ён рэк: "Пане, хачу, калі будзеш рыцарам, абысь мя пасаў". І яшчэ каралёўна паслала ку яму, просячы: "Пане, дай мі свой меч, абых яго памілавала". І Трышчан ёй меч паслаў, і яна ракла: "Волю ўмярэці пасьля мяча Трышчанава, ніжлі быці найбольшаю каралёваю". І пракалола ся на том месцу. А Трышчан паехаў з Францыі к каралю Марку з Гаварнарам. І ўдарылі яму чалом, і рэк Гаварнар: "Міласьцівы каролю! То ёсьць пане прыехаў табе служыці, абысь яго пасаў сваёю рукою на рыцарства". Кароль яго прыняў вясёла, абяцаў ся яго пасаці, калі ён усхочаць, а не пазнаў яго. Трышчан служыў дворна й цнатліва. І хто яго відзеў, кожды ся дзіваваў, што ёсьць за пане. А потым Трышчан вялеў сябе пасаці. І кароль казаў прыправіці, што патрэба рыцару, і прыправілі вельмі пачэсна. Трышчан быў у цэркві, а назаўтрэй яго кароль пасаў: і тут было многа людзей добрых. Хто яго відзеў,

кожды мовіў: “Ня відалі есма лепшага рыцара”.

Будучы яму на тым вясельлі [19], прыйшлі чатыры рыцары з Арлендыі к каралю Марку. І пачалі мовіці без паклону: “Каролю, к табе нас паслаў добры рыцар Амурат з Арлендыі, гаворачы, дай дань, каторую твае продкі давалі маім продкам з Карнавалі ўв Арлендыю, абы была гатова дней да дзесяці. Есьлі дасьцё, мы прыйшлі мір. А есьлі ня хочаш даці, ведай тое, іж у малых днях не астанець тут пядзь зямлі, штобы не скажона”.

Слышаў то кароль Марка й перастрашыў ся назбыт, і ня ведаў, што адказаці. А Трышчан выступіў і стаў перад каралём, і рэк паслам: “Хадзіце сюды, каторыя ёсьце так зухвалае[27] пасольства прынясьлі. Паведайце вашаму пану, ачкольвек[28] нашы продкі зь нямудрасьці сваёе да вашага каралеўства дань давалі, але цяпер яе ўжо ня возьмеш. А есьлі ваш пан кароль арлендыйскі хацеў бы яе меці, няхай прыйдзець а возьмець чэраз меч на полі. А інак яе ня можа меці, а я гатоў адняці яе маёю рукою”. Раклі паслы каралю Марку: “Есьлі то ты мовіш?” І кароль рэк: “Калі ён хочаць узяці тую бітву за карнавальскую свабоду, гавару й я”. Раклі паслы Трышчану: “Хто ёсьць ты?” А ён рэк: “Я ёсьць госьць, а імя маё Трышчан”. А яны раклі: “Адпусьці нам, Амурат ня будзе ся з табою біці, есьлі ня будзеш вялікага роду чалавек”. А Трышчан рэк: “Для таго тая бітва не растанець: хаця ён ёсьць каралевіч, а я сын караля Мяліядуша яльёнаскага, а пляменьнік есьлі караля Марка. Таіў ся есьмі дасель, цяпер ся таіці не магу”. І паслы ехалі проч борзда й спавядалі каралю Амурату, што ім адказаў, і ён рэк: “Хто ёсьць, каторы тую бітву ўзяў?” Яны раклі: “Сын ёсьць караля Мяліядуша, пляменьнік ёсьць караля Марка. Ён нова пастаўлен рыцарам, але есма ня відалі так цуднага рыцара, іж ён сам узяў бітву без намавеньня”. І рэк Амурат: “Ён будзе каяці ся: новы рыцар новую сьмерць хочаць узяці. Нарадзілі есьце той бітве дзе быці?” Яны раклі: “Не”. Ён рэк: “Пайдзіце апяць і напраўце, таго не хачу адкладаці”. І рэк Гарнот: “Я вам учыню дружбу, іж таго рыцара [20] ўвіджу, каго так хваляць”. І яны ехалі морам і сухам, і прыйшлі ў Карнаваль к каралю Марку й паведалі рэчы караля Амурата. Рэк кароль Марка: “Лепей няхай будзець бітва тая ў востраве Самсоне. Яны

два паедуць кожды ў сваём судне, і кожды будзець сабе марнар”. І нарадзілі бітву за дзьве нядзелі.

І паслы прыйшлі к Амурату й паведалі яму, іж нарадзілі бітву ў востраве Самсоне. “То мі ёсьць міла”. І рэк Гарноту: “Відзеў лі ты таго рыцара?” Ён рэк: “Відзеў. І калі быс хацеў маёе рады слухаці, ты бысь аставіў тую бітву а ўчыніў бысь мір межы вамі. Бо калі ся вы два саймеце на той бітве, ня можа быці безь вялікае пячалі. Іж калі табе што будзець, то вялікая шкода ўв Арлендыі будзець. А калі ся яму што станець, вялікая шкода ўсяму сьвету будзець, іж ён ня будзець такі, штобы дома мешкаў. А ў мае дні ня відзеў есьмі лепшага рыцара, а калі дойдзець лет, будзець вялікае добраці”. І рэк яму Амурат: “Мір ня можа быці, есьлі мі ня дойдзець дань гатова”. І пачаў ся напраўляці.

А кароль Марка й Трышчан і ўсі рыцары, панны й паніе карнавальскія, ходзячы ў цэркаў, малілі ся Богу, абы ім Бог памог і збавіў іх ад Амурата.

Трышчан направіў ся, што было яму патрэбна. А назаўтрэй Трышчан мшы слухаў і шоў у гасьцільніцу ў бляхах і ва ўсёй зброі. І ўсі панове шлі проціў яго.

І кароль Марка рэк: “Сыну мой мілы, чаму сь ся так ад мяне таіў? Калі бых ця знаў, хаця бы ўся Карнаваль паработала, ня даў бых ці біці ся. Іж есьлі табе што ся станець, я ніколі ня мам вясельля”. Трышчан рэк: “Пане, не страшны ся, ачэй нас Бог не забудзець сваёю ласкаю. І надзею ся, іж нам дасьць Бог пачсьценьне й сваю помач”. Тагды прыйшла весьць, што ўжо Амурат у востраве Самсоне. Трышчан рэк: “Дайце мі гелм[29] ”. І далі яму добры гелм, [21] і сам кароль павязаў яму й паправіў усю зброю. І аглядаў, і пацьвердзіў. І прывялі яму добрага фрэза. Трышчан шоў у ладзьдзю й борзда стаў у востраве. Амурат яго бачыў, дзіваваў ся, як сьмеў узяці бітву проціў няго. А Трышчан, калі прыстаў, адапхнуў сваю ладзьдзю на ваду. І пытаў яго Амурат: “Чаму есі адапхнуў ладзьдзю?” Рэк Трышчан: “Аднаму з нас проч пайці ў тваёй ладзьдзі, а другому тут астаці”. І Амурат тую рэч прыняў за мужства й валеў бы яго ня пытаці, што яму мудра адказаў. І рэк Амурат: “Пакінь тую бітву, бо ня рад бых ця загубіў. Хачу ця дзяржаці, як маяго таварыша, а мілаваці, яка брата”. І

рэк Трышчан: “Я бітву пакіну, калі дань адпусьціш карнавальскую. А есьлі ня хочаш, ты ся бі”. Рэк Амурат: “Гатуй жа ся к бітве”. І Трышчан рэк: “На то есьмі прыйшоў”.

**БІТВА ТРЫШЧАНАВА З АМУРАТАМ**

І ўселі оба на коні й ударылі ся так моцна, абы іх добрая зброя не адзяржала, оба бы былі мёртвы. І дрэва[30] паламалі й оба палі з коньмі на зямлю. І ў тот час оба скочылі на ногі ранены. Трышчан быў ранен у сьцягно ґроткам ядавітым. Амурат быў ранен бязь яду. І ўзялі мячы й пачалі ся рубаці вельмі моцна, вялік час ударая адзін аднаго. І ранілі ся на многа месц, і пазналі адзін аднаго, іж ёсьць вельмі добрыя рыцары. Амурат унімаў а сабе, што ён большы ёсьць на сьвеце. А калі відзеў Трышчана, ён меў страх ад няго й оба ся ўтамілі, што інак не магло быці, ніжлі аднаму тут астаці. І для таго кожды ся змагаў на ўдарцы. І ўсі, каторыя іх відзелі, дзівілі ся вялікім дзівам. І біўшы ся, адступіў адзін ад другога, укланіўшы ся на шчыты.

Амурат рэк: “Есьлі Трышчан у другое прыйдзець у такой моцы, я не магу ад няго сьцярпеці, іж бачыў яго, найбольшага рыцара”. І калі яны адпачылі, Трышчан скочыў і пачаў рубаці вельмі з высока мячом, і пачаў пакрываці ся шчытом і мячом. Амурат ужо ня мог, і відзеў то Трышчан. Разьсярдзіў ся й ударыў яго моцна паверх гелма колька мог. І расьцяў яму гелм і галаву да мозґу, і астаў яму ўломак меча ў галаве. Амурат чуў ся ранен сьмертнаю ранаю, і пакінуўшы шчыт і меч, і пабег да ладзьдзі й прыйдзець [22] к сваяму вялікаму судну й к дружыне, каторыя яго ждалі. Слугі яго прынялі вельмі смутна й улажылі яго ў судна. І рэк: “Ідзеце борзда”. І пачалі ся адпіхаці, плачучы. А карнавальцы, каторыя таго глядзелі, пачалі: “Злая вам дарога, ота вам дань!” Рэк кароль Марка й іныя карнавальцы: “Бог даў нам пачэснасьць і Трышчанаву добраць”. Відзеўшы яго аднаго ў востраве, пусьцілі ся к няму многа людзей. Нашлі Трышчана вельмі ранена й вельмі слаба ад крові, што яго кроў сашла й ня мог на нагах стаяці. Але іныя яму раны ня так шкодзілі, як тая, што ў сьцягне, што быў ранен ґроткам ядавітым. І яны яго павязьлі на край.

Кароль прыступіў і прыняў Трышчана, пачаў цалаваці й

мілаваці й рэк яму: “Як ся чуеш?” Трышчан рэк: “Вельмі ёсьць ранен есьмі. А калі дасьць Бог, магу быці здароў”. І кароль яго павёў у цэркаў — даці хвалу Богу. А потым яго павёў на палац зь вялікім вясельлем і ігрামі, іж былі асвабаджоны Трышчанам ад работы.

І потым Трышчан прыйшоў да гасподы, разбалеў ся ад раны ядавітае так сільна, іж ледзьве сьцярпеў. І прыйшлі лекары й прылажылі масьцей што налепшых, і скора быў здароў ада ўсіх ран, акрамя тае, каторая была ядавітая. Тае не маглі зьлячыці, і што калі прыкладалі к онай ране, то ўсё нічога не памагала. І не разумелі, што прыкладаці к той ране, каторая яго вельмі мучыла. Аднае ночы Трышчан вельмі ся мучыў, уразіўшы ся ў оную рану. І ніхто прыступіці к няму ня сьмеў, толька Гаварнар. Тот ніколі не адступаў ад няго нікуды й плакаў, відзячы пана сваяго пры сьмерці, іж ня было чалавека, хто яго пярвей відзеў, абы яго мог пазнаці. І кароль пачаў плакаці вельмі грозна. І людзі добрыя ўсі плакалі, якабы ім меў сын або брат уміраць: “О Трышчане, пачэсны й добры рыцару цудная маладосьці! Коль дарага купіў есі свабоду карнавальскую! Мы аставуем вясельлі, а ты ўміраеш акрутнаю сьмерцю!”

І будучы Трышчан на сваёй пасьцелі сам, а пры нём адна нявеста, каторая прыйшла глядзеці, як ёсьць нямоцан. І пачала плакаці вельмі жаласна й ракла: “О Трышчане! Я ся табе дзівую, як ты [23] ня мысьліш сам а сабе, як бысь мог найці якое лякарства ў выншай зямлі! Ведзь есі каштаваў, ва ўсёй Карнавалі добрага лекара нет!” Рэк Трышчан: “Я не магу на кані сядзеці, ані на насіліцах несьці ся”. Яна ракла: “Я табе не магу парадзіці. Наўчыць цябе тот, каторы неба й зямлю сатварыў”. І Трышчан рэк Гаварнару: “Узьнясі мя на палац, с каторага на мора відно”. І Трышчан глядзеў вялікі час і рэк Гаварнару: “Пазаві мі караля Марка”. І кароль прыйшоў і рэк: “Сыну, чаго мя есі зваў?” І рэк Трышчан: “Прашу ця, пане, дай мі адну рэч, каторая табе нямнога важыці будзець”. Рэк кароль Марка: “Хаця бы й многа важыла, тагды я на тваю волю ўчыню. І нет таго, чаго бых я для цябе ня ўчыніў”. І Трышчан яму за то пакорна падзякаваў: “Я, пане, лекара ў сёй зямлі не магу найці. Цяпер есьмі цярпеў многа й

віджу добра, што ся мая сьмерць прыбліжыла. Хачу пайці ў вышшую зямлю па сьвету. Нарадзі мі добрае судна й пастаў, што мі так патрэба ў нём, стравы й піцьця. І адно лёгкае ведра[31], каторае бы мог адзін чалавек далоў спускаці, і пакрый мі яго добрым сукном для дажджу й для ветру. Хачу ся пусьціці па мору, ґды мі фартуна прынясець, ачэй мі ся дзе лекар найдзець к той ране, ад каторае ўміраю. Есьлі пак ся не найдзець, тагды я мёртв". Рэк король: "Сыну, як хочаш пайці, будучы так нямоцан?" І рэк Трышчан: "І хаця пак умру там, аднакаж і тут умру. А калі будзець судна гатова, улажы мя ў няго й дай мі маю арфу, а другую лютню. А на час сабе гуду, абы мі тугі й болесьці лягчала".

І король Марка то слышаў, пачаў плакаці вельмі смутна, і ня мог яму доўга адказаці за сьлязамі. Атразьвеўшы, рэк: "Сыну Трышчане! Пак лі мя хочаш аставіці са ўсім?" І Трышчан рэк: "Пане, інак цяпер ня можаць быці. А ґды найду лекара й буду здароў, абяцую ці ся вярнуці засе[32] у Карнаваль". І калі король відзеў, што інак ня можа быці, ён яму казаў направіці судна пачэсна, як сам Трышчан расказаў. І паставіў у ней, што была патрэба Трышчану ўсяго досыць. І калі было гатова, вялеў яго ўвесьці ў судна вельмі нямоцнага. І відзеўшы то, карнаваляне пачалі плакаці [24] вельмі жаласна, а король са ўсімі вяльможамі сваімі плакалі безь перастаньня. І калі Трышчан тое відзеў, і было яму вельмі жаль. І адапхнуўся ад краю борзда, і напялі ветразі. І быў ім ветр упраўдны а шлі борзда, а ня ведалі, куды ідуць. І так шлі два дні. І прыгнала яго фартуна ў Арлендыю пад адзін горад, у каторым быў король Ляньвіз. Тот меў у сябе жану, сястру караля Амурата, каторага ўбіў Трышчан. І меў у сябе дачку на імя Іжоту. Онае панна вельмі знала лякарства ад ран, і ня было тае раны, каторае бы не магла зьлячыці. І калі Трышчан быў на краі мора перад замкам, ён з таго быў вельмі весел і ўзяў арфу. І настроіў, і пачаў іграці, што нацудней мог.

**Заўвагі**

[1] галоўным чынам.

[2] жорстка.

[3] табе.
[4] неасьцярожнасьцю.
[5] абяцаньне, слова.
[6] адпаведна.
[7] подлы, капрызны.
[8] укленчыў.
[9] апусьціўшыся на калені.
[10] сьцеражыся.
[11] мучылі.
[12] ніякія.
[13] секануў.
[14] але.
[15] калі пажадаеш.
[16] асьцярожны.
[17] кагосьці.
[18] гаворку, словы.
[19] зносіцца.
[20] ня міне.
[21] шашкі.
[22] да вялікага прыніжэньня.
[23] свабодны.
[24] апаясвацца, г.зн. прысьвячацца.
[25] парода коней.
[26] служкам.
[27] дзёрзкае.
[28] хоць.
[29] шлем.
[30] драўляная частка дзіды.
[31] маленькі ветразь.
[32] зноў.

**Далей будзе.**

**Прадмова й падрыхтоўка да друку**
**Надзі СТАРАВОЙТАВАЙ.**

# САЦЫЯЛІСТЫЧНЫ КРЫМІНАЛЬНЫ СВЕТ

Канец 1920-х гг. можна пазначыць канчатковым фармаваннем крымінальнага свету, які неўпрыкмет ўпісаўся ў турэмныя сцены сацыялістычнай дзяржавы. На пачатку 20-х гг. невялікая праслойка крымінальнікаў растварылася сярод злачынцаў новага грамадскага ладу: мяшочнікаў-спекулянтаў, службовых злачынцаў, усялякіх налётчыкаў, бандытаў, палітычных супраціўцаў дзяржаўнага ладу і г.д. Крадзяжы, раскраданні, рабаўніцтва ўвайшлі ў паўсядзённасць, сціраючы мяжу паміж зладзеямі-прафесіяналамі ды абываталямі. Усе станавіліся адной зладзейскай, адрынутай грамадствам масай.

У гэтыя гады з пазбаўленых волі на сцэну выйшлі “блатныя”, або “каляровыя”, якія належалі да вышэйшых слаёў злачыннага свету. У сваю чаргу, “блатныя” таксама падзяляліся паводле свайго сацыяльнага становішча. Узломшчык незгаральных шафаў займаў самае высокае месца, а кішэннік — адносна нізкае; менавіта “блатныя” валодалі неабходнымі асобаснымі якасцямі. З’яўляючыся ў камеры, такі чалавек — з тонкай артыстычнасцю, вялікай вытрымкай, спрытам і кемлівасцю, якія выпрацоўваліся падчас заняткаў ягоным рамяством і на працягу доўгага знаходжання ў месцах пазбаўлення волі,— моцна вылучаўся з агульнае масы. Менавіта яны пачыналі ўпэўнена станавіцца на ногі, ствараць згуртаваныя, нешматлікія, бязлітасныя групоўкі, у якія ўваходзіла дробная крымінальная шушамецьь: “шакалы”, “агні”, “шпана”, “шалманы” і г.д. У рэдкіх

выпадках ім супрацьстаялі “прыблатнёныя”, або “паўкаляровыя” (полуцвет), якія не прызнаваліся “блатнымі”, і незалежныя групоўкі. Каб у сваім асяродку “ўзаконіць” сваю неардынарнасць і падпарадкаваць сукамернікаў, “блатныя” абапіраліся на “сапраўдныя запаветы” мінулага. З карысцю для сябе “аўтарытэты” стваралі адпаведную глебу для паразітычнага існавання. Дзеля ўзняцця свайго прэстыжу ўсялякімі сродкамі насаджалі сярод зняволеных турэмныя традыцыі і разнастайныя “зладзейскія законы”. Менавіта апошнія і прызнаваліся “блатнымі”, якія з пагардай ставіліся да ўсіх іншых законаў. Грэбуючы ўсімі “неблатнымі”, турэмны кантынгент яны разглядалі як сукупнасць ахвяраў, на якія маюць неабмежаваныя правы. “Блатныя” арганізавалі своеасаблівую закрытую групу. Няпісаны крымінальны закон патрабаваў строгага падпарадкавання. Кожнае парушэнне абмяркоўвалася калектыўна, на г.зв. “талкавішчы”. Асоба, прызнаная вінаватай, безапеляцыйна асуджалася. Як правіла, чалавека выганялі з асяродку “блатных”, але часам засуджвалі на смерць. Яму звычайна адсякалі галаву, і выканаўца паказваў яе “суддзям”. “Блатным” жа станавіўся крымінальнік, якога рэкамендаваў хтосьці з “блатных”. Прыём навічка абмяркоўваўся ў прысутнасці кандыдата. Тыя, хто прымаў, павінны былі пераканацца, што кандыдат здолее прытрымлівацца іхніх законаў. Нацыянальнасць і веравызнанне не адыгрывалі ніякае ролі. У рэдкім выпадку кандыдату ставіліся папярэднія ўмовы — зрабіць стукача або “суку”. Калі ў асяродку навічка меўся нехта “сумнеўны”, забойства было абавязковаю ўмовай.

“Блатныя” былі арыстакратамі злачыннага свету. Трапляючы ў камеру перасылкі, дзе “блатнога” ніхто не ведае, той з парога адрэкамендоўваўся і знаёміўся з тамтэйшымі крымінальнікамі. “Блатныя” маглі амаль адразу адрозніць свайго ад чужога. Прыкідвацца “блатным” можна было толькі перад “фраерамі”. За гэта самі “блатныя” маглі строга пакараць.

У розных турмах “блатных” называлі па-рознаму: “законны злодзей”, “злодзей у законе”, “законнік”, “сумленны злодзей”, “сапраўдны злодзей”, “часняга”, “басяк”.

**Крыванос Антон Іосіфавіч**, 1899 г., Менскі раён, Слабодскі (Лашанскі) с/с, в.Мацкі:

"У турме (Менская гарадская турма, май 1929 г. **— Аўт.)** ужо нас раз'яднаді па адным. Сустрэлі нармальна, уводзілі ў курс справы, як трымацца на допыце або яшчэ што-небудзь. Ніякага допыту там і не было. Усе ў камеры агульнай сядзелі, дзе і іншыя турэмшчыкі. "Блатныя" былі і кралі ўсё, здымалі нават апошнія штаны з людзей. Хто што з імі зробіць? У іх арганізацыя такая!"

Гора было таму, хто не шанаваў "блатных законаў". Асабліва жахлівыя кары былі наканаваныя злодзею, які абрабаваў свайго таварыша-злодзея.

**Машчар Філарэт Іванавіч**, 1913 г., Пухавіцкі (Рудзенскі**)** раён, Дукорскі с/с, в.Жораўка:

"Там быў адзін кухар (Менская гарадская турма, чэрвень — ліпень 1931 г. **— Аўт.)**, турэмны кухар, і краў у зняволеных пайкі. На іх эканоміў, а сам прадаваў на бок. Яго таксама засудзілі. Ён у зняволеных краў і прадаваў! Яго пасадзілі і далі тэрмін. Злодзею за гэта добра давалі. Гэта не са склада скраў і ім даў, а ў іх скраў".

У канцы 1928 г. адбылася рэарганізацыя сеткі месцаў пазбаўлення волі. Да гэтага часу ў месцах зняволення на ўсёй тэрыторыі СССР утрымлівалася 4,2 працэнта прафесійных злачынцаў ад агульнай колькасці асуджаных; яны і з'яўляліся касцяком злачыннага свету. Тады ж акрэсліўся выразны падзел зладзейскіх прафесіяў:

"медзвяжатнік" — узломшчык незгаральных шафаў, карыстаўся вялікім аўтарытэтам;

"краснушнік" — злодзей, які рабаваў таварныя цягнікі;

"майданшчык" — спецыяліст па крадзяжы багажу пасажыраў;

"куклач" — працаваў на падмане, падсоўваючы якінебудзь хлам замест рэчы, што была прадметам здзелкі;

"хіпеснікі" — злодзей і ягоная партнёрка; апошняя заваблівала "фраера", якога потым абіраў злодзей;

"водаправодчык", "дамушнік", "скакар" — кватэрны злодзей;

"шырмач", "шчыпач" — кішэнны злодзей.

**Машчар Філарэт Іванавіч**, 1913 г., Пухавіцкі (Рудзенскі) раён, Дукорскі с/с, в.Жораўка:

> “Сядзеў увесь час у “амерыканцы”, а калі этапавалі, дык перавялі (чэрвень — ліпень 1931 г. **— Аўт.)** у турму на Валадарскага. Там сядзелі мае знаёмыя. Усяго па гэтай справе арыштавалі чалавек дзесяць. Я, мой брат Мікалай і знаёмыя. Усе старэйшыя за мяне былі, я быў самы малодшы. Сядзелі цыганы, коней кралі. А жулікаў гэтых, кішэннікаў! Адбяруць — і нічога не зробіш. “Чамаданшчыкі” былі. Яны дзяліліся на катэгорыі. Калі мы аб’ядналіся, дык ужо не баяліся. Мы згрупаваліся, маладыя хлопцы”.

20-я — пачатак 30-х гг. для злачынцаў-прафесіяналаў былі залатым часам. Для ўраду яны не былі палітычнымі канкурэнтамі, якія імкнуліся да ўлады. Проста займаліся злачынным промыслам. У многіх выпадках заведзенае на іх яшчэ ў паліцыі “дасье” не даходзіла да наваствораных каральных органаў. Таму перад новай уладай яны былі чыстыя.

**Быкоўскі Іван Мацвеевіч**, 1911 г., Уздзенскі раён, Цяплянскі с/с, в.Распуцце:

> “Былі рэцыдывісты (“амерыканка”, пачатак снежня 1934 г.—пачатак красавіка 1935 г. **— Аўт.)**, палітычныя і шпіёны з Польшчы. У асноўным за доўгі язык сядзелі. Неяк прыйшоў адзін, гадоў сорак на выгляд, у скураным паліто. Павітаўся і кажа: “Стараста! Дзе месца?” Я паглядзеў (да гэтага часу я ўжо пасядзеў), бачу: бывалы хлопец. Як прыйду з допыту, ён распытвае. Я яму расказваю. А ён ужо неаднойчы сядзеў. Аферыст. Яны скуплялі ў Менску серабро, у іх была машынка. Пераплаўлялі ў фальшывыя долары і здавалі ў Таргсін. Што трэба было — бралі. Іх было тры чалавекі. Дык адзін, калі іх лавілі,— пад цягнік і ўцёк. А яго і таварыша аднаго ўзялі. Я яму аднойчы кажу: “Ой, хлопец, шкада цябе. Лепш бы ты каго-небудзь забіў. Табе б лягчэй было”. Ён ужо ведаў, што мой артыкул — гэта пагібель”.

У сваю чаргу, ОГПУ на ўсёй тэрыторыі Саюза пачало ўлік “класава чужых”. Дзейнасць жа рэспубліканскіх органаў, якія займаліся барацьбой з крымінальнай злачыннас-

цю, на месцах вялася слаба. Адпаведна з агульнасаюзнымі Асновамі крымінальнага заканадаўства рэцыдыў з'яўляўся абцяжваючай віну акалічнасцю. Спісы вяліся ў саюзных і аўтаномных рэспубліках. Таму асоба, асуджаная і зарэгістраваная ў Беларускай ССР, не значылася больш нідзе. Варта было злачынцу выехаць з рэспублікі, як ён без напругі мог скрыць свае ранейшыя судзімасці і замест належнага рэцыдывісту пабольшанага тэрміну пакарання і "ізалятара асобага прызначэння", гэта значыць турмы, трапляў у выпраўленча-працоўную калонію, прызначаную для выпадкова трапіўшых людзей. Вось тут апошнія і праходзілі "школу турэмнага выхавання" пад кіраўніцтвам рэцыдывістаў.

У турмах, дзе збіралася краса крымінальнага свету, жыццё зняволеных працякала ў двух вымярэннях — фармальным і нефармальным. У фармальным супрацоўнікі вучэбна-выхаваўчых частак месцаў зняволення стваралі школы па ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці, арганізоўвалі разнастайныя лекцыі і даклады, масавую клубную работу, запрашалі артыстаў мясцовых тэатраў, ладзілі канцэрты, дэманстравалі кінафільмы. Былі нават спробы радыёфікаваць памяшканні, праводзіць дыспуты і конкурсы на лепшага чытальніка. Увесь астатні час у камерах ішло нефармальнае і цяжкае жыццё.

У кожнай турме існаваў свой асаблівы крымінальны дух, які падтрымліваўся няпісаным зладзейскім законам, што дакладна выконваўся. Менавіта апошні ўсталёўваў нормы паводзінаў і пакарання за парушэнне. Закон забараняў адымаць кроўную лусту, даносіць, супрацоўнічаць з турэмнай адміністрацыяй, удзельнічаць у будаўніцтве карцэраў, турмаў і г.д. Лічылася, што закон зусім забараняў усялякі від працы. У выпадку злаўлення зладзеяў на месцы злачынства закон абавязваў наймаладзейшага прыкрываць уцёкі старэйшых, нават коштам свайго жыцця. У выніку злаўлення браць віну на сябе. Моцай гэтых крымінальных нормаў вылучаліся былыя губернскія турмы (Менск, Віцебск, Магілёў).

У Менскай гарадской турме камеры амаль заўсёды былі перапоўненыя. “Блатных” было няшмат, але яны тэрарызавалі ўсіх. Начамі непрыкметна абкрадвалі. Прадукты з’ядалі адразу, а рэчы ў невялікіх хатулях таемна перапраўлялі ў суседнія камеры. Звычайна “каня” ці “парашут” — так на крымінальным жаргоне называліся гэтыя “перадачы” — прывязвалі да ніткі і выкідалі праз акно камеры. Гэткім шляхам перадаваліся запіскі, курыва і розныя дробязі. Калі “конь” не быў прызначаны суседзям, то на рэчах пісалі адпаведны нумар камеры. Тыя, хто злавіў “каня”, стараліся пераправіць яго па адрасу. Запускалі такія перадачы да сярэдзіны 30-х, пакуль да турэмных вокнаў не прыладзілі “намордні́кі”.

**Тарасюк Юрый Аляксандравіч**, 1914 г., Дзятлаўскі раён, пас.Казлоўшчына:

“…Пасля гэтага нас (Менская гарадская турма, сакавік 1934 г. **— Аўт.)** накіравалі ўніз, як бы ў падвальнае памяшканне. А там, аказалася, паслы польскага сойму сядзелі: Мятла, Рак-Міхайлоўскі, Дварчанін, Гаўрылік, Валошын. Крымінальнікі абакралі дэпутатаў. Нажамі паразразалі іхнія мяшкі і павытраслі з іх усё. Уночы дзейнічалі, а раніцай выявілася. Яны паведамілі ахове, што іх абакралі. Лаяліся, тое-сёе ім вярнулі. Гэта была звычайная з’ява”.

Асабліва вылучаліся паборамі “сабачнікі”, якія ўяўлялі сабою спецыяльнае аддзяленне ў турме або асобную камеру ў гэтым аддзяленні. Яны прызначаліся для навічкоў, якіх з “сабачнікаў” размяшчалі ў іншыя камеры турмы. У “сабачніках” не былі выключэннем выпадковыя сустрэчы. Звычайна арыштаваных трымалі там не даўжэй за суткі, і да сярэдзіны дня памяшканне было гатовае для прыёму новай партыі. Калі турма была перапоўненая, зняволеныя знаходзіліся ў “сабачніку” па некалькі сутак. Гэткімі камерамі ў Менскай гарадской турме былі першая і шостая.

**Пятух Пётр Аляксандравіч**, 1912 г., Лагойскі (Плешчаніцкі**)** раён, Крайскі с/с, в.Краснае:

“…Была шостая камера (час дзеяння — сярэдзіна студзеня — люты 1933 г. **— Аўт.)**, вялікая камера. Этап з раёну прывозяць, з Плешчаніцаў мужыкоў — туды. Тады

пусцяць жулікаў. А яны абяруць: у каго — сала, каўбасы там і мёд. Тады ў агульную камеру гэтых дзядоў. А тады гэтая камера зноў стаіць пустая. З іншага раёна прыгоняць і гэтых хлопцаў выклікаюць: “Пятроў! Пятроў!” А ён не азываецца. А што? Ён тут наесца, вошы яго не заядуць, калі добра наеўшыся. А мы тут такія крычым хутчэй: “Я!” Каб вывелі на волю, на этап”.

А “блатныя” не спяшаліся. Выдатна ведалі, што іх чакае ў лагерах. Таму ішлі на ўсялякія хітрыкі, аж да членашкодніцтва. Даходзіла да таго, што крымінальнік здымаў штаны, сядаў на падлогу і цвіком прабіваў сабе машонку, не закранаючы яечак. Боль нямоцны, небяспекі для здароўя амаль ніякай, а на этап скіраваць яго нельга.

**Філіповіч Пётр Іосіфавіч**, 1914 г., Слуцкі раён, Пакашэўскі (Палікараўскі**)** с/с, в.Рудня:

“Загналі ўжо ў турму (сярэдзіна 20-х чыслаў лютага — пачатак сакавіка 1934 г. **— Аўт.)**, у першую камеру, як зараз памятаю. Там жуллё гарадское збіраюць. У нас у аднаго гадзіннік быў, яшчэ з войска прыйшоў. Гадзіннік укралі за ноч, боты забралі. Забралі, назаўтра прыходзяць. “Ну як, слуцкія, хто мае крыўду якую, расказвайце”. А яшчэ ў сталоўку не заганяюць, а ўжо ў таго пайку забралі, у таго — хлеб, гадзіннік, боты. Пачалі скардзіцца. “Зараз, зараз разбяромся”.Закрыў камеру і пайшоў. Прыходзяць, зараз выганяюць у калідор і зараз шукаюць: праходзь, праходзь па адным. Канвой — гадоў 18, да 20 гадоў, убок, убок, трапіў і я ўбок. Нас у 6-ю камеру, па гэтым калідоры ў 6-ю камеру. Пагналі нас, якіх адабралі, чатыры-пяць маладых, такіх як мы. Загналі. Там таксама тыя самыя ўркі сядзяць. Але там было добра, свабодна, нам там някепска было. Хто трапіў туды — яго абяруць, раздзенуць. Зараз мяне ўжо абмацалі, і я такі голы, як і яны, няма нічога. І сядзіш там…”

Удзень было не лепш. Дарэчы, калі наглядчык упускаў “блатнога” ў новую камеру, той вымаўляў фразу: “Людзі ёсць?” Гаварыў гучна, не чакаючы, пакуль наглядчык грукне дзвярыма. У адказ крымінальнікі, калі такія былі, з самага сонечнага і больш-менш вольнага боку камеры адгукаліся: “Ідзі сюды!” І як бы ні была набіта камера, усе без слова расступаліся, бо ведалі, з кім маюць справу. Іхняя

група чаплялася да аднакамернікаў і патрабавала аддаць тое, што ім падабалася. Амаль у кожнага быў нож або заточка, што было пераканальным аргументам для задавальнення жадання. Просьбы аб дапамозе не памагалі, а наадварот. Крымінальнікі знаходзілі спосаб расправіцца са стукачамі.

**Пігарэева (Згурская) Марыя Іванаўна**, 1911 г., Менскі раён, Самахвалавіцкі с/с, в.Пяцеўшчына:

“…Тады нас прыйшлі і забралі з міліцыі. І пагналі нас па вуліцы. Бачу, прыгналі нас пад турму, бачу — гэта брама турэмная (лета 1934 г., Менская гарадская турма. **— Аўт.)**. Плот вялікі, мы здагадаліся, што гэта — турма. Пасадзілі. Так мы ў турме тры тыдні прабылі. Нас там шмат было, маладых. Бацьку майго пасадзілі ў адну камеру, мяне ў другую прывялі. Адразу ж падзялілі па камерах. Ой, адмыкаць стаў, усё заходзіцца ў мяне ў сэрцы. Адчыніў дзверы — вісіць баба на кратах, трымаецца… Высока ўзлезла, каб далёка відаць было. Ой, я назад… Ён мяне ў плечы пхнуў, кажа: “Прывыкнеш”. Я і села. Я адна, а бабы там тры сядзелі. На першым паверсе. Замкнуў нас і пайшоў. Яны адразу да мяне падселі: “За што трапіла?” Я кажу: “Высланая была, кулацкая. Дадому ўцякла. Злавіла міліцыя нас”... Яны — нічога. І зараз жа прыходзіць, адмыкае і кажа: “На прагулку!” Потым я свой мяшэчак развязала. Сказаў — на прагулку. Узяла тры цукерачкі, кавалачак хлеба напалам, думаю: “Я ж тату там, можа, пабачу”. І так іду, у таты “ваўчок” у дзвярах. “Манька”. Я кажу: “Татачка, вы тут?” Дала кавалачак хлеба, цукерачкі чатыры і ў двор выйшла. Шмат ужо людзей там ходзіць. Хто сядзіць… Так на прагулцы колькі там, 10—15 мінут прабылі. Прыходжу ў гэтую сваю турму — у мяне пуста: ні хлеба там ужо, ні цукру, ні цукеркаў… Ён прыйшоў замыкаць нас — я кажу: “У мяне дык усё ачышчана, нічога няма”. Ён кажа: “Ну, нічога”. Замкнуў і пайшоў. Вось гэтыя кабеты абчысцілі мяне. Я так і жыла, хадзіла да гэтых жанчын. Яны працавалі ў цэху. Адна кажа: “Я папала — нешта скрала”. Другая таксама за нешта. Я дык болей і не пытала іх...”

**Пятух Пётр Аляксандравіч**, 1912 г., Плешчаніцкі раён, Крайскі с/с, в.Краснае:

“Я быў купіў кажушок (сярэдзіна студзеня — люты 1933 г., Менская гарадская турма**.— Аўт.)**. Зіма ж падыхо-

дзіла, трэба было апрануцца, не ведаў жа, што забяруць. А там было парадкам жулікаў. Жулікі гэтыя мужыкоў і крыўдзяць. Вось ён кажа, што мяняю. А ў яго быў пацяганы, стары. Дык я ведаю, што забяруць і так. Я памяняў. Яны звалі мяне і давалі "падмацаванне", жулікі гэтыя. За тое, што я добры, жоўценькі кажушок памяняў. Можна было жаніцца..."

Падобнае адбывалася і ў іншых турмах. У канцы кастрычніка 1929 г. у Магілёўскай гарадской турме ў 17-й камеры сабралася больш за сто чалавек. На ўсю камеру было некалькі крымінальнікаў, якія адчувалі сябе прывольна. Размяшчаліся каля ўсходняй сцяны. Навічкоў крымінальнікі сустракалі ля парога камеры і патрабавалі паказаць сумкі, па-блатному "гумны".Адразу ж забіралі ўсё, што спадабалася, і адпраўлялі навічкоў на свае месцы — пад нары. Некаторыя супраціўляліся. Так, Латушка, які раней трапляў у турму і ўсе прыпасы схаваў за пазуху, заступіўся за святара Г.Туманава, у якога трое маладых уркаў збіраліся да ўжо адабранага кавалка сала дадаць яшчэ апошнія два. Усе трое накінуліся на Латушку, той стаў адбівацца і выцяў аднаго нагой. У крымінальніка ў руцэ з'явіўся нож. Латушка закрычаў: "Каравул! Ратуйце!" Загрымелі ключы, і ўсё само супакоілася.

У Магілёўскай гарадской турме крадзяжы адбываліся пераважна ноччу, падчас кінасеансаў і наведвання ларкоў.

Што да былых павятовых турмаў, дык найбольш "блатной" лічылася ў тыя гады Гомельская гарадская турма. Да пачатку лета 1930 г. самавольства уркаў дасягнула ў некаторых камерах свайго апагею.

За тое, што святар Р.Табанькоў з Рэчыцкага раёну адслужыў для зняволеных таемную багаслужбу, яго перавялі ў 8-ю камеру Гомельскай гарадской турмы. Тут з яго здзекваліся "блатныя": гулялі на ягоны абутак і адзенне. Хто прайграваў — адбіраў у святара і аддаваў пераможцу. Наўзамен давалі рознае рыззё. Уначы садзілі "на веласі-

пед”: закладвалі паперу паміж пальцамі ног і падпальвалі. Агонь апякаў ступні ног, пальцы… Табанькоў прачынаўся, ускокваў і пачынаў сутаргава рухаць нагамі… Удзень ставілі на нары парашу і прымушалі святара служыць для іх літургію. За адмову — здзекі, насмешкі, таўхалі. Аднойчы адзін з “блатных” ускочыў на спіну святару і закрычаў: “Ану, айцец, пакажы нам, як Хрыстос на асле ўязджаў у Іерусалім!” Пры гэтым ён біў, тузаў святара, а “блатныя” хорам рагаталі.

У былых павятовых турмах атмасфера ў камерах была больш цярпімая. Гэта абумоўлівалася некалькімі фактарамі. У некаторых турмах адміністрацыя жорстка карала за ўсялякае самавольства з боку крымінальнікаў, да расстрэлу ўключна.

**Шарамет Іван Мікітавіч**, 1914 г., Асіповіцкі раён, Вярэйкаўскі с/с, в.Пратасевічы:

> “Мне, як непаўналетняму, шэсць гадоў і восемь месяцаў далі. І тут жа — у Бабруйск з Асіповічаў, на цягнік, у вагон. Дык і там шмат насаджалі. Гэта ўжо нас траіх, па адной справе. Усіх — у Бабруйск. Пабылі там, на першым паверсе (Бабруйская гарадская турма; сярэдзіна красавіка — пачатак мая 1933 г.**— Аўт.)**. Не буду казаць пра дачыненні: сядзелі і кулакі, і бандыты, я сказаў бы, гэтыя, жулікі. Вось прынясуць пасылку, падачку якую-небудзь — усё забяруць. Пайка не бралі, не буду гаварыць, пайкоў ні ў кога не бралі. І вось быў у нас гэткі выпадак. Мурзін быў, з Лапічаў, здаровы дзядзька, моцны. Так, ростам не надта што высокі; можа, крышку вышэй за мяне, можа, і не. Такі, але мажны і дужы дзядзька. Тыя аддалі перадачу гэтую і пайшлі. Замкнулі і ўсё, а там хоць трэсні — нікому не трэба… І вось ягоная жонка прыехала, прывезла перадачу. Гэты самы, камандзір шайкі той, “блатных”: “Забраць!” А ён — не даваць. Той падышоў да яго, а ён як выхапіць з нараў дошку! Адарваў — і гэтай дошкаю камандзіра гэтай банды. А гэтыя тады ходу пад нары — шайка, каторыя адбіралі. Тады гэтага Мурзіна, калі ён дошкаю выцяў і гэны паляцеў, дык яны спачатку пад нары, а пасля кругом раз — і на яго… І аблажылі, і ўжо ўкінулі так, што яго ледзь жывога вынеслі.

Ён, праўда, небарака, доўга і не жыў. Ну, і што — прыйшлі? Што папыталі? І тутака ж начальства з'явілася вышэйшае, і тут жа допыт: "Як было, што? Кажыце чэсна, хто што бачыў, як было". — "Ды так і так, адбіралі ўсё, і такі, і такі". Вывелі яго, гэтага верхавода, і тут жа ў двары расстралялі. Выпусцілі ўсю камеру, быццам паглядзець. Яму тут і суд, тут прачыталі яму артыкул — і ўсё. Расстралялі. А гэтых убралі з камеры, памагатых ягоных. Мурзін хадзіў троху. Ён яшчэ на канал трапіў, але доўга не быў, мусіць, месяцы два ці тры. Праз тое памёр, што пабілі, — вядома, аднялі здароўе ўсё яму, такому дзядзьку… І ён там, пры мне таксама, і канаў. Вось такое дзела..."

У некаторых турмах адміністрацыя ўдзяляла асаблівую ўвагу выбранню старасты. Ад старасты шмат у чым залежала камерная атмасфера, таму на гэты пост амаль заўсёды выбіраліся асобы з сялянаў, вайскоўцаў, радзей — з гарадскіх. Але стараста быў нелегітымны, пакуль не быў зацверджаны турэмнай адміністрацыяй. А пасля зацверджання станавіўся сапраўдным гаспадаром камеры.

**Філіповіч Пётр Іосіфавіч**, 1914 г., Слуцкі раён, Пакашэўскі (Палікараўскі) с/с, в.Рудня:

"Заганяюць туды (7 студзеня — сярэдзіна 20-х чыслаў лютага 1934 г., Слуцкая гарадская турма.**— Аўт.**), дык не замыкаюць дзверы. Прыйшоў туды, у камеру: "Дабрыдзень, землякі!" — "Здароў, здароў, зямляк". Там было гэтулькі людзей, што дыхаць не было чым. Пастаялі, паглядзелі; я не плачу, нічога… Усё. Замкнулі дзверы і пайшлі. Я: "Хто стараста камеры?" — "Малевіч Рыгор Віктаравіч". Гэта капыльскі быў — ведаеце, вось такі здаровы мужык. "Наце,— кажу,— закурыць хлопцам дайце, пачастуйце". А ў мяне просяць хлеба. Я кажу: "Браткі, я сам галодны. Курыце". "А сам курыш?"—пытае стараста. Я кажу: "Сам я не куру, а есці хачу". — "Ну, добра". Ён зараз, гэта, стаў на юрцы. Юрцамі ў камеры нары называлі. "Курцы, падыходзьце! Частуйцеся! Хто не курыць і падыдзе — вочы выб'ю". Падыходзяць, ён, гэты, махоркі дае; на колькі чалавек — ужо там дзеляць. Папяроснай паперы даў. Я тады дзве кніжачкі такой прыхапіў, дзве штучкі. Кніжачкі па капейцы былі, для папяросаў. Раздзяліў ён на курцоў. "А есці хочаш?" — "Ну, хачу, нідзе не дзенуся". Там сядзеў стары. "Слухай, развяжы свой сідар, адрэж балалесу". Гэта — сала. Такі добры

кавалак адрэзаў, такі квадратны, сала. Адрэзаў скварку. Далей — да другога: “Адкрый сваё гумно, хлебца дай”. Рукі дрыжаць, адрэзаў. “Болей, болей, бо зараз сам падыду ды адрэжу! Дык напалам раздзялю! Вось так...” Даў хлеба. Пад’еў я. Дома не пад’ядаў гэтак. Наеўся. Праўда, зараз будзе баланда. Стараста: “Тут яна як вадзяная. Хто мае што есці — не маюць патрэбы ў ёй”. Хутка прынеслі насільшчыкі гэтую баланду, як яны кажуць, — на калу. І чарпак у іх. Зараз разліваюць нам ужо, кормяць нас. Дзверы расчыненыя, у дзвярах стаяць. Гэта ўвечары, на ноч. Баланды мне налілі гэтую “чашку”, як яны кажуць. Што там за баланда — рыбіны галовы і капуста, лісты... І ўсё — сёрбай. Пасёрбаў. Я ўжо насёрбаўся і спаць пачаў прыладжвацца. На юрцах месцаў ужо не было, пад юрцамі прыстроіўся. На праходзе поўна людзей. Гэны, што мне рэзаў “балалесу” — сала, і той там ляжаў. Я пад юрцы залез і спаў. Хоць бы што, наеўшыся, як і трэба. Праз акно бачым — гоняць асуджаных. Ужо ведалі: зараз нам папаўненне прыйдзе. Раз прыйшоў знаёмы — Палякоў. Так, гэта, вылупіў вочы — сам мяне прызнаў. А я пытаю: “А ў вас у Покашаве ёсць Палякоў — родзіч ці не?” — “А як жа, пляменнік мой,— кажа,— Ісак Андрэевіч. Дык ты знаеш яго?” Я кажу: “Знаю, па суседству жыву, штодня бачымся”. “Вось,— кажа,— гэта мой пляменнік...”

**Міраненка Іван Якаўлевіч**, Чавускі раён, Пуцькаўскі с/с, в.Асінаўка:

“У камеры (кастрычнік — снежань 1929 г., Аршанская гарадская турма. — **Аўт.**) нашай маленькай трынаццаць чалавек месцілася, і нас упіхнулі трох. Усе сядзелі зладзюжкі — палітычных не было. Я дастаю вяндліну, каўбасу. Селі падсілкаваліся. Запрасіў частавацца. Некалькі чалавек падышлі, узялі. Я паклаў усё гэта на акно, на падваконне, і леглі спаць. Раніцай прачынаемся. Адзін скардзіцца: “У мяне сала з-пад падушкі скралі”. Гэта не нашы, (...) чужыя. Я зірнуў на акно — маё ўсё ляжыць. Пабылі мы тры дні, пераводзяць у іншую камеру. Перавялі ў дзесятую камеру, а былі мы ў трынаццатай. Вось тут ужо разнамасны склад. Тут было чалавек трыццаць, пераважна крымінальнікі, але былі і сяляне. Адзін святар, машыніст з дэпо чыгуначнага, некалькі фельчараў. Былі і раскулачаныя. Упіхнулі нас дваіх, бацьку адвялі ў дзевятую камеру. Разлучылі нас. А мы з суседам. Ад прыроды ў яго галава

крывенькая, бяскрыўдны чалавек. Крымінальнікі між сабой варагуюць, погань. Я начальніку турмы падчас прагулкі растлумачыў, што гэтых цыганоў трэба ўбраць, і прывёў некалькі прыкладаў іхніх здзекаў: ганялі, білі, забіралі… На вячэрняй пераклічцы аднаму рукі назад завязалі — і ў карцэр. А пасля, назаўтра, і гэтага кудысьці забралі.

Былі яшчэ ў нас два бандыты. Яны сядзелі на Салавецкіх выспах. Яны раней сядзелі, паспелі ўжо вольным паветрам падыхаць. Адзін з іх быў зусім душэўна зношаны, нервовы. Другі — крыху спакайнейшы. З адным я гаварыў — Кавалеўскі яго прозвішча было. Яго выпусцілі — і ён зноўку заняўся бандытызмам. Арыштавалі яго разам са зброяй, у нейкай хаце. З наганам у руках і забіралі яго. Дзверы ўзламалі. “Дык навошта табе трэба было наган трымаць? Выкінуў бы куды”. — “А я ўсё раздумваў: адбівацца ад іх ці не...”

Тут я ўзяў верх над імі. Поўны парадак навёў, ніхто ні ў кога не крадзе. “Вось палічка. Што пакладуць — табе”. Мне месца з краю адвялі, тут і паліца была. І ўсе былі задаволеныя. Калі перадачы прыйдуць — ніхто нічога не ўкрадзе і не адбярэ. Так і з клумкамі было.

Быў выпадак. Забілі ўсю камеру: і на падлозе, і пад нізам. Двух’ярусныя нары. І на падлозе ляжаць, і пад нарамі. Вылазіць адзін і кажа: “Грошы ў мяне скралі”. А іх там, пад нарамі, чалавек восем было. “Ану, вылазь усе! Станавіся ў рад!” Паглядзеў аднаму, другому ў вочы: “Аддай грошы!” І, ведаеце, дастае грошы. Чымсьці ён мне не паказаўся… “Блатныя” накінуліся біць. “Нельга!” Яны яго пальцам не кранулі. Святар, фельчары, інжынер, я іх у лагеры сустракаў, дык яны мяне з шанаваннем сустракалі…”

З сярэдзіны 30-х гг., разам са зменамі ў турэмнай сістэме, перабудоўваецца і “блатная эліта” ў месцах пазбаўлення волі. Рэформай трыццатых гадоў выціснуты з турмаў і ізалятараў у папраўчыя працоўныя лагеры кішэнныя зладзеі, “бадзягі”; яны канчаткова аддзяліліся ад іншых людзей, што адбывалі кару. Сілаю, нахабствам, пагардай да навакольных занялі “элітнае становішча” ў месцах пазбаўлення волі.

**Андрэй ЗАЕРКА.**

Аляксандар Ф'ЮТ

# БЫЦЬ (АБО НЯ БЫЦЬ) СЯРЭДНЕЭЎРАПЕЙЦАМ

*Ува Ўсходняй Эўропе заўжды пануе ліха.*
*Усходнюю Эўропу гэта захапіла.*
*Ува Ўсходняй Эўропе заўжды няміла.*
*Быў чалавек, і ўжо няма яго праз хвілю.*
**Ч.Мілаш.**
***Нататнік: Пэнсыльванія***

Дзе насамрэч шукаць Сярэднюю Эўропу? На мапе? У гістарычнай памяці? У фантазіях? А можа ў літаратуры? І ці наагул варта яшчэ ўваскрашаць гэты тэрмін, калі дыскусіі, якія ён спараджаў, згасьлі, а палітычна-грамадзкія рэаліі нагэтулькі далёкасяжна зьмяніліся? Пагатоў, што ад самага пачатку існаваньне Сярэдняй Эўропы падавалася прынамсі ілюзорным, выклікала шэраг пярэчаньняў. “Я дапускаю, што існуе нешта такое, як Сярэдняя Эўропа,”[1]— пісаў Чэслаў Мілаш, а Даніла Кіш канстатаваў, што “яна ўсё больш нагадвае сёння гэтага цмока з Алка ў “Атоку Пінгвінаў” Анатоля Франса (...) ніхто з тых, хто цьвердзіў, што яго бачыў, ня мог сказаць, як ён выглядае”[2]. Для Кундэры гэтая частка кантынэнту была “разарваным Захадам”[3],

---

Аляксандар Ф'ют — гісторык і крытык польскае літаратуры. Нарадзіўся ў 1945 г. у горадзе Жывец. Працуе ў кракаўскім Ягелёнскім унівэрсытэце. Аўтар шэрагу выдатных працаў передусім з абсягу літаратуразнаўства: “Доказ нятоеснасьці. Проза Вільгельма Маха” (Уроцлаў, 1976), “Вечны момант: аб паэзіі Чэслава Мілаша” (Парыж, 1987; Варшава 1993), “Пытаньне пра тоеснасьць” (Кракаў, 1995). Апошні твор ёсьць своеасаблівым працягам дасьледаваньняў, прысьвечаных Маху і Мілашу. У ім тоеснасьць прыцягвае аўтара як праблема, у поле разгляду трапляюць такія славутыя польскія пісьменьнікі, як Ґамбровіч, Бабкоўскі, Ват, Канвіцкі, Хвін, Канвіцкі і зноў Мілаш.

для Бродзкага — “заходняй Азіяй”[4]. Бо, уісьце, Сярэднюю Эўропу можна прыблізна геаграфічна лякалізаваць, але далей пачынаюцца ўласна рупаты. Ейны прасьцяг і анталягічны статус і надалей застаецца досыць неакрэсьленым, межы размываюцца і капрызна блытаюцца. Калі ўявіць сабе фізычную мапу ўсёй Эўропы, на якую нехта пасьлядоўна накладвае празрыстыя клішы, якія пасьлядоўна вылучаюць уплывы Рыму і Бізантыі, лацінскай і старацаркоўнаславянскай мовы, каталіцызму і праваслаўя, вымалёўваюцца абшары заняпалых каралеўстваў і зьніклых імпэрыяў, рухі пэўных нацыянальных групаў і рэлігійныя асяродкі, ня кажучы аб засягу камунізму — у пэўны мамэнт лініі пачынаюць размывацца і блытаюцца. Гэта, без сумневу, якраз тут. Тут, дзе найбольшая заблытанасьць і згушчанасьць, месьціцца Сярэдняя Эўропа.

Ці варта, аднак, і надалей настойваць на гэтым пайме? Так, адказвалі яго абароньнікі. Калі не спрацоўваюць геаграфічныя, гістарычныя або палітычныя аргумэнты, трэба зьвярнуцца па культурныя аргумэнты. Або — міжволі паўтараючы словы рамантыкаў — перанесьціся ў краіну духу. “Сярэдняя Эўропа — гэта не гаспадарства, а культура, лёс. Ейныя межы ўяўныя, і іх даводзіцца вызначаць наноў, выходзячы з кожнае новае гістарычнае сытуацыі”[5],— даводзіў Кундэра. Мілаш, у сваю чаргу, пераконваў, што “гігіенічная, так бы мовіць, падстава для абраньня тэрміна Сярэдняя Эўропа ў тым, што ён дазваляе шукаць спэцыфічнасьці ейнае культуры і бараніць нас ад памылковых аналёгіяў”[6]. Паводле Кіша, гэтае паймо “ў галіне культуры ўжо можа азначаць толькі апэляцыю на генэалягічнае

---

Сучасная польская літаратура, якую аналізуе Ф'ют, ёсьць сьветчаньнем эпохі, хворай на комплекс ідэнтычнасьці. Тым самым “пытаньне пра тоеснасьць” сыгналізуе, з аднаго боку, “сьмерць гістарычнага чалавека” (Лешак Калакоўскі), укарэненага ў супольнай мінуўшчыне, з другога — пачаткі новага, мадэрнага самавызначэньня індывіду.

У аснову зьмешчанага ніжэй тэксту быў пакладзены рэфэрат, спавешчаны 25 кастрычніка 1994 году падчас сэсіі ў Кракаве пад назовам “A Chance for Opening Up or Threat of Isolation? Central-Eastern European Writers in a New Political Setting”.

дрэва Эўропы як на сваё ўласнае дрэва (...) азначае яшчэ верагодную патрэбу прызнаць гэтае супольнае паходжаньне, не зважаючы на адрозьненьні або *якраз зь іхнае прычыны*"[7].

Акцэнт на адзінства там, дзе надзвычай выяўна панавала разнароднасьць, у вялікай меры тлумачыўся, безумоўна, тым, што паймо Сярэдняй Эўропы зьяўлялася галоўна ў творах эмігрантаў і дысыдэнтаў, набываючы наўперад палітычны падтэкст. Спраставанае супраць дамінаваньня Савецкага Саюзу над гэтым абшарам кантынэнту, яно было згадкаю аб існаваньні "горшай", забытай Эўропы, сьпісанай у архіў ялцкім трактатам[8]. Чаму я прыгадаў гэтыя агульнавядомыя факты? Таму што генэза тэрміна і акалічнасьці яго ўзьнікненьня ў значнай меры ўплываюць на ягонае разуменьне і далейшае функцыянаваньне ажно да сучаснага мамэнту. Сярод іх трэба вылучыць, першае, падкрэсьліваньне трывалых сувязяў з культурнаю і цывілізацыйнаю спадчынаю Заходняй Эўропы, нярэдка з пропускам Нямеччыны і Аўстрыі і як бы коштам Расеі, якую вымыкаюць з гэтых сувязяў. Другое, пошук супольных рысаў — нечага накшталт культурнае парадыгмы сьведам'я жыхароў гэтага прасьцягу — з выразьлівым замоўчваньнем або дэманстрацыйнаю пагардаю да адрозных рысаў. Урэшце, трэйцяе — зьяўляецца рэтраспэкцыйная ўтопія ў выглядзе ідэалізацыі некалі існых на гэтым абшары шматнацыянальных і шматкультурных гаспадарстваў: Вялікага Княства Літоўскага і Аўстра-Вугорскае манархіі. Але ўсюдых упорыста пракідаецца асноватворная праблема: як заставацца вольным у паліморфнай супольнасьці? Шляхоцкая дэмакратыя разьвязала гэтую праблему часткова, абмяжоўваючыся адною прывілеяванаю столкаю. Аўстра-Вугоршчына, асабліва ў апошнюю фазу свайго існаваньня, адкідала памкненьні паасобных нацыяў да самавызначэньня. За дваццаць міжваенных гадоў утапічныя грамадзкія праекты, увасобленыя ў жыцьцё, выявілі сваю злавеснасьць. Ідэя вышэйшасьці аднае нацыі над іншаю скончылася генацыдам. Ідэя поўнае роўнасьці стварыла новую форму нявольніцтва.

Таму, калі шукаюць супольныя рысы Сярэдняй Эўропы, навязьлівым рэфрэнам вяртаецца гісторыя. Тая даўная і гэтая

цяпершняя, запісаная ў калектыўным сьведам’і і перажываная ў дадзены момант. Ейны рэльефны відарыс наўперад памяць паразы, прыніжальны досьвед прайгранкі. Мілаш нават робіць выснаў, што “гістарычныя ўяўленьні заўсёды кормяцца калектыўнаю памяцяй і пачуцьцём пагрозы”[9]. Яму ўтаруе Конрад: “Наша ўяўленьне гісторыі абмяжоўваецца рэтраспэкцыйным летуценьнем: каб жа тады склалася інакш, то ўсё б пайшло гладка. Амаль-перамогі, нібы-дасягненьні, а пасьля горкі экстаз самаабвінавачаньняў”[10]. Паляк і вугорац два браты... у няшчасьці. Яны думаюць падобна, хаця іх падзяляе ня толькі адлегласьць ад Амэрыкі да Эўропы, але і час: першае выказваньне паходзіць з пачатку васьмідзясятых гадоў, другое зь дзевяностых. Хіба — апрача Восені Народаў — у нашым аўтадыягназе нічога не зьмянілася? І надалей сярэднеэўрапецы, паводле словаў Томаша Лубеньскага, пакутуюць на “комплекс замкнёнасьці”, “комплекс пэрыфэрыі” і “хваробу намадызму”[11]?

Перш як паспрабаваць адказаць на гэтае пытаньне, варта прызнаць, што ідэя Сярэдняй Эўропы ад самага пачатку знаходзіла большы розгалас у Чэхіі, Вугоршчыне або ў краінах колішняй Югаславіі, чымся ў Польшчы. Чаму? Адной з прычынаў было, напрыклад, тое, што польскія землі былі падзеленыя паміж трыма гаспадарствамі, адно зь якіх распасьціралася далёка ў стэпы Азіі і прыналежнасьць якога да Эўропы нярэдка стаўлялася пад сумнеў, другое адмаўляла насельнікам цэнтральнае часткі кантынэнту называцца запраўднымі эўрапейцамі, абдорваючы іх пагардлівым найменьнем Mitteleuropa, а трэцяе было ўблытана ў нутраныя нацыянальныя канфлікты. У гістарычнай памяці палякаў і надалей жыве абраз Рэчы Паспалітай, і загэтым яны не выстаўляюць прэтэнзіяў — як чэхі, вугорцы, славенцы — на габсбурскую манархію, якая змарнавала шанец стварыць фэдэрацыю раўнапраўных малых дзяржаваў. Постаць дабрадушнага караля з бакенбардамі яшчэ ўзбуджае пэўны сантымэнт у жыхароў Кракава, сантымэнт цалкам незразумелы для насельнікаў Познані ці Варшавы. Адсюль выняткавасьць становішча Мілаша. Цяжка дзівіцца, што народжаны каля Коўна як царскі падданы, сьветка нараджэньня і экспансіі нацыяналізму

XX ст., у азоранай легендаю гістарычнай мінуўшчыне Літвы ён шукае ўзоры для "Эўропы радзімаў".

Але малая папулярнасьць ідэі Сярэдняй Эўропы ў Польшчы мае яшчэ іншыя прычыны. Сярод іх у тым ліку і пытаньне прыналежнасьці да Эўропы. Як абгрунтавана даводзіць Багдан Цывіньскі[12], гэтае своеасаблівае прыхарошваньне лёгка паставіць пад сумнеў, калі зьвярнуцца да геаграфічных, гістарычных або эканамічных аргумэнтаў. Польшча для эўрапейцаў — гэта далёкая краіна, у гісторыі кантынэнту вечна запозьненая, цывілізацыйна асталая. Але, тым ня менш, патрэбная нейкай Эўропе, бо яна становіць сабой важны складнік яе духовае тоеснасьці. У чым тады палягае каштоўнасьць польскасьці? Цывіньскі асьцярожна кажа, што ён засяроджваецца на пазытыўных рысах стэрэатыпу паляка, да якіх залічваюцца адвага і ахвярнасьць, здольнасьць да салідарных дзеяньняў, вернасьць каталіцызму і падпарадкаванасьць паводзінаў найперш пачуцьцям. Вучоны прывёў тым самым, хоць і з засьцярогамі, набор традыцыйных прынцыпаў. Як бы ігнаруючы факт, што польскае грамадзтва за апошнія пяцьдзясят гадоў перажыло глыбокую мэтамарфозу і гэтыя даўныя вымярэньні не заўсёды стасуюцца. Наапошку, аднак, ён прызнае, што эўрапейскасьць ня ёсьць "вартасьцяй самой у сабе. Гэта хутчэй спосаб перажываць вартасьці, даступныя чалавеку, спосаб, уласьцівы эўрапейцу, бо ён паклікаецца на ведамыя яму культурныя коды і на запісаныя ў іх успаміны аб пэўных гістарычных дасьведчаньнях". Дадаючы: "Дзеля гэтага "агульначалавечая", абстрактная вартасьць убіраецца ў строі блізкае нам сымболікі, а на ейнай ахове стаяць ведамыя нам з гісторыі або зь легендаў героі"[13]. Намагаючыся ўскосна давесьці прыналежнасьць Польшчы да Эўропы, Цывіньскі выяўна абсалютызуе пры гэтым мяжу паміж Усходам і Захадам. Ён цьвердзіць, што крытэрам, важнейшым за веравызнаньне, ёсьць "тып грамадзка-палітычнага ладу і філязофія чалавека й грамадзтва, якая стаіць за ім": загэтым па адным баку пануе закон, па другім — "воля абсалютнага валадара"[14]. Такога кшталту абагульненьні лёгка паставіць пад сумнеў. Бо хіба Захад заўсёды кіраваўся законам, а ня воляю

валадароў? Або ці ў Расею не пранікалі дэмакратычныя ідэі? Але ўжываная тут стратэгія, нягледзячы на шматлікія заганы, паўторыцца яшчэ ня раз.

* * *

Сілкаваны настальгіяй, летуценьнем або прыхаванымі комплексамі, дыялёг выгнанцаў зь Сярэдняй Эўропы не заглух у пустцы, наадварот — ён выклікаў на Захадзе надзвычай жывы рэзананс. Прамовіла пачуццё сукрытае віны? Настальгія за ўстойлівым сэнсам? Прага самасьцьверджаньня? Як бы ні было, заходнеэўрапейскія інтэлектуалы і пісьменьнікі проста навыперадкі бегалі адзін за адным, каб узяць удзел у дэбатах. Неўзабаве, зрэшты, яны набылі форму міжнародных канфэрэнцыяў, падчас якіх — звычайна тыя самыя ўдзельнікі — заўзята разглядаюць размавітыя гістарычныя, палітычныя, гаспадарчыя, культурныя аспэкты жыцьця ў гэтай частцы кантынэнту. Сярэдняя Эўропа стаецца ў пэўным сэнсе моднаю. Ейная адметнасьць і апрычонасьць выявілася ня толькі ў словах, запісаных дысыдэнтамі, але і ў штодзённым жыцьці насельнікаў дзяржаваў, захінутых зялезнаю заслонаю, як у пакутнай праўдзе палітычных рэаліяў, так і ў кампэнсацыйнай гістарычнай фікцыі.

Добрым прыкладам гэтага ёсьць ведамае эсэ Тыматы Ґартана Эша з вымоўным назовам "Ці існуе Сярэдняя Эўропа?"[15]. Абапіраючыся на эсэ Гавэла, Міхніка і Конрада, аўтар выкрывае мітатворныя схільнасьці ў мысьленьні ўсходнеэўрапейскіх дысыдэнтаў, замоўчваньне імі цяжкіх і далікатных праблемаў, напрыклад, стаўленьня да Нямеччыны і нацыянальных меншыняў, ён даходзіць да высnaву, што "кожная спроба прэпарацыі нейкае супольнае сярэднеэўрапейскае "эсэнцыі" гісторыі прыводзіць толькі да абсурдных спрашчэньняў або безьзьмястоўных абагульненьняў", а само паймо немагчыма абараніць як "сьветчаньне супольнае гісторыі"[16]. Тым самым яно зводзіцца ў існце да паставаў, ідэяў і вартасьцяў, выведзеных незалежнымі інтэлектуаламі з досьведу жыцьця ў камуністычнай сыстэме. Набор прынцыпаў надзвычай просты і, няма сумневу, годны павагі. Гэта "імпэратыў жыцьця ў праўдзе, адмаўленьне

ад гвалту, барацьба за грамадзянскую супольнасьць”[17]. Але якую карысьць могуць атрымаць з гэтага заходнія інтэлектуалы? Паводле Эша, развагі апазыцыянэраў ня месьцяць надта шмат новых ідэяў, але яны могуць паслужыць ключом да мэханізмаў таталітарызму. “Яны ёсьць ідэалягічнаю вакцынаю, якая аказвае збаўны ўплыў на заходнеэўрапейскія рухі за мір. Яны становяць сабой годны пераймання прыклад маральнай адказнасьці і асабістай адвагі. Яны нагадваюць, што “ідэі і словы маюць вагу”[18], і таму да іх нельга легкаважна падыходзіць ды імі злоўжываць. Няцяжка заценіць, што ў гэтых меркаваньнях трапнасьць назіраньняў ідзе поруч зь няведаньнем рэаліяў, а таксама схільнасьцю да празьмерных абагульненьняў. Зь іншага боку, усё часьцей чуваць — часам яшчэ і агучанае прадстаўнікамі розных арыентацыяў — перакананьне, што на гэтым забытым прасьцягу перахаваліся тыя вартасьці эўрапейскае культуры, якія на Захадзе былі або зруйнаваныя, або адкінутыя.

Але, як было сказана, для заходнеэўрапейцаў Сярэдняя Эўропа перастае паступова быць толькі грамадзка-палітычным праектам або зямлёй, па якой ходзяць белыя мядзьведзі. Вельмі цікавым сьветчаньнем з гэтага гледзішча ёсьць запіскі Ганса Маґнуса Энцэнзбэрґера, які наведаў Польшчу ў 1986 годзе. Кемны і пранiклівы назіральнік, не пазбаўлены сымпатыі да палякаў, ён фіксуе перадусім кантрасты й парадоксы. Наведвае малыя і вялікія месты, бярэ ўдзел у патрыятычных імшах, бывае ў інтэлігенцкіх дамох, размаўляе з Тадэвушам Ружэвічам і Рышардам Капусьцінскім. Гэта як фатаграфія, на якой схоплены той пэрыяд з усім яго патасам і сьмяхотнасьцю. Але ейным нэгатывам ёсьць як адметнасьць грамадзкай і культурнай асноведзі, так і розьніца ў мэнтальнасьці й сьветаглядзе. Прадстаўнік народу, які “ўзарваў сваю гісторыю”[19], галоўнаю рысаю палякаў лічыць “маніякальную сузіральніцкую памяць”[20], а адбудову Варшавы называе “свайго роду донкіхоцтвам у гераічных танах”[21]. Жыхар краіны, якую характарызуе “непахісная гегемонія *middle class*”[22], ён зьдзіўлена канстатуе, што ў Польшчы ніхто не падважвае прывілеяванага становішча

інтэлектуальнай эліты. Прагматык і былы “левы”, расчараваны ў сваіх ранейшых паглядах, ён дзівіцца польскай здольнасьці ператрываньня, але ганіць залішнюю перавагу нацыянальнае пыхі і пачуцьця гонару над здароваю развагаю. Чалец дарэшты сэкулярызаванага грамадзтва зазначае: “Патрыятызм і рэлігія твораць тут містычную амальгаму”[23]. Вандроўка ў прасторы, і да таго ж неаддаленай, тады аказваецца падарожжам у часе, зрушэньнем гісторыі Эўропы ў іншыя эпохі, прошлыя ўжо фазы цывілізацыі. Неабавязкова, аднак, у бок своеасаблівай рэзэрвацыі, здольнай адно сьмяшыць і расчульваць. Бо, на думку Энцэнзбэрґера, “Эўропе патрэбная Польшча: нават у вашых памылках ёсьць пільная патрэба”[24].

Дыскусія вакол Сярэдняй Эўропы не абмяжоўваецца такога роду адзінкавымі выправамі на маладасьледаваны і крыху экзатычны прасьцяг. Што цікава, яна зыходзіцца ў часе ці нават стаецца свайго кшталту каталізатарам рэфлексіяў над усёй эўрапейскай спадчынай. І ў гэтых рэфлексіях сярэднеэўрапейскія інтэлектуалы адыгралі значную ролю. Напрыклад, падчас сэсіі ў Кастэль-Ґандольфа пад назовам “Эўропа і што з гэтага вынікае”[25], дзе была разгледжана сярод іншага праблема хрысьціянскае генэалёгіі эўрапейскай культуры, стаўленьня Эўропы да ісламу, унівэрсалізму і эўропацэнтрызму, голас палякаў прагучэў досыць характэрным чынам. Лешак Калакоўскі зьвярнуў увагу на драманьне ў хрысьціянстве таталітарнага патэнцыялу, Чэслаў Мілаш горкім прывілеем сярэднеэўрапейца назваў тое, што мяжу паміж праўдаю і маною, дабром і ліхам ён праводзіць згодна з сваім беспасярэднім досьведам, а Яцэк Вазьнякоўскі галоўную пагрозу эўрапейскаму “адзінству ў шматстайнасьці” ўгледзеў у “грамадзкай атамізацыі” і ў “татальным або таталізацыйным уніфармізьме”[26]. А ў выступе Кшыштафа Помяна ўся гісторыя Эўропы паўстала як перамяжаныя распадамі тры ейныя задзіночаньні: першае — у сярэднявеччы, на руінах Рымскай імпэрыі, другое — у XVIII стагодзьдзі, абапёртае на навукова-гістарычную культуру й зьніцьяванае Рэспублікай Вучоных, і трэцяе, што дзеецца цяпер. Няцяжка заценіць, наколькі і гэтая канцэпцыя жывіцца

сярэднеэўрапейскім досьведам, будучы яшчэ адною спробаю знайсьці нашае месца ў эўрапейскай супольнасьці.

Зрэшты, у сваім жаданьні наноў ды інакш асэнсаваць злучво эўрапейскае гісторыі, а таксама расшыфраваць ейныя кіроўныя мэханізмы Помян не адзіны. Надзвычай цікавым прыкладам гэтага ёсьць кнігі двух французаў: Эдгара Марына "Думаць: Эўропа" і Жана Мары Дамэнака "Эўропа: выклік для культуры". Марын робіць высновы з расчараваньня заходніх інтэлектуалаў марксызмам. І таму, падаючы гісторыю Эўропы, замест канфлікту клясаў ён устаўляе — сягаючы да Бахціна — дыялягічнасьць, а замест дыялектычнага матэрыялізму — часткова паклікаючыся на гістарыязафічную канцэпцыю дэ Віко — канцэпцыю "віру". На ягоную думку, "у эўрапейскай культуры важнымі ёсьць ня толькі праводныя ідэі (хрысьціянства, гуманізм, розум, навука), але гэтыя ідэі разам із сваімі супрацьлежнасьцямі. Эўрапейскі гені замыкаецца ня толькі ў плюралізьме й зьменах, але таксама ў дыялёгу плюралізмаў, які вытварае зьмены. Ён замыкаецца не ў прадукаваньні новага як такога, а ў антаганізьме старога з новым (...). Інакш кажучы, у жыцьці й станаўленьні эўрапейскае культуры важнае значэньне маюць апладняльныя сустрэчы размавітасьцяў, антаганізмаў, канкурэнцыяў, узаемадапаўненьняў, гэта значыць, якраз іхная дыялёгіка. Якраз яна ёсьць вытворцам-вырабам "вірлівага" суплёту, у якім кожны элемэнт ці мамэнт ёсьць адначасна прычынаю і наступствам усяго суплёту, які перарастае ў туманную сьпіраль. Дыялёгіка — гэта якраз корань эўрапейскае культурнае тоеснасьці, а ня той ці іншы зь ейных элемэнтаў або мамэнтаў"[27].

Новае эўрапейскае сьведам'е нараджаецца, паводле Марына, з адкрыцьця супольнасьці наканаваньня. Сярэдняй Эўропе пры гэтым прыпадае асаблівае месца. Ейная сустрэча з таталітарызмам надала перажываньню супольнасьці лёсу сілу й глыбіню, якіх дарэмна шукаць на Захадзе. Заходнім інтэлектуалам, у сваю чаргу, заняпад ідэі сацыялізму нанаў адкрыў значаньне дэмакратыі, "дабрадзейства плюралізму і антаганізму". Пры гэтым надыходзіць паказальны зрух у ярархіі вартась-

цяў. Марын кажа, што “Зварот да думкі, якая сьмела супрацьстаіць небыцьцю,— вось жывая праява нігілізму, канчальны прадукт прыгодаў эўрапейскага розуму, канчальны насьледак страты фундамэнтаў, канцавое вязьмо шалёнае пагоні за першаю аксіёмаю. Тут, але толькі пры ўмове, што будзе заключаны хаўрус з крытычнаю рацыянальнасьцю, эўрапейскі нігілізм вучыць нас супрацьстаяць няпэўнасьці і боязі наканаваньня”[28].

Заданьне, якое нас чакае, кажа Марын, выйсьці па-за нацыю і па-за правінцыю. “Мы жывем аблудай, што тоеснасьць — гэта непадзельнае адзінства, дарма што гэта заўсёды *unitas multiplex*. Мы ўсе ёсьць сутнасьцямі з шматлікімі тоеснасьцямі ў тым сэнсе, што спалучаем у сабе сямейную, лякальную, рэгіянальную, нацыянальную, наднацыянальную (славянскую, германскую, лацінскую) тоеснасьць і, у шэрагу выпадкаў, рэлігійную і дактрынальную тоеснасьць”[29]. Гэныя тоеснасьці могуць уступаць у канфлікт, але могуць быць таксама формаю нутранога ўзбагачэньня. Загэтым эўрапейская тоеснасьць павінна стаць ня толькі часткаю плянэтарнае тоеснасьці, але таксама пэўнаю ейнаю мадэляй, якая лучыць ідэю мэтанацыі зь ідэяй правінцыі.

Мабыць, і ў гэтым месцы варта спаслацца на сярэднеэўрапейскі досьвед. Аднак ён як бы выяўляе нэгатыўны бок канцэпцыі Марына. Бо дзе болей, як не на гэтым прасьцягу, зьнішчальны вір зацягваў цэлыя народы? Дзе дыялёг перарастаў хутчэй у бурлівую спрэчку й барацьбу? І дзе больш балюча былі адчутыя наступствы стагодзьдзя ідэалёгіяў і фальшывых мэсіянізмаў? Але для сярэднеэўрапейцаў ідэя мэтанацыі магла б быць збаўным лекам ад хваравітага нацыяналізму, а трактаваньне Эўропы як правінцыі сьвету магло б вылекаваць іх ад комплексу жыцьця наўзбоч гісторыі. Адылі, ці мусіць гэта адбывацца пад знакам Ніцшэ? Ці запраўды гераічны нігілізм ёсьць адзіным узорам на будучыню?

Дамэнак, палемізуючы з Марынам, робіць большы націск на энэргетычныя, а не дыялягічныя ўласьцівасьці эўрапейскае культуры, на ейную здольнасьць самаператварацца. Як ён заўважае: “Гісторыя — гэта ані не давяроная праўда, ані ня цалкам ужо змрочная рэчаіснасьць. Гэта перадусім спосаб, згодна зь

якім культура трактуе прошлыя падзеі, каб на гэтай падставе аналізаваць сваю цяперышчыну і плянаваць будучыню”. Бо няма аднае эўрапейскае культуры, а ёсьць культура Эўропы, сілу якой вызначае адметнасьць кожнае нацыянальнае культуры. Эўрапейская культура існавала, гэта праўда, але толькі “ў кароткіх праблісках, зь якіх найярчэйшым была фаза юдэа-чэска-германскае культуры ў 1880–1930 гадох”[30].

Але пераход ад нацыянальных дзяржаваў да Эўропы як культурнае супольнасьці натрапіць на шмат перашкодаў. Адною зь іх ёсьць узрост своеасаблівага фундамэнталізму, які на Захадзе выяўляецца ў апэляцыі да рэлігійнай і этнічнай тоеснасьці як антыдоту супроць масавае касмапалітычнае культуры. Дамэнак бароніць ідэю нацыянальнае дзяржавы, але разумее яе як супольнасьць, абапёртую на сувэрэнным рашэньні індывідаў, што ўтвараюць яе. На ягонае перакананьне, толькі так зразуметая ідэя становіць процівагу як ізаляцыянісцкім памкненьням малых групаў, так і тэндэнцыі да ўніфікацыі ў Эўропе культуры і эканомікі. Як тады шукаць эўрапейскую тоеснасьць? Пэўна, ня так, як шукалася нацыянальная тоеснасьць, не спалучаючы яе з нацыяналістычнаю і расісцкаю ідэалёгіямі.

Эўрапейская тоеснасьць павінна быць паклікаоньнем, а не дэтэрмінантай. Тымчасам, зацеміў Дамэнак, працэсы ў цяперашняй Эўропе выяўляюць патрэбу ўкараненьня і разам нястачу зацікаўленьня культурамі суседзяў. Утвараецца Эўропа без гістарычнага сьведам’я. Заміж Эўропы гуманістых — Эўропа масаў, зацікаўленых адно тэхнікай і эканомікай. Прыклад Францыі сьветчыць, што пад пагрозай апынулася і адметнасьць, і ўнівэрсальнасьць нацыянальнай ідэнтычнасьці. Яна падлягае ўціску амэрыканізацыі, паколькі ня здолела перайсьці ад культуры элітарнай, шанаванай і па-за Францыяй, да культуры масавай. “Амэрыканская культура для сяньняшняй гарадзкой папуляцыі ёсьць (...) зьяваю натуральна ўнівэрсальнаю, бо яна адлюстроўвае адпаведнасьць індывідуальнае творчасьці агульнай сытуацыі”[31].

Таму ўзьнікае асьцярога, што ў грамадзтве, звычаі ды мэн-

тальнасьць якога фармуюцца здабыткамі тэхнікі, традыцыйная культура ня здолее ператрываць. Фундамэнталізм, сутаргавае трыманьне за анахранічную традыцыю шмат не абяцаюць. “Памяці недастаткова, каб захаваць лучнасьць із сваёй зямлёй, із собскаю мінуўшчынай. Патрэбная яшчэ воля пашыраць далягляды і ахвота перажываць новыя прыгоды”[32].

Павучальны ў гэтым сэнсе ёсьць, паводле Дамэнака, досьвед Сярэдняй Эўропы. Пры гэтым ён мае наўвеце культуру Вены, творцамі якой былі жыды, “што становіць яшчэ адзін доказ на карысьць таго, што не ўкараненьне, а выкараненьне аказваецца плённым у крытычных часох”. І якраз “гэты юдаізм (пераважна антырэлігійны і асыміляваны) быў апошняю перамогаю Эўропы, запраўды вернае сваёй культуры, якая — перш чым яе зьнішчыў фанатызм — дала сьвету ключы ад новае цывілізацыі”[33]. Дамэнак, што зьдзіўляе, гаворыць пра ўсю Эўропу словамі, пад якімі маглі б падпісацца колішнія абароньнікі ідэі Сярэдняй Эўропы: “Эўропа — ані геаграфічная прастора, ані гістарычная субстанцыя. Гэта перадусім духоўная прастора: злучво хрысьціянізаваных земляў, якія перанялі патройную спадчыну юдаізму, Грэцыі й Рыму”[34]. Галоўная вартасьць гэтае культуры ў “пацьверджаньні, паглыбленьні і ўдасканаленьні чалавечай асобы ў ейнай непаўторнасьці, у ейнай харашбе і правох”[35]. У падставе эўрапейскага духу ляжыць здольнасьць перасягаць абмежаваньні і несупынна стаўляць пад сумнеў уласныя структуры. Гэтая здольнасьць можа аказвацца небясьпечнай, як засьведчылі сусьветныя войны, але адначасова яна ёсьць крыніцаю ягонага безупыннага адраджэньня. Карацей кажучы, стан крызысу ёсьць у Эўропе не часовым забурэньнем, а безупынным станам.

Эўрапейская тоеснасьць як вартасьць, залежная ад нацыянальных культураў, хаця сама і ня будучы культурай, служыць адказам на найважнейшыя выклікі эпохі, выходзішчам цывілізацыйных чаканьняў і грамадзкае палітыкі. Абапёртая на супольнасьці лёсу, яна можа стаць падставаю інтэграцыйных захадаў. Настрою зьняверанасьці, які суправаджае адыход у мінуўшчыну нацыянальнае дзяржавы, Дамэнак супрацьстаўляе праект Эўропы розумаў і Эўропы грамадзянаў. Эўропы,

якая, выкарыстоўваючы патэнцыял кожнае нацыі, можа дзейсна адказаць на паўсталыя перад ёю выклікі ў сфэры грамадзкае палітыкі, экалёгіі, а таксама культурнай інтэграцыі, якая вядзе да новага рэнэсансу. Ён бачыць шанец на згасаньне шмат якіх гістарычных, ідэалягічных і рэлігійных канфліктаў у патрэбе паклікацца на адныя і тыя ж вартасьці. Але адыход ад нацыянальнае дзяржавы да палітычнае структуры без гістарычнага прэцэдэнту прыводзіць да таго, што ў заходняй думцы адчуваецца нястача тэарэтычных падставаў для перажыванай эвалюцыі. “Адныя галасы,— з сарказмам зазначае францускі мысьляр,— якія можна ўчуць у гэтай пустцы, даносяцца да нас зь Сярэдняй і Ўсходняй Эўропы: гэта перасьледаваныя дысыдэнты, якія не баяцца вымавіць слова “свабода”. Палякі, чэхі, вугорцы і цэлыя легіёны вялікіх сьветкаў ГУЛАГу... Жудасны парадокс: падставаў існаваньня супольнай Эўропы, а гэтаксама ейнае душы, нам трэба шукаць вонках Эўропы дванаццацёх”[36]. Таму неабходна зьвярнуцца да традыцыі XIX ст. стагодзьдзя, чэрпаючы зь яе ідэю непадзельнасьці самасьцьверджаньня індывіду і лёсу супольнасьці. Паводле Дамэнака, рэцэпт для Эўропы будучыні — гэта разьвіцьцё сярэдніх гарадоў, раўнавага паміж правінцыяй і цэнтрам, а таксама разгляд дачыненьняў цэлага й часткі не ў “катэгорыях падсумаваньня і інтэграцыі”, а “ў падвойнай пэрспэктыве: цэлае залучана ў частцы, а частка ў цэлым”[37].

* * *

Як відаць, адною з найбольш адметных рысаў ідэі Сярэдняй Эўропы ёсьць тое, што нарадзілася яна ў фантазіі і сэрцах пісьменьнікаў-выгнанцаў і існавала пераважна на паперы. Перабывала, калі хочаце, у слове. Зусім як у рамантызьме. Гэта ў вялікай ступені тлумачыць, чаму ейны разлог такі малавыразны і досыць неакрэсьлены. Рамантычны радавод тлумачыць, чаму дагэтуль яна корміцца аднымі і тымі ж крыўдамі й страхамі, жывіць адныя і тыя ж забабоны. Калі славенскі пісьменьнік кажа, што тоеснасьць ягонае нацыі “дзеля адсутнасьці гістарычна-палітычных сілаў пацьвярджалася культураю і літаратураю”[38] — то пад гэтым цьверджаньнем маглі б падпісацца і чэскія, вугор-

скія ды польскія пісьменьнікі. Але ўжо не аўстрыйскія, расейскія й нямецкія. Бо ў тых літаратурах няма такога істотнага пачуцьця пагрозы. Яснае ўсьведамленьне, што — як пісаў Мілан Кундэра — нацыянальная экзыстэнцыя стаіць пад знакам запытаньня[39]. Бо малая нацыя ўсьведамляе факт, што можа цалкам зьнікнуць. Яна бярэ ўдзел у эўрапейскай гісторыі, але ёй наканаваная роля аўтсайдэра і ахвяры.

Ці можна тады вылучыць у гэтых літаратурах тое, што становіць у іх, так бы мовіць, экстракт сярэднеэўрапейскасьці? Такія спробы рабіліся шматкроць, але сама іхная шматлікасьць схіляе да роздуму. Бо, з аднаго боку, памкненьне да самавызначэньня ёсьць выяўна артыкуляванаю патрэбаю прызнаньня сваёй самабытнасьці, выняткавасьці і арыгінальнасьці. З другога — у іх досыць парадаксальна падкрэсьліваецца, што гэтыя літаратуры становяць інтэгральную частку літаратуры Захаду. У гісторыі літаратураў — што, можа, служыць чарговым доказам іх рамантычнае генэалёгіі — аўтары шукаюць галоўна пацьверджаньня сваіх дыягназаў сярэднеэўрапейскае мэнтальнасьці. І там таксама знаходзяць апірышча, мяркуючы, што гэта адзіная сфэра, у якой не раздаюцца воклічы этнічных нянавісьцяў і аціхае бразгат зброі. Дзе існаваньне эўрапейскае культурнае спадчыны такое ж натуральнае, як паветра. Даніла Кіш нават цьвердзіць, што адрознаю рысаю паэтыкі сярэднеэўрапейскага пісьменства ёсьць "іманэнтная прысутнасьць культуры", што выяўляецца ў багацьці й разнастайнасьці рэмінісцэнцыяў, алюзіяў і ў пераасэнсаваньні матываў і сымбаляў Міжземнамор'я. Паводле Мілаша, гэткаю рысаю ёсьць "сьведам'е гісторыі", якое абумоўлівае ўчынкі герояў і зьмяняе насычанасьць бэлетрыстычнага часу. Адваротна заходнеэўрапейскае літаратуры, дзе "час нэўтральны, бясколерны, бязважкі, плыве без зыгзагаў, безь імклівых выгінаў, стромкіх парогаў", у пісьменьнікаў Сярэдняй Эўропы ён "інтэнсіўны, спазматычны, поўны неспадзяванак"[40]. Бо гісторыя тут сузіраецца вачыма сьветкаў або ахвяраў, прыходзіць звонку й зьнянацку. Зьнішчальная, як стыхія, няўрымсьлівая, як паліцыя таталітарнае дзяржавы. Якраз гэта прыводзіць да таго, што мяжа,

якая аддзяляе дабро ад ліха, застаецца выразна праведзенай, а праўда, годнасьць ды мэтафізычны элемэнт у людзкіх душах захоўваюць сваё даўнае значаньне. Іншымі словамі, літаратура Сярэдняй Эўропы перахавала з эўрапейскае спадчыны найкаштоўнейшае, тое, што на Захадзе было зглумлена, забыта або занядбана. Для Кундэры гэткім найкаштоўнейшым спадкам заходняе літаратуры, менавіта францускай, ёсьць думка і літаратурныя ўзоры асьветніцтва. Карацей кажучы, гэты ўяўны сярэднеэўрапейскі літаратурны экстракт ёсьць зазвычай гіпастазаваньнем уласьцівасьцяў літаратуры аднае нацыі або характэрных для аднаго твору рысаў. Наколькі ілюзорнымі бываюць такія спробы, паказвае нарыс Барбары Тарунічык, якая спрабуе шукаць дух Сярэдняй Эўропы ў творах супрацоўнікаў “Zeszytów Literackich”[41].

Тут узьнікае прынцыповае пытаньне: ці не былі гэтыя ілюзіі наступствам паняволеньня? Аднак, як лёгка давесьці, гістарычнае сьведам’е ў роўнай ступені прасякае як польскія, чэскія ці вугорскія раманы, так і расейскія ды нямецкія. Што і ў іх няцяжка знайсьці чысьленыя сьляды грэцка-рымскае культурнае спадчыны. Што і там час бяжыць спазматычна. Тады ці няма ў літаратуры Сярэдняй Эўропы тэмаў, якія б адрозьнівалі ад яе іншых эўрапейскіх літаратураў? Мяркую, можна вылучыць прынамсі тры такія тэмы. Гэта: непрыняцьце пэрыфэрыйнасьці, пачуцьцё рухомасьці межаў, а таксама праблематычная тоеснасьць. Першая тэма выводзіцца з больш ці менш прыхаванага комплексу непаўнавартасьці, зь пільнае патрэбы давесьці сабе і сьвету, што мы ня горшыя за тых, хто насяляе культурныя цэнтры, што мы ня нейкія бязродзічы і можам ганарыцца творамі, якія могуць на роўных супернічаць з найлепшымі. Другая тэма, відаць, адлюстроўвае досьвед, спароджаны перабываньнем у прасьцягу шырока зразуметых крэсаў. У сфэры несупыннага осмасу альбо канфліктаў паміж грамадзтвамі, якія легітымуюцца адрознаю культурай, асобным абычаем, сваёй рэлігіяй, іншаю моваю. Адсюль таксама вынікае спраектаваная ў больш ці менш аддаленую гістарычную мінуўшчыну ўтопія гарманічнага сужыцьця. Наапошку — трэцяя тэма. Праблематычнасьць тоеснасьці можна разумець дваяка:

тоеснасьць ёсьць заданьнем, якое трэба разьвязаць, і адначасова гэта нешта толькі гіпатэтычнае, устаноўленае на мамэнт, што патрабуе аднаўленьня намаганьняў. А бывае так таму, што працэс самавызначэньня натрапляе на разнастайныя перашкоды. Ён паклікаецца на тыя ўзоры і сымбалі, якія або цяжка расшыфраваць, або яны нагэтулькі перамяшаныя міжсобку, што іх немагчыма ўкласьці ў празрыстую сыстэму. Свае пагрозы нясе гамагенізацыя, сьпярша праводжаная таталітарнаю сыстэмай, якая пасьлядоўна вынішчае тое, што адзінкавае і непаўторнае на карысьць ідэалягічнай уявы, а потым абапёртая пераважна, хаця і ня толькі, на амэрыканскія ўзоры масавае культуры. Безумоўна, ступень пагрозы з боку гэтай апошняй непараўнальна меншая. Але ж яна не валодае формамі рэпрэсіяў і ня чыніць такога гнятлівага, як таталітарная сыстэма, націску. Гэтае пагрозы нельга, аднак, недаацэньваць.

* * *

Ці літаратура Сярэдняй Эўропы можа даць годны адказ выкліку новых часоў, калі ўжо разбураны бэрлінскі мур? На першы пагляд, усё прамаўляе за гэта. Пагатоў, што ўжо няма адзінае культуры з выразным цэнтрам, зьменлівасьць разнастайна зразуметых межаў стаецца ўласьцівасьцяй усяе плянэты, а з вызначэньнем уласнае тоеснасьці эўрапейцы маюць такі ж самы клопат, як азіяты і амэрыканцы. Асноватворную розьніцу паміж захадам і цэнтрам Эўропы, аднак, не ўдаецца так лёгка ўхіліць. Працэс карпатлівае рэканструкцыі зьнішчаных таталітарызмам узораў сутыкаецца тут з радаснаю і бесклапотнаю іх дэструкцыяй. Настальгія па страчаным кшталце — із стомленасьцяй формамі культуры, якая нібыта ўжо вычарпала свае магчымасьці. Спробы ўваскрасіць своеасаблівую адмену мэсіянізму — з канчальным адыходам як ад асьветніцкіх, так і ад рамантычных традыцыяў зь іхнаю вераю ў прагрэс, разумны парадак гісторыі, неабмежаваныя магчымасьці рэвалюцыйных зьменаў. І ўсе гэтыя намаганьні, трэба дадаць, нібы затрымоўваюцца на палове, часам нязграбна, кароткачасова, выбухаючы фаервэркам адразу пасьля здабыцьця свабоды, каб згаснуць у шэрай імгле посткамунізму.

Гэтыя ўласьцівасьці, якія, здавалася б, абяцаюць сярэднеэўрапейскай літаратуры вызваленьне ад нязноснае правінцыйнасьці і шанцы на ўнівэрсальнасьць, досыць парадаксальна аказаліся анахранічнымі. Паняцьці пэрыфэрыі, мяжы і тоеснасьці маўкліва заклалі парадак, разрозьненьне і ярархію, і якраз яны былі паглумленыя разам із стаўляньнем пад сумнеў самой ідэі Сярэдняй Эўропы. Сьмяротны ўдар нанесла ёй вайна ў колішняй Югаславіі, незалежна ад таго, як разглядаць гэты канфлікт — у гістарычных, палітычных ці культурных катэгорыях. Як піша Драґа Янчар: "Югаславія ўяўляе сабой найбольш хаатычную частку Эўропы. Я мяркую, што гэты хаос нельга апанаваць. Таму — можа, я крыху перабольшваю — што ў ёй бачаць мэтафару глыбокага хаосу, які агортвае ўвесь сьвет, усе адварочваюцца ад яе. Гэты зьлепак культураў, цывілізацыяў, рэлігіяў, бізантыйскіх, каталіцкіх і эўрапейска-нацыяналістычных інгрэдыентаў адлюстроўвае хаос сьвету, ад якога лінэарныя, сьветаўпарадкавальныя розумы адварочваюцца з адгаворкай: гэтага я не разумею"[42].

Імклівы выбух застарэлых крыўдаў і прыхаваных нянавісьцяў, здаецца, паклаў канец ілюзіям аб магчымасьці гарманічнага суіснаваньня або, прынамсі, халоднае талеранцыі. Іхнае калекае ўвасабленьне ў формулу камуністычнае дзяржавы як гаранту раўнапраўя выявіла сваю крохкасьць і выкрыла фальшывую ўяву. Паводле Янчара, "камуністы і фашысты зьдзейсьнілі кампіляцыю ўсіх асьветных поклічаў мінулых эпохаў, але заміж упарадкаваных сацыяльных і нацыянальных дзяржаваў мы атрымалі небясьпечную, забойчую мяшанку. Яна ўзмагутніла ўсё, што было найгоршага як у асобных людзей, так і ў нацыянальных, калектыўных ідэях". Але Янчар таксама ўскосна давёў, што ў гісторыі ня ўсё можна ўкласьці ў лягічны парадак прычынаў і наступстваў. "Як і ўва ўсім сьвеце, у югаслаўскім хаосе ёсьць шмат ірацыянальнага"[43].

Якраз да разуменьня гэтага прыходзіць літаратура краінаў, існаваньне якіх безупынна стаіць пад знакам запытаньня. Для якіх, як для славенцаў, культура, існаваньне нацыі — гэта "пацьверджаньне ў супрацьстаяньні"[44]. Яна падстаўляе фанабэрлівай аптымістычнай Эўропе крывое люстра пэсымізму. Яна "закранае праблемы жыхара Сярэдняй Эўропы, які балянсуе на

ўскрайку ўсіх эсхаталёгіяў, што абяцаюць найлепшы зь сьветаў". Яна "ведае, што парадоксы гісторыі і ейныя поўныя іроніі падумкі адчувае на ўласнай скуры, ва ўласным сэрцы й розуме перадусім чалавек. А таксама трагічныя парадоксы сваёй нацыі (...) ейнае культурнае і якой-хаця іншае тоеснасьці. Чалавек, які бязьлітаснай іроніі гісторыі і ўсім ейным эсхаталёгіям супрацьстаўляе сваю крохкую, чулую і перахаджалую экзыстэнцыю. Адно сваё жыцьцё. Свой пануры сьмех"[45].

Думка пра Сярэднюю Эўропу ёсьць для малых нацыяў шанцам выйсьці зь ізаляцыі, позіркам на перагасы свае нацыі з шырэйшай і ўзбагачальнай пэрспэктывы. Але новыя часы прыносяць новыя выклікі. Раней злучаў хутчэй супраціў падзелу Эўропы й мінуўшчына. Цяпер, з увагі на ўзьнікненьне постмадэрнісцкае, агульнасусьветнае культуры, большую, чым нацыянальныя адметнасьці, вагу будзе мець досьвед таталітарызму. А для малых нацыяў, на думку Янчара, спраўджаная ўтопія сярэднеэўрапейскай інтэграцыі будзе адначасна пробаю сілаў што да вызваленай культуратворчай энэргіі суседзяў. Славенія, заміж быць месцам скрыжаваньня розных інтэлектуальных плыняў, можа стацца "кішэняй Эўропы". Гэткі лёс можа напаткаць і іншыя малыя й сярэднія нацыі. Калі ўтопія спраўдзілася, перад літаратураю паўстала новае заданьне — распазнаць Сярэднюю Эўропу як рэальнасьць. Заміж ідэалізацыі й прыхарошваньня паставіць перад ёй "люстра, у якім яна ўбачыць свой другі, звыродлівы, часта скрыўлены ад нянавісьці, хцівасьці й зайздрасьці твар. Твар ксэнафобіі і кляўстрафобіі, антысэмітызму, нацыянальнае нянавісьці, уціску мяншыняў, як нацыянальных, так і культурных, ня толькі грамадзкіх, але й сьветаглядных"[46]. Таму памкненьне прызнаваць разнароднасьць, цыркуляцыю ідэяў, пераканацьняў ды інтэлектуальных плыняў дзеля ўсіхнага ўзбагачэньня павінна ісьці поруч з крытычнай аўтарэфлексіяй.

Чарговаю пагрозаю ёсьць культурная ўніфікацыя і страта тоеснасьці. "Амэрыканскі melting-pot* не абмяжоўваецца паўночна-амэрыканскім кантынэнтам, ягоная прывабнасьць замыкаецца ў індывідуалізьме — маторы грамадзкага дынамізму. У гэтым няма нічога благога. Праблема замыкаецца адно ў тым, што з культурна-шавіністычнае жывёлы чалавек вельмі борзда

можа бязь цяжкасьці ператварыцца ў жывёлу бізнэсу". Але для апошняй лякальныя адрозьненьні трацяць значэньне, а агульнапрынятая аднародная культура, якая адзначаецца пасярэднасьцяй і правінцыялізмам і ня мае "ані аўтахтонных крыніцаў, ані агмянёў крызысу"[47], замяніць колішняе, разнастайнае ейнае багацьце.

Іншую пагрозу нясуць узоры культуры, абвешчаныя заходнеэўрапейскімі спадкаемцамі ідэалёгіі Трэцяга Сьвету, а таксама прарокамі постмадэрнізму. Паводле першых, самаідэнтыфікацыя праз культурную прыналежнасьць становіць сабой форму абароны ад спрашчэньняў эўропацэнтрызму, а таксама сьветчыць аб пашане да шматстайнасьці звычаяў. Таму яна абапіраецца на пахвальны дух талеранцыі і антырасізму. Але ці пэўна? Як даводзіць Алян Фінкелькраўт у знакамітай кнізе "Параза мысьленьня", "вельмі лёгка можна накласьці культурную тоеснасьць на тоеснасьць калектыўную і заняволіць індывідаў ува ўтворанай на падставе паходжаньня групе, не паклікаючыся пры гэтым на законы спадкаемнасьці"[48]. Што ідзе за гэтым — разглядаць кожную культуру як гермэтычную цэласьць, ізаляваную ад суседніх культураў, а іхную множнасьць прызнаць дзейнікам, які дэтэрмінуе ўсе іншыя. Адны прыхільнікі так зразуметай "шматкультурнай ідэнтычнасьці" шукаюць абгрунтаваньня прымату групы над індывідам у канцэпцыі калектыўнага несьвядомага, адначасова асуджаючы нават найменшыя праявы шавінізму і расавае сэгрэгацыі. Другія радзяць узгадаваньне ў духу рэлятывізму. І тым самым перакрэсьліваюць тое, што ў культуры падлягае ярархіі, і адначасна падцінаюць вышэйшасьць эўрапейскае культуры над іншымі культурамі. "Таму (...), рашчыняючы такім чынам культурніцкае ў культурным, яны адным стрэлам дасягаюць дзьвюх мэтаў: не дазваляюць нам захапляцца сабой і лекуюць нас ад імпэрыялізму і ад пляменнага інстынкту, ад веры, што мы ўганараваныя захавальнікі ўнівэрсальнасьці, і ад агрэсіўнага ўвыразьненьня нашае спэцыфікі"[49]. Такім парадкам з культуры й літаратуры зьнікаюць унівэрсальныя элемэнты, а раманы ператвараюцца ў нешта накшталт "архіву", запіс завядзёнак, вартасьцяў і перакананьняў этнічнае групы. Бо "толькі і вылучна ў навуцы чалавек узносіцца над пэрцэпцыйнымі схемамі, укарэненымі ў ёй ка-

лектывам, чальцом якога яна ёсьць”, а “ў сфэры ўзвычаеньняў, інстытуцыяў, вераньняў, інтэлектуальных і мастацкіх здабыткаў — застаецца прыкутаю да свае культуры”[50]. Тым самым стаецца немагчымым паразуменьне ў чалавечай супольнасьці, абапёртай на абсалютных вартасьцях, аціхае дыялёг у імя вечнае праўды і пазачасавае харашбы. “Талеранцыя супраць гуманізму”[51] — не адзіны парадокс гэтай ідэалёгіі. Іншы — маскаваны зычлівым зацікаўленьнем — палягае ў непрыязнасьці да прыхадняў звонку, у празе бараніць Эўропу ад чужых уплываў. Больш за тое, працягвае свае развагі вучоны, аблудная талеранцыя папраўдзе ёсьць маўкліваю пахвалою няволі, бо ў імя ўяўнае пашаны да культурнай апрычонасьці і страху быць абвінавачаным у граху эўропацэнтрызму яна без супраціву акцэптуе ўпісанае ў некаторыя рэлігіі і ўзвычаеньні парушэньне прыроджаных правоў чалавека.

Крыху падобны, але ўсё ж іншы ўзор “*шматкультурнага чалавека*” вызнаюць прыхільнікі постмадэрнізму. “Ягоныя адэпты заклікаюць не да *аўтэнтычнага* грамадзтва, дзе б усе жылі ў цеплыні свае культурнае тоеснасьці, а да *паліморфнага* грамадзтва, да стракатага сьвету, які б зрабіў кожнаму даступнымі ўсе формы жыцьця. Ухваляецца ня гэтулькі права на адрознасьць, колькі паўсюднае перамяшаньне, права кожнага на спэцыфічнасьць Іншага. Шматкультурны значыць для іх *добра забясьпечаны* (...). Яны спажыўцы, а не захавальнікі існых традыцыяў”[52]. Для іх аднолькавую вартасьць маюць творы як высокае, так і нізкае культуры: тэлевізійная зорка і выдатны вучоны, тэатар і спартовае відовішча, шэдэўр і кіч. “Пара чаравікаў вартая Шэкспіра, абы толькі мела подпіс славутага мадэльера”[53]. Кожны выбар адвольны, індывідуальны і нічым ня стрыманы, таму што ім кіруе толькі прынцып прыемнасьці.

Як кажа Фінкелькраўт, постмадэрнісцкая думка, як і асьветніцтва, прагне адарыць чалавека незалежнасьцяй. З той толькі розьніцай, што культура перастае быць для яе інструмэнтам эманцыпацыі і стаецца перашкодаю. Адсюль “элітарнасьцю (або нечым непрымальным) ёсьць не адмаўленьне масавае культуры, а адмаўленьне фірмавага знаку якой-колечы культуры або

* Плавільны кацёл (анг.).

забаўляльнай імпрэзы". Тым самым безразважнасьць стаецца вартасьцяй, роўнай развазе, а зацярушваньне межаў паміж культураю і забаўляльнымі імпрэзамі прыводзіць да таго, што шэдэўры насамрэч існуюць, але "ўжо няма месца, дзе б іх можна прыняць і надаць ім належнае значаньне. Яны абсурдна сігаюць у прасьцягу, без арыенціраў і пунктаў суаднясеньня"[54]. Усё гэта робіць індывіда самотным, ірве ягоныя повязі з супольнасьцяй, робіць падатным на маніпуляцыі, аглуджджае ўявамі свабоды. Навароджаны дух калябарацыі йдзе поруч з ухваленьнем інфантылізму. На сцэну цывілізацыі трыюмфальна ўступае Млокас (Młokos), нагэтулькі йнакшы ад таго, прыйсьце якога прадказваў і якога шанаваў Ґамбровіч!

Дзе тут месца для ідэі Сярэдняй Эўропы, для ейнае літаратуры? Ёй дапаможа ацалець, як мяркую, ейная апрычоная непаўторная оптыка. Іншы позірк на сваю краіну, на будучыню кантынэнту, на лёс цывілізацыі і плянэты. Гэтаксама — на пададзеныя вышэй узоры тоеснасьці. Сярэднеэўрапейскі інтэлектуал перабывае ў крыху лепшай і крыху горшай, чымся ягоныя заходнія калегі, сытуацыі. Ён не дзяржыць сантымэнтаў да створанай край Міжземнага мора культуры і не імкнецца супрацьстаўляць ёй паўсталыя ў іншых мясцох культуры. Але разам — застаючыся ў ейным абсягу, ён можа больш станоўча дамагацца права на сваю апрычонасьць і непаўторнасьць, можа лепш упільнаваць вартасьці, якія суляе варыянт унівэрсальнага ўзору. Ён таксама можа гучней патрабаваць раўнапраўя для культураў невялікіх грамадзтваў, малых этнічных або рэлігійных групаў. У ягоным праве прыгадаць, што тоеснасьць індывіду ўмацоўваецца ня толькі тым, што культурнае, але і тым, што мэтафізычнае або рэлігійнае. Ягоным абавязкам павінна стаць абарона ярархіі і вяртаньне аксыялягічнага ладу. Культура ня ёсьць для яго сыстэмаю ізаляваных манадаў, а ейную вартасьць не абумоўліваюць толькі выразнасьці. Ён мяркуе ці, прынамсі, мае надзею, што, наадварот, яна можа ўзбагачацца осмасам размавітых узораў і дыялёгам, што выходзіць за гістарычны час і дадзенае месца. У сваім выбары жыхар гэтае часткі Эўропы не кіруецца адно прынцыпам прыемнасьці. Культура і надалей застаецца для яго чымсьці паважным, бо за яе абарону ён заплаціў надта высокую цану і зашмат нагледзеўся наступстваў

яе баналізацыі ды ідэалягічнага спрашчэньня. Ён мае да яе пашану, зьмяшаную з дыстанцыяй і доляй іроніі, — ён ведае, наколькі яна патрэбная і наколькі яна бывае нетрывалаю. Таму ў ім дрэмле, амаль паводле закону інэрцыі, патрэба разрозьніваць, схільнасьць ацэньваць. Заразом — скептычнае стаўленьне да ўсіх аўтарытэтаў і адназначных высноваў.

Ці напэўна? Ці я міжволі не ідэалізую, яшчэ раз прыводзячы нейкую зыначаную вэрсію — гэтым разам культурную — сярэднеэўрапейскага мэсіянізму? Магчымыя два сцэнары падзеяў.

Паводле першага, літаратура Сярэдняй Эўропы можа, у найлепшым выпадку, запісаць і аналізаваць на сваім прасьцягу той самы працэс, які агарнуў заходнюю частку кантынэнту раней і менш адчувальна. Іншымі словамі, бясьсільна назіраць, як непахісныя дагэтуль нормы паводзінаў, уважаныя за безумоўныя вераньні і адвечныя, здавалася б, перакананьні, перажываюць паступовую эрозію. У якім кірунку працярэбіць сабе шлях — на гэтым даўно забытым ускрайку сьвету — новая мадэль культуры. Як гістарычнае сьведам’е выціскаецца агістарычным мысьленьнем, упарадкаваная дыяхранія — эклектычнаю сынхраніяй, пазачасовыя вартасьці — псэўдавартасьцямі. Як нацыянальная тоеснасьць выціскаецца шматкультурнаю тоеснасьцю, але ў выніку наплыву імігрантаў звонку Эўропы этнічна і культурна паліморфнае грамадзтва ператвараецца ў грамадзтва расава дыфэрэнцыяванае, але падпарадкаванае дыктату банальных узораў унівэрсальнае культуры.

Але можа быць і так, што літаратура гэтага прасьцягу станецца адным із спосабаў пераадоленьня ксэнафобіі і прадухіленьня спакусаў нацыяналізму. Што будзе спрыяць лепшаму знаёмству народаў, якія цягам цэлых стагодзьдзяў хінуліся хутчэй да Рыму, Парыжу ці Вены, чымся да сваіх найбліжэйшых суседзяў. Перад ёй зьявіцца шанец прыгадаць культурныя ўзоры і традыцыі нават найменшых супольнасьцяў, якія не маглі поўніцай выявіцца пры камуністычнай мадэлі культуры. Спраўдзіць летуценьні аб Эўропе радзімаў — прынамсі, духовых. Сьцьвердзіць іншы варыянт быцьця эўрапейцам. Яна мае таксама магчымасьць пасуліць адметнае, чымся вышэйменаванае, разуменьне тоеснасьці. Такога, якое б натуральна і гарманійна спалучала

прывязанасьць да канкрэтнага месца на зямлі — з поўным зычлівае зацікаўленасьці стаўленьнем да чужых. Пашану да чужой свабоды ўжыцьцявіць собскі выбар — зь ясна акрэсьленым выбарам вартасьцяў, прызнаных найкаштоўнымі. Які б мёртвай статыцы ідэнтыфікацыі шляхам прыналежнасьці да нейкае групы супрацьстаўляў жывую дынаміку сувэрэннага самавызначэньня.

Яшчэ адна ўтопія! Можа быць. У кожным разе і ў першым і ў другім выпадку перад сярэднеэўрапейскаю літаратураю адкрываюцца магчымасьці, якімі нельга пагарджаць. Няпраўда, што зьнікненьне таталітарнага Цыклёпу зрабіла яе мала цікаваю і слабой, бо яна пачала рэпрадукаваць тыя ж самыя, што і іншыя літаратуры, стэрэатыпы. Ужо само апісаньне зьдзеяных на гэтым прасьцягу цывілізацыйных і культурных ператварэньняў магло б даць тэмы для некалькіх пакаленьняў. Як, зрэшты, і адказ на пытаньні: якім чынам узьнікала гэтая амальгама свойскіх і чужых элемэнтаў, часткова высваеных і часткова адкіненых? Якія былі спосабы або заканамернасьці абароны собскае культурнае спадчыны ад сыстэмы антывартасьцяў камуністычнае сыстэмы? У якой ступені досьвед таталітарызму паўплываў на рэфлексіі аб собскае гісторыі і гісторыі ўсяго людзтва? Як, пазіраючы з гэтае пэрспэктывы, можна акрэсьліць сутнасьць эўрапейскасьці? Што прыносіць супастаўленьне паглядаў на Сярэднюю Эўропу звонку і на Заходнюю Эўропу зь Сярэдняй Эўропы? Карацей кажучы — трэба шукаць падобнасьці ў адметнасьцях і адметнасьці ў падобнасьцях. Формаю пошукаў мог бы стацца рэалістычны раман або гратэскавая драма, дасьледаваньне звычаяў або постмадэрнісцкі каляж — праблемаў і мастацкіх выяўленчых сяродкаў, безумоўна, больш чым дастаткова. Тым ня менш польская літаратура дагэтуль ня выкарыстала гэты шанец. Яна ёсьць барджджэй сымптомам зьдзеяных ператварэньняў, чымся іхным сьведамым удзельнікам або крытычным сьветкам. Пасьля ўцёкаў ізь сьвету ў ёй доўжацца ўцёкі з Польшчы — у постмадэрнісцкі кіч, культурны міт, гульні з фэмінізмам, стылістычную эквілібрыстыку. Пераходны этап? Канчальнае разьвітаньне з рамантызмам? Час пакажа.

**Заўвагі**

[1] Cz. Miłosz: O naszej Europie. "Kultura", 1986, nr 4.

[2] D. Kiš: Wariacje na tematy środkowoeuropejskie. "Res Publica", 1989, nr 1.

[3] M.Kundera: Zachód porwany albo tragedia Europy Środkowej. "Zeszyty Literackie", 19, nr 5.

[4] J.Brodski: Dlaczego Kundera myli się co do Dostojewskiego. "Zeszyty Literackie", 1985, nr 11.

[5] M.Kundera, op. cit.

[6] Cz. Miłosz, op. cit.

[7] D. Kiš, op. cit.

[8] Найбольш грунтоўная бібліяграфія на тэму дыскусіяў аб Сярэдняй Эўропе ўтрымліваецца ў: J. Olejniczak: Arkadia i małe ojczyzny. Vincenz — Stempowski — Wittlin — Miłosz.— Kraków, 1992.

[9] Cz. Miłosz, op. cit.

[10] G. Konrad: Dekadenci to my. "Krasnogruda", 1993, nr 1.

[11] Гл.: T. Łubieński: Porachunki sumienia.— Warszawa, 1994.

[12] B.Cywiński: Mój kawałek Europy.— Warszawa, 1994.

[13] Ibidem, s. 12.

[14] Ibidem, s. 13.

[15] "Zeszyty Literackie", nr 17. Перадрук у: Pomimo i wbrew. Eseje o Europie Środkowej. Tłum. A. Husarska.— London, 1990.

[16] Op. cit., s.31–32.

[17] Ibidem, s. 47.

[18] Ibidem, s. 49.

[19] H.M. Enzensberger: Czechy nad morzem i inne eseje. Tłum. i wstępem opatrzył A. Kopacki.— Łódź, 1992.— S. 143.

[20] Ibidem, s.102.

[21] Ibidem, s. 95.

[22] Ibidem, s. 149.

[23] Ibidem, s.111.

[24] Ibidem, s.138.

[25] Гл.: Rozmowy w Castel Gandolfo, 1985. T. 2. Europa i co z tego wynika. Przyg. i przed. K. Michalski.— Warszawa, 1990.

[26] Ibidem, s. 184.

[27] E. Morin: Myśleć: Europa. Tłum. J. Łęczycki.— Warszawa, 1988.

[28] Ibidem, s. 120.

[29] Ibidem, s. 123.

[30] J. M. Domenach: Europa: Wyzwanie dla kultury. Tłum. A. Sikorska.— Warszawa, 1992.— S. 7–8.

[31] Ibidem, s. 42.

[32] Ibidem, s. 45.

[33] Ibidem.

[34] Ibidem, s. 48.

[35] Ibidem, s. 51.

[36] Ibidem, s. 73.

[37] Ibidem, s. 78.

[38] D. Jančar: Terra incognita. Tłum. J. Pomorska.— Warszawa, 1993.—

S. 42.

[39] M.Kundera, op. cit.

[40] Cz. Miłosz, op. cit.

[41] Гл.: B. Toruńczyk: O królach i duchach — z opowieści wschodnio-europejskich. "Zeszyty Literackie", 1988, nr 20.

[42] D. Jančar: Terra incognita. Tłum. J. Pomorska.— Warszawa, 1993.— S. 33.

[43] Ibidem, s. 34–35.

[44] Ibidem, s. 43–44.

[45] Ibidem, s. 54.

[46] Ibidem, s. 76.

[47] Ibidem, s. 93.

[48] A. Finkelkraut: Porażka myślenia. Tłum. M. Ochab.— Warszawa, 1992.— S. 92.

[49] Ibidem, s. 98.

[50] Ibidem, s. 100.

[51] Ibidem, s. 102.

[52] Ibidem, s. 114.

[53] Ibidem, s. 115.

[54] Ibidem, s. 120.

**"Krasnogruda", 1997, nr 6.**

**З польскае мовы пераклаў**
**Валерка БУЛГАКАЎ.**

В. БУДЗІМЕР

# СЛУЧЧЫНА

*Але ўсё ж хай не здаецца,*
*Што бяда ўжо зацісьне,*
*Наша ліха ператрэцца*
*І маланкай доля блісьне.*
**Янка Купала**

## КРАЙ І НАСЕЛЬНІЦТВА

Паводля старога, яшчэ дарэвалюцыйнага, адміністрацыйнага падзелу Случчынай называўся адзін павет, які ўваходзіў у склад Менскай губэрні. Случчына знаходзіцца ў цэнтры паўдзённай часткі Беларусі. Слуцкі павет на поўдні ўпіраўся ў балоты Беларускага Палесься. На паўдзённым захадзе Случчына таксама межавала з краем Палескіх балотаў. На захадзе за мястэчкам Клецкам урадлівыя землі Случчыны абрываліся, не даходзячы 8–10 км да Баранавіцкага чыгуначнага вузла. Пачыналіся пяскі былой Горадзенскае губэрні. На паўдзённым захадзе павет вузкаю паласою за горадам Нясьвіжам злучаўся з Наваградзкім паветам, які па сваёй глебе й складзе жыцьця насельніцтва ў значнай ступені зьяўляўся працягам Случчыны. На поўначы слуцкія палі ўпіраліся ў лясы й балоты Ігуменскага (Чэрвеньскага) павету. На ўсходзе ўжо ў 10 км ад гораду Слуцку пачынаўся Бабруйскі павет, які абапал старой шашы на працягу больш як 120 км цягнуўся да павятовага гораду Бабруйску. У Слуцкім павеце налічвалася да 600 вёсак, 12 мястэчак і заштатны горад

---

Аўтар гэтага нарысу, які быў апублікаваны ў 1953 г. у газэце "Бацькаўшчына" (Мюнхен) пад псэўданімам В. Будзімер,— вядомы ў эміграцыі беларускі нацыянальны дзяяч і гісторык Сымон Кандыбовіч-Кабыш (1891–?), ураджэнец в. Старыца, Слуцкага павету Менскай губэрні.



Слуцак. Агульны выгляд з моста цераз р.Случ. Фота С.Юхніна. 1910-я гг.

Нясьвіж.

Пры такім адміністрацыйным падзеле мелася на ўвазе толькі захаваць цэласьць і аднастайнасьць паверхні зямлі. У разьлік ня прымалася ні звычайнае эканамічнае імкненьне насельніцтва да пэўных гандлёвых цэнтраў, ні агульныя інтарэсы жыхарства. Такі падзел выклікаў шмат непатрэбных клопатаў і цяжкасьцяў. Насельніцтва вёсак Бабруйскага павету, якія знаходзіліся ў 10–15 км ад Слуцку, прымушана было пры патрэбе ехаць больш за 100 км у той павятовы горад Бабруйск. З паўночнае часткі Случчыны, якая знаходзілася ў 20 км ад Слуцку і належала да Ігуменскага павету, пры адсутнасьці ў той час сродкаў сувязі і дарог, па балотах і гацях насельніцтва было вымушанае цягнуцца за блізкі сьвет у далёкі й глухі павятовы цэнтр Ігумень (Чэрвень), на што трэба было патраціць добры тыдзень часу з фурманкаю.

Рэвалюцыя ўнесла шмат зьменаў і ў адміністрацыйны падзел. Самаю нечаканаю й трагічнаю зьменаю для наша-



Драўляная званіца царквы Раства Хрыстовага ў Слуцку.
Пабудаваная ў 1762 г. Фота С.Юхніна.

га народу была зьмена, якая была ўнесеная Рыскім трактатам паміж савецкай Расеяй і Польшчай. Трактат падзяліў Беларусь, а разам і Случчыну на дзьве часткі паміма волі й згоды народу. Шэраг заходніх воласьцяў адышоў да Польшчы, а астальная большая частка ўвайшла ў склад Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Палітычнае й эканамічнае жыцьцё расьсечанага жывога арганізму, які вякамі рос і злажыўся ў вадзінае цэлае, прымушана было ісьці і панура разьвівацца па чужых шляхох, не адказваючы ідэалам і жаданьням беларускага народу. Жыцьцё аднаго народу накіроўвалася варожаю воляю чужынцаў з Захаду і Ўсходу.



Млын каля Нясьвіжу (адразу за Слуцкай брамай). Канец XIX ст.

У 1924 г. у Савецкай Беларусі было праведзенае раёнаваньне. Паветы й губэрскі адміністрацыйны падзел былі зьліквідаваныя, на месцы каторых былі ўтвораныя раёны й акругі. Замест Слуцкага павету паўстала акруга ў складзе сямі раёнаў: Слуцкага, Капыльскага, Чырвонаслабодзкага (Вызьнянскага), Старобінскага, Грозаўскага, цэнтар якога пасьля быў перанесены ў Грэск, Любанскага й Старадароскага. Два апошнія раёны былі далучаныя да Слуцкай акругі з Бабруйшчыны, Старобінскі раён часткава быў узбуйнены за кошт Палесься, а Грозаўскі — за кошт Ігуменшчыны. Аднак ужо ў 1927 г. Слуцкая акруга была зьліквідананая й падзеленая паміж Менскай і Бабруйскай акругамі. Пасьля другой сусьветнай вайны Саветы правялі новы адміністрацыйны падзел: БССР была падзеленая на 12 вобласьцяў. Згодна гэтаму падзелу Случчына ўвайшла ў склад Бабруйскай вобласьці, за выключэньнем заходняй часткі, якая была ў складзе Польшчы, а пасьля прылучэньня Заходняй Беларусі да БССР яна ўвайшла ў склад Баранавіцкай вобласьці. Гэтым падзелам для Случчыны створаны непатрэбныя цяжкасьці. Случчына ніколі ня мела



Слуцак. Уезд у горад з паўднёвага боку. Фота С.Юхніна. 1910-я гг.

й ня мае эканамічнага імкненьня да Бабруйску, а паўночная частка краіны — Капыльскі і Грэскі раёны знаходзяцца ў 150 км ад Бабруйску, у той час як ад Менску ўсяго каля 90 км.

Паверхня Случчыны пераважна роўная, з урадлівай глебай і мала перасякаецца ўзгоркамі. Толькі ў паўночнай частцы праходзіць ведамы водападзел паміж басэйнамі Балтыцкага й Чорнага мораў. Водападзел выходзіць зь Ігуменшчыны й падыходзіць да мястэчка Грозава, якое знаходзіцца на поўначы ад Слуцку ў 21 км. Водападзел у выглядзе пладавітых узгоркаў праходзіць празь мястэчка Капыль, падыходзіць к мястэчку Клецку і далей пераходзіць у Наваградчыну. Водападзел падымаецца да 236 мэтраў, а на самым высокім месцы дасягае 300 мэтраў.

Клімат Случчыны надзвычайна спрыяльны. Лясы з поўначы і ўсходу затрымліваюць халодныя вятры, а з захаду яны нясуць цяпло Гальфштрому. Блізкасьць палескіх нізінаў уплывае на стварэньне ўмеркаванай вільгаці. Ападкаў тут дастаткова, засушлівых гадоў амаль ня бывае. Наагул клімат Случчыны прыемны й здаровы для чалавека.

Буйныя рэкі не прарэзваюць слуцкіх прастораў. Усе яны належаць да басэйну Чорнага мора і амаль усе зьяўляюцца прытокамі Прыпяці. Славуты беларускі Нёман на невялікай адлегласьці левым сваім берагам каля мястэчка Пясочнага датыкае Случчыну. Ён як-бы ўшаноўвае сваім прывітаньнем далёка знаную Случчыну і потым, забраўшы ў Пясочным першыя плыты, далей набірае моцы й сілы, нясе свае прыгожыя воды ў Наваградчыну і далей аж да самага Балтыцкага мора. Буйнейшая з рэчак Случ пачынаецца на ўзьбярэжжы балотаў Ігуменшчыны і збліжаецца зь левым прытокам Нёману Лошаю. Случ сваімі невялікімі водамі абмывае горад Слуцак, перасякаючы ў 4 км ад гораду старую шашу. За Слуцкам рэчка мае невялікі ўхіл улева, падыходзіць пад багатае мястэчка Пагост, далей праходзіць праз раённы цэнтар Старобін. Далей за Старобінам Случ прымае з правага боку балоцістую рэчку Морач, якая пачынаецца з узгор'яў водападзелу каля мястэчка Капыль. За Старобінам Случ без асаблівых выгінаў ціха нясе свае досыць значныя воды праз балоты Палесься і ўпадае ў Прыпяць. У даўнейшыя часы па Случы аж да самага Слуцку на лайбах і дубох перавозіліся розныя грузы. Зьнішчаныя лясы забралі з сабою і частку вады ў Случы. У трыццатых гадох рабіліся спробы перавозіць грузы па Случы на лайбах з Старобіншчыны, скарыстоўваючы конскую цягу на топкіх берагох рэчкі. У заходняй частцы Случчыны працякае рэчка Лань. Яна таксама бярэ пачатак з узгор'я водападзелу каля вялікай вёскі Лань, якая знаходзіцца ў 5 км ад Нясьвіжу. На Случчыне ёсьць некалькі нязначных вазёраў. Тры возеры знаходзяцца каля Нясьвіжу. Два зь іх непасрэдна абмываюць замак Радзівіла, а трэцяе пад назвай Паненскае недалёка ад Нясьвіжу ўпрыгожвае зноў-жа ўладаньні Радзівіла ў маёнтку Альба.

Вялікія балоты ў цэнтры Случчыны адсутнічаюць. Яны сустракаюцца на ўзьбярэжжах павету ды па берагох рэчак. Адно такое балота Люцень займае прастору каля 150 км$^2$ і знаходзіцца каля рэчкі Морач. У рэчках і азёрах Случ-

чыны водзяцца карпы, карасі, язі, ляшчы, шчупакі, а ў балотах водзяцца і ўюны. У паўдзённай частцы ўжо ў Палесьсі даўней лавілася многа яршоў, якія ў пост дастаўляліся на Слуцкі рынак нанізаныя на поўаршынныя калкі і прадаваліся заўялымі. Яршы, нанізаныя на калочкі, называліся мёткамі і пры продажу меркаю была мётка, а не вага.

Яшчэ ў часы першай сусьветнай вайны былі высечаны невялікія прасторы лясоў, якія ракідаліся сям-там па Слуцкай раўніне, а ў рэвалюцыю яны зусім былі дакананыя. Прыемным выключэньнем зьяўляецца паўдзённа-заходняя частка Случчыны. Там дзе-нідзе яшчэ захаваліся невялікія лістовыя або яловыя зарасьнікі сярод пышных палёў. Далей на поўнач яны пераходзяць у вялікія лясы на адлегласьці 30–35 км ад Слуцку. Такім чынам палявая Случчына зьяўляецца ўкаранаваная лясным вянком з поўначы, усходу й паўдня.

З захаду на ўсход Случчыну перасякае старая шаша, якая лучыць Варшаву зь Петраградам і Масквою. Шаша праходзіць у Случчыне празь мястэчка Ляхавічы, Слуцак і далей на Бабруйск. Да першай сусьветнай вайны гэта была адзіная добра ўтрымліваная дарога. Яна амаль ня мае паваротаў да шасэйнай станцыі Амухавічы. На гэтай шашы праз кажныя 18–20 км былі спэцыяльныя тыповыя каменныя будынкі-станцыі, у якіх былі памешканьні для праяжджаючых і стайні для коней. Да першай сусьветнай вайны па шашы раз у суткі правозілася пошта. Па гэтай шашы аж да 1910 г. для перавозу пасажыраў зь Ляхавічаў праз Слуцак і далей хадзілі старасьвецкія дыліжансы, запрэжаныя чацьверыком коней. Дыліжансы былі замененыя непаваротлівымі аўтабусамі, якія курсавалі ад Слуцку на захад да чыгункі Баранавіцкага вузла і да чыгуначнай станцыі Старыя Дарогі на ўсход ад Слуцку. Прыкладна ў 1935 г. Слуцак быў злучаны зь Менскам на працягу 110 км таксама шасэйнаю дарогаю. У паўдзённай частцы Случчыны пабудаваная добрая гравійная дарога, якая лучыць раённы цэнтар Чырвоную Слабаду (Вызну) празь мястэчка Пагост зь



Сяляне в.Лучнікі Слуцкага павету. Фота С.Юхніна. 1910-я гг.

мястэчкам Любань і далей з Бабруйшчынай. Гравійнымі дарогамі Слуцак зьвязаны таксама зь мястэчкамі Грэскам, Грозавам, Капылём, Старобінам і Ўрэччам. Праходзіць праз Случчыну і стары гасьцінец. З захаду ён ідзе з Наваградчыны і празь Нясьвіж, Цімкавічы, Раманава (Леніна) у недалёкай адлегласьці на захад ад Слуцку перасякае старую шашу, праходзіць ваколіцамі Слуцку з паўдзённага боку і далей празь мястэчка Ўрэчча пераходзіць на абшары лясной і балоцістай Бабруйшчыны.

Пры сучасным становішчы гэтыя гасьцінцы страцілі сваё прызначаньне. Для перавозкі грузаў у разводзьдзе яны ня прыгодныя, грунт іх мяккі, бо адсутнічае каменнае пакрыцьцё дарогі. Тым ня менш наш народ спрадвеку любіў і па сяньняшні дзень захаваў любасьць да гэтых прасторных, шырокіх і прыгожых гасьцінцаў-дарогаў, паабапал якіх зь небам гавораць векавыя бярозы. Людзі ахватней па іх езьдзяць, чымся па шашы, асабліва ўлегцы: не трасе, не грукаціць, каню лягчэй ступаць і калёсы ня б'юцца. Гасьцінцы-дарогі выклікаюць у людзей задумлівасьць і ціхую тугу



Сенажаць паміж вёскамі Бронавічы ды Лучнікі Слуцкага павету.
Фота С.Юхніна. 1912 г.

аб нечым далёкім, недасяжным. Не дарма нашыя беларускія пісьменьнікі аддалі ім сваю паэтычную даніну, адлюстраваўшы ў іх свае думкі-настроі. Зусім цяпер закінуты гасьцінец, які даўней зьвязваў Слуцак зь Менскам. Караваны балаголаў днём і ноччу адвозілі дары багатай краіны ў Менск, а адтуль везьлі розныя тавары, павольна вárочаючыся ў Слуцак. Такі рэйс забіраў ня менш аднаго тыдня часу. Гэтым жа шляхам з Случчыны дастаўлялася жывёла на менскія бойні. Толькі ў вапошні год першай сусьветнай вайны Слуцак убачыў чыгунку, якая была працягнутая із станцыі Ўрэчча. Чыгунка, якая зьвязвае Слуцак, зьяўляецца адгалінеНЬнем, праведзеным із станцыі Асіпавічы Лібава-Роменскай чыгункі. Яна лучыць Менск з Ўкраінаю. Згодна з Рыскім трактатам, Саветы ня мелі права праводзіць чыгункі к самай мяжы з Польшчаю. За год да другой сусьветнай вайны яны знайшлі з гэтага выйсьце: чыгунка із Слуцку была праведзеная да пагранічнага мястэчка Цімкавічы, дзе былі разьмешчаныя буйныя часьці пагранічных войскаў. Прымежная чыгуначная станцыя атрымала назву Слу-



Сяляне в.Лучнікі падчас веснавое сяўбы. Фота С.Юхніна. 1923 г.

цак II, хаця ад Слуцку яна знаходзілася больш як 30 км. Пасьля заняцьця Саветамі Заходняй Беларусі зь Цімкавічаў чыгунка была працягнутая аж да Баранавічаў.

### ЗАНЯТКІ НАСЕЛЬНІЦТВА

Случчына заўсёды была забясьпечаная ўстойлівым ураджаем. Калі здараюцца рэдкія выпадкі слабейшых ураджаяў зернявых збожжавых культураў, то гэты хіб пакрывае добры ўраджай бульбы. Галадовак на Случчыне ня бывала. Тут вельмі добра родзіць пшаніца-зімка, жыта, ячмень, проса, авёс, лён і бульба. Грэчка сеецца толькі на ўскраінах павету, на землях больш лёгкіх, пяшчаных. Грэчка ня любіць тлустых слуцкіх земляў. Добрыя ўраджаі тут дае махорка, памідоры, цукровыя й кармовыя буракі. На Случчыне яшчэ ў пачатку гэтага стагодзьдзя ўжо шырака было распаўсюджана сяньне кармовых траваў; тут добра родзяць канюшына, цімафейка, сэрадэля, віка. Тут сенажаці ў бальшыні мурожныя, сухадольныя з слабымі ўраджаямі



Сяляне в.Куртынавічы Слуцкага павету Адам ды Міхась Татарыновічы. 1912 г.

траваў, а заліўных сенажацяў мала. З агульнай плошчы сенажацяў у 118658 дзесяцінаў у Слуцкім павеце сялянам належала менш як 40%, а апошнімі 60% карысталіся абшарнікі. Недастатковая забясьпечанасьць сялянскіх гаспадарак сенажацямі штурхала іх на ўзмоцненае разьвіцьцё кармовых траваў і караняплодаў. Бяднейшае зямлёю сялянства ў пошуках сена брала плошчы сенажацяў у абшарнікаў на частку, гэта значыць за ўсю працу па ўкосу, сушцы й дастаўцы сена ў селішча сяляне атрымлівалі сабе толькі чацьвертую або навет пятую частку валавога ўкосу, а астальныя долі браў абшарнік. Шукалі сенажацяў случчакі далёка на палескіх балотах. На жаль, на Случчыне ў тыя часы не дадумаліся яшчэ прымяняць угнаеньня сенажацяў, што ня толькі павышала-б ураджай, але й якасьць траваў. Рэвалюцыя таксама ня ўнесла палепшаньня ў становішчы бяднейшага сялянства на Случчыне. Слуцкі павет стаў адным з самых багатых па ліку саўгасаў, гэтых нямілых твораў савецкай улады.

Як відаць, на Случчыне ўмовы для разьвіцьця




Тытунёвая дзялянка жыхара Слуцку Жарбутовіча. 1922 г.
Вышыня тытунёвых сьцёблаў дасягала ад 3 да 4 аршынаў. Кожная расьліна давала ад 18 да 22 тытунёвых лістоў, даўжыня якіх дасягала ад 12 да 18 вяршкоў.

жывёлагадоўлі не ўва ўсіх мясцовасьцях былі спрыяльнымі. Перашкодаю гэтаму была абмежаванасьць сенажацяў. Аднак случчакі ў жывёлагадоўлі ўзялі кірунак разьвіцьця буйнай рагатай жывёлы ня колькасьцю, але якасьцю. Малочная жывёла ў сялянства была мясцовай беларускай пароды з значнай прымешкай швіцкай пароды. Гэтая парода на Случчыне добра прывілася. Швіцы былі больш устойлівымі, чымся галяндэркі, якія схільныя былі да захворваньня сухотамі. Случчакі трымалі не “хвасты”, а добрых малочных кароў, таму ў сялянскіх гаспадарках зусім ня рэдка можна было сустрэць кароў зь дзённым удоем



Слуцкі кірмаш. Пачатак XX ст.

20–25 літраў малака.

Конегадоўля ў сельскай гаспадарцы Случчыны займала выдатнае месца. Канюшына, мурожнае сакавітае сена, добрыя ўраджаі аўса стварылі спрыяльныя ўмовы для гадоўлі коней на продаж, а ня толькі для собскага карыстаньня. Найбольш распаўсюджанаю пародаю былі цяжкія ардэны, якія больш падыходзілі для працы на слуцкіх землях. Аднак былі аматары й гадоўлі лёгкай расавай пароды. Расавыя пароды з Случчыны вывозіліся і ў значнай ступені ішлі на патрэбы кавалерыйскіх вайсковых часьцяў. Цэнтрам конегадоўлі, асабліва лёгкіх расавых пародаў, была Семяжоўская воласьць. Нядрэнныя коні гадавалі ў Чарнагубаве Капыльскага раёну, у Бокшыцах, у хутарох каля мястэчка Пагосту й іншых. Вырошчваньне конскага маладняку ў гаспадарках, навет ніжэй сярэдніх, было добрай прыбытковай крыніцаю. Апрача практычнага значэньня,

вырасьціць случчаку добрага жарабца было вялікім гонарам. Не дарма-ж на розных сельскагаспадарскіх выстаўках Слуцкі павет забіраў першыя ўзнагароды. Не выпадкова таксама ў часы разьвіцьця НЭПу і ў Маскве на сельскагаспадарскай выстаўцы семяжоўскі жарабец заняў другое месца.

Багатыя ўраджаі бульбы, дастатак збожжа з даўных часоў стварылі надзвычайна спрыяльныя ўмовы для сьвінагадоўлі на Случчыне. У старыя часы па вёсках хадзілі агенты купцоў-сьвінабояў — гэтак іх звалі на Случчыне,— якія абзадачвалі адкормленых вепрукоў, давалі задатак і вызначалі час і месца дастаўкі тавару. Самым першым ліхам для сьвінагадоўлі гэта былі крупчакі, якія прыносілі вялікія страты для мясцовых гаспадарак. Мясцовыя патрэбы для збыту адкормленых сьвіней былі абмежаваныя, таму гэты тавар звычайна закупляўся ў Нямеччыну і Варшаву.

На Случчыне шырока было разьвітае садоўніцтва. Вёскі й хутары танулі ў зелені садоў і дрэваў. Якуб Колас у сваёй “Новай зямлі” гэтак апісвае прыгожую й багатую Случчыну:

Прад імі Случчына ляжала,
Старонка міла і багата.
Народ, відаць, жыў панавата,
Прынамсі, добра і заможна.
Па ўсім гэтым судзіць можна:
Па ветракох, такіх удумных,
І па абэржах, гэтых гумнах,
Па старасьвецкіх азяродах,
Па гарбузох на агародах,
Па тытуну і па садочках,
Дзе хаты ніклі, бы ў вяночках.
А тыя ліпы ці таполі!
Такіх ня бачылі ніколі:
Разьвіслы, тоўсты, сакавіты,
Гамоняць зь небам — паглядзі ты!
За многа вёрст здалёк відаць.

Ну дрэвы! нечага сказаць;
Зямля, брат, сілы многа мае —
Такія вежы выганяе!
А роўнядзь, роўнядзь! як далоні!

Ня ўсе случчакі мелі прамысловыя сады, аднак амаль кажная гаспадарка мела хоць невялікі садок, які задавальняў патрэбы сям'і. У садох высьпявалі самыя разнастайныя сарты яблыкаў, грушаў, сьліваў, вішняў, парэчак, а апошнімі часамі разводзілася таксама шмат трускавак. Сустракаюцца тут самыя раньнія сарты духмяных яблыкаў, алівак, якія ўжо ў канцы ліпеня высьпяваюць і служаць вясковай моладзі, бо старэйшыя людзі, асабліва жанчыны, прытым калі ў сям'і былі памёршыя дзеці, да Спасу ўстрымліваліся ад ужываньня яблыкаў. У садох Случчыны знойдуцца самыя ўстойлівыя і доўгатрывалыя сарты яблыкаў, якія тут называюць цыганамі, бо яны амаль чорныя. Цыганы захоўваюцца аж да новага ўраджаю, маюць добры й прыемны смак. З вонкавага выгляду, смаку й араматнасьці высокую славу таксама мае і слуцкая антонаўка. Слуцкія грушы з гледзішча на сваю якасьць не саступаюць навет лепшым паўдзённым сартом, гэта — раньняя спасаўка, сапежанка, вынёўка й розныя бэры. Але больш усяго случчакі ганарацца сваею цудоўнаю “слуцкаю бэраю”. Такі і ёсьць чым і ганарыцца. У гэтай грушы як-бы адбілася ўся Случчына: яе багатыя магутныя сокі зямлі, прыемны клімат і ўпартая праца слуцкіх садаводаў.

Слуцкая бэра духмяная, прыемна-сакавітая, мае непараўнальныя смакавыя якасьці, яна ў роце павольна растае, пакідаючы на доўгі час вельмі прыемнае пачуцьцё і смакавае задавальненьне. У чалавечы арганізм бэра ўносіць бадзёрасьць і асалоду, чым стварае добры настрой. На гэтую грушу быў заўсёды вялікі попыт, яна заўсёды была каштоўным упрыгожаньнем сталоў арыстакратаў і прыемным пачастункам у хаце сялянскай. Адзін случчак любіў расказваць наступны выпадак. Яшчэ ў старыя часы яму



Сялянкі в.Мядзьведзічы. Пачатак XX ст. З этнаграфічнага збору былога Менскага царкоўнага гістарычна-археалягічнага камітэту.

давялося быць у Пецярбурзе. Зайшоўшы ў вадну фруктовую краму на Неўскім праспэкце, ён заўважыў прыгожыя грушы з надпісам: “Слуцкія бэры”. Случчак ня мог устрымацца, каб у сталічным Пецярбурзе ня даць перавагі грушы з сваёй зямлі і папрасіў адважыць яму два фунты слуцкай бэры. Як-жа ён быў зьдзіўлены, калі яму прышлося заплаціць у два разы даражэй за сваю зямлячку-грушу, чымся за найлепшыя сарты крымскіх грушаў. Так ён даведаўся аб высокай вартасьці слуцкай бэры. Яшчэ больш прасякся павагай да сваёй бацькаўшчыны і з гонарам расказваў пра гэтае здарэньне ў Пецярбурзе. Паводля статы-



Сялянка в.Лучнікі Кацярына Барткевіч. Пачатак XX ст. З этнаграфічнага збору былога Менскага царкоўнага гістарычна-археалягічнага камітэту.

стычных зьвестак яшчэ да першай сусьветнай вайны з Случчыны вывозілася фруктаў больш, чым на 25000 залатых рублёў.

Прамысловае гародніцтва ў мінуўшчыне на случчыне разьвівалася галоўным чынам толькі ў мястэчках. Нягледзячы на добрыя гароды ў сельскай мясцовасьці гародніна вырошчвалася ў межах патрэбы гаспадаркі. А гуркі й капуста на зімовую засолку ў бальшыні закупліваліся ў местачковых агароднікаў. Сяляне ня лічылі патрэбным траціць час на гэтую справу. І ўзапраўды, пры адсутнасьці буйных гарадзкіх паселішчаў збыт гародніны быў моцна абмежа-

ваны. Зусім другое палажэньне было пры савецкай уладзе, асабліва пасьля правядзеньня калектывізацыі. Кажны год у Случчыну прыяжджае многа розных агентаў, асабліва зь Петраграду, для кантрактацыі гуркоў, памідораў, капусты, раньняй скарасьпелай бульбы. Агенты канкуравалі паміж сабою, давалі прэміі старшыням калгасаў, каб даставіць што-небудзь галодным работнікам і службоўцам. За гародніну добра плацілі, а раньняя скарасьпелая бульба ў выкананьне бульбапаставак залічвалася ўдвая. І ўзапраўды, з калгасаў Случчыны гародніны вывозілася вельмі многа, асабліва памідораў, гуркоў, капусты і раньняй бульбы.

Случчакі ахвотна займаліся пчалаводзтвам. Хоць лясоў тут і мала, затое канюшына ды іншыя травы на палёх і сенажацях пахучыя і мёданосныя. Пры патрэбе случчакі-пчаляры ўмелі стварыць умовы для добрай узяткі пчале. Яны зналі мёданосныя травы і сеялі іх для сваіх пасекаў. Яшчэ да рэвалюцыі на Случчыне ўжо рэдка сустракаліся пасекі з калоднымі вульлямі. Пераканаўшыся ў перавагах усяго новага, што паляпшала справу, было больш выгодным, случчак ахвотна разьвітваўся зь нерэнтабельным вульлём-калодай, заменьваючы яго Даданаўскім рамовым або вульлём іншай сыстэмы. І з другіх прычынаў у Слуцкім павеце разьвівалася пчалярства. Случчакі-гаспадары добра разумелі, што пчолы спрычыняюцца да цьвіценьня садоў, гародаў і некаторых палявых культураў. Яшчэ ў старыя часы на кірмашох Случчыны прадавалася мёду й воску больш за 20000 залатых рублёў у год. Да першай сусьветнай вайны былі ўжо ведамыя пчалаводы, якія ў расфасаваным выглядзе прадавалі мёд ліповы, верасьнёвы, грэчны і г.д.

У гаспадарцы селяніна, асабліва той, якой распараджалася жанчына, значную частку складала птушкаводзтва. Не адзін дзясятак яек з гаспадаркі ішоў на абмен за найпатрабнейшыя рэчы: іголкі, ніткі, гузікі, аплікі, запалкі, шпількі, грабеньчыкі й інш. Звычайна ў вялікі пост яечкі



Беларуска ў нацыянальным строі:
в.Семежава Слуцкага павету. 1929 г.

зьбіраліся або выменьваліся на вышэй паказаныя рэчы. Вясною яйка займала важнае месца ў асартымэньце страваў на сьнеданьне. Курэй разводзілася многа, і яны былі танныя. Вадаплаўнай птушкі менш разводзілася на Случчыне, што тлумачылася адсутнасьцю вялікіх рэчак і азёр з выганамі. Шырока распаўсюджана была на Случчыне японская гусь. Гэтая парода гусей абыходзіцца без вадаёмаў, мае доўгую шыю, а на галаве тырчыць шышак. Случчакі любілі разводзіць гэтую птушку, бо з двара яна нікуды ў шкоду ня лазіць, хоць слаба паддаецца адкорму, затое нясе многа яек, якія выкарыстоўваюцца на розныя сьвяточныя пячэньні.

Авечкагадоўля на Случчыне не насіла збытковага характару і ставіла за мэту, каб у гаспадарцы была аўчына на кажух, сукно на зімовую адзежу, а таксама суконная нітка для тканьня прыгожых коўдраў. Для ўсяго ў гаспадарцы шэрсьць патрэбная, і з-за гэтае патрэбы прыходзілася трымаць і авечак. Аднак шырокая авечкагадоўля патрабавала ў зімовы час шмат сена, прытым мурожнага, з рознымі лісточкамі. З гэтае прычыны вялікіх авечых стадаў на зіму случчакі ў гаспадарцы ня трымалі.

Случчына — краіна сельскай гаспадаркі, таму і прамысловасьць тут ня мела шырокага і разнастайнага разьвіцьця. Квітнела толькі сьпіртакурная прамысловасьць. Амаль у кажным больш-менш значным маёнтку працаваў бровар. Вялікія плошчы ў маёнтках засяваліся бульбаю, якая пераганялася на сьпірт, ды яшчэ да бульбы часта дабаўлялася збожжа. Не прападала пры браварох і брага, якая была вельмі добрым кормам для буйнай рагатай жывёлы. Прамыслоўцы пры браварох адкормлівалі сотні вялізных палескіх валоў на ўбой. Сьпіртакурная прамысловасьць прыносіла абшарнікам бястурботны прыбытак. Збыт сьпірту па выгаднай цане быў забясьпечаны, бо яго закупляла дзяржава. Вось-жа з гэтае прычыны абшарнікі і ня імкнуліся будаваць іншых прадпрыемстваў. Ня было на Случчыне ні крухмальных, ні сушыльных заводаў для садавіны й гародніны, ні іншых прадпрыемстваў для перапрацоўкі й кансэрвацыі прадуктаў сельскай гаспадаркі.

У нязначнай частцы маёнткаў было добра пастаўленае сыраварэньне. Зробленыя паводля рэцэптаў галяндзкіх сыравараў, тоны сыру адпраўляліся з Случчыны на Захад і ў Варшаву. У часы НЭПу на Случчыне шпарка разьвівалася сельскагаспадарская каапэрацыя, у прыватнасьці — малочныя таварыствы, якія случчаком асабліва падабаліся. Але калектывізацыя ўсе гэтыя мерапрыемствы перачыркнула.

Для перапрацоўкі збожжа ў павеце працавала некалькі добрых млыноў-паравікоў. Фактычна гэта былі камбінаты.

На гэтых млынох, апрача памолу збожжа, былі крупарні, сукнавалкі, прэсы для вырабу алею, цыркулярныя пілы і навет гатарныя станкі для расьпілоўкі дошчак. Гэтыя камбінаты былі вельмі зручнымі прадпрыемствамі, прыбытковымі для собсьнікаў і выгоднымі й карыснымі для насельніцтва.

Нягледзячы на абмежаванасьць лесаматарыялаў на Случчыне, ягоную дарагавізну і вялікія кошты на дастаўку, будынкі ў вёсцы былі выключна драўляныя. Некаторым выключэньнем была частка маёнткаў. А між іншым тут, на Случчыне, як нідзе, ёсьць і была поўная магчымасьць для шырокай вытворчасьці цэглы і чарапіцы. Гліна на ўсёй Случчыне сустракаецца ў неабмежаванай колькасьці. Вакол мястэчка Грэск, Грозава і ў Капылі сустракаюцца паклады вапны. Аднак апрацоўка вапны вялася саматужным спосабам і не давала патрэбных вынікаў. Савецкі рэжым пакідаў Случчыну, як і папярэднія акупанты, выключна краінай сельскагаспадарскай сыравіны.

**СЯЛЯНЕ СЛУЧЧЫНЫ**

Паводля гусьціні насельніцтва Случчына займала першае месца на Беларусі. У 1914 годзе тут на адзін квадратны кілямэтар прыпадала 60 чалавек сельскага насельніцтва. На Случчыне, як ведама,— няма буйных гарадзкіх паселішчаў ні прамысловых асяродкаў, таму гусьціня насельніцтва тлумачыцца эканамічным становішчам краіны.

У дарэвалюцыйныя часы на Случчыне налічвалася 82,2% беларускага насельніцтва. Гарады й мястэчкі пераважна былі заселеныя жыдамі. Случчакі надзеленыя лепшымі рысамі нашага народу. Яны рослыя, прыгожыя тварам, настойлівыя ў працы, ініцыятыўныя і ня любяць пакладацца на шчасьлівы выпадак або на другіх, у цуд яны ня вераць, пры самых складаных абставінах і неспрыяльных умовах жыцьця даюць сабе самі раду. Случчакі маюць гонар і пачуцьцё чалавечай годнасьці, яны шчырыя сыны сваёй бацькаўшчыны. Яны неахвочыя на

рызыкоўныя і неправераныя ўчынкі. Характэрнаю іх рысаю зьяўляецца цьвёрдая вера і праверанная ўпэўненасьць у пераможную сілу ведаў і іхную рашаючую ролю ў жыцьці. Адсюль ведамае імкненьне да асьветы і ўпартасьць да ўладаньня вышынямі ведаў. У гады развалу ўсяго прывычнага ладу, нястачаў, крызысаў, у часы розных акупацыяў, пераменаў уладаў у выніку ваенных дзеяньняў случчакі не адракліся ад ганаровага абавязку за ўсялякую цану не перарываць і не прыпыняць асьветы моладзі. Яны не паддаліся часовым настроям нясьведамых адзінак, якія спасылаліся на выпадкі, калі высокаасьвечаныя асобы ў гэтыя ліхія гады часам сядзелі бяз хлеба. Таму толькі высокай сьведамасьцяй случчакоў тлумачыцца той станоўчы факт, што ўсе пачатковыя школы працавалі нармальна, будучы на ўтрыманьні насельніцтва. Захаваліся і з поўнай нагрузкай працавалі таксама й сярэднія школы. Больш таго, колькасьць іх усьцяж павелічалася. У Слуцку, апрача раней існуючых дзьвюх гімназіяў, была яшчэ адчыненая беларуская гімназія, якая надзвычайна пасьпяхова разьвівалася. Адчыненыя былі дзьве гімназіі ў Нясьвіжы і прагімназія ў мястэчку Ўрэчча. Сярэднія школы былі перапоўненыя сялянскай моладзьдзю і мелі раўналежныя клясы. Каб толькі моладзь вучылася, бацькі-сяляне на ўскраінах гораду або ў бліжэйшых вёсках знаходзілі кватэры і прыстасоўвалі іх для жыцьця й прыгатаўленьня лекцыяў: прывозілі свой матарыял, складалі печы і камінкі, дастаўлялі апал і ўсмал для асьвятленьня, бо газы дастаць у тыя часы ня было магчымасьці. Харчаваліся тым, што бацькі прывозілі з дому. Так і вучыліся, канчалі гімназіі, камэрцыйную школу ды сьпяшаліся папасьці ў вышэйшыя школы.

На Случчыне рухаючаю сілаю культуры й прагрэсу, носьбітамі ідэяў незалежнасьці і вольнасьці беларускага народу была перадавая інтэлігенцыя, якая выйшла зь сялянства, з народу. Сваімі собскімі сіламі й сродкамі, без мэцэнатаў і апекуноў случчакі з ахвярнасьцю, сьмелась-

цю й рашучасьцю пракладвалі новыя шляхі-дарогі для лепшай будучыні свайго народу. Слуцкая зямля выдзеліла палітычна-грамадзкіх дзеячоў у лепшым разуменьні гэтага слова, дала паэтаў і пісьменьнікаў, настаўнікаў і аграномаў, дактароў і інжынэраў. Гэта быў вынік такога культурнага руху, які ўзьнік на Случчыне яшчэ ў другой палове мінулага стагодзьдзя. У часы царскага рэжыму настаўніцкія сэмінарыі, інстытуты, невялікая колькасьць аграномічных школаў і іншыя навучальныя ўстановы, да якіх была дапушчаная сялянская моладзь, былі ўкамплектаваныя ў значнай меры случчакамі. Слуцкі павет быў пастаўшчыкам сельскай інтэлігенцыі на ўвесь г.зв. “Западны край”.

У савецкія часы ў аўдыторыях тэхнікамаў і вышэйшых навучальных установаў першае месца займалі случчакі. Уся гэтая культурная сіла працавала й дзеіла на карысьць свайго народу. Сваімі духовымі багацьцямі яны несьлі найкаштаўнейшы ўклад у справу нацыянальна-вызвольнага руху на Беларусі. Бальшыня зь іх за сваю дзейнасьць загінула ў савецкіх канцэнтрацыйных лягерох халоднага Сібіру, аднак іхная праца не прапала дарма, а памяць аб іх ніколі ня будзе сьцертай сярод беларускага народу.

Случчанкі-жанчыны таксама надзелены высокімі фізычнымі й маральнымі якасьцямі. Яны прыгожыя, вясёлыя, шчырыя, добразычлівыя, ветлівыя й гасьцінныя. Яны ахайныя пры ўтрыманьні хаты, дзяцей і ўсёй сям’і. Як працавітыя пчолы, яны першымі пачынаюць працоўны дзень сялянскай сям’і і апошнімі яго канчаюць. Спагадлівыя да сваіх суседзяў і да ўсіх пакрыўджаных лёсам. Случчанкі заўсёды памагаюць, чым могуць, усім тым, каго сустрэне нядоля, хвароба, калецтва. Прырода надзяліла іх здольнасьцямі да высакаякаснага майстэрства ў жаночых працах.

Будынкі ў вёсках Случчыны выключна драўляныя. Некаторым выключэньнем ёсьць гарады ды вялікія мястэчкі. Сялібы кампактныя і нераскіданыя, бо кажны ласкут зямлі цэніцца і скарыстоўваецца. Кажная рэч павінна мець сваё месца. Вокнамі на вуліцу і на свой двор стаіць на сялібе

чысьценькая хата пад саламянай страхою. Пад вокнамі хаты ў палісадзе знойдуцца кусты бэзу, язьміну ды шмат розных кветак: барвінку, настурак, мальваў ды шмат наготак, іх многа навет на градах у агародах. К сонцу садзіцца многа і сланэчніку. Хаты ў бальшыні будуюцца на дзьве палавіны: на аднэй жыве сям'я, а другая чыстая, каб можна было прыняць чужога чалавека. Там-жа, на чыстай палавіне, у часы канікулаў памяшчаюцца і дзецівучні. За хлявамі знаходзяцца гароды. На другім баку вуліцы, калі дазваляе месца, далёка наводшыбе стаіць адзінока гумно. Вакол гумна, якое звычайна тут называецца прыгуменьнем, засаджаны сад. Тут-жа знаходзяць месца і пчаліныя вульлі. Супраць хаты, калі дазваляе шырыня сялібы, ёсьць яшчэ невялікі гародчык, дзе звычайна садзіцца гародніна, патрэбная на скорую руку, ды ў ім яшчэ высьпяюць высадкі. У бальшыні гаспадарак на сялібе асобна ад іншых будынкаў ёсьць яшчэ сьвіран для спрату збожжа, сала, мёду і іншых каштоўных рэчаў у гаспадарцы.

Усё на Случчыне было добра: зямля ўрадлівая, людзі ветлівыя. Не дарма-ж шукальнікі лепшага жыцьця, чымся панская служба, шукальнікі "новай зямлі" Міхал і Антось з "Новай зямлі" Якуба Коласа, трапіўшы зь берагоў прыгожага Нёману ў славутую Случчыну, былі захопленыя ўрадлівымі землямі і, прыемна зьдзіўленыя, адзначалі:

— Эх, брат, зямля: ўміраць ня трэба,
Не пашкадуе табе хлеба.
Усё прыцягала іх увагу:
Ці стрэнуць родную сярмягу —
І людзі простыя так ветлы,
І погляд добры іх і сьветлы
Так да душы і пранікае
І сэрца цешыць і ласкае,
Ці хутарочак пападзецца,
Ну, як знаёмы, усьміхнецца!
Ці гэта вёска зь ветракамі

І з прыдарожнымі крыжамі,—
Усё так павабна, так адметна,
І ўсё вітае іх прыветна,
Бы тая блізкая радня.

У бальшыні тут вёскі вялікія, асабліва каля самага Слуцку. Выключэньнем былі вёскі, якія ўсьпелі разьбіць на хутары, або пакупнікі маёнткаў, гаспадары якіх абшарнікі з прычыны дрэннага гаспадараньня або цераразьмерна вясёлага жыцьця прымушаныя былі кідаць маёнткі й перадаваць іх у больш гаспадарскія рукі. Такія пакупнікі сяліліся невялікімі пасёлкамі.

**Далей будзе.**

**Публікацыя Надзеі САўчАНКЈ.**

Ілюстрацыі выкарыстаныя з фондаў Нацыянальнага музэю гісторыі й культуры Беларусі.

# “СТРАШНЫ ГОЛАД У КРАІНЕ РУСЬ І ЛІТВА...”

1571-шы, першы год замірэньня ў Інфлянцкай вайне з Масквой пасля 13 гадоў няспынных баявых дзеяньняў, ня выдаўся для ВКЛ больш-менш спакойным. Дажываў свой век апошні зь Ягайлавічаў, бязьдзетны Жыгімонт Аўгуст, пакідаючы нявырашаным пытаньне пра лёс наваствoранай Рэчы Паспалітай. Войскі Івана Жахлівага, гатовага вось-вось абвесьціць прэтэнзіі на вакантны сталец, працягвалі акупаваць Полаччыну. І быццам не жадаючы даваць хоць нейкую палёгку, сама прырода наканавала шматпакутнай краіне новае выпрабаваньне: недарод. Ва ўмовах XVI ст. гэта аўтаматычна азначала голад, пошасьці і спусташальныя страты насельніцтва. Усе гэтыя няшчасьці ў 1571 г. выдаліся такія моцныя, што ўразілі ня толькі аўтара “Хронікі Літоўскай і Жамойцкай”, які апісаў іх наступным чынам: “О голоде великом. Року 1571. Голод великий был в Полщи и в Литве, же убогие люди стерво здохлое и собак ели, наостаток трупы умерлых людей трупы выгребаючи з земли, ели и сами вмирали”. Зьвесткі пра падзеі ў ВКЛ хутка дасягнулі Заходняй Эўропы, і неўзабаве тагачасныя нямецкія газэты, “лятучыя лісткі”, разьнесьлі іх па ўсім хрысьціянскім сьвеце, суправаджаючы такімі вусьцішнымі падрабязнасьцямі, ад якіх стыла кроў. Найбольш характэрна ўяўленьні заходняга чытача пра падзеі 1571 г. ілюструе аўгсбурскі “лятучы лісток” 1571 г. з збору Яна Якуба Віка. Падрабязнае натуралістычнае апавяданьне пра эпідэмію чумы, канібалізм ды іншыя жахі ў гэтым лістку суправаджала маляўніча расфарбаваная гравюра, якая наіўна, але пераканаўча даносіла да паспалітага эўрапейца ўсю жудасьць падзеяў у далёкіх

Літве і Беларусі.

Так фантазія нямецкага мастака стварыла своеасаблівую ілюстрацыю да сьціслага паведамленьня беларускага летапісу. Колькі такіх выяваў, якія ілюструюць розныя падзеі нашае гісторыі — трагічныя і трыюмфальныя, шараговыя (але каштоўныя менавіта сваёй будзённасьцю, звычайнасьцю) і славутыя, сапраўдныя і легендарныя,— знаходзіцца у розных архівах і бібліятэках Эўропы? Выявы замкаў і славутых бітваў, партрэты славутасьцяў, побытавыя сцэнкі і сэнсацыйныя “рэпартажы” пра неверагодныя падзеі, карціны мастакоў мінулага. А што калі сабраць іх разам, даўно вядомыя і тыя, якія толькі прыходзяць да нас? Можа, іх і няшмат, у параўнаньні з больш цывілізаванымі краінамі. Але, мусіць, дастаткова, каб стварыць свой гістарычны “відэашэраг”, падобны на тыя, якія маюць іншыя эўрапейскія краіны, але разам з тым адметны, непаўторны, ён абуджаў бы ў кожнага сьведамага чалавека пачуццё далучанасьці да сваёй, айчыннай культурнай традыцыі, выклікаў бы свае, а не накінутыя камуністычнай і шавіністычнай прапагандаю, “поп-культураю” вобразы і асацыяцыі, натхняў бы беларускіх мастакоў і дызайнэраў. Каб ад школы гэтыя вобразы ўваходзілі ў сьвядомасьць, выхоўваючы ня снобаў і ня люмпэнаў, а менавіта годных людзей, якія ганарацца сваёй краінай і адчуваюць адказнасьць за яе лёс… Перайначыўшы вядомае выказваньне, чалавек — гэта перш за ўсё тое, што спажываюць яго вочы, а ня страўнік. Шкада, але пакуль мы недаравальна мала зрабілі, каб у нашых суайчыньнікаў выхоўваўся нармальны густ, каб зрокавую памяць займалі ня толькі збанкрутаваныя палітыкі ды поп-зоркі. Сапраўды, нашая спадчына ў гэтым сэнсе бяднейшая за некаторыя іншыя, але менавіта таму мы мусім па каліўцу зьбіраць фрагмэнты страчанай карціны і карпатліва аднаўляць яе. Каб не было сорамна глядзець у вочы суседзям. Каб дзеці ня думалі грэбліва, слухаючы нудныя натацыі настаўніцы: “Ды што калі ў гэтай Беларусі было?”

**Алесь БЕЛЫ.**

# SUMMARY

- **Nastaśsia Hułak's** article bears the title **"Potemkin's Villages of Slavophiles"**. In Russia in the middle of the 19th century an anti-democratic view to consider Belarus as a "younger" and unequal sister in the "family of Slave peoples" made its appearance. In those times as well as in nowadays this Slavophile view and the whole doctrine were tantamount to the practice of forcible Russification.

- In his article **"The Beginnings of Total Russification" Ja»hien Aniščanka** tells about the policy conducted by the Russian Empire on the territory of Belarus in the 19th century. The author focuses on legal reforms that reinforced the Russian authority influence on the occupied territories starting with 1795.

- Aggressive imperialism deprived of any cultural background was brought in Belarus by Russian bayonets. In his article called **"Suvorov: Myth and Truth" Adaś Kaluta** gives a detailed survey of how the Russian regime cultivated the myth of a "great military leader". In fact his name is linked with the crash of hopes to set up an independent and democratic Belarus at the end of the 18th century.

- **Aleś Smalančuk** is the author of the article titled **"From the History of the Vilnia Freemasonry of the Beginning of the 20th Century"**. Belarusan freemasonry history knows the periods of disruption (the middle and the end of the 19th century and the very beginning of the 20th century). However, every time attempts to restore democracy made and national liberation movement grown, the freemasonry had been revived.

- **Aleh Trusa»** continues a series of publications on famous architectural monuments of Belarus. Many of them, because of different reasons, were either destroyed or significantly reconstructed. As it is known, an important element of democratic organizational structure of a Belarusan town was a town council. The building of the **Mahile» Town Council**, an architectural monument of the 17th century, was reconstructed by Russians in a watchtower and was blown up by communists in 1957.

- Well known by his "Polonaise" Belarusan-Polish composer **Michał Kleofas Ahinski (Ogiński)** left interesting memoirs written in French. The journal publishes the translation of an introductory part of these **Memoirs**, which describes the childhood and the youth of the author

(till 1788).

- **Stanisła» Stankievič** (1907—1980), an outstanding Belarusan literary critic and public figure, in between the two World Wars made the studies of creative works by Adam Mickiewicz, Tamaš Zan, J.I. Kraszewski and "filomats" in Vilnia University. Results of his research work on language and cultural interactions were published in a book titled **"Belarusan Elements in the Polish Romantic Poetry"**. The first part of this book "At the origins of the Belarusan romantism" is reprinted.
- "Tristan and Izolda", a tale, which dates back to the Middle Ages, is the literary monument common to peoples of Europe. Its Belarusan language version **"Tryščan i Ižota"** has been known since the 16th century. The journal publishes the old Belarusan text transliterated into modern spelling by **Nadzia Staravojtava**.
- At the end of 1920s the criminals formed up their own structures that were a part of the socialist state's prison system. Based on evidences given by imprisoned people, **Andrej Zajerka**, in his article **"Socialist Criminal World"** paints an impressive picture of customs that were dominant in Soviet prisons and that have survived by now.
- The rubric "Intermarium" gives place to an article **"To Be (or Not to Be) a Central European"** by **Alexandr Fiut**. From different points of view (political, historic and cultural) the Polish historian and literary critic analyses the idea of Central Europe. While discussing with well-known intellectuals from East Central Europe, he tries to disclose characteristic features of this idea.
- The article by **V. Budzimier "Sluččyna"** gives an idea of cultural history of this Belarusan region.
- **Aleś Biely** continues the publication of a series of pictures pertaining to the history of Belarus. This time the finding is ***Ein Erschroeckliche doch Warhaftige grausame hungers nott und Pestilenzische plag so im Landt Reissen vnnd Littaw fürgangen im 1571 Jar***. The picture conveys how a German painter conceives the famine in Belarus and Litva that was the result of war conducted by the Muscovite State.

---

SPADČYNA (Heritage) Magazine
5, vul. Staražo»skaja. Minsk, BELARUS.